

*Абраз Езуса Міласэрнага.*
*Мастак Яўген Казіміроўскі. Вільня, 1934 г.*

*Пан Бог дае ласкі двума спосабамі: праз натхненні і прасвятленні. Калі мы просім аб ласцы, Бог яе дае, але трэба хацець яе прыняць; а каб яе прыняць, патрэбна самаадрачэнне. Любоў грунтуецца не на словах і не на пачуццях, а на ўчынку. Гэта акт волі, гэта дар — або дараванне; розум, волю, сэрца — гэтыя тры сілы мы павінны практыкаваць у часе малітвы. Я ўваскрэсну ў Езусе, але спачатку я павінна ў Ім жыць. Калі я не разлучуся з крыжам, тады ўва мне праявіцца Евангелле.*

Св. сястра Фаўстына Кавальская ZMBM.

*З «Дзённіка» (392).*
*Выдавецтва «Pro Christo», 2014 г.*
*Пераклад з польскай мовы Крыстыны Лялько.*

**У нумары 3/2015**
**НАША ВЕРА**

# «Я пасылаю цябе да ўсяго чалавецтва з Маёю міласэрнасцю...»



Кангрэгацыю Сясцёр Маці Божай Міласэрнасці заснавала маці Тэрэза Эва з князёў Сулкоўскіх, графіня Патоцкая. Пасля смерці мужа, параіўшыся са сваім духоўным кіраўніком, яна разам з дзвюма сяброўкамі паехала ў французскі горад Лаваль у Дом міласэрнасці, каб там пад кіраўніцтвам маці Тэрэзы Рандо пазнаёміцца з метадамі працы ў выхаванні дзяўчат і жанчын, якія вялі амаральнае, распуснае жыццё. З Лаваля сястра Тэрэза Эва прывезла багаты вопыт, а таксама статут, які лёг у аснову апостальскай працы новай супольнасці. Яна прыняла запрашэнне арцыбіскупа Зыгмунта Шчэнснага Фелінскага апекавацца «Домам прытулку» ў Варшаве, які быў асвечаны 1 лістапада 1862 года. Гэтая дата лічыцца пачаткам дзейнасці Кангрэгацыі Сясцёр Маці Божай Міласэрнасці ў Польшчы. На той час у варшаўскім доме кангрэгацыі жылі 12 дзяўчат, якія дабравольна жадалі выправіць сваё жыццё. Галоўным заданнем сясцёр было паказаць ім багацце Божай міласэрнасці і дапамагчы вярнуць уласную годнасць, страчаную з-за граху. У аснове выхаваўчай праграмы ляжала гарманічнае спалучэнне малітвы і працы. Выхаванкі вучыліся выконваць простыя хатнія справы, шыць і вышываць, рыхтуючыся такім чынам да годнага жыцця ў грамадстве.

З часам харызма кангрэгацыі пашырылася, і сёстры пачалі браць пад апеку таксама дзяўчат, якім пагражала маральная дэградацыя. У Канстытуцыі 1930 года запісана: «У дамы кангрэгацыі могуць прымацца і такія жанчыны, якіх жыццёвыя ўмовы маглі б давесці да падзення, аднак з перасцярогаю, што іх колькасць заўсёды будзе абмежаваная». Сямейная атмасфера, адасабленне ад свету, ананімнасць, малітва і праца прыносілі чаканыя вынікі. Тысячы дзяўчат і жанчын распачалі сваё жыццё нанава.

У 20-я гады XX ст. сярод выхаванак было ўсё больш дзяўчат, якіх накіраваў сюды суд. Сёстры арганізоўвалі для іх праграмы, па якіх дзяўчаты маглі скончыць сваю адукацыю. З часам Дамы міласэрнасці, якія былі месцам дабравольнай працы і малітвы, пераўтвараліся ў замкнутыя выхаваўчыя ўстановы з навучальнаю праграмаю ў межах базавай школы і сярэдніх прафесійных школаў. Гэтая форма апостальскай працы праіснавала ў некаторых дамах кангрэгацыі да 1962 года, але ўжо раней дзяржаўныя ўлады пачалі браць некаторыя ўстановы пад сваё кіраўніцтва, а тыя, што заставаліся ў кампетэнцыі кангрэгацыі, былі пераўтвораныя ў дамы «Caritas» для хворых дзяцей і жанчын. Сёстры маглі праводзіць працу з дзяўчатамі толькі ў адкрытых клубах.

У 1989 г. кангрэгацыя атрымала магчымасць працаваць з дзяўчатамі, якім было патрэбна глыбокае маральнае аднаўленне, у Моладзевым выхаваўчым цэнтры ў Кракаве. Там сёстры ўзялі пад сваё кіраўніцтва інтэрнат і тры школы. У іншых мясцовасцях сёстры таксама апякуюцца дамамі для адзінокіх маці.

Вельмі важнае месца ў гісторыі кангрэгацыі займае святая сястра Фаўстына Кавальская (1905–1938). Праз яе Бог адарыў супольнасць харызмаю абвяшчаць свету міласэрную любоў Бога да чалавека праз сведчанне жыцця, учынкі, словы і малітву. Пан Езус выбраў сястру Фаўстыну сакратаркаю і апосталкаю

сваёй міласэрнасці. У «Дзённіку», які святая пісала на працягу апошніх чатырох гадоў жыцця па выразным загадзе Пана Езуса і па наказе спаведнікаў, занатаваныя словы, якія яна аднойчы пачула ад Езуса: *«Я пасылаю цябе да ўсяго чалавецтва з Маёю міласэрнасцю. Я не хачу караць збалелага чалавецтва, а прагну яго вылечыць, прытуляючы да свайго міласэрнага сэрца»* (Дз., 1588). Місія сястры Фаўстыны заснавана на трох заданнях: 1) набліжаць і абвяшчаць свету праўду, аб'яўленую ў Святым Пісанні, пра міласэрную любоў Бога да кожнага чалавека; 2) выпрошваць Божую міласэрнасць для ўсяго свету, у тым ліку з дапамогаю дадзеных Панам Езусам новых формаў культу Божай міласэрнасці (ушанаванне абраза Езуса Міласэрнага з надпісам «Езу, давяраю Табе», свята Божай Міласэрнасці ў першую нядзелю пасля Вялікадня, Вяночак да Божай Міласэрнасці і малітва ў гадзіну Міласэрнасці — 15:00); 3) развіваць апостальскі рух Божай міласэрнасці.

25 жніўня 1995 года кангрэгацыя прызнала сястру Фаўстыну сваёй сузаснавальніцай. Прыняўшы яе харызматычную місію, сёстры пашыраюць культ Божай міласэрнасці праз абвяшчэнне катэхезаў, удзел у сімпозіумах і кангрэсах, якія арганізоўваюць іншыя супольнасці, удзел у парафіяльных набажэнствах праз спецыяльныя песні і малітвы, пашырэнне кніг, малітоўнікаў, абразоў Езуса Міласэрнага. Яны абвяшчаюць пасланне міласэрнасці нават у вязніцах, фармуюць апосталаў Божай міласэрнасці ў Міжнародным таварыстве *Faustinum*, кіруюць выдавецтвам *Misericordia*, выдаюць квартальнік «Пасланне міласэрнасці».

Дамы кангрэгацыі працуюць у Польшчы, Беларусі, Італіі, Славакіі, Чэхіі, ва Украіне, у Амерыцы, Ізраілі, на Кубе.

У Беларусі Кангрэгацыя Сясцёр Маці Божай Міласэрнасці знаходзіцца ў в. Шылавічы Гродзенскай вобласці (з 1995 г.) і ў г. Паставы Віцебскай вобл. (з 2001 г.). З самага пачатку сваёй працы на нашых землях сёстры займаюцца катэхізацыяй і кіруюць араторыямі для дзяцей. Звычайна гэта дзеці з малазабяспечаных сем'яў. У араторый прыходзяць таксама дзеці з пастаўскага прытулка. Тут сёстры праводзяць з імі розныя мастацкія, тэатральныя заняткі, наладжваюць конкурсы (напрыклад, конкурс калядных песняў), гульні, рыхтуюць для дзяцей салодкі пачастунак з гарбатаю, печывам, цукеркамі, садавінаю. У гэтым ім дапамагае парафіяльная моладзь, для якой прыблізна раз у месяц арганізоўваюцца фармацыйныя сустрэчы, выезды з начлегам у суседнія парафіі. Гэта пераважна маладыя людзі 9–11 класаў, і вельмі суцешвае тое, што пасля заканчэння школы яны і надалей прымаюць удзел у разнастайных моладзевых сустрэчах у Віцебску, Мінску, Полацку.

На працягу многіх гадоў сёстры Маці Божай Міласэрнасці праводзяць аздараўляльныя летнікі для дзяцей. З 2011 г. пастаяннаю практыкаю стала наведванне прытулка для дзяцей і правядзенне ў ім «міні-катэхезаў», гульняў. Двойчы ў месяц сёстры сустракаюцца з дзецьмі, якія знаходзяцца ў рэабілітацыйным цэнтры, і адзін раз у тыдзень прыходзяць у дом састарэлых, дзе разам з імі чытаюць Божае слова, разважаюць над ім, моляцца і гутараць на розныя тэмы. Сваёю прысутнасцю яны стараюцца прынесці старым людзям радасць, пераконваць, што і яны вельмі патрэбныя ў свеце, бо менавіта пра іх у адной са сваіх пілігрымак святы Ян Павел II сказаў: «Вы — скарб гэтага свету, вашы цярпенні і малітвы вельмі патрэбныя гэтаму свету». Дзверы кляштара сясцёр Маці Божай Міласэрнасці заўсёды адчыненыя для ўсіх, каму патрэбная духоўная і маральная падтрымка.

З сакавіка 2008 г. у Паставах праводзіцца фармацыя ў таварыстве *Faustinum,* місія якога — абвяшчаць міласэрную любоў Бога да кожнага чалавека сведчаннем свайго жыцця ў духу даверу да Бога і дзейснай любові да бліжняга, праз справы міласэрнасці, словы і малітвы. Да гэтага таварыства могуць належаць усе, хто адчувае адпаведнае пакліканне: свецкія людзі, святары, законнікі. Сустрэчы таварыства праходзяць штомесяц. У Паставах яно налічвае 35 чалавек, якія актыўна ўдзельнічаюць у жыцці парафіі. Фармацыю апосталаў міласэрнасці сёстры праводзяць таксама ў Мінску пры Чырвоным касцёле святых Сымона і Алены, дзе ў таварыства ўваходзяць каля 30 чалавек, але з кожнай сустрэчай іх колькасць узрастае. Такім чынам Езус хоча праяўляць сваю міласэрнасць праз свецкіх людзей, якія могуць прыйсці са сваёй місіяй туды, дзе не заўсёды ёсць святары ці манашкі.

У сваю працу на Беларусі сёстры стараюцца ўкласці іскру міласэрнасці, дапамагчы людзям наблізіцца да Бога, знайсці шлях да збаўлення. Менавіта да іх, сясцёр Маці Божай Міласэрнасці, адносяцца словы, якія Пан Езус сказаў сястры Фаўстыне: *«Я патрабую ад цябе ўчынкаў міласэрнасці, якія павінны сыходзіць з любові да Мяне. Ты павінна заўсёды і ўсюды праяўляць міласэрнасць да бліжніх* <...> *Няхай не баіцца наблізіцца да Мяне ніводная душа, нават калі б яе грахі былі, як пурпур»* (Дз., 699, 742). Вельмі хочацца паўтарыць словы Яна Паўла II, сказаныя падчас асвячэння Базылікі Міласэрнасці ў Кракаве: «Толькі ў Божай міласэрнасці свет знойдзе супакой, а чалавек — шчасце».

*Сястра Марыя Канстанцыя Юралайць ZMBM*

Эва К. Чачкоўская

# «Ты — мой Бог ці нейкі прывід?»

Урывак з кнігі «Сястра Фаўстына. Біяграфія святой».

«Усё гэта было яшчэ цярпіма. Але калі Пан запатрабаваў, каб я малявала гэты абраз, тады ўжо насамрэч пачалі гаварыць і глядзець на мяне як на нейкую істэрычку і фантазёрку» (Дз., 125), — пісала сястра Фаўстына ў «Дзённіку» пра свае перажыванні ў 1931 годзе. «Фантазёрка», а дакладней, «фантастка», а таксама «істэрычка», «візіянерка», «дзівачка», «мізэрнасць»... Колькі яшчэ эпітэтаў яна павінна была сцярпець?

І ўсё гэта з прычыны аб'яўлення Езуса, які загадаў ёй намаляваць, вядомы сёння ва ўсім свеце абраз з подпісам «Езу, давяраю Табе». Гэта быў таксама пачатак рэалізацыі місіі: перадаць свету пасланне Божай міласэрнасці. На працягу амаль двух гадоў сястра Фаўстына не сустрэла нікога, хто ўмацаваў бы яе перакананасць у тым, што аб'яўленні Езуса — не плод яе ўяўлення. Гэта быў вельмі складаны час у яе жыцці. Бадай што, самы цяжкі. Ён распачаўся 22 лютага 1931 года.

Сястра Фаўстына ўжо шэсць гадоў была манашкаю і амаль год жыла ў кляштары Кангрэгацыі Сясцёр Маці Божай Міласэрнасці ў Плоцку. Была першая нядзеля Вялікага посту. Вечар. Фаўстына якраз вярнулася ў сваю келлю пасля вячэры і малітваў у кляштарнай капліцы. Яна збіралася ісці спаць. Раптам убачыла ў келлі Езуса. «Адна Яго рука была ўзнятая для блаславення, а другая дакраналася да адзення на грудзях. Са складкі на грудзях сыходзілі два вялікія прамяні: адзін — чырвоны, а другі — бледны, — пісала Фаўстына ў «Дзённіку». — Моўчкі я ўглядвалася ў Пана, душа мая была ахоплена бояззю, але і вялікай радасцю. Праз хвіліну Езус мне сказаў: **Намалюй абраз паводле выявы, якую ты бачыш, з подпісам: „Езу, давяраю Табе“. Прагну, каб гэты абраз быў шанаваны найперш у вашай капліцы і ва ўсім свеце.**

**Я абяцаю, што душа, якая будзе ўшаноўваць гэты абраз, не загіне. Абяцаю таксама ўжо тут, на зямлі, перамогу над непрыяцелямі, і асабліва ў гадзіну смерці. Я сам буду ахоўваць яе як сваю хвалу»** (Дз., 47, 48).

«Сёстры, якія праходзілі ў гэты час каля флігеля, бачылі нейкае святло ў вакне, ярчэйшае, чым ад керасінавай лямпы», — паўтарае тое, што захавалася ў кангрэгацыі ў вусных пераказах, нядаўняя настаяцельніца плоцкага дому сястра Клявера Вольская.

Сустрэча ў келлі не была ілюзіяй. Сястра Фаўстына гэта ведала дакладна. Ужо раней яна некалькі разоў бачыла Пана. Ён прамовіў да яе перад уступленнем у кангрэгацыю, праспешваючы да гэтага кроку, і пазней, калі адначасова з манаскаю фармацыяй яна ўдасканальвалася на шляху містычнага жыцця.

Пасля ачышчэння пачуццяў і духу падчас вядомай толькі містыкам так званай цёмнай ночы, Фаўстына ўсё часцей у нечаканыя моманты прасвятлення, якое Бог дае душы, спазнавала Яго Сутнасць і перажывала паяднанне з Богам у любові. Для Фаўстыны, якая раней нічога не ведала пра містычнае жыццё, гэта быў вялікі і нялёгкі досвед. Аднак пакуль усё адбывалася ўнутры яе душы і датычыла толькі яе самой, гэта было радасцю яе сэрца. Але ў тую нядзелю, 22 лютага 1931 года, усё змянілася. У той дзень Езус даверыў ёй місію абвяшчаць пасланне Божай міласэрнасці ўсяму свету. Маляванне абраза было першаю часткаю гэтай місіі.

Праз чатыры гады Езус скажа Фаўстыне, што яна павінна падрыхтаваць свет да Яго апошняга прыйсця. Тым не менш ужо тады, у Плоцку, яна была ўражаная веліччу задання, якое з часам будзе яшчэ больш пашырацца.

Няма чаго дзівіцца: яна сама не магла намаляваць абраза, бо ў яе не было такіх здольнасцяў. Езус загадаў ёй, каб усё, пра што Ён ёй гаворыць, яна перадавала настаяцельніцам, аднак тыя ёй не верылі: «праяўлялі да мяне літасць, як быццам я падманвалася альбо была пад уплывам фантазій» (Дз., 38), — скардзілася Фаўстына ў душы Богу, а пасля запісала ў сваім «Дзённіку». Яна спадзявалася, што настаяцельніцы, якія, на яе думку, павінны былі лепш разбірацца ў духоўным жыцці, дапамогуць ёй.

Першы, каму Фаўстына сказала пра аб'яўленне Езуса, быў спаведнік. На жаль, мы не ведаем, хто ім быў. У той час у плоцкім




кляштары Кангрэгацыі Сясцёр Маці Божай Міласэрнасці спавядалі тры святары: Адольф Мадзалеўскі, Людвік Вільконьскі і Вацлаў Язусак. Гэты апошні пасля Другой сусветнай вайны (памёр у 1950 годзе) шмат і ўзрушана апавядаў клерыкам плоцкай семінарыі пра аб'яўленні сястры Фаўстыны, але гэта не значыць, што раней ён мог не давяраць перажыванням Фаўстыны. Вядома, што спаведнік, якому Фаўстына сказала пра аб'яўленне Езуса, успрыняў гэта з вялікім недаверам. Насамрэч ён адпрэчыў наказ Езуса, сказаўшы Фаўстыне: «Малюй гэты абраз у сваёй душы» (Дз., 49). Калі сястра Фаўстына, супакоеная такою інтэрпрэтацыяй аб'яўлення, адышлася ад канфесіянала, яна пачула словы Езуса: **«Мой вобраз ёсць у тваёй душы. Я жадаю, каб было свята Міласэрнасці. Я хачу, каб гэты абраз, які ты намалюеш пэндзлем, быў урачыста асвечаны ў першую нядзелю пасля Вялікадня, гэтая нядзеля павінна стаць святам Міласэрнасці»** (Дз., 49). Езус сказаў таксама, што ў гэты дзень святары павінны абвяшчаць людзям Яго **«вялікую міласэрнасць да грэшных душаў»** (Дз., 50).

Такім чынам Езус сфармуляваў чарговае пажаданне: устанаўленне свята Божай Міласэрнасці. Культ Езуса ў абразе і свята Божай Міласэрнасці — гэта былі дзве першыя формы новага набажэнства да Міласэрнасці, пра рэалізацыю якіх з гэтага часу пастаянна клапацілася сястра Фаўстына, а яе прыспешваў Хрыстус, які ў чарговых аб'яўленнях даваў ёй спазнаць, чым ёсць Божая міласэрнасць.

Не знаходзячы зразумення ў спаведніка, Фаўстына сказала пра аб'яўленні Езуса настаяцельніцы плоцкага кляштара — маці Ружы Клабукоўскай. Але і яна ёй не давярала. «Калі я расказала маці настаяцельніцы пра тое, чаго Бог патрабуе ад мяне, маці настаяцельніца адказала, каб Езус даў зразумець гэта больш выразна праз нейкі знак.

Калі я прасіла Пана Езуса аб якімсьці знаку для сведчання таго, што Ён — сапраўды Бог і мой Пан і ад Яго сыходзяць гэтыя патрабаванні, то пачула такі ўнутраны голас: **Я дам зразумець настаяцельніцам праз ласкі, якія ўдзялю праз гэты абраз»** (Дз., 51).

Езус вымагаў, але не аблягчаў выканання задання. Толькі праз гады Фаўстына зразумее і Езус ёй выразна скажа, што цяжкасці неабходныя для пацвярджэння праўдзівасці аб'яўленняў. Апрача таго, найбольшую вартасць у вачах Бога мае не эфект ад дзейнасці чалавека, а сама інтэнцыя, з якою яна распачынаецца, і цярпенне, звязанае з ёю.

Аднак тады, у 1931 годзе, Фаўстына была разгубленая і збітая з толку: «...я хадзіла ад настаяцельніцаў да спаведніка, ад спаведніка да настаяцельніцаў, а супакаення не знаходзіла», — пісала яна (Дз., 122).

Аднак у Фаўстыніных настаяцельніцаў заданне было таксама нялёгкае. Напэўна, яны былі моцна здзіўленыя і ўстрывожаныя, калі аднойчы маладая законніца другога хору прызналася ім, што ёй аб'явіўся Езус і загадаў намаляваць рэлігійны абраз новага тыпу. Больш за тое, загадаў, каб Касцёл устанавіў новае рэлігійнае свята. Несумненна, Фаўстыніны настаяцельніцы бачылі ў ёй добрую і пакорную, з'яднаную з Езусам, але простую і неадукаваную манашку, якая яшчэ не склала вечных абяцанняў. Яны маглі думаць: «Чаму гэта ёй павінен аб'яўляцца Езус? Чаму ёй павінен перадаваць пасланне? І што можа яна ведаць пра містыку? Дзе можа перажываць такі духоўны стан: за прылаўкам булачнай альбо каля кухоннай пліты падчас сваёй працы?».

Прыватныя аб'яўленні — гэта складаная справа. Яны не ўяўляюць праблемы, пакуль належаць толькі самому чалавеку і прызначаныя для ягонага навяртання альбо ўзрастання веры. Але становяцца праблемаю, калі візіянер аб'яўляе, што атрымаў місію: пераказаць свету словы Бога, Марыі ці святых. Для Касцёла адзіным і канчатковым Аб'яўленнем Бога з'яўляецца Хрыстус, Сын Божы. Гэтае найважнейшае Аб'яўленне, якое называецца публічным, знаходзіцца ў Святым Пісанні. Касцёл не адпрэчвае прыватных аб'яўленняў у тым выпадку, калі ў доўгім і, як правіла, складаным працэсе, пераканаецца, што яны не выходзяць за рамкі публічнага Аб'яўлення і не змяняюць яго, а выводзяць з яго якіясьці забытыя ці недаацэненыя высновы, важныя для дадзенай гістарычнай эпохі. Другая не менш істотная акалічнасць — гэта ўпэўненасць у тым, што візіянер не абвяшчае аб'яўленняў з эгаістычных прычынаў, не шукае славы, не заспакойвае сваіх амбіцый, што ён вядзе цалкам хрысціянскае жыццё. У ацэнцы праўдзівасці аб'яўленняў вельмі важна падпа-

радкоўвацца касцёльнай дысцыпліне, пастановам настаяцеляў, нават цаною цярпення.

Адна з найбольшых небяспекаў аб'яўленняў, — падкрэслівае кс. Ян Махняк, прафесар тэалогіі духоўнасці, аўтар шэрагу кніг, прысвечаных духоўнасці сястры Фаўстыны, — вынікае з таго, што яны адбываюцца ў сферы пачуццяў і ўздзейнічаюць на зрок, слых, на дотык і абаняння. «Усё, што ўздзейнічае на нашы пачуцці, таксама паддадзена дзеянню злога духу, які можа зводзіць чалавека, — тлумачыць ксёндз Ян Махняк. — Таму святы Ян ад Крыжа раіў адкідваць усе аб'яўленні, нават тыя, што набліжаюць нас да Бога, каб не трапіць у пастку, якую можа паставіць для чалавека злы дух».

<...>

У Фаўстыніных настаяцельніцаў і спаведнікаў, напэўна, былі яшчэ іншыя прычыны дыстанцыявацца ад таго, што яна казала. Відаць, яны не аднойчы ў сваім жыцці сутыкнуліся з асобамі, «аб'яўленні» якіх былі проста вынікам псіхічнай хваробы. Унутраныя перажыванні вельмі моцна ўздзейнічаюць на псіхіку чалавека, таму часам вельмі цяжка адрозніць досвед містыка ад псіхічнай хваробы. Тут неабходная вялікая асцярожнасць і нават псіхіятрычнае абследаванне. Таму праз некалькі гадоў у Вільні ксёндз Міхал Сапоцька, перш чым ён стаў духоўным кіраўніком сястры Фаўстыны і памочнікам у абвяшчэнні паслання пра Божую міласэрнасць, папрасіў абследаваць будучую святую ў псіхіятра.

Была яшчэ адна прычына недаверу да Фаўстыніных аб'яўленняў. Езуіт айцец Юзаф Андраш, які стаў духоўным кіраўнікам сястры Фаўстыны напрыканцы яе жыцця, сцвярджаў, што яе супольнасць увогуле скептычна адносілася да надзвычайных аб'яўленняў, бо проста не спадзявалася на іх. Кангрэгацыя Сясцёр Маці Божай Міласэрнасці, «выхаваная на аскезе святога Ігнацыя», заснавальніка Таварыства Езуса, была «далёкаю ад усялякай экзальтацыі», у яе былі ўжо вызначаныя метады і кірунак працы: «Праз свае статуты, праз духоўныя практыкі, праз штогадовыя рэкалекцыі, праз канферэнцыі, што праводзілі святары і настаяцельніцы, супольнасць прывівае сваім сёстрам вялікую павагу не да надзвычайнасці, а спакойнай, грунтоўнай працы, пачынаючы ад пакаяння і пакоры і заканчваючы гарачаю і разам з тым ахвярнаю любоўю да Бога і душаў. <...> Можна з усёю ўпэўненасцю сказаць, што духоўная глеба кангрэгацыі зусім не прыдатная для таго, каб на ёй развіваліся містычныя візіі сумніўнай вартасці», — зрабіў выснову айцец Андраш, які ў 30-я гады мінулага стагоддзя быў добра знаёмы з жыццём кангрэгацыі.

Такім чынам, з людскога пункту погляду сястра Фаўстына засталася адна з аб'яўленнямі, якія былі прызначаны не толькі для яе, але для ўсяго свету. З ёю быў Езус, прысутнасць і любоў якога да канца жыцця давалі ёй сілы ў рэалізацыі даверанай місіі. Аднак гэта не значыць, што Фаўстыну не даймалі сумненні і супярэчнасці. Іх нагняталі настаяцельніцы, якія не давяралі яе словам, прыўносілі сумненні ў яе сэрца. Гэта працягвалася да сустрэчы са спаведнікамі, якія распазналі характар яе духоўнага жыцця. Тым часам у Плоцку сястра Фаўстына, якую не разумелі і адчытвалі настаяцельніцы, пачала, па яе словах, «трохі адступацца», гэта значыць пазбягаць унутраных натхненняў. «Я пачала пазбягаць сустрэчы з Панам ва ўласнай душы, бо не хацела быць ахвяраю падману». Але ўсё было марна, паколькі «Божая мова яскравая, і нішто не можа яе заглушыць», — пісала Фаўстына. Пан як бы праследаваў яе «сваімі дарамі»: «сапраўды, я папераменна перажывала мукі і радасць» (Дз., 130). Калі яна спрабавала ўцякаць ад загадаў Езуса, Ён тым больш змушаў яе да дзеяння. Сястра Леакадзія Джазга памятала праз гады, што пры нейкай нагодзе, у Плоцку, сястра Фаўстына сказала ёй: «За гэтых людзей, якія маюць аб'яўленні і візіі, трэба моцна маліцца, бо ў іх так шмат перажыванняў, сумненняў і няўпэўненасці, што яны могуць упасці ў адчай».

Аднаго разу сястра Фаўстына, змучаная сумненнямі, звярнулася да Езуса: «Езу, Ты — мой Бог ці нейкі прывід? Бо настаяцельніцы мне кажуць, што бываюць розныя ілюзіі і прывіды. Калі Ты — мой Пан, то прашу Цябе, паблагаславі мяне». Тады Езус учыніў вялікі знак крыжа нада мною, а я перажагналася. Калі я папрасіла прабачэння ў Езуса за маё пытанне, Езус мне адказаў, што гэтым пытаннем я зусім не засмуціла Яго і сказаў, што Яму вельмі падабаецца мой давер», — запісала Фаўстына (Дз., 54). Аднак міналі месяцы, а Фаўстына не магла выканаць ніводнага з наказаў Езуса. Сястры Даміяне Зёлак, з якою яна пасябравала ў Плоцку, Фаўстына неяк сказала, што «адна з сясцёр» бачыла «прыгожага Пана Езуса <...>, які ўвесь ззяў у промнях», і пра тое, што сястра хацела намаляваць Пана Езуса, але не магла». І хоць Даміяна бачыла захапленне, з якім Фаўстына пра гэта апавядала, яна не дадумалася, што гаворка ідзе пра саму Фаўстыну. Тым часам Фаўстына папрасіла дапамогі ў іншых сясцёр, не пасвячаючы іх у сутнасць справы. Сястра Бажэна Пнеўская згадвае: «Я не ўмела маляваць партрэтаў, не ведала, што яна мела на ўвазе абраз новага тыпу, і прапанавала ёй выбраць любы

абразок, бо мела іх шмат і прыгожых. Яна падзякавала мне за прапанову, але не прыняла яе».

Восенню 1931 года настаяцельніца плоцкага дому маці Ружа Клабукоўская расказала маці генеральнай Міхаэле Марачэўскай пра перакананасць сястры Фаўстыны ў тым, што Езус загадаў ёй намаляваць абраз.

З успамінаў маці Міхаэлы Марачэўскай: «...міжволі, пры ўсёй маёй зычлівасці, я спрычынілася да цярпенняў сястры Фаўстыны. <...> Пакуль яе багатыя ўнутраныя і містычныя перажыванні абмяжоўваліся кляштарнымі мурамі і былі таямніцаю паміж Богам, яе душою і настаяцельніцамі, я радавалася, бачачы ва ўсіх гэтых ласках вялікі Божы дар для кангрэгацыі. Аднак усё змянілася, калі аб'яўленні сястры сталі вядомыя больш шырокаму колу. Я тады вельмі баялася, каб не ўвесці ў жыццё Касцёла хоць бы найменшай сумніўнай навінкі, фальшывых набажэнстваў і г.д., а паколькі была галоўнаю настаяцельніцаю, то адчувала сябе адказнаю за нашу кангрэгацыю». Яна таксама прызнаецца, што асцерагалася, каб у Фаўстыны не было ўсё гэта «на аснове буйнай фантазіі альбо нейкай істэрыі, бо не заўсёды тое, што яна прадказвала, збывалася». <...> Таму маці генеральная кажа, што ахвотна слухала, калі Фаўстына апавядала пра «свае глыбокія і прыгожыя думкі, пра надзвычайныя прасвятленні», але да таго моманту, калі яна пачынала прасіць «пра якіясь вонкавыя пачынанні».

Невядома, што маці Марачэўская параіла настаяцельніцы кляштара ў Плоцку адносна Фаўстынінай справы. Магчыма, быць вельмі асцярожнаю і не паддавацца яе прапановам. Калі ў лістападзе 1932 года Фаўстына прыехала з Плоцка ў Варшаву і асабіста сказала маці генеральнай пра загад Езуса, тая адказала: «Добра, дам сястры фарбы і палатно, і можаш маляваць». Фаўстына адышла засмучаная.

Не знаходзячы ні ў кога зразумення, яна горача малілася аб духоўным кіраўніку, які дапамог бы зразумець, што робіцца ў яе душы, і аблегчыў бы выкананне наказаў Езуса.

Тым часам у плоцкім кляштары сярод сясцёр пачала разыходзіцца чутка, быццам Фаўстына бачыла Езуса. Сёстры пачалі з цікаўнасцю прыглядацца да яе і адкрыта назіраць за ёю. А паколькі яна знешне нічым, апроч асаблівай замілаванасці да малітвы, не вылучалася, то большасць сясцёр гэтым чуткам не давярала. Некаторыя перасцерагалі Фаўстыну, каб не паддавалася падману, казалі, што яна фантазёрка, істэрычка. Былі таксама сёстры, якія зычліва адносіліся да Фаўстыны, сярод іх і Даміяна Зёлак. Невядома, ці яна, ці іншая законніца прасіла Фаўстыну, каб тая баранілася ад плётак. «Гэта была шчырая душа, і што яна чула — пра тое шчыра распавяла мне. Але падобнае я павінна была выслухоўваць штодзённа», — пісала Фаўстына (Дз., 125). І хоць гэта яе ўнутрана мучыла, яна вырашыла нікому нічога не тлумачыць, а ўсё зносіць моўчкі, з пакораю. «Адных гэта маё маўчанне раздражняла, і асабліва найбольш цікаўных. Іншыя, якія думалі больш глыбока, казалі, што ўсё ж сястра Фаўстына, напэўна, блізкая да Бога, калі мае сілу стрываць гэтулькі цярпенняў. І я бачыла перад сабою як бы дзве групы суддзяў. Я дбала пра ўнутраную і знешнюю цішу. Я не казала нічога, што датычыла б мяне самой, хоць некаторыя сёстры наўпрост пыталі мяне пра гэта. Мае вусны замоўклі. Я цярпела, як галубка, не скардзячыся. Аднак некаторым сёстрам было як быццам прыемна нейкім чынам зрабіць мне прыкрасць. Іх раздражняла мая цярплівасць, аднак Бог даваў мне гэтулькі душэўнай сілы, што я трывала гэта спакойна» (Дз., 126). У «Дзённіку», распачатым толькі ў 1934 годзе, Фаўстына яшчэ раз вярнулася да сітуацыі ў плоцкім кляштары, а гэта сведчыць пра тое, што той час быў для яе цяжкі. Пасля перыяду цікаўнасці сясцёр да яе асобы, наступіла кароткае зацішша, а пасля бура зноў выбухнула з вялікаю сілаю, і спрычыніліся да таго нейкія знешнія няўдачы, якіх, аднак, Фаўстына не назвала. «Цяпер я бачу, што мяне, як злодзея, пільнуюць усюды — у капліцы, у часе выканання абавязкаў, у келлі. Цяпер я ўжо ведаю, што апрача Божай прысутнасці, ёсць заўсёды прысутнасць людская. Сапраўды, гэтая людская прысутнасць мяне часта мучыла. Былі моманты, калі я сумнявалася, распрануцца мне, каб памыцца, ці не. Сапраўды, бедны мой ложак, яго таксама шмат разоў пераглядалі. Часам мяне разбіраў смех, калі даведвалася, што нават ложка не пакідаюць у спакоі. Адна з сясцёр сама мне сказала, што кожны вечар яна назірала за мною ў келлі, як я сябе ў ёй паводжу» (Дз., 128).

Сястра Фаўстына, абвінавачаная ў істэрыі, пад абстрэлам позіркаў настаяцельніцаў, спаведнікаў і сясцёр, часам не давяраючы самой сабе, не пераставала маліцца, просячы ў Бога духоўнага кіраўніка. Яе просьбы былі пачутыя ў 1933 годзе, калі ў Вільні яна пазнаёмілася з ксяндзом Міхалам Сапоцькам, сёння благаслаўлёным. Праз год з'явіўся абраз Езуса Міласэрнага. Але павінна было мінуць амаль паўвеку, каб прыватныя аб'яўленні сястры Фаўстыны былі прызнаныя Касцёлам.

*Пераклад з польскай мовы Крыстыны Лялько.*

*Паводле: Ewa K. Czaczkowska. «Siostra Faustyna. Biografia Świętej». Wydawnictwo «Znak», Kraków, 2012.*



Кс. Міхал Сапоцька

# Успаміны пра святую сястру Фаўстыну Кавальскую

Ёсць праўды святой веры, якія нібы ведаюць і пра якія часта ўспамінаюць, але добра іх не разумеюць і не жывуць імі. Так было са мною ва ўспрыманні праўды пра Божую міласэрнасць. Я столькі разоў думаў пра яе падчас медытацый, асабліва на рэкалекцыях, столькі разоў гаварыў пра яе ў казаннях і паўтараў у літургічных малітвах, але не заглыбляўся ў яе змест і значэнне для духоўнага жыцця; асабліва не разумеў і пакуль што не мог пагадзіцца з тым, што Божая міласэрнасць — гэта найвышэйшая ўласцівасць Стварыцеля, Адкупіцеля і Асвяціцеля. Патрэбна была толькі простая пабожная душа, моцна з'яднаная з Богам, якая — я веру — па Божым натхненні сказала мне пра гэта і заахвоціла да вывучэння, даследаванняў і роздуму на гэтую тэму. Гэтаю душою была святой памяці сястра Фаўстына (Гэлена) Кавальская з Кангрэгацыі Дачок Маці Божай Міласэрнасці[1]. Сястра Фаўстына паволі дабілася таго, што сёння я лічу справу культу Божай міласэрнасці, і асабліва ўстанаўленне свята Божай Міласэрнасці ў першую нядзелю пасля Вялікадня, адной з галоўных мэтаў свайго жыцця.

З сястрою Фаўстынаю я пазнаёміўся летам (у ліпені ці жніўні) 1933 года[2] як з пенітэнткай у Кангрэгацыі Сясцёр Маці Божай Міласэрнасці ў Вільні (вул. Сенатарская, 25), дзе я ў той час быў звычайным спаведнікам. Яна звярнула на сябе маю ўвагу незвычайнаю чуласцю сумлення і глыбокаю еднасцю з Богам: пераважна не было матэрыі для разграшэння, і яна ні разу не абразіла Бога цяжкім грахом. Ужо напачатку яна сказала мне, што ведае мяне даўно з якогасьці бачання, што я павінен быць для яе кіраўніком сумлення і мушу ажыццявіць нейкія Божыя планы, пра якія яна скажа. Я недаацаніў гэты яе аповед і падвергнуў яе аднаму выпрабаванню, з-за якога сястра Фаўстына з дазволу настаяцельніцы пачала шукаць іншага спаведніка. Праз пэўны час яна вярнулася да мяне і сказала, што вытрывае ўсё, але ад мяне ўжо не адыдзе. Не буду паўтараць, а, дакладней, раскрываць усе падрабязнасці нашай размовы, якая часткова ёсць у яе дзённіку, што яна пісала па маім даручэнні, бо я забараніў ёй пасля гэтага распавядаць пра свае перажыванні на споведзі.

Пазнаёміўшыся з сястрою Фаўстынаю бліжэй, я зразумеў, што дары Духа Святога дзейнічаюць у ёй скрыта, але ў пэўныя даволі частыя хвіліны выступаюць больш яўна, надзяляючы часткова інтуіцыяй, якая жыва ахоплівала яе душу, абуджала парывы любові [да] ўзнёслых гераічных актаў ахвярнасці і самаадрачэння. Асабліва часта праяўлялася дзеянне дароў умеласці, розуму і мудрасці, дзякуючы якім сястра Фаўстына выразна бачыла марнасць зямных рэчаў, важнасць цярпення і прыніжэння, проста пазнавала ўласцівасці Бога і найболей — Яго бясконцую міласэрнасць, часам зноў углядалася ў незразумелае шчасцядайнае ззянне, пэўны час узіралася ў гэтае неспасцігальна шчасцядайнае святло, адкуль выходзіла постаць Хрыста, які благаслаўляў свет праваю рукою, а леваю прыўзнімаў адзенне ў вобласці сэрца; з-пад узнятага адзення выплывалі два прамяні — бледны і чырвоны[3]. Сястра Фаўстына мела такія і іншыя пачуццёвыя і разумовыя бачанні ўжо на працягу некалькіх гадоў і чула звышнатуральныя словы, якія ўспрымала з дапамогаю слыху, уяўлення і розуму.

Баючыся аблуднасці, галюцынацый і ілюзій сястры Фаўстыны, я звярнуўся да сястры настаяцельніцы, маці Ірэны, каб яна праінфармавала мяне, хто такая сястра Фаўстына, якую рэпутацыю яна мае ў кангрэгацыі і ў сясцёр настаяцельніцаў, а таксама прасіў абследаваць яе псіхічнае і фізічнае здароўе. Атрымаўшы адказ, пахвальны для яе з усіх бакоў, я і далей

пэўны час займаў чакальную пазіцыю, часткова не давяраў, задумваўся, маліўся і даследаваў, у тым ліку раіўся з некалькімі разумнымі святарамі аб тым, што рабіць, не раскрываючы, пра што і пра каго ідзе гутарка. А гутарка ішла пра ажыццяўленне нібыта катэгарычных патрабаванняў Пана Езуса, каб быў намаляваны абраз, які сястра Фаўстына бачыць у візіях, і ўстаноўлена свята Божай Міласэрнасці ў першую нядзелю пасля Вялікадня. Урэшце, хутчэй з цікаўнасці, які гэта будзе абраз, чым з-за веры ў праўдзівасць візіяў сястры Фаўстыны, я вырашыў приступіць да малявання гэтага абраза. Дамовіўся з мастаком Яўгенам Казімяроўскім[4], які жыў са мною ў адным доме і ўзяўся за пэўную суму маляваць, а таксама з сястрою настаяцельніцаю, якая дазволіла сястры Фаўстыне два разы на тыдзень прыходзіць да мастака, каб даваць указанні, якім павінен быць гэты абраз.

Праца працягвалася некалькі месяцаў, і ўрэшце ў чэрвені ці ліпені 1934 года абраз быў скончаны. Сястра Фаўстына скардзілася, што абраз не такі прыгожы, як яна бачыць, але Пан Езус супакоіў яе і сказаў, што [такога], які ёсць, дастаткова, і дадаў: «Я даю людзям начынне, з якім яны павінны прыходзіць па ласкі да Мяне. Гэтым начыннем з'яўляецца гэты абраз з надпісам: Езу, давяраю Табе»[5]. Пакуль што сястра Фаўстына не магла растлумачыць, што азначаюць прамяні на абразе, але праз некалькі дзён сказала, што Пан Езус на малітве растлумачыў ёй: «Прамяні на гэтым абразе азначаюць кроў і ваду — бледны прамень азначае ваду, якая апраўдвае душы; а чырвоны азначае кроў, якая з'яўляецца жыццём душы. Яны выплываюць з Майго Сэрца, якое было адкрытае на крыжы. Гэтыя прамяні засланяюць душы ад гневу



Вокладка кнігі «Успаміны пра святую сястру Фаўстыну Кавальскую».

Айца Нябеснага. Шчаслівы той, хто будзе жыць пад іх заслонаю, бо яго не дасягне справядлівая рука Бога»[6]; «Я абяцаю, што душа, якая будзе ўшаноўваць гэты абраз, не загіне. Абяцаю таксама ўжо тут, на зямлі, перамогу над непрыяцелямі, і асабліва ў гадзіну смерці. Я сам буду ахоўваць яе як сваю хвалу»[7]; «Я прагну, каб першая нядзеля па Вялікадні была святам Божай Міласэрнасці»[8]; «Хто ў гэты дзень прыступіць да Сакрамэнту Любові, той атрымае адпушчэнне ўсіх правінаў і караў. Чалавецтва не знойдзе супакаення, пакуль не звернецца з даверам да Божай Міласэрнасці»[9]; «Перш чым Я прыйду як Справядлівы Суддзя, Я прыходжу як Валадар Міласэрнасці, каб ніхто не адгаворваўся ў дзень Суду, які ўжо не далёкі...»[10] і г.д.

Гэты абраз быў крыху новага зместу, і таму я не мог павесіць яго ў касцёле без дазволу арцыбіскупа, якога саромеўся прасіць аб гэтым і тым больш расказваць пра паходжанне гэтага абраза. Таму я змясціў яго ў цёмнай галерэі каля касцёла св. Міхала (у кляштары сясцёр бэрнардынак), рэктарам якога я ў той час быў прызначаны. Цяжкасці майго прабывання ў гэтым касцёле прадказала мне сястра Фаўстына, і сапраўды незвычайныя здарэнні развіваліся даволі хутка. Сястра Фаўстына патрабавала, каб я любым коштам змясціў абраз у касцёле, але я не спяшаўся. Урэшце на Вялікім тыдні 1935 года яна паведаміла мне, што Пан Езус патрабуе, каб я змясціў абраз на тры дні ў Вострай Браме, дзе будзе трыдуум на заканчэнне Юбілею Адкуплення, які павінен адбыцца у дзень плануемага свята, у Белую нядзелю. У хуткім часе я даведаўся, што будзе гэты трыдуум, і вастрабрамскі ксёндз пробашч, канонік С. Завадзкі, папрасіў мяне прамовіць [падчас яго] казанне. Я згадзіўся з умоваю, што гэты абраз будзе ў якасці дэкарацыі змешчаны ў акне крытай галерэі, дзе ён выглядаў велічна і звяртаў на сябе ўвагу людзей больш, чым абраз Маці Божай.

Пасля набажэнства абраз [Езуса Міласэрнага] быў змешчаны на старым месцы ва ўкрыцці і заставаўся там яшчэ два гады. Толькі 1 красавіка 1937 года я прасіў Яго Эксцэленцыю арцыбіскупа Мітрапаліта Віленскага [аб згодзе] на тое, каб гэты абраз быў павешаны ў касцёле св. Міхала, рэктарам якога я быў яшчэ ў той час. Яго Эксцэленцыя арцыбіскуп мітрапаліт сказаў, што не хоча сам гэта вырашаць, а даручыць агледзець абраз камісіі, якую арганізуе ксёндз канонік Адам Савіцкі, канцлер Мітрапалітальнай курыі. Канцлер наказаў 2 красавіка [1937 года] выставіць абраз у сакрыстыі касцёла св. Міхала, бо не ведаў, у якую гадзіну адбудзецца яго агляд. Заняты працаю ў Духоўнай семінарыі і ва ўніверсітэце, я не прысутнічаў пры аглядзе абраза і не ведаю, у якім складзе была гэта камісія. З красавіка 1937 года Яго Эксцэленцыя ар-

цыбіскуп Мітрапаліт Віленскі паведаміў мне, што мае ўжо дакладную інфармацыю пра гэты абраз і дазваляе асвяціць яго і павесіць у касцёле з агаворкаю, каб [яго] не вешалі ў алтары і нікому не гаварылі пра яго паходжанне. У той жа дзень абраз быў асвечаны і павешаны каля вялікага алтара з боку амбоны, адкуль яго некалькі разоў бралі ў парафію св. Францішка (былую бэрнардынскую) на працэсію Божага Цела для змайстраваных алтароў. 28 снежня 1940 года сёстры бэрнардынкі перанеслі яго ў іншае месца, пры гэтым абраз быў крыху пашкоджаны, а ў 1942 годзе, калі сясцёр арыштавалі нямецкія ўлады, абраз вярнуўся на ранейшае месца каля вялікага алтара, дзе застаецца да гэтага часу, атулены вялікаю пашанаю вернікаў і аздоблены шматлікімі вотамі.

Праз некалькі дзён пасля трыдуума ў Вострай Браме сястра Фаўстына распавяла мне пра свае перажыванні, [якія яна спазнала] ў час гэтай урачыстасці. Яны падрабязна апісаныя ў яе дзённіку. Затым, 12 мая, яна бачыла духоўным позіркам канаючага маршалка Ю[зафа] Пілсудскага і распавядала пра яго страшныя цярпенні. Пан Езус нібыта паказаў ёй гэта і сказаў: «Глядзі, чым заканчваецца веліч гэтага свету». Затым яна бачыла суд над ім, а калі я спытаў, чым гэты суд скончыўся, адказала: «Здаецца, Божая міласэрнасць праз заступніцтва Маці Божай перамагла»[11]. У хуткім часе пачаліся прадказаныя сястрою Фаўстынаю вялікія цяжкасці (у сувязі з маім прабываннем у касцёле св. Міхала), якія ўсё павялічваліся і ўрэшце дайшлі да кульмінацыйнага моманту ў студзені 1936 года. Пра гэтыя цяжкасці я амаль нікому не казаў і толькі ў крытычны дзень прасіў сястру Фаўстыну аб малітве.

Да майго вялікага здзіўлення, у адзін і той самы дзень усе цяжкасці лопнулі, як мыльная бурбалка. А сястра Фаўстына адказала, што прыняла маё цярпенне на сябе і ў той дзень спазнала іх столькі, як ніколі ў жыцці. Калі яна потым у капліцы прасіла Пана Езуса аб дапамозе, то пачула словы: «Ты сама прыняла цярпенне за яго, цяпер уздрыгваеш? Я дапусціў на цябе толькі частку яго цярпенняў»[12]. Тут яна з поўнай дакладнасцю расказала мне аб прычыне маіх цяжкасцяў, якія, напэўна, былі ёй паведамленыя звышнатуральным чынам. Гэтая дакладнасць мяне вельмі моцна здзівіла, тым больш што пра дробязі яна сама ніякім чынам ведаць не магла. Падобных выпадкаў было некалькі.

У палове красавіка 1936 года сястра Фаўстына па распараджэнні генеральнай настаяцельніцы выехала ў Валендаў, а затым — у Кракаў, а я больш сур'ёзна задумаўся над ідэяй Божай міласэрнасці і пачаў шукаць у айцоў Касцёла пацвярджэння таго, што яна — найбольшая ўласцівасць Бога, як гаварыла сястра Фаўстына, бо ў пазнейшых тэолагаў нічога на гэтую тэму не знайшоў. З вялікаю радасцю я сустрэў падобныя выказванні ў св. Фульгенцыя, у св. Ільдэфонса, а найбольш — у св. Тамаша і св. Аўгустына, які, каментуючы псальмы, грунтоўна апісваў Божую міласэрнасць, называючы яе найвышэйшаю ўласцівасцю Бога. Тады я ўжо не меў сур'ёзных сумненняў адносна звышнатуральнасці аб'яўленняў сястры Фаўстыны і пачаў час ад часу змяшчаць артыкулы на тэму Божай міласэрнасці ў тэалагічных часопісах, лагічна абгрунтоўваючы і літургічную неабходнасць свята Божай міласэрнасці ў першую нядзелю [пасля] Вялікадня, а ў чэрвені 1936 года выдаў у Вільні першую брашуру «Божая Міласэрнасць» з абразком Найміласэрнейшага Хрыста на вокладцы. Гэтую публікацыю я паслаў перш за ўсё [Іх] Эксцэленцыям біскупам, сабраным на Канферэнцыі Епіскапату [Польшчы] у Чэнстахове, але ні ад аднаго з іх не атрымаў адказу. У 1947 годзе я выдаў у Познані другую брашуру пад назваю «Божая Міласэрнасць у літургіі», рэцэнзію на якую знайшоў у некалькіх тэалагічных часопісах, наогул вельмі прыхільную. Я таксама змясціў некалькі артыкулаў у віленскіх газетах, але нідзе не раскрываў, што сястра Фаўстына была гэтаю *causa movens*.

У жніўні 1937 года я наведаў сястру Фаўстыну ў Лагеўніках і знайшоў у яе дзённіку навэнну пра Божую Міласэрнасць[13], якая мне вельмі падабалася. На пытанне, адкуль яна яе мае, сятра Фаўстына адказала, што гэтую малітву ёй прадыктаваў сам Пан Езус. Ужо да гэтага нібыта Пан Езус навучыў яе вяночку да гэтай жа Міласэрнасці[14], а таксама іншым малітвам, якія я вырашыў апублікаваць. На аснове некаторых выразаў з гэтых малітваў я склаў Літанію пра Божую Міласэрнасць, якую разам з вяночкам і навэннаю аддаў пану Цыбульскаму[15] (Кракаў, вул. Шэўска, 22) з мэтаю атрымаць *imprimatur* у Кракаўскай курыі і надрукаваць гэта з абразком Божай Міласэрнасці на вокладцы. Кракаўская курыя дала *imprimatur* пад № 671, а ў кастрычніку гэтая навэнна з вяночкам і літаніяй з'явілася на паліцах кнігарняў. У 1939 г. я адправіў пэўную колькасць гэтых абразкоў і навэннаў у Вільню, а пасля выбуху вайны і ўваходу войскаў СССР (19 верасня 1939 г.) прасіў у Яго Эксцэленцыі арцыбіскупа Мітрапаліта Віленскага дазволу на іх распаўсюджанне з інфармацыяй пра паходжанне абраза, які змешчаны з гэтымі вяночкамі, і атрымаў на

гэта вусную згоду. У той час я пачаў пашыраць прыватны культ гэтага абраза і распаўсюджваць малітвы, складзеныя сястрою Фаўстынаю і адобраныя ў Кракаве. Калі кракаўскі наклад скончыўся, я вымушаны быў размнажаць гэтыя малітвы на машынцы, а калі не паспяваў з-за вялікай запатрабаванасці, прасіў у віленскай Мітрапалітальнай курыі дазволу на перавыданне з дадаткам на першай старонцы тлумачэнняў адносна зместу абраза. Я атрымаў дазвол з подпісам цэнзара, ксяндза прэлата Ляона Жаброўскага, ад 6 лютага 1940 года, а таксама Яго Эксцэленцыі біскупа суфрагана Казіміра Міхалькевіча і натарыуса курыі, ксяндза Я. Астрэйкі, ад 7 лютага 1940 года пад № 35. Падкрэсліваю, што я не ведаў, ці будзе падпісаны *imprimatur* і хто яго падпіша, і ў гэтай справе не дамаўляўся з Яго Эксцэленцыяй біскупам суфраганам, які праз некалькі тыдняў пасля гэтага памёр. Ксёндз прэлат Жаброўскі зрабіў як цэнзар пэўныя стылістычныя папраўкі ў тэксце кракаўскага выдання, але шырокае кола вернікаў жадала пакінуць гэты тэкст без зменаў. І таму я са згоды цэнзара звярнуўся ў курыю яшчэ раз (ужо пасля смерці Яго Эксцэленцыі біскупа суфрагана) з просьбаю зацвердзіць гэтыя малітвы без паправак. Ксёндз натарыус Я. Астрэйка аднёс заяву мітрапаліту, які праз таго ж натарыуса сказаў, каб я карыстаўся зацвярджэннем, падпісаным св. п. біскупам суфраганам, што я і зрабіў. Я апісваю гэтыя акалічнасці па той прычыне, што пасля гэтага пачалі казаць (у афіцыйных колах), нібыта я атрымаў гэтае зацвярджэнне нейкім падманам.

Яшчэ ў Вільні сястра Фаўстына распавядала, што адчувае натхненне прыспешыць свой выхад з Кангрэгацыі Маці Божай Міласэрнасці з мэтаю заснаваць новую манаскую кангрэгацыю. Я лічыў гэта спакусаю і раіў не ўспрымаць яго сур'ёзна. Затым, у лістах з Кракава, яна і далей пісала пра гэтае прыспешванне і ўрэшце атрымала ад свайго новага спаведніка[16] і генеральнай настаяцельніцы[17] дазвол выйсці з умоваю, што я на тое згаджуся. Я асцерагаўся браць гэта пад сваю адказнасць і адпісаў, што згадзіўся б толькі тады, калі б кракаўскі спаведнік і генеральная настаяцельніца не толькі дазволілі, але і загадалі выйсці. Такога загаду сястра Фаўстына не атрымала, таму супакоілася і засталася ў сваёй кангрэгацыі да смерці.

У 1938 годзе, у сярэдзіне верасня, я прыбыў у Кракаў на З'езд тэалагічных установаў і знайшоў ў інфекцыйным шпіталі ў Прондніку сястру Фаўстыну, ужо падрыхтаваную да смерці. Я наведваў яе на працягу тыдня і размаўляў у тым ліку на тэму той кангрэгацыі, якую яна хацела заснаваць, а цяпер памірае, адзначаючы, што гэта было памылкаю, як памылкаю, можа, былі і ўсе іншыя рэчы, пра якія яна гаварыла. Сястра Фаўстына абяцала на гэтую тэму размаўляць з Панам Езусам на малітве. У наступны дзень я служыў у інтэнцыі сястры Фаўстыны святую Імшу, падчас якой мне прыйшла думка, што паколькі яна не магла намаляваць гэтага абраза, а толькі ўказала [які ён павінен быць], то не магла б і заснаваць новай супольнасці, а толькі дала агульныя ўказанні; прыспешванні ж азначаюць неабходнасць гэтай новай кангрэгацыі ў найбліжэйшым часе. Калі я потым прыбыў у шпіталь і спытаў, ці хоча яна штосьці сказаць па гэтай справе, яна адказала, што не мусіць нічога казаць, бо падчас святой Імшы Пан Езус мяне ўжо прасвятліў. Затым дадала, што я павінен галоўным чынам клапаціцца пра свята Божай Міласэрнасці ў першую нядзелю пасля Вялікадня, што новаю кангрэгацыяй не павінен надта займацца, што пасля пэўных знакаў спазнаю, хто і што павінен у гэтай справе чыніць, што ў казанні, якое я ў той дзень прамовіў па радыё, не было цалкам чыстай інтэнцыі (на самай справе так і было), што я павінен перш за ўсё клапаціцца ва ўсёй гэтай справе менавіта пра чыстую інтэнцыю, што яна бачыць, як у малой драўлянай каплічцы я ноччу прымаю манаскія абяцанні ад першых шасці кандыдатак у гэтую кангрэгацыю; што хутка яна памрэ і ўсё, што яна павінна была сказаць і напісаць, яна ўжо зрабіла. Яшчэ да гэтага яна апісала мне выгляд невялікага касцёла і першага дома кангрэгацыі, а таксама спачувала лёсу Польшчы, якую вельмі любіла і за якую часта малілася.

Кіруючыся парадаю св. Яна ад Крыжа, я амаль заўсёды абыякава ўспрымаў аповеды сястры Фаўстыны і не пытаў пра падрабязнасці. У гэтым выпадку я таксама не запытаў, які менавіта лёс павінен напаткаць Польшчу, што яна так перажывае. Сама ж яна мне гэтага не сказала, толькі, уздыхнуўшы, закрыла твар ад жахлівай карціны, якую, напэўна, у той час бачыла. Амаль усё, што яна прадказвала ў справе гэтай кангрэгацыі, вельмі дакладна споўнілася. І калі 16 лістапада 1944 года ў Вільні я прымаў уночы прыватныя манаскія абяцанні першых шасці кандыдатак у драўлянай капліцы сясцёр кармэлітак альбо калі праз тры гады прыбыў у першы дом гэтай кангрэгацыі ў Мыслібожы, я быў уражаны дзіўным падабенствам да таго, што мне гаварыла святой памяці сястра Фаўстына. Яна таксама даволі падрабязна прадказала цяжкасці і нават пераследы, якія мяне напаткаюць у сувязі з пашырэннем культу Божай Міласэрнасці і з клопатам

аб устанаўленні свята [з] гэтаю назв[аю] ў Праводную нядзелю (лягчэй было ўсё гэта перажыць, усведамляючы, што такая была ва ўсёй гэтай справе Божая воля ад пачатку). 26 верасня сястра Фаўстына прадказала мне сваю смерць, кажучы, што праз дзесяць дзён памрэ, і 5 кастрычніка памерла. З-за недахопу часу я не змог прыехаць на пахаванне.

Што можна сказаць пра сястру Фаўстыну і яе аб'яўленні? Паводле прыроджанага характару, гэта была вельмі ўраўнаважаная асоба, без ценю псіханеўрозу ці істэрыі. Натуральнасць і прастата былі характэрныя для яе адносінаў як з сёстрамі кангрэгацыі, так і з чужымі людзьмі. Не было ў ёй ніякай штучнасці і тэатральнасці, ніякай змушанасці і жадання звярнуць на сябе ўвагу. Наадварот, яна нічым не адрознівалася ад іншых, а пра свае ўнутраныя перажыванні не казала нікому, апрача спаведніка і настаяцельніцаў. Эмацыйнасць у яе была нармальная, падпарадкаваная волі, і не выяўлялася імпульсіўна ў зменлівых настроях і хваляваннях. У яе не было ніякай псіхічнай дэпрэсіі, хвалявання, калі здараліся няўдачы, якія яна зносіла спакойна, падпарадкоўваючыся Божай волі.

З інтэлектуальнага пункту погляду яна была разважліваю і вызначалася цвярозым меркаваннем пра рэчы, хоць не мела амаль ніякай адукацыі: яна толькі ўмела пісаць з памылкамі і чытаць. Сястра Фаўстына давала трапныя парады сваім супольніцам, калі яны звярталіся да яе, а некалькі разоў я сам для выпрабавання падсунуў ёй пэўныя сумненні, якія яна вельмі трапна развеяла. Яе ўяўленне было багатае, але не экзальтаванае. Часта яна сама не магла адрозніць дзеянні свайго ўяўлення ад звышнатуральных дзеянняў, асабліва калі справа датычылася ўспамінаў з мінулага. Аднак, калі я звярнуў на гэта яе ўвагу і наказаў падкрэсліць у дзённіку толькі тое, аб чым яна можа прысягнуць, што гэта дакладна не з'яўляецца пладом яе ўяўлення, яна шмат што са сваіх даўніх успамінаў прапусціла.

З маральнага пункту погляду сястра Фаўстына была цалкам шчырая, без ніякага перабольшання і ценю падману. Заўсёды гаварыла праўду, хоць часам гэта прыводзіла да прыкрасці. Летам 1934 года я некалькі тыдняў адсутнічаў, а сястра Фаўстына не давярала іншым спаведнікам сваіх перажыванняў. Вярнуўшыся, я даведаўся, што яна спаліла свой дзённік пры наступных акалічнасцях. Ёй нібыта з'явіўся анёл і загадаў укінуць дзённік у печ, кажучы: «Глупства пішаш і толькі падвяргаеш сябе і іншых вялікім прыкрасцям. Што ж ты маеш з гэтай міласэрнасці? Навошта траціш час на апісанне нейкіх мрояў? Спалі ўсё гэта — і будзеш спакайнейшаю і шчаслівейшаю!» і г.д. Сястра Фаўстына не мела з кім параіцца, і калі візія паўтарылася, яна споўніла даручэнне ўяўнага анёла. Потым яна зарыентавалася, што зрабіла дрэнна, расказала мне ўсё і выканала даручэнне напісаць усё нанава.

Што датычыць звышнатуральных цнотаў, то яна іх заўважна развівала. Па праўдзе, я ад пачатку бачыў у ёй укаранёную і выпрабаваную цноту чыстасці, пакоры, стараннасці, паслухмянасці, убоства, а таксама любові да Бога і бліжняга, але можна было лёгка канстатаваць пастаяннае, паступовае іх узрастанне, асабліва пад канец жыцця ў ёй узмацнілася любоў да Бога, якую яна праяўляла ў сваіх вершах. Цяпер я не памятаю дакладна іх зместу (але ўвогуле памятаю сваё захапленне гэтым зместам (не формаю), калі ў 1938 годзе іх прачытаў.

Аднойчы я бачыў сястру Фаўстыну ў экстазе. Было гэта 2 верасня 1938 года, калі я наведаў яе ў шпіталі ў Прондніку і развітаўся з ёю, каб выехаць у Вільню. Крыху адышоўшы, я ўзгадаў, што прынёс ёй некалькі дзясяткаў экзэмпляраў складзеных ёю і выдадзеных у Кракаве малітваў (навэнна, літанія, вяночак) пра Божую Міласэрнасць. Я адразу ж вярнуўся, каб аддаць іх. Калі адчыніў дзверы ў ізалятар, дзе знаходзілася сястра Фаўстына, убачыў яе заглыбленаю ў малітве; седзячы, яна амаль узнімалася над ложкам. Яе позірк быў утаропleны ў нейкі нябачны прадмет, зрэнкі крыху расшыраныя, пакуль яна не звярнула ўвагі на мой уваход, а я не хацеў ёй перашкаджаць і намерваўся выйсці; аднак у хуткім часе сястра Фаўстына апамяталася, заўважыла мяне і перапрасіла, што не чула, як я грукаў у дзверы і ўвайшоў. Я аддаў ёй гэтыя малітвы і развітаўся, а яна сказала: «Да сустрэчы ў небе!» Калі я затым 26 верасня наведаў яе апошні раз у Лагеўніках, яна ўжо не хацела са мною размаўляць, а можа, хутчэй, не магла, і сказала: «Я занятая размоваю з Нябесным Айцом». Сапраўды, яна рабіла ўражанне незямной істоты. Тады я ўжо не меў ніякіх сумненняў адносна таго, што аповед з яе дзённіка пра святую Камунію, удзеленую ў шпіталі анёлам, адпавядае рэчаіснасці.

Што датычыць прадмета аб'яўленняў сястры Фаўстыны, то ў ім няма нічога, што супярэчыла б веры або добрым звычаям ці датычылася б пытанняў, спрэчных між тэолагаў. Наадварот, усё скіравана да лепшага пазнання Бога і любові да Яго. «Гэты абраз выкананы па-майстэрску і з'яўляецца каштоўным дасягненнем сучаснага рэлігійнага мастацтва» (Пратакол камісіі ў справе ацэнкі і кансервацыі абраза Найміласэрнейшага Збавіцеля ў касцёле св. Міхала

ў Вільні ад 27 мая 1941 года, падпісаны экспертамі: прафесарам гісторыі мастацтва доктарам М. Маралёўскім, прафесарам дагматыкі ксяндзом доктарам Л. Пуцятам і кансерватарам ксяндзом доктарам П. Слядзеўскім). Культ Божай Міласэрнасці — як прыватны (у форме навэнны, вяночка і літаніі), так і публічны (у форме планаванага свята) не толькі ні ў чым не супярэчыць догмам і літургіі, але і скіраваны на пазнанне праўдаў святой веры і нагляднае выяўленне таго, што да гэтага часу ў літургіі было толькі ў зародку — на акцэнтаванне і дэманстрацыю таго, пра што грунтоўна пісалі айцы Касцёла, што меў на ўвазе аўтар літургіі і чаго сёння вымагае надзвычайнае людское ўбоства. Інтуіцыю простай законніцы, якая ведае толькі катэхізіс, у такіх далікатных, такіх трапных і адпаведных псіхалогіі сучаснага грамадства рэчах інакш немагчыма растлумачыць, як толькі звышнатуральным дзеяннем і прасвятленнем. Ніводзін тэолаг пасля доўгіх даследаванняў не змог бы хоць з большага вырашыць гэтыя цяжкасці так удала і лёгка, як гэта рабіла сястра Фаўстына.

Праўду кажучы, да звышнатуральнага дзеяння ў душы сястры Фаўстыны часам далучалася дзеянне яе чалавечага, даволі жывога ўяўлення, у выніку чаго пэўныя рэчы яна несвядома крыху перайначыла. Але гэта здараецца ва ўсіх людзей такога тыпу, як сведчаць іх біяграфіі, напрыклад, у св. Брыгіты, Кацярыны Эмэрык, Марыі Агрэдскай, Жанны д'Арк і г.д. Гэтым можна растлумачыць неадпаведнасць аповеду сясты Фаўстыны пра тое, як яе прынялі ў кляштар, і сведчанне правялебнай генеральнай маці Міхаэлы Марачэўскай, а можа, яшчэ і іншыя яе падобныя выказванні ў дзённіку. Зрэшты, гэта даўнія выпадкі, пра якія абодва бакі маглі забыцца або крыху [іх] змяніць, выпадкі, якія да сутнасці справы адносінаў не маюць.

Вынікі аб'яўленняў сястры Фаўстыны пераўзышлі ўсялякія чаканні як у яе душы, так і ў душах іншых людзей. Наколькі спачатку сястра Фаўстына крыху трывожылася, асцерагалася магчымасці выконваць даручэнні і ўхілялася ад іх, настолькі яна паступова супакойвалася і дайшла да стану поўнай бяспекі, упэўненасці і ўнутранай глыбокай радасці. Яна станавілася ўсё больш пакорнаю і паслухмянаю, усё больш з'яднанаю з Богам і цярпліваю, ва ўсім поўнасцю згаджаючыся з Яго воляю. Напэўна, не трэба шмат гаварыць пра вынікі гэтых аб'яўленняў у душах іншых людзей, якія даведаліся пра гэтае аб'яўленне, бо факты найлепш гавораць самі за сябе. Шматлікія вoты (каля 150) пры абразе Найміласэрнейшага Збавіцеля ў Вільні і многіх іншых гарадах дастаткова сведчаць пра ласкі, якія атрымалі тыя, хто ўшаноўвае Божую міласэрнасць у айчыне і за мяжою. З усіх бакоў прыходзяць звесткі пра тое, як дзівосным, часам яўна цудоўным чынам, былі выслуханыя малітвы да Божай міласэрнасці...

*Беласток,*
*27 студзеня 1948 года.*

*Пераклала з польскай мовы*
*Ганна Шаўчэнка.*
*Паводле: Wspomnienia o świętej Siostrze Faustynie Kowalskiej ze Zgromadzenia Matki Bożej Miłosierdzia. – Kraków: Wydawnictwo Misericordia, 2013.*

[1] Правільная назва: Кангрэгацыя Сясцёр Маці Божай Міласэрнасці.

[2] Кс. Міхал Сапоцька ўпершыню сустрэўся з с. Фаўстынаю Кавальскаю ў чэрвені 1933 года ў Вільні, у Антокалі, дзе быў звычайным спаведнікам (тыднёвым) Кангрэгацыі Сясцёр Маці Божай Міласэрнасці.

[3] Пар. Дз., 47.

[4] Прозвішча мастака гучыць: Казіміроўскі. Яўген Казіміроўскі (1873–1939), сын Аўгуста і Марыі з Касакоўскіх. Вучыўся ў Акадэміі мастацтваў у Кракаве і там жыў да 1914 года. Летнія месяцы праводзіў у вясковых уладаннях у сяброў ва Украіне і на Віленшчыне, дзе за грошы маляваў пейзажы і партрэты. З 1915 года працаваў настаўнікам у настаўніцкай семінарыіі і тэатральным дэкаратарам у Вялікім тэатры і Польскім тэатры ў Вільні. У 1934 годзе па замове ксяндза Міхала Сапоцькі намаляваў першы абраз Езуса Міласэрнага паводле ўказанняў сястры Фаўстыны. З 1936 года жыў у Беластоку. Памёр 23 верасня 1939 года.

[5] «Я даю людзям начынне, з якім яны павінны прыходзіць па ласкі да крыніцы міласэрнасці. Гэтым начыннем з'яўляецца гэты абраз з надпісам: Езу, давяраю Табе» (Дз., 327).

[6] «Гэтыя два прамяні азначаюць кроў і ваду — бледны прамень азначае ваду, якая апраўдвае душы; чырвоны прамень азначае кроў, якая з'яўляецца жыццём душаў... Гэтыя два прамяні выйшлі з глыбіні Маёй Міласэрнасці ў той момант, калі Маё канаючае Сэрца было прабіта дзідаю на крыжы. Гэтыя прамяні засланяюць душы ад гневу Айца Майго. Шчаслівы той, хто будзе жыць пад іх заслонаю, бо яго не дасягне справядлівая рука Бога» (Дз., 299).

[7] Дз., 48.

[8] «Я прагну, каб першая нядзеля па Вялікадні была святам Міласэрнасці» (Дз., 299).

[9] «Прасі Майго вернага слугу, каб у гэты дзень ён сказаў усяму свету пра Маю вялікую міласэрнасць — хто ў гэты дзень прыступіць да Крыніцы Жыцця, той атрымае поўнае адпушчэнне правінаў і караў. Чалавецтва не знойдзе супакаення, пакуль не звернецца з даверам да Маёй міласэрнасці» (Дз., 300).

[10] «Перш чым Я прыйду як справядлівы Суддзя, я прыйду як Валадар Міласэрнасці» (Дз., 83). «Перш чым Я прыйду як справядлівы Суддзя, Я адчыняю насцеж дзверы Маёй міласэрнасці. Хто не хоча прайсці праз дзверы міласэрнасці, той павінен прайсці праз дзверы Майго правасуддзя...» (Дз., 1146).

[11] Пар. Дз., 425–426.

[12] «Дачка Мая, чаму ты плачаш, ты ж сама ахвяравалася на гэта цярпенне; ведай, што гэта маленькая частачка, прынятая табою за гэтую душу. Ён церпіць яшчэ больш» (Дз., 596).

[13] Пар. Дз., 1209–1229.

[14] Дз., 474–476.

[15] Юзаф Цыбульскі кіраваў у Кракаве выдавецтвам кніжак для набажэнстваў і складам дэвацыяналій на вул. Шэўскай, 22. Там у 1937 годзе былі надрукаваныя: кніжачка «Хрыстус, Валадар Міласэрнасці» і першыя абразкі Езуса Міласэрнага з Вяночкам да Божай Міласэрнасці, якія ў выдаўца замовіў ксёндз Міхал Сапоцька.

[16] Айца Юзафа Андраша SJ.

[17] Маці Міхаэлы Марачэўскай.




# «Прыйдзіце да Мяне ўсе...»

Шаноўныя чытачы! У гэтым нумары, прысвечаным Кангрэгацыі Сясцёр Маці Божай Міласэрнасці і постаці вядомай ва ўсім свеце святой Фаўстыны Кавальскай, якая да гэтай Кангрэгацыі належала, прапануем вашай увазе ўрывак з «Дзённіка» с. Фаўстыны, выдадзенага ў мінулым годзе ў перакладзе на беларускую мову ў выдавецтве «Pro Christo».

Гэты незвычайны твор — «жамчужыну містычнай літаратуры», сястра Фаўстына па наказе свайго спаведніка кс. Міхала Сапоцькі пачала пісаць у Вільні ў 1933 годзе. «Я павінна запісаць сустрэчы душы маёй з Табою, о Божа, у хвіліны асаблівых наведзінаў Тваіх. Я павінна пісаць пра Цябе, о Неспасцігальны ў міласэрнасці да беднай душы маёй. Гэты наказ я атрымала ад таго, хто мне Цябе, Божа, тут на зямлі замяняе, хто мне тлумачыць волю Тваю святую. Езу, бачыш, як мне цяжка пісаць, як складана мне выказаць тое, што перажываю ў душы. О Божа, ці ж можа напісаць пяро пра тое, для чаго часам і словаў няма? Але Ты загадваеш пісаць, о Божа, і гэтага мне дастаткова» (Дз., 6), — разважала на самым пачатку сваіх запісаў сястра Фаўстына.

Яе біёграф Эва Чачкоўская слушна зазначыла: «Калі б кс. Сапоцька ў 1933 г. не наказаў сястры Фаўстыне запісваць «сустрэчы яе душы з Богам», а яна гэтаму паслухмяна не падпарадкавалася, мы ніколі гэтулькі не даведаліся б пра яе аб'яўленні. Прынамсі не пазнаёміліся б з імі з самой іх крыніцы, а магчыма, толькі з пераказу спаведніка або настаяцельніцаў».

Кс. Сапоцька быў першым чытачом Фаўстыніных запісаў і, як ён сам падкрэсліваў, ніколі нічога ў іх змесце не змяняў. На жаль, калі вясною 1934 г. ён на некалькі тыдняў выехаў з Вільні на Святую Зямлю, сястра Фаўстына пад уплывам злога духа, які з'яўляўся да яе ў вобразе анёла, спаліла «Дзённік». Пасля вяртання кс. Міхал загадаў с. Фаўстыне аднавіць знішчаны тэкст, але паколькі ў яе душы ўзнікалі новыя перажыванні, сястра Фаўстына занатоўвала іх, пераплятаючы з успамінамі з таго спаленага сшытка. «Таму, — тлумачыць кс. Сапоцька, — у яе „Дзённіку" няма храналагічнага парадку».

Сам Езус таксама загадваў с. Фаўстыне занатоўваць сустрэчы яе душы з Ім, пісаць пра Ягоную бязмерную дабрыню да чалавека. Ён называў яе сакратаркаю сваёй міласэрнасці: «Дачка мая, ты жывеш не для сябе, а для душаў, пішы для іх карысці. Ты ведаеш Маю волю адносна тваіх запісаў, гэта ўжо шмат разоў табе пацвердзілі і спаведнікі...» (Дз., 895).

«Дзённік» сястра Фаўстына пісала на працягу чатырох апошніх гадоў свайго жыцця. Ён складаецца з шасці сшыткаў і аднаго асобнага пад назваю «Мая падрыхтоўка да святой Камуніі». Гэта твор-сведчанне бязмежнай Божай міласэрнасці да кожнага чалавека. Напісаны маладою малапісьменнаю законніцаю, ён валодае прыцягальнаю сілаю, да яго хочацца вяртацца, перачытваць, часам адгортваючы кнігу наўгад, не пільнуючыся парадку старонак і пунктаў. І кожны раз здзіўляе глыбіня думкі і шчырасць перажыванняў аўтаркі, кранае яе бязмежны дзіцячы давер да Бога.

Благаслаўлёны кс. Міхал Сапоцька сцвярджаў: «Ніводзін тэолаг пасля доўгай вучобы не здолеў бы нават прыблізна растлумачыць гэтых (тэалагічных. — Заўв.рэд.) цяжкасцяў так трапна і лёгка, як гэта рабіла с. Фаўстына». І таму не ўзнікае ніякіх сумненняў у тым, што гэты тэкст натхнёны Богам.

Святы папа Ян Павел II пісаў у сваёй кнізе-тэстамэнце «Памяць і самасвядомасць»: «...Словы, занатаваныя ў „Дзённіку" святой Фаўстыны, з'яўляюцца асаблівым Евангеллем Божай міласэрнасці, напісаным у перспектыве XX ст. <...> Як быццам Хрыстус хацеў паказаць, што мераю, вызначанаю злу, віноўнікам і ахвяраю якога з'яўляецца чалавек, у рэшце рэшт ёсць Божая міласэрнасць...»

Сёння, калі свет робіць стаўку на маладосць, упэўненасць, паспяховасць, святая сястра Фаўстына — адна з найвялікшых містычак сучаснасці — сведчыць, якую вартасць у вачах Пана Бога маюць слабасць, пакора, любоў, міласэрнасць... «Гэтая Божая ласка дадзена мне толькі таму, — сцвярджае яна, — што я была самаю слабою сярод людзей...»

«Дзённік» святой сястры Фаўстыны дае кожнаму ўдумліваму чытачу надзею ў сённяшнім безнадзейна разгубленым свеце.

*Рэд.*



Рукапісныя сшыткі «Дзённіка».

Св. сястра Фаўстына Кавальская ZMBM

1485

# Божая дабрыня

Фрагменты «Дзённіка». Выдавецтва «Pro Christo», 2014 г.

Міласэрнасць Бога, утоенага ў Найсвяцейшым Сакрамэнце; голас Пана, які звяртаецца да нас з трону міласэрнасці: *Прыйдзіце да Мяне ўсе.*

**Размова міласэрнага Бога з грэшнаю душою**

— Езус: *Не бойся, грэшная душа, свайго Збаўцы, Я першы набліжаюся да цябе, бо ведаю, што сама па сабе ты не здольная ўзняцца да Мяне. Не ўцякай, дзіця, ад свайго Айца, пажадай завесці размову сам-насам са сваім Богам міласэрнасці, які сам хоча сказаць табе словы прабачэння і абсыпаць цябе сваімі ласкамі. О, якая дарагая для Мяне твая душа. Я запісаў тваё імя на сваіх руках, і ты ўрэзалася глыбокаю ранаю ў Маё сэрца.*

— Душа: Пане, я чую Твой голас, які кліча мяне, каб я вярнулася з нядобрай дарогі, але ў мяне няма ні адвагі, ні сілы.

— Езус: *Я — твая сіла, Я дам табе моц для змагання.*

— Душа: Пане, я спазнаю Тваю святасць і баюся Цябе.

— Езус: *Чаму ж ты баішся, дзіця Маё, Бога міласэрнасці? Мая святасць не перашкаджае Мне быць да цябе міласэрным. Глядзі, душа, для цябе Я ўзвёў трон міласэрнасці на зямлі, гэтым тронам з'яўляецца табэрнакулюм, і з гэтага трону міласэрнасці Я прагну сыходзіць у тваё сэрца. Паглядзі, Я не акружыў сябе ані світаю, ані аховаю, ты маеш доступ да Мяне ў любы момант, у кожную пару дня Я хачу размаўляць з табою і прагну ўдзяляць табе ласкі.*

— Душа: Пане, я баюся, ці прабачыш Ты мне такую вялікую колькасць грахоў, мая мізэрнасць напаўняе мяне трывогаю.

— Езус: *Мая міласэрнасць большая, чым твая мізэрнасць і мізэрнасць усяго свету. Хто змераў Маю дабрыню? Дзеля цябе Я зышоў з неба на зямлю, дзеля цябе дазволіў прыбіць сябе да крыжа, дзеля цябе дазволіў прабіць дзідаю сваё найсвяцейшае сэрца і адкрыў для цябе крыніцу міласэрнасці; прыходзь і чэрпай ласкі з гэтай крыніцы начыннем даверу. Прыніжанага сэрца Я ніколі не адкіну, твая мізэрнасць патанула ў бездані Маёй міласэрнасці. Навошта ж табе весці са Мною размову пра тваю мізэрнасць. Ты зробіш Мне прыемнасць, калі аддасі Мне ўсе свае беды і ўсю сваю мізэрнасць, а Я напоўню цябе скарбамі ласкаў.*

[81] — Душа: О Пане, Ты перамог маё каменнае сэрца сваёю дабрынёю; вось я з даверам і пакораю прыходжу на суд Тваёй міласэрнасці, Ты сам адпусці мне грахі рукою свайго намесніка. О Пане, я адчуваю, як ласка і спакой увайшлі ў маю бедную душу. Я адчуваю, што мяне ўсю атуліла Твая міласэрнасць, Пане. Ты прабачыў мне больш, чым я асмельвалася спадзявацца, больш, чым я магла сабе ўявіць. Твая дабрыня пераўзышла ўсе мае жаданні. А цяпер, поўная ўдзячнасці за гэтулькі ласкаў, я запрашаю Цябе ў сваё сэрца. Я блукала, як марнатраўнае дзіця, але Ты не пераставаў быць для мяне Айцом. Памнажай ува мне Тваю міласэрнасць, бо Ты бачыш, якая я слабая.

— Езус: *Дзіця, не гавары больш пра сваю мізэрнасць, бо Я ўжо пра яе не памятаю. Паслухай, дзіця Маё, што Я хачу табе сказаць: прытуліся да Маіх ранаў і чэрпай з крыніцы жыцця ўсё, чаго толькі можа пажадаць тваё сэрца. Пі ўволю з крыніцы жыцця, і ты не стомішся ў дарозе. Глядзі на ззянне Маёй міласэрнасці і не бойся ворагаў свайго збаўлення. Праслаўляй Маю міласэрнасць.*

<...>

1487

**+ Размова міласэрнага Бога з церпячаю душою**

— Езус: *Душа, Я бачу, як моцна ты церпіш, бачу, што ў цябе няма сілы нават размаўляць са Мною. Таму, душа, Я буду сам прамаўляць да цябе. Нават калі твае цярпенні будуць* [86] *найбольшыя, ты не падай духам і не расчароўвайся. Але скажы Мне, дзіця Маё, хто асмеліўся зраніць Тваё сэрца? Раскажы Мне пра ўсё, будзь шчырая са Мною, адкрый Мне ўсе раны свайго сэрца, Я іх вылечу, а тваё цярпенне стане крыніцаю твайго асвячэння.*

— Душа: Пане, мае цярпенні вельмі вялікія і самыя розныя, а з-за іх працягласці мяне ахоплівае расчараванне.

— Езус: *Дзіця Маё, нельга расчароўвацца; Я ведаю, што ты бязмежна Мне давяраеш, ведаю, што ты адчуваеш Маю дабрыню і міласэрнасць, — таму, можа, паразмаўляем падрабязна пра ўсё, што цябе найбольш хвалюе.*

— Душа: У мяне так шмат усяго, што я не ведаю, пра што сказаць найперш і як усё гэта выказаць.

— Езус: *Гавары са Мною проста, як сябра з сябрам. Ну, скажы Мне, дзіця Маё, што цябе стрым-*

*лівае на шляху святасці?*

— Душа: Недахоп здароўя стрымлівае мяне на шляху святасці. Я не магу выконваць абавязкаў, такая бездапаможная. Я не магу займацца ўтаймаваннем, строга пасціць, як гэта рабілі святыя; [87] зноў жа, мне не вераць, што я хворая, і да фізічных цярпенняў дадаюцца маральныя, і з гэтага выходзіць шмат прыніжэнняў. Бачыш, Езу, як мне тут стаць святою?

— Езус: *Сапраўды, дзіця, усё гэта — цярпенні, але іншай дарогі на неба, апрача крыжовай, няма. Я сам першы прайшоў яе. Ведай, што гэта найкарацейшая і самая надзейная дарога.*

— Душа: Пане, яшчэ адна перашкода і цяжкасць на шляху святасці: з-за таго, што я верная Табе, мяне праследуюць і прычыняюць мне шмат цярпенняў.

— Езус: *Ведай, што з-за таго, што ты не з гэтага свету, свет ненавідзіць цябе. Спачатку ён праследаваў Мяне; гэты праслед — знак таго, што ты верна ідзеш следам за Мною.*

— Душа: Пане, яшчэ мяне расхалоджвае тое, што мяне не разумеюць у маіх духоўных цярпеннях ані настаяцельніцы, ані спаведнік. Цемра азмрочыла мой розум, і як тут ісці наперад? Так мяне ўсё гэта расхалоджвае, і я думаю, што вышыні святасці не для мяне.

— Езус: *Вось, дзіця Маё, на гэты раз ты Мне шмат сказала. Я ведаю, што гэта вялікая пакута — быць* [88] *незразуметаю, ды яшчэ тымі, каго любіш і з кім маеш шчырыя адносіны, але няхай табе будзе дастаткова таго, што Я разумею цябе ва ўсіх тваіх бедах і няшчасцях. Мяне радуе, што, нягледзячы на ўсё, у табе ёсць глыбокі давер да Маіх намеснікаў; але ведай, што людзі не могуць да канца зразумець душу, бо гэта вышэй за іх магчымасці; таму Я сам застаўся на зямлі, каб суцешыць тваё збалелае сэрца і ўмацоўваць тваю душу, каб не спынялася ў дарозе. Ты кажаш, што вялікая цемра засціле твой розум, а чаму ж у гэтыя хвіліны ты не прыходзіш да Мяне, Я ж — святло і магу ў адно імгненне ўліць у тваю душу столькі святла і разумення святасці, колькі ты не атрымаеш ні ў якіх кнігах; ніводзін спаведнік не здольны так навучыць і асвяціць душу. А яшчэ ведай, што гэтую цемру, на якую ты скардзішся, Я спачатку перажыў дзеля цябе ў Аліўным садзе. Мая душа была прыгнечаная смяротным смуткам, і Я даю табе частку гэтых цярпенняў — дзеля Маёй асаблівай любові да цябе і дзеля высокай ступені святасці, якую Я табе* [89] *прызначаю ў небе. Цярплівая душа бліжэй за ўсё Майму сэрцу.*

— Душа: Але яшчэ адно, Пане: што рабіць, калі я адпрэчаная і адкінутая людзьмі, асабліва тымі, на каго я мела права разлічваць, прытым у хвіліны найбольшай патрэбы?

— Езус: *Дзіця Маё, прымі пастанову ніколі не абапірацца на людзей. Ты многага даб'ешся, калі цалкам даверышся Маёй волі і скажаш: «Няхай будзе не так, як я хачу, а па Тваёй волі няхай мне станецца, о Божа». Ведай, што гэтыя словы, сказаныя ад усяго сэрца, у адзін момант узносяць душу на вяршыні святасці. Такая душа Мне асабліва падабаецца, такая душа аддае Мне вялікую хвалу, такая душа напаўняе неба водарам сваёй цноты; але ведай, што тою сілаю, якая дапамагае табе зносіць цярпенні, ты абавязана частай святой Камуніі, і таму часцей прыходзь да гэтай крыніцы міласэрнасці і чэрпай начыннем даверу ўсё, што табе неабходна.*

— Душа: Дзякую Табе, Пане, за Тваю неспасцігальную дабрыню, за тое, што Ты пажадаў застацца з намі на гэтым выгнанні і прабываеш з намі як Бог міласэрнасці [90], і сееш вакол сябе ззянне сваёй літасці і дабрыні. У святле промняў Тваёй міласэрнасці я зразумела, як моцна Ты мяне любіш.

1488

**Размова міласэрнага Бога з душою, якая імкнецца да дасканаласці**

— Езус: *Мне прыемныя твае высілкі, душа, што імкнешся да дасканаласці. Але чаму ж Я так часта бачу цябе сумнаю і прыгнечанаю? Скажы Мне, дзіця Маё, што значыць гэты сум і ў чым яго прычына?*

— Душа: Пане, прычына майго суму ў тым, што, нягледзячы на мае шчырыя пастановы, я ўвесь час раблю памылкі, прычым тыя самыя. Раніцаю прымаю пастанову, а вечарам бачу, як далёка я адышла ад гэтых пастаноў.

— Езус: *Бачыш, дзіця Маё, хто ты сама па сабе, а прычына тваіх упадкаў у тым, што ты залішне разлічваеш сама на сябе і занадта мала абапіраешся на Мяне. Але няхай цябе гэта не засмучае празмерна, ты маеш справу з Богам міласэрным, твая мізэрнасць не вычарпае яе, Я ж прабачаю без абмежаванняў.*

— Душа: Так, я ўсё гэта ведаю, [91] але мяне атакуе мноства спакусаў, і розныя сумненні абуджаюцца ўва мне, і пры гэтым усё мяне раздражняе і прыгнятае.

— Езус: *Дзіця Маё, ведай, што найбольшаю перашкодаю да святасці з'яўляюцца прыгнечанасць і беспадстаўны неспакой, які адбірае ў цябе магчымасць практыкавацца ў цноце. Усе разам спакусы не павінны ні на хвіліну парушыць твайго ўнутранага спакою, а раздражнёнасць і прыгнечанасць — гэта плод твайго самалюбства. Табе трэба не расчароўвацца, а імкнуцца да таго, каб на месцы твайго самалюбства змагла заваладарыць Мая любоў. І таму —*

*больш даверу, дзіця Маё; ты не павінна расчароўвацца, а павінна прыходзіць да Мяне па прабачэнне, бо Я заўсёды гатовы табе прабачыць. Колькі разоў ты аб гэтым Мяне просіш, столькі разоў праслаўляеш Маю міласэрнасць.*

— Душа: Я разумею, што найбольш дасканалае і што Табе найбольш падабаецца, але перада мною такія вялікія перашкоды, якія не даюць мне выканаць тое, што я ўсведамляю.

— Езус: *Дзіця Маё, жыццё на зямлі — гэта барацьба, вялікая барацьба за Маё валадарства, але не бойся, бо ты не адна. Я заўсёды цябе падтрымліваю* [92], *і таму абапрыся на Маё плячо і змагайся, нічога не баючыся. Вазьмі начынне даверу і чэрпай з крыніцы жыцця не толькі для сябе, але падумай і пра іншыя душы, і асабліва пра тыя, якія не давяраюць Маёй дабрыні.*

— Душа: О Пане, я адчуваю, што маё сэрца напаўняецца Тваёю любоўю, што промні Тваёй міласэрнасці і любові пранялі маю душу. Вось я іду, Пане, на Твой заклік, вось я іду заваёўваць душы, падтрыманая Тваёю ласкаю. Я гатова ісці за Табою, Пане, не толькі на Табор, але й на Кальварыю. Я прагну прыводзіць душы да крыніцы Тваёй міласэрнасці, каб на ўсіх душах адбілася ззянне промняў Тваёй міласэрнасці, каб дом нашага Айца быў запоўнены, а калі вораг пачне кідаць у мяне камяні, тады я, быццам шчытом, засланюся Тваёю міласэрнасцю.

1489

**Размова міласэрнага Бога з дасканалаю душою**

— Душа: Пане і Настаўнік мой, я хачу паразмаўляць з Табою.

— Езус: *Гавары, Я слухаю цябе заўсёды, любае* [93] *дзіця; Я заўсёды чакаю цябе. Аб чым жа ты хочаш паразмаўляць са Мною?*

— Душа: Пане, найперш я адкрываю каля Твайго падножжа сваё сэрца з яго водарам удзячнасці за столькі ласкаў і дабрадзействаў, якімі Ты нястомна абсыпаеш мяне, і нават калі б я захацела іх палічыць, гэта было б немагчыма. Я памятаю толькі адно — што не было ў маім жыцці моманту, калі б я не адчувала Тваёй апекі і дабрыні.

— Езус: *Мне падабаюцца твае словы, а ўдзячнасць адкрывае табе новыя скарбы ласкаў, але, дзіця Маё, можа, мы пагаварылі б не так агульна, а падрабязней пра тое, што цябе найбольш хвалюе; паразмаўляйма даверліва, шчыра, як два сэрцы, якія любяць адно аднаго.*

— Душа: О мой міласэрны Пане, у маім сэрцы ёсць таямніцы, пра якія, апроч Цябе, ніхто не ведае і ведаць не будзе, бо калі б нават я захацела іх адкрыць, ніхто б мяне не зразумеў. Сёетое ведае Твой намеснік, бо я ж у яго спавядаюся, але ведае ён настолькі, наколькі я здольная яму гэтыя таямніцы адкрыць, а астатняе застанецца навечна паміж намі, мой Пане! [94] Ты ўкрыў мяне покрывам сваёй міласэрнасці, заўсёды прабачаючы мне грахі. Ты ані разу не адмовіў мне ў сваім прабачэнні, але, літуючыся нада мною, заўсёды адорваў мяне новым жыццём, жыццём ласкі. Каб у мяне ні ў чым не было сумнення, Ты аддаў мяне пад чулую апеку свайго Касцёла, гэтай чулай Маці, якая ад Твайго імя па-сапраўднаму пераконвае мяне ў праўдах веры і пільнуе, каб я ніколі не памылялася. Цэлае мора добразычлівасці мая душа спазнае ў судзе Тваёй міласэрнасці. Упалым анёлам Ты не даў часу для пакаяння, не падоўжыў ім часу міласэрнасці. О мой Пане, Ты паставіў на дарозе майго жыцця святых святароў, якія паказваюць мне верны шлях. Езу, ёсць у маім жыцці яшчэ адна таямніца, самая глыбокая і самая дарагая майму сэрцу — гэта Ты сам пад выглядам хлеба, калі Ты прыходзіш у маё сэрца. Тут уся таямніца маёй святасці. Тут маё сэрца, злучанае з Тваім, становіцца адзіным; тут ужо няма ніякіх таямніцаў, бо ўсё Тваё становіцца маім, а ўсё маё — Тваім. У гэтым усемагутнасць і [95] цуд Тваёй міласэрнасці. Нават усе чалавечыя і анёльскія мовы, злучаныя разам, не змогуць знайсці дастаткова словаў, каб выказаць гэтую таямніцу любові і Тваёй бяздоннай міласэрнасці. Калі я разважаю над гэтаю таямніцаю любові, маё сэрца зноў уваходзіць у экстаз любові, і я кажу Табе, Пане, аб усім моўчкі, бо мове любові не патрэбныя словы, бо не застанецца незаўважаным ніводзін рух майго сэрца. О Пане, нягледзячы на Тваё вялікае паніжэнне, Твая веліч яшчэ больш умацавалася ў маёй душы, і таму ў маёй душы абудзілася яшчэ большая любоў да Цябе, адзіны аб'ект маёй любові, бо жыццё любові і еднасці праяўляюцца ў дасканалай чысціні і глыбокай пакоры, у лагоднай ціхасці і вялікай руплівасці аб збаўленні душаў. О мой наймілейшы Пане, Ты кожную хвіліну пільнуеш мяне і даеш мне натхненне, як мне паступіць у дадзеным выпадку; калі маё сэрца ў чым-небудзь сумнявалася, Ты сам не раз вырашаў праблемы. О, колькі разоў Ты пры дапамозе нечаканага азарэння даваў [96] мне зразумець, што Табе больш падабаецца. О, як шмат разоў Ты прабачаеш, калі пра гэта ніхто не ведае. Колькі разоў Ты напаўняў маю душу сілаю і бадзёрасцю, каб я магла ісці наперад. Ты сам прыбіраў перашкоды — каб[1] — з маёй дарогі, непасрэдна ўмешваючыся ў людскія справы. О Езу, усё, што я Табе расказала, — гэта толькі бляклы цень таго, што адбываецца ў маім сэрцы на самай справе. О мой Езу, як моцна я прагну

навяртання грэшнікаў. Ты ведаеш, што я для іх раблю, каб прыцягнуць іх да Цябе. Мне вельмі баліць кожная абраза, нанесеная Табе. Ты бачыш, што я не ашчаджаю ні сілаў, ні здароўя, ні жыцця для абароны Твайго валадарства. Хоць на зямлі мае высілкі незаўважныя, у Тваіх вачах яны не менш вартыя. О Езу, я прагну прыводзіць душы да крыніцы Тваёй міласэрнасці, каб яны чэрпалі жывую ваду жыцця начыннем даверу. Калі душа жадае спазнаць на сабе большую Божую міласэрнасць, няхай з вялікім даверам наблізіцца да Бога, і калі яе давер да Бога будзе бязмежны, то і Божая міласэрнасць для яе будзе бязмежная. О мой Пане, [97] Ты ведаеш кожны рух майго сэрца, Ты ведаеш, як горача я прагну, каб усе сэрцы біліся выключна для Цябе, каб кожная душа праслаўляла веліч Тваёй міласэрнасці.

— Езус: *Маё любае дзіця, асалода Майго сэрца, твая мова для Мяне больш мілая і дарагая за анёльскі спеў. Для цябе адкрытыя ўсе скарбы Майго сэрца. Бяры з гэтага сэрца тое, што патрэбна для цябе і ўсяго свету. Дзеля тваёй любові Я адмяняю справядлівыя кары, якія заслужыла чалавецтва. Адзін акт чыстай любові да Мяне прыемней Мне, чым тысячы гімнаў недасканалых душаў. Адзін уздых тваёй любові кампенсуе мне шматлікія знявагі, якімі «кормяць» Мяне бязбожнікі. Найменшы ўчынак або акт цноты мае ў Маіх вачах бязмерную вартасць з-за тваёй вялікай любові да Мяне. У такой душы, якая жыве выключна Маёй любоўю, Я валадару, быццам у небе. Днём і ноччу Мой позірк чувае над ёю, Я знаходжу ў ёй сваю радасць, і Маё вуха чуе яе [98] просьбы і шэпт яе сэрца, а часта Я апярэджваю яе просьбы. О Маё асабліва любае дзіця, святло Маіх вачэй, адпачні хвіліну каля Майго сэрца і скаштуй той любові, якою ты будзеш цешыцца цэлую вечнасць. Але, дзіця, ты пакуль яшчэ не ў айчыне, а таму ідзі, умацаваная Маёю ласкаю, і змагайся за Маё валадарства ў людскіх душах, змагайся, як каралеўскае дзіця, і памятай, што дні выгнання хутка скончацца, а з імі — і магчымасць збіраць заслугі для неба. Я чакаю ад цябе, дзіця Маё, вялікай колькасці душаў, якія цэлую вечнасць будуць праслаўляць Маю міласэрнасць. Дзіця Маё, каб годна адказаць на Мой заклік, прымай Мяне штодзённа ў святой Камуніі — яна дасць табе сілу...*

[99] Езу, не пакідай мяне адну ў цярпенні. Пане, Ты ведаеш, якая я слабая, я — бездань убоства, я — сама мізэрнасць, і таму не будзе нічога дзіўнага, што, застаўшыся адна, я ўпаду. Пане, я — немаўля, я не даю сабе рады, але, нягледзячы на адзіноту, я спадзяюся, спадзяюся насуперак свайму пачуццю, я ўся ператвараюся ў давер, іншы раз насуперак таму, што адчуваю. Ні ў чым не змяншай маёй пакуты, дай мне толькі сілу яе знесці. Пане, рабі са мною ўсё, што Табе заўгодна; толькі дай мне ласку, каб я ўмела любіць Цябе ва ўсіх сітуацыях і абставінах. Пане, не змяншай келіха горычы, толькі дай мне сілы, каб я магла яго выпіць.

О Пане, іншы раз Ты ўзнімаеш мяне ажно да святла натхненняў і зноў апускаеш мяне ў цёмную ноч і ў бездань маёй мізэрнасці, і душа адчувае сябе адзінокаю, быццам пасярод вялікай пустыні... Аднак, нягледзячы на ўсё, я давяраю Табе, Езу, бо Ты нязменны. Мой настрой зменлівы, а Ты заўсёды адзін і той жа, поўны міласэрнасці.

*Пераклад з польскай мовы Крыстыны Лялько.*

[1] Слова «каб» тут не патрэбнае, аўтарка напісала яго памылкова.

# ДЛЯ НАС

Па-рознаму ўваходзяць кнігі ў наша жыццё. І ніводная, якая нам сустрэлася на жыццёвым шляху, не выпадковая.

З «Дзённікам» сястры Фаўстыны Кавальскай я ўпершыню пазнаёмілася не праз чытанне, а праз друкаванне. Так сталася, што мне давялося набіраць на камп'ютары свежаперакладзеныя на беларускую мову старонкі. Неяк выйшла, што не было каму на той момант гэтую працу выконваць, і я неспадзявана для самой сябе прапанавала: «А што, калі я?..» Прапанавала і сама спалохалася, бо непрафесіянал у гэтай справе, ды і камп'ютар мой па старасці гадоў паводзіў сябе капрызна і мог раптоўна адключыцца, не захаваўшы набранага тэксту. Але адступаць было позна, і з Божаю дапамогаю я ўзялася за справу. Што з Божаю дапамогаю, то сумненняў ніякіх няма, бо камп'ютар раптам «палагоднеў» і ягоныя «глюкі», вы не паверыце, спыніліся. За ўвесь час працы ніводнага кавалка тэксту не прапала. А ўласна чытаць «Дзённік» я пачала, калі ён пабачыў свет асобнай кніжкай. Здавалася, што гэты тэкст я бачу ўпершыню, бо калі набіраеш, у разважанні надта не заглыбляешся, інакш справа ідзе вельмі марудна.

І раптам адкрыла для сябе, што гэта сястра, якая з васямнаццацігадовага, амаль што дзіцячага ўзросту прысвяціла сябе Богу, пайшоўшы ў кляштар, ведае ўсё пра наша жыццё і можа слушна падказаць, як быць у любой сітуацыі. *«Душы трэба даць зразумець сваю памылку, але не трэба яе ламаць». «Ніколі нікога не асуджаць, на іншых глядзець паблажліва, а на сябе — сурова». «Запомні гэта на ўсё жыццё: як воды сплываюць з гораў у даліны, так і ласкі Божыя сплываюць толькі на пакорныя душы». «Асцерагайся дадаваць цярпенняў іншым, бо гэта не падабаецца Пану». «У цярпеннях быць цярплівай і спа-*

# І НАШАЙ КАРЫСЦІ

*койнаю, ведаючы, што з часам усё праміне».*

Ці вось гэта: *«У выпрабаваннях я буду стараца ўглядзець любячую руку Божую».* Гэта тое, пра што мы амаль заўсёды забываемся, спаткаўшы на сваім шляху нават не выпрабаванні яшчэ, а проста праблемы.

І раптам для мяне высветлілася, што гэта сястра, якая не атрымала ніякай адукацыі, валодае несумненным літаратурным талентам. Яе вобразнасці могуць пазайздросціць многія прафесійныя літаратары. *«Бог не кантактуе з балбатлівасю душою, якая, быццам трупень у вуллі, шмат брынчыць, але пры гэтым не выробляе мёду». «І як малая фіялка, схаваная ў траве, не раніць нагі чалавека, які яе топча, але, цалкам забываючы пра сябе, распаўсюджвае водар, імкнучыся зрабіць прыемнае таму, хто яе топча». «Я хачу быць маленькаю фіялкаю, схаванаю ў траве, невядомаю сярод цудоўнага закрытага саду, дзе растуць прыгожыя ружы і лілеі. Прыгожую ружу і цудоўную лілею відаць здалёк, але, каб убачыць маленькую фіялку, трэба нізка схіліцца — яе выдае толькі водар». «Я ведаю, што пшанічнае зерне, каб стаць пасілкам, павінна быць знішчана і перацерта ў жорнах; гэтак і я, каб быць карыснаю Касцёлу і душам, павінна быць знішчана, хоць знешне ніхто не заўважыць маёй ахвяры». «Хачу, каб мая любоў заўсёды была скіраваная на Цябе, як кветка, што заўсёды паварочваецца да сонца».* І гэта толькі маленькая частка прыкладаў, усе іх прывесці немагчыма, як бы ні хацелася.

І раптам мне стала зразумела, як мала мы давяраем Богу на справе — не на словах. На словах у нас з гэтым усё ў парадку. *«Я адчувала, што змусіла Бога ўдзяліць ёй ласку. Калі разважаю над усім гэтым, то бачу сапраўдны цуд. Я цяпер бачу, якую вялікую сілу мае малітва заступніцтва перад Богам».* **«Дачка Мая, уяві сабе, што ты — валадарка ўсяе зямлі і маеш магчымасць распараджацца ўсім, як табе падабаецца, і ў цябе ёсць усе магчымасці чыніць дабро, як табе захочацца, і вось стукае ў твае дзверы нейкае малое дзіця, усё ў дрыжыках, са слязьмі на вачах, але з вялікаю вераю ў тваю дабрыню, і просіць кавалка хлеба, каб не памерці з голаду. Як бы ты паступіла з гэтым дзіцем? Адкажы Мне, дачка Мая».**

І раптам востра адчулася, як мала ў нас любові — і да Бога, і да бліжняга, бо «*я радуюся, што магу хоць трохі цярпець дзеля Цябе*», — рэдкі чалавек паўтарыць зможа. Не ўслых, а пра сябе. Каб толькі Бог і пачуў.

Ёсць кнігі, якія нельга прачытаць раз і назаўсёды. Іх можна проста прыняць у сваё жыццё. І тады яны час ад часу патрабуюць, каб іх перачыталі або проста раскрылі, пагарталі, знайшлі нейкія словы — яны заўсёды аказваюцца патрэбнымі нам менавіта ў гэты момант. «Дзённік» менавіта з такіх кніг. *«Калі не ведаеш, што лепш, трэба падумаць і паразважаць, папрасіць парады, бо нельга дзейнічаць, калі сумленне неспакойнае. Калі адчуваеш няўпэўненасць, трэба сказаць сабе: «Што б я ні зрабіла, гэта будзе добра, у мяне намер рабіць дабро; Пан Бог прымае тое, што мы лічым добрым, значыць і гэта Пан Бог прымае і лічыць добрым». Не трэба перажываць, калі з часам справы акажуцца нядобрымі, — Пан Бог глядзіць на намер, з якім мы іх распачынаем, і паводле яго будзе ўзнагароджваць. Гэта той прынцып, якога мы павінны прытрымлівацца».*

Кожны дзень ёсць днём успаміну якога-небудзь святога. Пра адных мы ведаем больш, пра іншых — менш або і зусім нічога. Затуманеныя стагоддзямі, іх зямныя біяграфіі амаль не вядомыя нам. Усё жыццё святой сястры Фаўстыны Кавальскай на старонках гэтага «Дзённіка». Людзі, якія прыгадваюцца на яго старонках, нашы сучаснікі, многія з якіх адышлі з гэтага свету ўжо ў нашы дні. І зусім не стагоддзі, а толькі некалькі дзясяткаў гадоў аддзяляюць нас у часе. Мы маглі ступаць па тых самых камянях на бруканках Вільні або Кракава, па якіх некалі ступала маладая манашка Фаўстына Кавальская. Сёння мы чытаем яе «Дзённік», разважаем над яе жыццём, думаем пра яе. А яна — яна думала пра нас. «*Сённяшні дзень я ахвяравала за Расію — усе свае цярпенні і малітвы я ахвяравала за гэту бедную краіну. Пасля святой Камуніі Езус сказаў мне:* **Я не магу больш выносіць гэту краіну, не звязвай Мне рук, дачка Мая.** *Я зразумела, што калі б не малітвы душаў, мілых Богу, то Ён увесь гэты народператварыў бы ў нішто. О, як я цярплю з-за гэтага народа, які прагнаў са сваіх межаў Бога».* Калі ўлічыць, што Расіяй за мяжой тады называлі тэрыторыю Савецкага Саюза, у якім большасць з нас нарадзілася і пражыла вялікі кавалак жыцця, то гэта для нас яна прасіла літасці ў Бога, за нас малілася, з-за нас цярпела. І ўсе мы зведалі на ўласным досведзе, што бывае з краінай, якая прагнала са сваіх межаў Бога.

*«Сёння ў мяне не было жадання пісаць, і тут я пачула ў душы голас:* **Дачка Мая, ты жывеш не для сябе, а для душаў, пішы для іх карысці. Ты ведаеш Маю волю адносна тваіх запісаў...**» Пан Бог загадаў сястры Фаўстыне пісаць для карысці душаў, гэта значыць — для нас з вамі. Яна выканала Божую волю і напісала. Думаецца, што Божая воля распаўсюджваецца і на нас — напісанае прачытаць. Інакш як мы тую карысць атрымаем?

*Вера Галубовіч*

Эва К. Чачкоўская

# ПЯЦЬ ПАЛЬЦАЎ СВЯТОЙ ФАЎСТЫНЫ

Манашка стаяла ў адчыненых дзвярах залы на першым паверсе неўралагічнай бальніцы *Luigi Sacco* ў Мілане. Лучана Бачэта і Франчэска Фікароці заўважылі яе крыху раней — калі яна ішла па доўгім калідоры. Сярод ночы яны спачатку ўбачылі толькі няяркае святло, а потым заўважылі нейкі цень. Яны думалі, што медсястра ідзе да хворага з лякарствам, але святло рабілася ўсё мацнейшым. Раптам яны ўбачылі ў ім манашку.

«Што яна тут робіць, ды яшчэ ў такі час?» — дзівіліся яны.

«Напэўна, нейкая вар'ятка», — сказаў Лучана. Была трэцяя гадзіна ночы з 20 на 21 красавіка 2004 года.

Манашка паглядзела на паралізаванага Лучана, які ляжаў бліжэй да дзвярэй, потым — на Франчэска, які пасля лёгкага інсульту гаварыў невыразна. Урэшце яна скіравала свой позірк на трэцяга пацыента, які спаў у глыбіні пакоя, — яго імя гэтыя двое не запомнілі. Пасля манашка зрабіла тры крокі і стала каля ложка Лучана паблізу яго ног.

«Не бойся! Я прыйшла да цябе».

Лучана запомніў гэтую сустрэчу да самых драбніцаў.

«Я не разумеў, што адбываецца. Вельмі спалохаўся. Яна зноў зрабіла тры крокі і падышла да мяне вельмі блізка. Паклала правую руку на мае грудзі, вось сюды...»

Лучана, апрануты ў светлы ўзорысты світар, паказвае сярэдзіну грудной клеткі.

«Я адчуў моцны боль і цяпло». Яна сказала: «Я прыйшла цябе аздаравіць і аздараўлю. Адзінае, аб чым прашу, каб ты прыйшоў да мяне, калі будзеш здаровы».

«Яна гаварыла, а я дрыжаў і плакаў ад страху».

«Ты штосьці мне сказаў?»

«Я заікаўся, мне цяжка было гаварыць, але штосьці такое прамовіў: „Вядома, як выздараўлю, то прыйду да цябе, але я цябе не ведаю. Я не ведаю, хто ты такая і дзе цябе шукаць".

Тады яна прыняла руку з маіх грудзей і паказала адкрытую далонь. На яе руцэ з'явіўся касцёл. Мне здавалася, што я знаходжуся на яго дзядзінцы.

„Што я тут раблю?" — падумаў я. Я бачыў касцёл вельмі выразна. Ён быў невялікі, з чырвонай цэглы, да выхаду вялі чатыры ўзроўні па тры прыступкі, з левага боку быў бетонны мур, з правага — будынак з чырвонай цэглы. Па звычцы я палічыў нават вокны, бо быў муляром, іх было па 11 на першым і другім паверхах. Я раней ніколі не бачыў гэтага касцёла і таму нічога не разумеў.

А яна гаварыла: „Я знаходжуся тут. Гэта мой дом. Памятай, што для цябе ён заўсёды адчынены: ці прыйдзеш удзень, ці ўночы — я заўсёды буду цябе чакаць. А цяпер я павінна ісці"».

І пайшла. Візіт працягваўся не больш за 10 хвілінаў. Франчэска таксама бачыў манашку, але толькі да таго моманту, калі яна стаяла пры ўваходзе. Але ён чуў, што Лучана з кімсьці размаўляе. Ён доўга клікаў яго па імені, але той не рэагаваў. Калі Лучана ўрэшце ачнуўся як бы ад здранцвення, ён сказаў, што размаўляў з манашкаю, якая прыйшла яго аздаравіць.

— Няхай бы аздаравіла цябе ды і мяне таксама, — сказаў з сумам у голасе Франчэска.

Разам з Лучана я шукала Франчэска, якому ў 2004 годзе было каля сямідзесяці гадоў, але безвынікова. У спартыўным клубе, куды ён зазіраў яшчэ некалькі гадоў таму, не засталося ніякіх звестак. Казалі, што ён выехаў з хворай жонкаю ў Мілан, у свой родны край, але куды — ніхто не мог сказаць.

Лучана быў вельмі ўзрушаны візітам таямнічай манашкі.

— Ты бачыў яе твар? Як яна выглядала? — пыталася я, калі на мармуровую кухонную сталешніцу няспешна ставілася эспрэса.

— Я бачыў твар, яе невысокую постаць і манаскае ўбранне. Гэта быў не прывід, не дух. Яна мела цела, як мы. Выглядала дакладна так.

Лучана хапае сотавы тэлефон, і на экране ў выглядзе застаўкі з'яўляецца здымак святой.

— Я шукаў яе на працягу чатырох месяцаў.

57-гадовы Лучана Бачэта мае сівыя валасы, драцяныя акуляры, выглядае спакойным. Ён жыве ў Пэро пад Міланам. Прыгарадны цягнік з цэнтра Мілана даязджае сюды за дваццаць хвілінаў. Адлегласць ад вакзала — нейкі кіламетр, можа, крыху больш, і адразу трапляеш у пасёлак двухпавярховых дамоў-блізнятаў, схаваных ад вуліцы заўсёды зялёнаю агароджаю. У канцы дарогі, акружаны садам з дрэвамі, якія даюць жоўта-аранжавыя плады хурмы, стаіць дом Лучана. Ужо некалькі месяцаў Лучана праводзіць у ім больш часу, бо выйшаў на пенсію. Ён апякуецца хвораю цешчаю, якая ляжыць у суседнім пакоі. Жонка Лучана, Фіарэла, працуе ў аўтамабільнай фірме, дачка Іларыя — студэнтка-эканамістка. Праз гадзіну са школы вернецца чатырнаццацігадовы Джакома. 14 красавіка 2004 г., калі бацьку паралізавала, Джакома было 4 гады. Тады маці пайшла забіраць яго з садка, а Лучана выбег з дома, каб забраць дачку са школы. Ён сядаў у машыну, і ў яго раптоўна падскочыў ціск. Жонка знайшла яго паралізаваным. Выкліканая машына «хуткай дапамогі» завезла яго ў шпіталь Луіджы Сака за дзесяць кіламетраў ад дома. Лучана паказвае сваю гісторыю хваробы, у якой урачы напісалі дыягназ:




ішэмічны ўдар мозгу, параліч з левага боку, высокі артэрыяльны ціск. Шэсць дзён лячэння, з 14 да 20 красавіка, у аддзяленні неўралогіі не далі вынікаў, ва ўрачоў не было на гэта асаблівай надзеі. 29 красавіка, пасля абеда, кансіліум урачоў прыняў рашэнне перавезці Лучана Бачэта ў аддзяленне рэабілітацыі.

Праз некалькі гадзін пасля гэтага яго наведала манашка. Візіт незнаёмай манашкі адабраў у Лучана сон да самай раніцы. На світанні ён паволі, са страхам і надзеяй у сэрцы, пачаў правяраць, ці знік параліч.

— Я адчуваў часткі цела, зноў мог рухаць пальцамі левай ступні, падымаць левую руку. Паціху ўстаў, яшчэ трымаючыся за ложак, зрабіў некалькі крокаў. А потым я абуў туфлі і пайшоў у шпітальную капліцу.

У 08.30 у адзяленне прыйшла неўролаг Франчэска Клерычы. Убачыўшы паралізаванага пацыента на калідоры каля батарэі, яна вельмі здзівілася і паклікала медсястру. Яна загадала завесці яго ў палату, а праз хвіліну прыйшла з іншым доктарам. Той, убачыўшы, што да Лучана вярнулася адчувальнасць у канечнасцях, запытаўся, як гэта адбылося.

Лучана добра памятае свой адказ:

— Калі я скажу вам, вы не паверыце. Таму нават не буду гаварыць.

— Я не хацеў тлумачыць, што здарылася, бо баяўся, што мяне палічаць вар’ятам.

Урач праводзіў абследаванне далей: стукаў малаточкам па левым калене, якое падскочыла ўверх; прасіў дакрануцца левай рукой да носа — я дакрануўся, потым дакрануцца да нагі — дакрануўся. Урэшце ён загадаў прайсці і вярнуцца. Прайшоў. Калі ён другі раз запытаўся: «Што адбылося?», — я сказаў яму, што ноччу да мяне прыйшла манашка. — «Не гаварыце глупоты! Святары, манашкі... Супакойцеся!» — урач пагардліва махнуў рукою і выйшаў.

У палаце засталася урач Клерычы. І тады ўмяшаўся Франчэска. Ён сказаў, што ноччу іх наведала манашка, якая некалькі хвілінаў размаўляла з Лучана.

— Я сказаў урачу: «Добра, пакінем манашку ў спакоі. Учора пасля абеда я ляжаў у ложку паралізаваны, прыйшлі сем урачоў, якія сказалі, што маё лячэнне будзе доўгае, што я не вылечуся да Божага Нараджэння, і што вы вымушаны перавезці мяне ў іншае аддзяленне. А сёння раніцаю я стаю на нагах, магу хадзіць. Што гэта значыць? Хіба я вар’ят?».

Урач прадпісала Лучану шмат усебаковых абследаванняў. Яны доўжыліся з серады да панядзелка, але нічога не выявілі, апроч таго, што ён здаровы. Лучана паказвае выпіску з бальніцы, у якой неўролаг, доктар медыцыны Франчэска Клерычы, коратка напісала: «Падчас шпіталізацыі ў пацыента было заўважана паступова прагрэсіруючае паляпшэнне ў рухах і адчувальнасці ў левай частцы цела. Аб’ектыўныя неўралагічныя абследаванні ў норме».

— Урачы сказалі мне: «Знайдзіце для сябе іншую бальніцу, бо мы нічога ў вашай гісторыі хваробы не разумеем».

Лучана з усмешкаю ўзгадвае бездапаможнасць медыкаў: «Яны не маглі зразумець, як сталася, што я раптоўна вылечыўся».

Лучана выйшаў з бальніцы 28 красавіка. Праз два дні ён быў ужо на працы, на будоўлі. З бальніцы ён атрымаў накіраванне на больш грунтоўнае абследаванне ў іншую вядомую бальніцу *San Rafaello*, аснашчаную самаю сучаснаю спецыялізаванаю апаратураю. Першы раз ён з’явіўся там у чэрвені, а потым — у жніўні. Урачы гэтага цэнтра пацвердзілі, што некалькі месяцаў назад ён быў сур’ёзна хворы. Яны зрабілі яму ўсебаковае кантрольнае абследаванне. Урэшце яны пацвердзілі, што не ў стане растлумачыць, што адбылося, але ён здаровы. Толькі тады жонка Лучана, якая да гэтага часу не вельмі верыла ў яго цудоўнае аздараўленне, усвядоміла гэта.

У бальніцы *Luigi Sacco,* апрача накіравання на комплекснае абследаванне, мужчына атрымаў мазь, якой павінен быў націраць чырвоныя плямы на грудзях. Пяць чырвоных плямак. Іх заўважыў кардыёлаг падчас ЭКГ і выклікаў дэрматолага. Той сказаў, што пасля праведзенага лячэння плямы знікнуць. Лучана не тлумачыў урачу іх паходжання. Ён намазаў маззю іх толькі раз — у бальніцы. Сляды самі па сабе зніклі толькі праз шэсць гадоў, у 2010 годзе. Лучана паказвае здымак, які заўсёды мае з сабою, у сотавым тэлефоне: пяць слядоў ад пальцаў манашкі. Яны засталіся на тым месцы, да якога яна дакранулася, і яго працялі боль і такая гарачыня, нібыта яго абдало кіпенем.

Выйшаўшы з бальніцы, Лучана пачаў шукаць манашку і касцёл, паказаны ёю, каб нанесці візіт. У пошуках яму дапамагала яго сястра Джавана, якая жыла з сям’ёю у Баранзатэ, пад Міланам. Гэта амаль паўтара кіламетра ад шпіталя, дзе лячыўся Лучана. Джавана штодзённа наведвала брата, размаўляла з урачамі і малілася аб яго выздараўленні. Яна не здзівілася яго цудоўнаму аздараўленню. Яе здзівіла штосьці іншае:

— Я была ўражаная дабрынёю Бога, якую ён учыніў для майго брата, такога далёкага ў той час ад Касцёла, ад святых і анёлаў, але ён мог спазнаць іх рэальнае існаванне, становячыся візуальным сведкам сілы Божай міласэрнасці, — гаворыць Джавана.

Невысокая, са светлымі валасамі, у чорным гольфе, без макіяжа, сардэчным жэстам яна

запрасіла мяне ў дом. У калідоры каля дзвярэй вісіць невялікі абраз Маці Божай разам з самымі каштоўнымі сямейнымі памяткамі — здымкам прабабкі Джаны разам з Лучана. Джавана прызнаецца, што спачатку не разумела таго, што гаварыў Лучана пра манашку. Думала, што ў тую ноч перад братам аб'явілася Маці Божая, да якой яна малілася ў ружанцовай малітве, а дакладней, Маці Божая з Ларэта, да якой яна мае асаблівае набажэнства. Спачатку Джавана прынесла Лучана паштоўку з Ларэта, а потым з іншых італьянскіх Марыйных санктуарыяў. Але адказ заўсёды быў адзін і той жа: «Не, гэта не тая».

— Я адчуваў, што гэты касцёл знаходзіцца не ў Італіі, бо ён адрозніваўся ад нашых святыняў. Ён быў меншы, без высокай званіцы побач, збудаваны з чырвонай цэглы, — гаворыць Лучана, які прафесійна звяртае ўвагу на структурныя і архітэктурныя дэталі.

— Мы шукалі далей, — апавядае Джавана.

Лучана прасіў дапамогі ў сяброў, Джавана пыталася ў манашак і святароў. Пра цудоўнае аздараўленне брата яна распавяла таксама дону Грыгорыа Віталі, рэктару Марыйнага санктуарыя Мадонны дэла Бацола ў Гарласка, недалёка ад Павіі, куды яна ездзіла ў пілігрымкі. Святар папрасіў прыехаць яе з братам. Яны паехалі ў чэрвені. Дон Грыгорыа быў вельмі таямнічы, амаль як тая манашка, якую шукаў Лучана.

— Ён сказаў, што ведае, кім з'яўляецца гэта манашка, але не скажа мне, бо я павінен сам гэта высветліць, — апавядае Лучана. — Яшчэ дадаў: «Праз два месяцы, калі будзеш глядзець тэлевізар або чытаць газеты, ты даведаешся, дзе знаходзіцца гэты касцёл і кім з'яўляецца гэта манашка. А потым прыйдзеш да мяне».

На жаль, дон Грыгорыа Віталі не памятае ні той сустрэчы, ні тых словаў. Але, напэўна, у той час ён ужо ведаў аб пасланні Божай міласэрнасці і гісторыі жыцця святой Фаўстыны, бо ў 1998 годзе ў адным з алтароў яго святыні вісеў абраз Езуса Міласэрнага.

Лучана ж добра запомніў словы дона Грыгорыа, але іх сэнсу ён не разумеў. Яны здаваліся яму недарэчнымі. Ён думаў, што святар нічога не зразумеў з таго, аб чым ён казаў. Таму ён вырашыў далей працягваць пошук касцёла і манашкі. Джавана больш давярала дону Грыгорыа: «Раз так ён сказаў, то праз два месяцы даведаешся. І так будзе!» — зазначыла яна і спакойна чакала.

Прайшло два месяцы. Ішоў жнівень 2004 года. Дажджлівая субота. Дзень, калі найахвотней сядзіцца дома і чытаюцца кнігі або глядзіцца тэлевізар. Лучана вярнуўся з магазіна, уключыў тэлевізар. Спартыўны канал паказваў веласіпедныя гонкі. Падчас рэкламы ён пачаў пераключаць каналы. На канале *Rete 4* у праграме пра цуды нейкі амерыканскі біскуп распавядаў пра сваё незвычайнае аздараўленне, якое атрымаў у санктуарыі Божай міласэрнасці ў Кракаве-Лагеўніках, у Польшчы. Яго аповед суправаджаўся здымкамі касцёла і святой Фаўстыны.

— Гэта быў касцёл, які я шукаў! І гэта была тая манашка! — у голасе Лучана чуліся ранейшыя эмоцыі. — Я заплакаў ад узрушэння.

Праз хвіліну разам плакалі Лучана, яго жонка Фіарэла, дачка Іларыя і сын Джакома, які менш за ўсё разумеў гэту гісторыю. Лучана адразу ж патэлефанаваў Джаване. Яна рабіла якраз суботнія закупкі, як і палова Італіі гэтай парою, яе рэакцыя ўзрушыла яго. Калі паміж паліцаў у магазіне сястра пачула, што ён знайшоў касцёл і манашку, якую завуць Фаўстына, яна ўсклікнула: «Фаўстына Кавальская? У мяне дома ёсць пра яе кніга!».

Джавана прывезла яму кнігу ў той жа дзень. Лучана другі раз убачыў у ёй здымак незнаёмкі з бальніцы. У яго не было ніякага сумнення: гэта яна.

Кнігу пра святую Фаўстыну купіў муж Джаваны, Франчэска, угледзеўшы яе перад гэтым на выставе каталіцкай кнігарні. Гэта адбылося за год перад хваробаю Лучана або крыху раней. Напэўна, падчас знаходжання Лучана ў бальніцы і на працягу чатырох месяцаў пошуку касцёла і манашкі гэта кніга ляжала на начным століку каля ложка Джаваны. Франчэска прачытаў урыўкі з «Дзённіка», а Джавана — урыўкі з біяграфіі Фаўстыны, але абоім нават у галаву не прыйшло, што менавіта яе шукае Лучана. Сёння ў спальні Джаваны і Франчэска вісіць вялікіх памераў абраз Езуса Міласэрнага, прывезены з Лагеўнікаў...

Тады, у жніўні 2004 года, Лучана знайшоў у кнізе нумар тэлефона касцёла *Santo Spirito in Sasia* ў Рыме, які знаходзіцца недалёка ад плошчы святога Пятра. Гэта месца, дзе па просьбе Яна Паўла II з 1994 года дзейнічае духоўны Цэнтр Божай міласэрнасці, пра які добра ведаюць рымскія шанавальнікі святой Фаўстыны.

— Я патэлефанаваў туды вельмі ўзрушаны, ледзь мог гаварыць. Манашка, з якою я размаўляў, запыталася, ці ведаю я гісторыю святой Фаўстыны. Я адказаў: «Так, бачыў яе ў бальніцы. Яна прыйшла і аздаравіла мяне».

У верасні 2004 года Лучана Бачэта сустрэўся ў Рыме з рэктарам касцёла Святога Духа, ксяндзом Юзафам Бартам. Той скантактаваў яго з сёстрамі ў Лагеўніках. У тэлефоннай размове было ўзгоднена, што Лучана з сям'ёю і сябрамі прыедзе ў Польшчу ў красавіку 2005 года, адразу пасля Вялікадня. У Лагеўніках яны павінны былі сустрэць нядзелю Божай міласэрнасці, якая ў тым годзе прыпадала на 3 красавіка. Калі яны выязджалі з Мілана, у Ватыкане паміраў Ян Павел II, і тысячы людзей накіроўваліся ў Рым, каб чуваць побач з Папам на плошчы святога Пятра, а яны ехалі ў адваротны бок — у Польшчу. Ехалі з візітам да святой Фаўстыны, у месца, дзе, паводле яе словаў, яна жыве і заўсёды чакае. Напэўна, не толькі яго.

Яны выехалі ўдзевяцярых з Пэро, што пад Міланам, на дзвюх машынах. <...> У Лагеўнікі прыехалі ў пятніцу 1 красавіка, у 21.30. Праз дзень, у 21.37, памёр Ян Павел II. Гэта сталася ў вігілію свята Божай міласэрнасці, якое ўстанавіў Папа для ўсяго Касцёла. Тры гады назад, у жніўні 2002 года, калі Ян Павел II кансэкраваў у Кракаве-Лагеўніках новую базыліку і даручыў чалавецтва Божай міласэрнасці, ён паказаў

гэтае месца ўсяму свету.

Лучана ўбачыў яе на наступны дзень пасля прыезду — раніцаю 2 красавіка.

— Усё было дакладна такім, як паказала мне Фаўстына: касцёл, вокны, лесвіца, вежа, мур з левага боку. Я адчуваў сябе так, нібы быў тут раней.

Гэта выклікала страх і, напэўна, моцна ўзрушвала. У часе побыту ў Лагеўніках у Лучана былі вільготныя вочы. Ён плакаў на дзядзінцы, перад тым, як увайсці ў касцёл, плакаў у касцёле і калі з яго выходзіў. Плакаў ад раніцы суботы і да раніцы панядзелка, да таго часу, пакуль яны не выехалі ў адваротны шлях у Італію. Ён дзякаваў Богу і святой Фаўстыне за сваё аздараўленне, прасіў аб здароўі для кузіны з Брэшыі, якая хварэла на лімфому, і яна да гэтага часу адчувае сябе даволі добра.

Пасля той нядзелі Божай міласэрнасці адбылося яшчэ штосьці:

— Мне прысніўся дзіўны сон за месяц да выезду ў Польшчу. Мне снілася, што я знаходжуся ў Лагеўніках. Перад касцёлам я ўбачыў дзяўчыну з чырвонымі валасамі, без двух пярэдніх зубоў. Яна трымала ў руках талерку і прасіла міласціну разам з дзіцем, якому было не больш за пяць гадоў. Служба парадку спрабавала аддаліць яе ад касцёла, але яна вярталася. — Лучана робіць кароткую паўзу. — Калі я быў у Лагеўніках, то пасля ўрачыстасці ў нядзелю Божай міласэрнасці ўвайшоў у краму каля санктуарыя, каб скінуць на тэлефон карту. У краме было людна. Перада мною ў чаргу стала дзяўчына. У яе былі чырвоныя валасы, дакладна такія, як у дзяўчыны ў маім сне. З ёю было пяцігадовае дзіця, якое плакала. Яно аб нечым прасіла, напэўна, хацела марозіва, але маці яму адмаўляла. Хутчэй за ўсё, у яе не было грошай. Я разменяў купюру і даў ёй адну паперку, здаецца, пяцьдзясят злотых. Потым у краму ўвайшла Джавана, якой я пачаў распавядаць пра дзяўчыну з майго сна, але калі захацеў яе паказаць, не мог знайсці. Яе ўжо не было.

Лучана да сённяшняга дня не можа растлумачыць, што тады адбылося. Ці гэта была просьба аб міласэрнасці для яго, які сам яе спазнаў?

Пасля візіту святой Фаўстыны да Лучана ў бальніцы *Luigi Sacco* ў Мілане і наведвання Лучана яе ў Лагеўніках мінуў час. Лучана адчувае сябе добра і лічыць, што гэта святая Фаўстына апякуецца ім.

— Яна як мама. Заўсёды дапамагае. Здаралася, што ў мяне не было працы, і я звяртаўся да святой Фаўстыны і праз два дні ўжо меў якое-небудзь даручэнне.

Аздараўленне многае змяніла ў духоўным жыцці Лучана.

— Я вырашыў, што павінен даваць атрыманае іншым людзям. Ласка была дадзеная мне задарма, а маё заданне — дзяліцца з іншымі тым, што атрымаў. <...>

Мігранту з Егіпта, які жыў пад мостам, Лучана знайшоў працу, на працягу многіх гадоў ён дапамагаў парафіі ў розных рамонтах, як валанцёр ён возіць на сваёй машыне «дары» і моліцца. Штодзённа чытае Вяночак да Божай Міласэрнасці, «Дзённік», ездзіць на сустрэчы аазісу Божай міласэрнасці, заснаванага Джаванай. Не было месяца, каб ён хоць раз не распавядаў пра сваё цудоўнае аздараўленне праз заступніцтва святой Фаўстыны — ездзіць туды, куды яго запрашаюць (найчасцей, у рэгіён Ламбардзіі, але таксама ў П'емонт, Таскану, Трыдэнт).

— Людзі просяць мяне, каб я маліўся за іх, хочуць даваць мне нават за гэта грошы. Яны думаюць, што раз я атрымаў аздараўленне, то Пан Бог напэўна мяне выслухае, — гаворыць збянтэжаны Лучана. — Я даю ім абразкі Езуса Міласэрнага і гавару: «Маліцеся самі. Калі вы знаходзіцеся ў цяжкай сітуацыі, то прасіце Бога змяніць яе».

Ён таксама моліцца за іх. Паказвае здымкі хворых, знаёмых і незнаёмых, за якіх штодзённа моліцца перад сном да святой Фаўстыны.

— Чаму сястра Фаўстына прыйшла да цябе?

— Усе пра гэта мяне пытаюць.

— Што адказваеш?

— Што я не ведаю. Некаторыя святары раяць гаварыць, што я ўбачыў у малітоўніку набажэнства да Божай міласэрнасці і маліўся аб аздараўленні да святой Фаўстыны, але я не магу так адказваць, бо гэта няпраўда, — шчыра прызнаецца Лучана.

— Калі яна прыйшла да цябе, ты быў веруючым?

— Я быў такі, як шмат католікаў: хадзіў у касцёл.

— Чаму святая Фаўстына аздаравіла менавіта цябе?

— Не ведаю. Можа таму, што мая сястра вельмі пабожная... Яна моцна малілася за мяне.

На фоне аповеду пра аздараўленне Лучана пастаянна з'яўляецца Джавана, нібы духоўная праведніца сям'і. Яна прасіла Бога падчас хваробы брата аб яго аздараўленні многімі малітвамі, звярталася па заступніцтва да многіх святых. Сярод іх таксама была святая Фаўстына. Але яна не вылучала св. Фаўстыну сярод іншых святых. Калі Лучана потым шукаў таямнічую манашку, Джавана нават і не падумала, што гэта можа быць яна. Абразок з яе аблччам і малітваю аб выздараўленні хворых Джавана знайшла каля алтара Езуса Міласэрнага ў санктуарыі ў Гарласка. Было гэта да хваробы брата, напэўна, па гэтай прычыне Франчэска купіў кнігу пра Фаўстыну. Джавана чытала малітву праз заступніцтва святой Фаўстыны ў інтэнцыі многіх хворых, якіх ведала, а потым прасіла яе аб здароўі для брата. Магчыма, падчас хваробы Лучана яна таксама малілася Вяночак да Божай Міласэрнасці, хоць цяпер не можа пацвердзіць гэтага цалкам. Відаць, як заўсёды, найважнейшаю тады была ружанцовая і спантанная малітва сэрца, скіраваная да Езуса.

— Гэта Езус аздараўляе, а не святыя. Яны з'яўляюцца толькі нашымі пасрэднікамі. Святая Фаўстына малілася са мною за здароўе брата, — гаворыць Джавана. — Цяпер я ведаю, што гэты вялікі цуд быў учынены для таго, каб распаўсюджваць культ Божай міласэрнасці. <...>

*Пераклала з польскай мовы*
*Іна Бігель.*
Паводле: *Ewa K. Czaczkowska.*
«*Cuda świętej Faustyny*». — Kraków:
Wydawnictwo «Znak», 2014.



Мемарыяльны пакой св. с. Фаўстыны ў Доме-музеі ў в. Глаговец.

# МЯСЦІНЫ, ЯКІЯ ПАМЯТАЮЦЬ...

Кароткае зямное жыццё святой сястры Фаўстыны Кавальскай звязана пераважна з яе роднаю Польшчаю. Аднак у тым неспакойным 1905 годзе, калі 25 жніўня будучая святая прыйшла на свет у сям'і Станіслава і Марыяны Кавальскіх, Польшча была разарваная і падзеленая паміж Расіяй, Аўстра-Венгрыяй і Прусіяй, а родная Фаўстыніна вёска Глаговец у Калішскай губерні знаходзілася на заходніх ускраінах агромністай Расійскай імперыі.

Парафіяльны касцёл, у якім хрысцілі малую Гэленку, і цяпер стаіць у суседняй вёсцы Свініцы Варцкія, назву якой калісьці даў яе заснавальнік, Гнезненскі арцыбіскуп Якуб Свінка. Гэтай святыні, збудаванай у XIX ст. пад тытулам св. Казіміра, у 2002 г. быў нададзены новы тытул санктуарыя Нараджэння і хросту святой Фаўстыны. Сціплы аднанававы касцёл ужо даўно не змяшчае шматлікіх пілігрымаў, якія прыбываюць у Свініцы з розных канцоў свету, таму ў апошнія гады святыню разбудавалі і пашырылі. Толькі цэнтральная частка касцёла выглядае гэтаксама, як і ў 1905 годзе, калі праз два дні пасля нараджэння, 27 жніўня 1905 года, бацькі прынеслі сюды сваю трэцюю дачку, просячы для яе сакрамэнту хросту ў тагачаснага свініцкага пробашча, кс. Юзафа Хадынскага. Дасюль захавалася ў касцёле маўклівая сведка тае падзеі — драўляная паліхромная хрысцільня. На працягу 16-ці гадоў (амаль паловы свайго кароткага жыцця) Гэлена Кавальская малілася ў парафіяльнай святыні. Тут у 1914 г. яна прыняла Першую св. Камунію, тут кленчыла перад абразом Маці Божай Чэнстахоўскай, які тады знаходзіўся ў галоўным алтары. Пазней у сваім «Дзённіку» Фаўстына пісала: «Як горача я магла маліцца ў гэтым касцёліку. Я прыгадала ўсе ласкі, якія я атрымала ў гэтым месцы і якіх тады не разумела...» (Дз., 400).

Бацькоўскі дом, у якім цяпер знаходзіцца музей святой сястры Фаўстыны, таксама выглядае крыху інакш, чым пры яе жыц-



Бацькоўскі дом св. сястры Фаўстыны ў в. Глаговец.

ці. У 2003 г. была завершана яго рэканструкцыя, замененыя вокны і дзверы, пакладзены новы дах. У садзе каля хаты ўжо няма тых старых дрэваў, якія цяпер можна ўбачыць толькі на фотаздымку 1935 года, зробленым у тыя дні, калі сястра Фаўстына першы і апошні раз за ўсё манаскае жыццё наведала сваю малую радзіму (гл. Дз., 397–403). Цяпер перад домам Кавальскіх цвітуць кусты ружаў — на тым самым месцы, дзе калісьці іх садзіла Гэлена...

У 16-гадовым узросце яна назаўсёды пакінула бацькоўскі дом і пайшла служыць, каб зарабіць сабе на пражыццё і дапамагчы сваёй вялікай сям'і. Гэлена гадавала дзяцей у заможных людзей у мястэчку Аляксандраў, а пасля служыла ў Лодзі, дзе аднойчы ў парку «Венецыя» падчас вячаровай забавы ёй аб'явіўся Езус і яна ўпершыню пачула Ягоны папрок, які стаў штуршком для змены ўсяго яе жыцця: «У гэту хвіліну сціхла прыемная музыка, знікла з маіх вачэй кампанія, у якой я была, засталіся Езус і я. <...> Праз хвіліну пакрыёма я пакінула кампанію і сястру і пайшла ў катэдру св. Станіслава Косткі. Ужо пачало шарэць, людзей у катэдры было мала, не звяртаючы [ўвагі] на тое, што робіцца навокал, я ўпала крыжам перад Найсвяцейшым Сакрамэнтам і прасіла Пана, каб Ён дазволіў мне зразумець, што я павінна рабіць далей.

У гэты час я пачула такія словы: **Едзь зараз жа ў Варшаву, там уступіш у кляштар**» (Дз., 9–10).

1 жніўня 1925 года, 90 гадоў таму, Гэлена Кавальская ўступіла ў кляштар Кангрэгацыі Сясцёр Маці Божай Міласэрнасці ў Варшаве на вул. Жытняй, 3/9. «Нарэшце настаў момант, калі для мяне адчынілася кляштарная брама, — гэта было першага жніўня, вечарам, у вігілію Маці




Парафіяльны касцёл, у якім хрысцілі Гэлену Кавальскую.

Божай Анёльскай. Я адчувала сябе бязмежна шчасліваю, мне здавалася, што я ўступіла ў райскае жыццё. З майго сэрца вырывалася толькі малітва падзякі» (Дз., 17).

Кляштар і сёння знаходзіцца на тым самым месцы, толькі ягоныя будынкі, якія згарэлі падчас Варшаўскага паўстання ў Другую сусветную вайну, пасля адбудовы выглядаюць інакш, чым у 1925 г., калі сюды ўпершыню прыйшла Гэлена Кавальская.

У гэтым варшаўскім доме яна жыла ў 1928-м, 1929-м, 1932-м, 1935-м і 1936 гадах, у розныя перыяды свайго манаскага і духоўнага станаўлення, праводзячы тут іншы раз некалькі тыдняў або месяцаў, а часам — усяго некалькі дзён, робячы толькі кароткі перапынак паміж пераездамі ў чарговы манаскі дом, куды яе пасылалі настаяцельніцы.

Цяпер на сцяне кляштара Кангрэгацыі Сясцёр Маці Божай Міласэрнасці на вул. Жытняй змешчаны словы Езуса, звернутыя да сястры Фаўстыны: **«Сюды Я цябе паклікаў <...> і падрыхтаваў для цябе шмат ласкаў»**.

Тут яна перажыла свой першы містычны досвед цёмнай ночы, тут навучылася спалучаць нялёгкую фізічную працу з нястомнаю малітваю і кантэмпляцыяй, тут прайшла суровую школу пакоры і паслухмянасці.

Праз паўгода пасля ўступлення ў кангрэгацыю, 23 студзеня 1923 года, Фаўстына (тады яшчэ Гэлена Кавальская) упершыню прыехала ў Лагеўнікі пад Кракавам. У Лагеўніцкім кляштары яна павінна была закончыць пастулат і прайсці навіцыят.

Лагеўнікі, якія цяпер знаходзяцца каля аўтатрасы, што вядзе на Закапанэ, каля так званай



Кляштар Кангрэгацыі Сясцёр Маці Божай Міласэрнасці ў Варшаве на вул. Жытняй.



Кляштар Кангрэгацыі ў Лагеўніках.

Закапянкі, сталі часткаю Кракава толькі ў 1941 годзе. У 1926 г. яны былі яшчэ вялікаю вёскаю. Менавіта ў той час тут пачалі з'яўляцца цагельні, млыны, пякарні, а ў суседнім Фалэнцкім Барку была заснавана фабрыка соды «Сольвай», дзе падчас Другой сусветнай вайны працаваў Караль Вайтыла — будучы святы папа Ян Павел II.

Кляштар Кангрэгацыі Сясцёр Маці Божай Міласэрнасці і выхаваўчая ўстанова пры ім былі заснаваныя ў Лагеўніках напрыканцы XIX ст. Чырвоная неагатычная будыніна кляштара, узведзеная па праекце архітэктара Караля Зарэмбы, сёння добра вядомая ўсім прыхільнікам культу Божай Міласэрнасці.

Капліца, кляштар, а таксама двухпавярховы дом выхаванак выглядаюць у наш час гэтаксама, як і ў студзені 1926 года, калі іх упершыню ўбачыла Гэлена Кавальская. Толькі на месцы былога флігеля пры ўязной браме цяпер пабудаваны новы двухпавярховы дом, у якім размясціліся Таварыства *Faustinum*, выдавецтва *Misericordia* і пакоі для пілігрымаў. У галоўным алтары кляштарнай капліцы стаіць тая самая фігура Маці Божай, а ў бочным левым алтары, дзе калісьці быў абраз Сэрца Езуса, цяпер вісіць цудадзейны абраз Езуса Міласэрнага і стаіць невялічкі саркафаг святой Фаўстыны, а таксама змешчаны яе партрэт, намаляваны мастаком Вальдамарам Чайкоўскім.

З таго часу непазнавальна змянілася наваколле Лагеўнікаў і тэрыторыя каля кляштара. Над старымі кляштарнымі мурамі ўзнесла свае вежы новая вялікая базыліка Божай Міласэрнасці, спраектаваная архітэктарам Вітальдам Цанцкевічам і кансэкраваная ў жніўні 2002 года Янам Паўлам II...

Але вернемся ў Лагеўнікі 1926 года. Там 30 красавіка Гэлена Кавальская перажыла ўрачыстасць аблучынаў, атрымала габіт і манаскае імя Марыя Фаўстына. Імя Марыя ў гонар Маці Божай у кангрэгацыі атрымлівала кожная сястра, а сястра Фаўстына дадала сабе яшчэ «ўдакладненне»: «ад Найсвяцейшага Сакрамэнту» і так пасля падпісвала свой «Дзённік»...

У Лагеўніках сястра Фаўстына стала навіцыяткаю і распачала новы перыяд сваёй манаскай фармацыі. Яе прызначылі працаваць на кухні. Ужо тады здароўе ў яе было слабое і фізічныя сілы таксама. Менавіта ў Лагеўніках здарыўся цуд, які сястра Фаўстына пазней апісала ў «Дзённіку»: замест бульбы ў рондлі, які ёй цяжка было падымаць, каб зліваць ваду, аднойчы яна ўбачыла пукі чырвоных ружаў і пачула ў душы голас: **«Такую цяжкую тваю працу Я ператвараю ў букет найпрыгажэйшых кветак, а іх водар узносіцца да Майго трону»**.

У Лагеўніках, напрыканцы першага году навіцыяту распачаўся ў сястры Фаўстыны працэс містычнага духоўнага ачышчэння (гл. Дз., 77, 78). Падчас гэтага цяжкага выпрабавання 30 красавіка 1928 года сястра Фаўстына склала першыя манаскія абяцанні. Такія абяцанні яна аднаўляла яшчэ чатыры разы, год за годам, каб праз пяць гадоў, таксама ў Лагеўніках, скласці вечныя абяцанні... Было гэта ў 1933 годзе падчас другога яе прыезду. Сястра Фаўстына ўжо мела досвед манаскага містычнага жыцця ў кляштарах у Варшаве, Вільні, Кекшы, Валендаве і ў Плоцку...

Чаканы момант настаў 1 мая 1933 года. Урачыстую цырымонію ў кляштарнай капліцы ўзначаліў біскуп Станіслаў Распонд. Падчас урачыстасці адбылося асаблівае містычнае паяднанне сястры Фаўстыны з Езусам і прагучалі Яго словы: **«Мая абранніца, нашыя сэрцы навекі паяднаныя. Памятай, каму ты прысягала...»**.

У маі таго ж года сястра Фаўстына выехала ў Вільню, каб вярнуцца ў Лагеўнікі праз тры гады і застацца там ужо назаўсёды...

У Вільні сястра Фаўстына была двойчы. Першы раз затрымалася ўсяго толькі на тры месяцы: з 21 лютага да 11 чэрвеня 1929 года, а другі раз — амаль на тры гады: з канца мая 1933 года да 21 сакавіка 1936 года. Гэта

быў вельмі важны перыяд для яе самой і для развіцця ўсёй справы Божай міласэрнасці. Менавіта ў Вільні мясцовы мастак Яўген Казіміроўскі з дапамогаю парадаў сястры Фаўстыны намаляваў абраз Езуса Міласэрнага. Тут, у Вострай Браме, 26–28 красавіка 1935 года гэты абраз быў упершыню выстаўлены для публічнага ўшанавання, а старажытная Вільня атрымала праз яго асаблівае благаслаўленне. Вось як пра гэта піша Фаўстына ў сваім «Дзённіку»: «Калі быў выстаўлены гэты абраз, я ўбачыла імклівы рух рукі Езуса, які ўчыніў вялікі знак крыжа. У той жа дзень, вечарам, лёгшы спаць, я ўбачыла, як гэты абраз ішоў па-над горадам, а горад быў завешаны сеткаю і сецямі. Калі Езус прайшоў, Ён прарваў усе сеці, а напрыканцы ўчыніў вялікі знак святога крыжа і знік» (Дз., 416).

У віленскім кляштары Пан Езус прадыктаваў сястры Фаўстыне тэкст Вяночка да Божай Міласэрнасці і паставіў перад ёю новае заданне: стварыць манаскую супольнасць, якая выпрошвала б Божую міласэрнасць для ўсяго свету. Гэтую супольнасць — Кангрэгацыю Сясцёр Езуса Міласэрнага — ужо пасля Фаўстынінага адыходу ў вечнасць заснаваў яе спаведнік і духоўны настаўнік, сёння благаслаўлёны кс. Міхал Сапоцька, якога сястра Фаўстына сустрэла таксама ў Вільні. Гэта ён у 1933 г. даў ёй заданне запісваць «сустрэчы яе душы з Богам», пісаць «Дзённік». Пра кс. Сапоцьку Фаўстына пісала: «Надышоў тыдзень споведзі, і я з радасцю ўбачыла таго святара, якога ўжо ведала, перш чым прыехала ў Вільню. Я ведала яго з візіі. Тады я пачула ў душы такія словы: **Вось Мой верны слуга, ён дапаможа табе выканаць Маю волю тут, на зямлі**» (Дз., 263).



Ацалелы будынак віленскага кляштара на Антокалі.

Віленскі кляштар Кангрэгацыі Сясцёр Маці Божай Міласэрнасці знаходзіўся на Антокалі, на адным з гарадскіх узгор'яў, на левым беразе Вілейкі. Гэты раён Вільні некалі славіўся сваімі цудоўнымі краявідамі і садамі, што атулялі багатыя дачы месцічаў, славіўся магнацкімі палацамі і барокавым касцёлам святых Пятра і Паўла, які да сённяшняга дня захапляе сваёю знешняю і ўнутранаю аздобаю і прыгажосцю, скульптурамі італьянскіх майстроў П'етра Пэрці і Джавані Марыя Галегі.

У віленскім кляштары сястра Фаўстына займалася агароднiцтвам — вывучала новую для сябе справу з усёю стараннасцю і пакораю, на якія толькі яна была здольная. Сястра Фаўстына так апісвала віленскі кляштар: «Сёння я ўжо ў Вільні. Маленькія параскіданыя хацінкі складаюць кляштар. Мне гэта здаецца крыху дзіўным пасля юзэфаўскіх[1] гмахаў. Сясцёр толькі васямнаццаць. Малы дамок, але вялікая супольная еднасць» (Дз., 261).

Цяпер у Вільні на Антокалі, на вуліцы Грыбо, 29 (былая Сенатарская, 25) захаваўся менавіта гэты «малы дамок», у якім жыла сястра Фаўстына, адзіны з усіх, што належалі кангрэгацыі. Ён ацалеў у ваеннае ліхалецце, яго не закранула і ліхалецце атэістычна-камуністычнае. Цяпер у гэтым Фаўстыніным дамку знаходзіцца яе мемарыяльны пакой і малітоўна-пілігрымкавы цэнтр, якім кіруе ягоны кусташ Петрас Марцэля. Тут гучаць словы Вяночка да Божай Міласэрнасці на польскай, беларускай і літоўскай мовах. Спадар Петрас моліцца разам з пілігрымамі і не стамляецца апавядаць пра сястру Фаўстыну, якая сваім лёсам і сваім духам назаўсёды злучана з дарагою і блізкаю кожнаму з нас Вільняю.

*Крыстына Лялько*

[1] Так сёстры называлі свой кляштар у Лагеўніках.


Літаратура.

1. Ewa K. Czaczkowska. Siostra Faustyna. Biografia Świętej. — Kraków: Wydawnictwo «Znak», 2012.
2. Wspomnienia o Świętej Siostrze Faustynie Kowalskiej ze Zgromadzenia Matki Bożej Miłosierdzia. — Kraków: Wydawnictwo «Misericordia», 2013.

Томас Менцаль

# «Пяць хростаў Русі» ў помніках даўняга ўсходнеславянскага пісьменства[1]

**1. Усходнеславянскія летапісы як крыніцы па гісторыі хрысціянізацыі Кіеўскай Русі**

У помніках ранняга летапісання ўсходніх славянаў сустракаюцца шматлікія, часам супярэчлівыя, звесткі па гісторыі хрысціянізацыі Кіеўскай Русі. У большасці з іх паслядоўна ўзнаўляецца наступная інфармацыя[2]:

а) падарожжы апостала Андрэя з Сінопа праз Корсунь, Кіеў і Ноўгарад у Рым;

б) місіянерская дзейнасць епіскапа Міхаіла, прызначанага ў IX ст. патрыярхам Фоціем;

в) хрост княгіні Вольгі/Алены ў 955 г. у Канстанцінопалі;

г) «усеагульны хрост» Русі пры князю Уладзіміру ў 988 годзе.

Па-за гэтым, летапісцы адзначаюць таксама місіянерскую дзейнасць славянскіх апосталаў Кірыла і Мятода на землях заходніх славянаў. Звесткі пра гэтую дзейнасць далучаюцца да інфармацыі пра культурныя дасягенні ўсходніх славянаў у кантэксце развагаў пра літаратурную мову, якая мела аб'яднаўчую функцыю[3]. Узгадванне Канстанціна-Кірыла і Мятода ў старажытных летапісах заўсёды суправаджаецца спасылкай на паданне пра дзейнасць апостала Паўла ў Ілірыку, прычым названы рэгіён разумеецца як даўнейшая тэрыторыя рассялення славянаў:[4]

*брата же его [= Константина] Мефодія князь Кочюлъ постави епископа во Испании.*[5] *въ градѣ Моравѣ, еже есть Илирикъ. до негоже Павелъ апостолъ ходилъ. проповѣдая Христа*[6].

І далей: *Павелъ бо апостолъ ходилъ тамо и училъ. то же зовется Илирикъ и Морава. а языкъ единъ Словенескъ и Рускій. отъ Варягъ бо пріидоша и прозвашася Русы. а Поляне прозвашася. понеже в поляхъ сѣдоша. а языкъ той же Словенскій*[7].

Архаічная своеасаблівасць вышэйпрацытаванага тэксту з «Аповесці мінулых гадоў» падаецца крыху зменена і «мадэрнізаванай» у больш позніх рэдакцыях, аднак супастаўленне тэксту першага ўсходнеславянскага летапісу з варыянтамі новых рэдакцый XVI ст., наадварот, выяўляе глыбокую пераемнасць традыцыі. І толькі згадка пра апостала Андраніка, аднаго з ліку 70-ці (Рым 16, 7), як папярэдніка Мятода і паплечніка Паўла ў Ілірыку, якая прысутнічае ў «Аповесці мінулых гадоў», страчваецца ў пазнейшых рэдакцыях.

**2. Сістэматызацыя «хростаў Русі» ў XVII стагоддзі**

Эклектычны кангламерат «хростаў Русі», які складаецца з міфаў і гістарычных фактаў, быў упершыню сістэматызаваны і інтэрпрэтаваны ў палемічным рэчышчы ў літаратурнай палеміцы пачатку XVII ст. — яна тычылася праблемаў Уніяцкай Царквы ва ўсходнеславянскіх рэгіёнах Рэчы Паспалітай[8]. Апрацоўка гэтага матэрыялу дазваляе ўбачыць наступную цікавую класіфікацыю.

**2.1 *Леў Крэўза***

Леў Крэўза, апалагет Уніяцкай Царквы, налічыў у раздзеле «*O troim krzcie*» («Пра траякі хрост») сваёй кнігі «*Obrona jedności cerkiewnej*» («Абарона адзінства Царквы», Вільня, 1617) толькі тры «хросты Русі».




**Томас Менцаль (Thomas Menzel)** — прыват-дацэнт у галіне славянскага мовазнаўства; працуе ў Інстытуце славістыкі ўніверсітэта Ольдэнбурга, у цяперашні час замяшчае пасаду прафесара ва ўніверсітэце Фрайбурга. Нарадзіўся ў 1967 г. у г. Марсбергу (ФРГ). Вывучаў славістыку і дзяржаўнае права ва ўніверсітэтах Вюрцбурга, Лейпцыга і Бона. Быў навуковым супрацоўнікам ва ўніверсітэце Ольдэнбурга, Грайфсвальда, Рэгенсбурга, Фрайбурга і Вены. Стажыраваўся ў Адэсе (1991) і Кракаве (1997). У 2000 г. абараніў кандыдацкую, у 2010 г. — доктарскую дысертацыю. Аўтар шматлікіх артыкулаў па праблемах гісторыі, марфалогіі і лексікалогіі славянскіх моў, а таксама манаграфій «Лексікалогія і эвалюцыя моў славянскага рэгіёна» (1998; разам з М. Гігерам і Б. Вімерам), «Флексійна-марфалагічныя змяненні ў польскай мове» (2000), «Слоўнік нямецкіх запазычанняў у цешынскім дыялекце польскай мовы» (2003; разам з Г. Генчалем), «Інструментатыў месца і часу ў славянскіх мовах» (2014). Да сферы яго даследчыцкіх прыярытэтаў належаць пытанні змяненняў у граматыках розных моў, а таксама праблемы моўных кантактаў. Апошнім часам даследуе кантакты паміж «вялікімі» і «малымі» славянскімі мовамі ў галіне граматыкі, вывучаючы ўплыў рускай мовы на марфалогію беларускай і ўкраінскай, што праяўляецца ў феноменах трасянкі і суржыка. Займаўся перакладамі на нямецкую мову з рускай, польскай і харвацкай моваў.

Грунтам для гэтага, як адзначае ён сам, служаць звесткі са славянскіх летапісаў, паводле якіх хросты ажыццяўляліся:

1) у перыяд праўлення Рурыка і візантыйскага імператара Васілія I, г. зн. у IX ст.; у той час, калі быў спалены настроены супраць Папы Канстанцінопальскі патрыярх Фоцій;[9]

2) у часы княгіні Вольгі і патрыярха Тэафілакта, які нібыта атрымаў пасвячэнне ад Папы (с. 66);

3) пры Уладзіміру Святым, калі адбылося канчатковае прыняцце хрысціянства (с. 66).

Леў Крэўза, які выдатна валодаў лацінскай і грэчаскай мовамі, напісаў сваю «Абарону...», магчыма, сумесна з Язафатам Кунцэвічам, які быў вельмі абазнаны ў помніках славянскага пісьменства[10]. Гэта дало Л. Крэўзу магчымасць крытычна асэнсаваць славянскія крыніцы і супаставіць іх з грэчаскімі хронікамі, а таксама з лацінскімі «Аналамі» Цэзара Баронія (Рым, 1588 г. і наст.). Так, пісьменнік са спасылкай на гэтыя тры хросты сцвярджае, што місіянерская дзейнасць на землях Русі заўсёды ажыццяўлялася ў поўнай згодзе з Рымскім Касцёлам. Кірыл і Мятод (якіх, дарэчы, Л. Крэўза згадвае, але не ўключае іх гісторыю ў свой «рэестр»), на думку аўтара, менавіта з-за адступніцтва Фоція звярнуліся ў Рым. Трэба заўважыць, што, прыводзячы гэтыя звесткі, Л. Крэўза спасылаецца на заходнія крыніцы, бо ўся гісторыя падарожжа ў Рым славянскіх апосталаў ва ўсходнеславянскіх летапісах замоўчваецца[11].

### 2.2 *Захарыя Капысценскі*

У «Палінодыі» Захарыі Капысценскага (1621–1622) распавядаецца ўжо пра чатыры «хросты Русі»: тут – з пазіцый праваслаўя – у якасці першага «хросту» пералік ачольвае легендарная гісторыя місіянерскай дзейнасці апостала Андрэя[12]. Аднак гэта занадта вольная інтэрпрэтацыя крыніцаў, паколькі, згодна з легендай, апостал Андрэй усяго толькі ўсталяваў крыж у Кіеве на неабжытым узвышшы і прадказаў гэтаму месцу вялікую будучыню. Аднак у той час ён яшчэ не ўдзяліў мясцовым жыхарам таямніцы хросту.

Паданне, звязанае з апосталам Андрэем, пачало выкарыстоўвацца ў XVI ст. у палемічным рэчышчы для абгрунтавання палітычнай незалежнасці рускай Царквы ў яе супрацьстаянні візантыйскай. Насамрэч у гэтым паданні ёсць доля гістарычнай праўды: у сачыненнях некаторых айцоў Касцёла згадваецца дзейнасць Андрэя ў Скіфіі і Фракіі. Аднак вышэйзгаданае падарожжа не магло быць настолькі шырока асветлена ў гэтых сачыненнях, як пра яго распавядаецца ў асобных фрагментах славянскіх летапісаў, стылізаваных пад народныя паданні[13].

Кірыл і Мятод важныя для аргументацыі Захарыі Капысценскага з тае прычыны, што яны былі родам з Канстанцінопаля і хрысцілі мараваў, чэхаў, палякаў і венграў паводле праваслаўнага абраду. Варта адзначыць, што другі хрост Русі (у IX ст.) згадваецца ў сувязі з патрыярхам Фоціем, што цалкам пярэчыць сцвярджэнням Льва Крэўзы.

Захарыя Капысценскі не абмяжоўваецца ў сваіх крыніцазнаўчых пошуках славянскімі летапісамі і сінаксарамі[14]. Ён цытуе таксама польскія хронікі Марціна Кромера і Мацея Стрыйкоўскага, грэчаскія аналы патрыярха Нікіфара і Іаана Занары, урэшце, нават Цэзара Баронія, а таксама якуюсьці «славенскую гісторыю» раннехрысціянскага вучонага з Карфагена Цертуліяна. Творы Цертуліяна (памёр пасля 220 г.) насамрэч з'яўляюцца адной з крыніцаў па гісторыі хрысціянізацыі скіфаў і сарматаў[15]. У той час як «сармацкая тэрміналогія» захавалася толькі ў польскай літаратуры і выкарыстоўвалася ў дачыненні да славянаў[16], Захарыя Капысценскі інтэрпрэтуе яе ў адпаведнасці са сваімі ўласнымі задачамі і карыстаецца толькі этнонімам «славяне».

### 2.3 *Сільвестр Косаў*

Менавіта ў Сільвестра Косава мы ўпершыню знаходзім пяцічасткавы «каталог хростаў», які ён апублікаваў у Кіеве ў якасці дадатка да прадмовы «*Do czytelnika prawosławnego*» («Да праваслаўнага чытача») яго польскага перакладу «Патэрыкона» 1635 г. Кіева-Пячэрскага манастыра[17]. Гэты твор, несумненна, таксама ўзнік як апалогія праваслаўных перад Уніяцкаю Царквою. Увесь гэты фрагмент з'яўляецца дадаткам да адказу на *objectio* IV католікаў, якія сцвярджалі, што хрост Русі паспяхова ажыццявіўся толькі ў часы адзінства Касцёла[18]. Каб даказаць адваротнае, Сільвестр Косаў выбудоўвае матэрыял наступным чынам:

1. Хрост, учынены апосталам Андрэем, а таксама апосталам Паўлам і яго вучнем Андранікам (I ст.).
2. Хрост, учынены Кірылам і Мятодам па просьбе (мараўскіх) князёў Святаполка, Расціслава і Коцэла (IX ст.) у часы патрыярха Фоція.
3. Хрост, учынены грэчаскім мітрапалітам, пастаўленым у Кіеве ў адзін час з патрыярхам Фоціем.
4. Хрост Вольгі/Алены ў 955 г.
5. Хрост Уладзіміра і ўсёй Русі ў 1008 г., падчас патрыяршаства Сергія II.

У апошнім пункце пісьменнік дае іншае датаванне (паводле Цэзара Баронія), каб даказаць, што хрост Уладзіміра і ўсёй Русі адбыўся ў адзін час з расколам паміж Рымам і Візантыяй[19]. Па-за гэтым, аўтар абапіраецца ў асноўным на ўсходнеславянскія летапісы як крыніцы сваёй класіфікацыі, аднак разам з тым цытуе М. Стрыйкоўскага, М. Кромера, Я. Длугаша, а таксама грэка Занару.

У гэтым «каталогу хростаў» ужо няма дыферэнцыяцыі паміж «заходнімі» і «ўсходнімі» місіямі, апроч таго, легендарнае падарожжа апостала Паўла ўпершыню інтэрпрэтуецца з пазіцыі кірыла-мятодаўскага кантэксту,

а таксама лагічна ўвязваецца з блізкім па часе паданнем пра апостала Андрэя. Праўда, такім чынам у дадзеным выпадку адбываецца аб'яднанне двух легендарных паданняў пад «хростам № 1». Толькі шляхам такой непаслядоўнасці аказваецца магчымым выкарыстаць сімвалічнае значэнне лічбы «5», злучыўшы пяць хростаў у адным кантэксце з пяццю ранамі Хрыста[20].

**2.4 *Да сучасных абгрунтаванняў «каталогу хростаў».***

Прадстаўлены тут спосаб аргументацыі ўкраінскіх пісьменнікаў-палемістаў грунтуецца, несумненна, на прынцыпе пацвярджэння пэўных традыцый шляхам доказу іх прывілеяванага з гістарычнага пункту гледжання становішча. Зварот да мінуўшчыны з апораю на (да-) гістарычныя падзеі быў характэрны для ўсёй сярэдневяковай гісторыі права і прывёў да шматлікіх скажэнняў у пісьмовых помніках, мэтай якіх было ў першую чаргу дадаткова санкцыянаваць ужо існуючыя прэтэнзіі і прывілеі[21]. У сярэдневяковым судовым справаводстве на грунце паказанняў сведкаў пры выкладанні доказаў атрымліваў перавагу той бок, які (па сваёй добрай волі) меў найбольш пераканаўчае сведчанне. Таму абедзве партыі былі зацікаўленыя ў тым, каб прадставіць да разгляду ў судзе як мага больш неабвержныя старажытныя матэрыялы ў пацвярджэнне сваіх правоў[22]. З гэтага пункту гледжання шлях, пракладзены тут «пяццю хростамі Русі», не з'яўляецца чымсьці надзвычайным. Супрацьлеглыя ў дыскусіі бакі аддаляюцца ў сваёй аргументацыі ў мінуўшчыну настолькі глыбока, наколькі гэта неабходна, каб знайсці пераканаўчае абгрунтаванне сваіх прэтэнзій. У гэтым сэнсе паказальнае наступнае дапушчэнне: «У XVII стагоддзі гістарычным


ΠΑΤΕΡΙΚÒΝ
ABO
ZYWOTY SS.
OYCOW PIECZARSKICH.
Obszyrnie Słowieńskim ięzykiem przez świętego NESTORA ZAKONNIKA y Látopiscá Ruskiego przedtym nápisány.
Teraz záś z Greckich, Łáćińskich, Słowieńskich, y Polskich Pisárzow obiáśniony, y krocey podány.
PRZEZ
Wielebnego w Bogu Oyca SILVESTRA KOSSOWA, Episkopá Mśćisławskiego, Orszáńskiego, y Mohilewskiego.
W KIIOWIE, w Drukarni S. Lawry Pieczarskiey. Roku, 1635.

Тытульны аркуш «Патэрыкона» Сільвестра Косава (Кіеў, 1635).

абгрунтаваннем палітычных памкненняў украінскага народа робіцца рэтраспектыва»[23]. Гэты тэзіс пераканаўча сведчыць пра ступень культурнага ўплыву Захаду на ўсходніх славянаў. Справа ў тым, што праваслаўе аж да гэтага часу арыентавалася на асноўныя прынцыпы, сфармуляваныя ў Пасланнях апостала Паўла, адносна таго, што не можа быць ніякай дыскусіі наконт пытанняў веры:[24] усе члены аднаго цела павінны дзейнічаць разам, у згодзе паміж сабою (пар. 1 Кар 12, 12 і наст.). У адпаведнасці з гэтым нельга было дапускаць ніякага канфлікту ўнутры Касцёла; згода ёсць увасабленнем Боскага пачатку ў Касцёле (пар. 1 Кар 3, 3)[25]. Новым у духоўнай культуры гэтага часу было ўжо тое, што праваслаўны бок у фармальных адносінах пачынае асвойваць метады дзейнасці католікаў. Для рымска-каталіцкага боку, які ўсведамляў свой абавязак абароны догмату filioque і прыярытэту папства, робіцца відавочнай неабходнасць тэалагічнай дыскусіі з апораю на цытаты з Біблії, а таксама на асобныя месцы з сачыненняў айцоў Касцёла. Аднак у межах гэтай дыскусіі важна было акрэсліць храналагічнае абмежаванне ў гістарычнай аргументацыі: прадставіць адносіны паміж Заходнім Касцёлам і Усходняй Царквой у пэўным адрэзку часу, пачынаючы з якога касцёльны раскол (схізма) рабіўся ўсё больш відавочным. Такім адрэзкам часу было IX стагоддзе.

Праваслаўныя пісьменнікі дзеля таго, каб даказаць незалежнасць праваслаўя ад Рыма, пачалі ўсё больш заглыбляцца ў гісторыка-палітычныя развагі: менавіта ў гэты час ужо абмяркоўваецца праблема translatio imperii (пераносу ўлады) Усходняй Рымскай імперыі пры імператары Канстанціне ў IV стагоддзі. Трыма хростамі, такім чынам, «абысціся» не ўдаецца, таму ўяўляецца мэтазгодным увесці ў палемічныя сачыненні таксама гісторыю з апосталам Андрэем, які з часоў імператара Юстыніяна (VI ст.) трактаваўся ў дачыненні да Усходняй Рымскай імперыі як першы духоўны патрыярх Візантыі[26].

**3. Гісторыя паходжання падання, звязанага з апосталам Паўлам, у «Аповесці мінулых гадоў»**

Сільвестр Косаў па-новаму ў параўнанні з папярэднікамі складае свой усходнеславянскі «каталог хростаў» (2.3): гісторыю Канстанціна-Кірыла і Мятода ён адсоўвае на другую пазіцыю. Тым часам гісторыя салунскіх братоў успрымалася ў славянскай грамадскай свядомасці як своеасаблівы пункт адліку: паводле Рамана Якабсона, гэта быў *the slogan of the ethno-linguistic unity of the Slavs* – лозунг моўнай і этнічнай еднасці славянаў[27]. Аднак аўтар «Патэрыкона» ў першым пункце звяртаецца да ўсходнеславянскіх летапісных крыніцаў, названых у 1-м раздзеле гэтага артыкула. Інфармацыя пра хрост, учынены апосталам Паўлам і яго вучнем

Андранікам, г. зн. паданне пра дзейнасць апостала Паўла ў Ілірыку, менавіта ў «Патэрыконе» Сільвестра Косава ўпершыню была вылучана з кірыла-мятодаўскага кантэксту і адасоблена. Паколькі вышэйзгаданае паданне надзвычай шматслойна прадстаўлена ў легендарным матэрыяле, гэты матыў заслугоўвае больш падрабязнага разгляду.


ſedności Cerkiewney. 53
ná Bogá/ áby dla modlitw twoich zbáwione vczynił duſze ábyſmy zá błogosłáwieńſtwem twoim doſkonałe rozgrzeſzenie przyieli wſzyſtkich grzechow naſzych/ w tym dziśieyſzym wieku y w onym przyſzłym ꝛc. Data tego liſtu Roku Páńſkiego 1476. y ieſt w druku ták po Słowieńſku iáko y po Polſku. Iákoż zbáwienia nádzieie miec mogą/ ci co przeciwko dekretom tego Soboru mowią. Vkázał Pan Bog doſyć iáwnie iáko to wdzięcznie przyiął/ od Konſtántiná brata Janá Paleologá odſtępniká Soboru Florenſkiego/ ktory po śmierci Jána brátá ſwego dobrego Kátoliká ná Páńſtwo náſtąpiwſzy/ Konſtántinopol y páńſtwo Greckie wſzyſtko ſtrácił/ y ſam mizernie támże gárdło dał: Potym co ſię ſtało ze wſzyſtkim narodem Greckim/ to iuż káżdemu wiádomo.

Trzećia Część/
O tym iáko ſię Ruś Krzćiłá.
ROZDZIAŁ I.
O troim Krzćie.

Troiákim chrzśćie Ruśi czytamy v Hyſtorikow. Pierwſzy zá Bazilego Macedoná Ceſárzá Greckiego/ á zá Kśiążęćiá wſzytkiey Ruśi Ruryká/ y zá Kśiążąt Kiiewſkich/ Aſkoldá y Dirá/ zá Pátryárchy Konſtántinopolſkiego Jgnacego/ ktorego ácz zrzućił/ iáko ſię wyżey pomieniło Bardá/ á wſádził Focyuſzá/ wſzákże tám ten był przez ten wſzytek czás prawdziwym Pátriárchą/ á nie Focyuſz/ ták vznał Sobor zgromádzony w Koſtántinopolu od Adriáná Papieżá/ ná ktorym przywrocony ieſt Jgnaci/ á Focius zrzucony/ iáko ſię we 2. częśći/ w Rozdz. 7. vkázáło. O tym krzſzczeniu Ruśi ták mo-
H wi

Старонка з кнігі Льва Крэўзы «Абарона адзінства Царквы» (Вільня, 1617).

**3.1** ***Усходнеславянскія крыніцы і высновы на іх грунце***

У «Аповесць мінулых гадоў» уключаны звязны аповед пра дзейнасць «славянскіх апосталаў» у перакaзе летапісца пад 898 годам. Гэта аповед пад назваю «Сказание о преложении книг на славянский язык»,[28] прычым ён адрозніваецца ад вядомых паводле паўднёваславянскіх крыніцаў жыцій Канстанціна-Кірыла[29] і Мятода[30], у тым ліку і дзякуючы ўключэнню падання, звязанага з апосталам Паўлам. На думку вядомага даследчыка летапісання старажытнай Русі А. Шахматава, нават змястоўна названы аповед выходзіць далёка за межы поля зроку жыхара Кіеўскай зямлі, і гэтая акалічнасць «прымушае прызнаць, што [аповед] быў складзены не самім рускім летапісцам, а асобай, якая стаяла бліжэй за яго да падзей, звязаных з дзейнасцю Кірыла і Мятода»[31]. Згодна з гэтым меркаваннем, апостал Павел мог з'явіцца ў паданні пра Кірыла і Мятода толькі на Захадзе, у рэгіёне, які быў спрэчнай зонай уплыву Заходняга Касцёла і Усходняй Царквы. Версіі пра напад венграў і пра пытанні ўлады на землях заходніх славянаў, на думку А. Шахматава, лёгка дазваляюць заўважыць тут уплыў заходнеславянскай крыніцы. Наяўнасць нейкага невядомага заходнеславянскага тэксту пра дзейнасць славянскіх апосталаў, што паслужыў асновай «Сказання...» ў «Аповесці мінулых гадоў», на сённяшні дзень варта прызнаць неаспрэчным фактам[32].

Інфармацыя пра шляхі, па якіх хрысціянства пранікала ў землі Русі ў часы Кірыла і Мятода, г. зн. задоўга да хросту Уладзіміра ў 988 г., відаць, не мела характару сенсацыі, была агульнавядомай, у сувязі з чым складальнік «Аповесці мінулых гадоў» у пачатку XII ст. апускае гэтую інфармацыю[33]. Падобнае назіраецца і ў тых помніках заходне- і паўднёваславянскага пісьменства, якія ўжо ў старажытнейшы перыяд былі засвоены ва ўсходнеславянскім рэгіёне. З прычыны таго, што арыгінальныя крыніцы практычна не захаваліся, у многіх выпадках, зыходзячы з матэрыялаў гэтых найбольш ранніх славянскіх помнікаў на Русі, немагчыма сцвярджаць адназначна, ці было гэтае паданне ўспрынятае з рэальнага тэксту альбо першапачаткова было толькі перанесенае ўсходнімі славянамі ў адпаведны кантэкст незалежна ад нейкага канкрэтнага помніка. Так ці інакш, але паданне, звязанае з апосталам Паўлам, аформлена аднастайна і прадстаўлена ўжо ў найбольш старажытных усходнеславянскіх варыянтах у такім выглядзе, як яно пададзена ў 1-м пункце гэтага артыкула. У гэтым выпадку больш праўдападобна, што тут адаптуецца нейкі страчаны арыгінальны тэкст.

**3.2** ***Біблійныя крыніцы***

Легенда пра тое, што «апостал народаў» Павел меў нейкае асаблівае дачыненне да Ілірыка, першапачаткова абапіраецца, несумненна, на дадзеныя Бібліі. Так, сам Апостал у Пасланні да Рымлянаў (15, 19) заяўляе, што ён абвяшчае Евангелле ад Ерузалема да Ілірыка. Тым не менш няма поўнай упэўненасці ў тым, што Апостал асабіста наведваў Адрыятыку. У другім Пасланні да Цімафея (4, 10) ён гаворыць пра выпраўленне ў Далмацыю якраз-такі Ціта[34].

**3.2.1** *Версіі адносна марской навалы, у якую трапіў апостал Павел (Дз 28)*

Да легендарных паданняў варта, відаць, далучыць тыя, што адпавядалі пэўнай традыцыі, якая пацвярджала факт побыту апостала Паўла ў Далмацыі. Гэтае пацвярджэнне зрабілася магчымым дзякуючы ідэнтыфікацыі вострава Меліта (паблізу яго святы Павел, які перапраўляўся на караблі ў якасці вязня, трапіў у марскую навалу; Дз 28, 1) як вострава Млет у Далмацыі. Шырокую вядомасць набыло народнае паданне, якое датычыць гэтага факта; яно было зафіксавана яшчэ Вукам Караджычам у дастаткова характэрным кантэксце: «*Ostrvo u moru blizu Dubrovnika, za koje se onuda pripovijeda da je na njega izišao sveti apostol Pavle, kad mu se idući u Rim razbila lađa (djela apost. XXVIII). Za svjedočbu toga pripovijeda se da na tome ostrvu danas nema nikakve zmije.* <...>» (Востраў у моры блізу Дубраўніка, пра які там распавядаецца, што на яго высадзіўся святы апостал Павел, калі яго карабель разбіўся на шляху

ў Рым (Дз 28). У якасці доказу прыводзіцца сведчанне, што на гэтым востраве да сённяшняга дня зусім не водзяцца змеі)[35]. Пачатак традыцыі пісьмовай перадачы гэтай легенды датуецца X ст., часамі дзейнасці Канстанціна VII Барвянароднага, які зафіксаваў гэтую легенду ў сваім сачыненні «*De administrando imperii*» («Як кіраваць імперыяй»)[36]. Гэтую крыніцу ўжо маглі добра ведаць у часы складання першага ўсходнеславянскага летапіснага зводу на Русі[37].

Можна выказаць сумненні адносна таго, наколькі адпавядае рэальнасці геаграфічная лакалізацыя вышэйзгаданага фрагмента Бібліі, аднак пры гэтым варта ўлічваць наступныя абставіны: традыцыйная экзэгеза, што карабель, на якім плыў Павел, разбіўся блізу вострава Мальта, была ў значнай ступені перагледжана на грунце навейшых даследаванняў. Навігацыйныя дадзеныя ў згаданым фрагменце Бібліі вельмі дакладныя і дазваляюць рэканструяваць маршрут марскога падарожжа карабля, які неўзабаве пасля свайго адплыцця з Крыта ў «Адрыятычнае мора» (Дз 27, 27) страціў здольнасць да манеўравання. Аднак у старажытныя часы не было адной назвы для тых або іншых частак акваторыі, і паняцце «знешняя Адрыятыка» выкарыстоўвалася таксама для пазначэння марскога шляху з Рыма ў Александрыю[38]. Супастаўленне з метэаралагічнымі дадзенымі дазваляе зрабіць выснову, што карабель мог быць адкінутым намнога далей на поўнач, чым гэта лічылася да нядаўняга часу. Потым Павел мог быць выкінуты на востраў Кефаленія каля ўзбярэжжа Заходняй Грэцыі: ландшафт гэтага вострава часткова адпавядае апісанню з «Дзеяў Апосталаў». Акрамя таго, менавіта на Кефаленіі былі пабудаваныя адзіныя, бадай што, у Заходняй Грэцыі цэрквы, прысвечаныя апосталу Паўлу. Да таго ж, ёсць звесткі пра існаванне тут старажытнага культу апостала Паўла, які знік у часы «высокага» Сярэднявечча. Надзвычай рэдкая для міжземнаморскага рэгіёна з'ява – культ змеяў, аднак на Кефаленіі ён захаваўся аж да Новага часу. Ён мог узнікнуць у сувязі з прыгаданым Вукам Караджычам «змяіным цудатварэннем» Паўла, якое апісана ў «Дзеях Апосталаў» (28, 3 і далей)[39]. Праўда, у класічных даследаваннях Бібліі гэтыя звесткі адкідаюцца[40], але пытанне, тым не менш, застаецца адкрытым. Так, напрыклад, разглядаецца яшчэ адзін варыянт лакалізацыі падання: карабель, на якім плыў Павел, разбіўся ў заліве Вялікі Сірт блізу Лівійскага ўзбярэжжа, хаця там з антычных часоў адбыліся настолькі значныя змяненні прыроднага ландшафту, што наўрад ці было б магчыма адшукаць тое месца, якое адпавядае апісанню з 28-га раздзела «Дзеяў Апосталаў»[41].

Праблематычна даць адназначны адказ на пытанне, ці быў калісьці святы Павел у рэальнасці на адным з Іанічных астравоў. Тым больш надзённай навуковай задачай з'яўляецца вывучэнне культу апостала Паўла на Кефаленіі. Трэба ўлічваць і тое, што межы рымскай правінцыі Ілірык дакладна не вызначаны, і можна сказаць, што яе землі распасціраюцца да Паўночнага ўзбярэжжа Іанічнага мора. Так, гарады Дзірахій/Дурэс і Апалонія (у сённяшняй Албаніі) лічыліся – прынамсі на працягу нейкага часу — памежным з Ілірыкам рэгіёнам;[42] Ліхнідон / Охрыд адносіцца да тэрыторыі Ілірыка,[43] і нават Тэсалонікі пэўным чынам звязаны з гэтай зямлёю. Цікава, што нават сталіца Македоніі, згодна з некаторымі крыніцамі, у старажытны перыяд з'яўлялася цэнтрам былой царкоўнай епархіі Ілірыка. Урэшце, выказанае даследчыкамі меркаванне пра тое, што «Глаўніца», рэзідэнцыя біскупа Клімэнта Охрыдскага, знаходзілася блізу горада Влёры (сучасная Албанія), ізноў жа вяртае нас да паўночнага ўзбярэжжа Іанічнага мора. І хаця Кефаленія знаходзіцца за 150 км на поўдзень ад названага рэгіёна, нельга катэгарычна выключаць магчымасці ўзаемадзеяння паміж гэтымі землямі.

**3.2.2** *Адлюстраванне біблійнага падання вандраванняў св. апостала Паўла ў легендах пра паходжанне славянаў*

Доўгі час лічыўся абсалютна верагодным летапісны фрагмент, у якім распавядалася, што менавіта апостал Павел навярнуў да хрысціянства славянаў, якія першапачаткова аселі ў Ілірыку; практыка такой інтэрпрэтацыі набыла шырокае распаўсюджанне, аднак ужо ў XIX ст. яна была адкінута як негістарычная. Версія пра Ілірык як «прарадзіму» славянаў абвяргалася на грунце таго, што гэтае паданне мела перадусім кніжны характар. Яшчэ за 200 гадоў да ўзнікнення першага ўсходнеславянскага летапісу ў паўднёвых славянаў былі тэксты, дзе яны атаясамліваліся з іншымі народамі Балканскага паўвострава, і гэтыя народы называліся па-іншаму[44]. Менавіта з дапамогай такой аргументацыі магла ў далейшым абгрунтоўвацца сувязь апостала Паўла з Балканамі, у тым ліку і дзякуючы таму, што назвы мясцовасці Мізія (лац. Moesia, у сучаснай Балгарыі) і Мізія ў Малой Азіі (лац. Mysia, недалёка ад Бурсы ў сучаснай Турцыі) блыталіся. Гэтая гістарычная памылка часта паўтаралася ў літаратурных крыніцах на царкоўнаславянскай мове. У выніку першапачатковая тэрыторыя рассялення славянаў памылкова лакалізавалася нават у Малой Азіі[45]. Што датычыць малаазіяцкай Мізіі, то, зыходзячы з дакладных звестак паводле «Дзеяў Апосталаў» (16, 7 і наст.), апостал Павел насамрэч наведаў гэтую зямлю падчас другой сваёй місіі, так што і тут у чарговы раз біблійная крыніца тлумачыць звесткі з «Аповесці мінулых гадоў».

**4. Заключэнне**

У цэлым нельга не заўважыць, што ў літаратуры паўднёваславянскага рэгіёна матыў хросту святым апосталам Паў-

лам не быў актыўна запатрабаваны. Тым часам ва ўсходнеславянскіх летапісах ён, бадай што, толькі паглыбляецца і ў працэсе гістарычнага развіцця ніколі не знікае цалкам. У рэлігійнай палеміцы, датычнай Уніяцкай Царквы ва Украіне, яно атрымлівае нават новае, апалагетычнае напаўненне.

З часоў А. Шахматава (раздз. 3.1) цалкам відавочна, што паданне з усходнеславянскага летапісу «О преложении книг на славянский язык» узнікла на грунце страчанай заходнеславянскай крыніцы, якая ў змястоўных элементах адрозніваецца ад вядомых «Жыцця Канстанціна» і «Жыцця Мятода»[46]. Разам з тым, з усіх прыведзеных вышэй дадзеных немагчыма зрабіць адназначную выснову наконт непасрэднага ўзора, які паслужыў дапаўненню і пашырэнню матыву пра святога апостала Паўла ва ўсходнеславянскім летапісанні. У рэшце рэшт можна вылучыць меркаванне, што нейкі заходнеславянскі тэкст звязвае апостала Паўла з ажыццяўленнем хрысціянскай місіі ў славянаў. Дзякуючы гэтаму падкрэсліваецца момант цеснай сувязі паміж дзейнасцю Мятода ў Маравіі і Рыме (прыгадайма, што менавіта ў гэтым горадзе прынялі пакутніцкую смерць і святы Пётр, і Святы Павел!), і тым самым гісторыя падтрымкі хрысціянізацыі Славіі Рымскім Касцёлам і Папам набывае літаратурную форму[47]. Як і ў згаданых вышэй сачыненнях Льва Крэўзы, Захарыі Капысценскага і Сільвестра Косава, гэтае паданне набывае пазней нават у самых ранніх сваіх распрацоўках палемічнае напаўненне як частка дыскусіі пра сферы ўплыву Заходняй і Усходняй Рымскай імперый, а таксама тых дзяржаў, якія сталі іх пераемнікамі ва Усходняй Еўропе.

*Пераклад з нямецкай мовы*
*Жанны Некрашэвіч-Кароткай.*

[1] Гэты артыкул абавязаны сваім з'яўленнем курсу лекцый «Міфы і фальсіфікацыі ў славянаў», прачытанаму прафесарам Гансам Ротэ ў Бонскім універсітэце ў зімовым семестры 1992/93 г. Артыкул быў уключаны ў падрыхтаваны ў 1993 г. Маркусам Віртцам студэнцкі юбілейны зборнік у гонар праф. Г. Ротэ, гл.: Menzel, Th. Zur Entstehungsgeschichte der 'Fünf Taufen Rußlands', insbesondere der 'Nummer 1b)' // Wirtz, M. (Hrsg.). Studentische Festschrift für Hans Rothe von seinen Bonner Schülern. – Bonn, 1993. – S. 54–74.

[2] Гл.: Повесть временных лет (далей у тэксце – ПВЛ) // Полное собрание русских летописей. Т. І: Лаврентьевская летопись. Изд. 2-е. – Л., 1926; Русский хронограф І = Полное собрание русских летописей. Т. XXII/1: Русский хронограф. Ч. 1. Хронограф редакции 1512 года. – СПб., 1911; Русский хронограф II = Полное собрание русских летописей. Т. XXII/2: Русский хронограф. Ч. 2. Хронограф западно-русской редакции. – СПб., 1914.

[3] Garvin, P.L. The standard language problem: concepts and methods // Anthropological linguistics. – March, 1959. – P. 29.

[4] Aitzetmüller, R. Morava in Illyricum, zu AnzSlPh 19, 181 ff. // Anzeiger für Slavische Philologie. B. 20. – Graz, 1990. – С. 147.

[5] Цыт. па: ПВЛ, слп. 28, с.3; въ Паніи = въ Панноніи, заўв. 38.

[6] Русский хронограф І, арк. 167 зв., 168; пар.: ПВЛ, слп. 28, с. 1–4, с. 13 і наст.

[7] Русский хронограф І, арк. 225. Заўв. перакл.: параўн. з адпаведным фрагментам у перакладзе на бел. мову (паводле выд. «Аповесці мінулых гадоў» пад рэд. Д. С. Ліхачова): «Пазней князь Коцэл паставіў Мятода епіскапам у Панонії, на стальцы святога апостала Андраніка, аднаго з сямідзесяці, вучня святога апостала Паўла. Мятод пасадзіў тады двух папоў, што ўмелі вельмі хутка пісаць, і пераклаў усе кнігі поўнасцю з грэцкай мовы на славянскую за шэсць месяцаў <...>. Па сканчэнні ж аддаў годна хвалу і славу Богу, Які даў такую ласку епіскапу Мятоду, пераемніку стальца Андраніка. Таму для славянскага народа настаўнікам з'яўляецца апостал Андранік. Ён хадзіў у Маравію, і апостал Павел тут вучыў; тут жа ёсць Ілірыя, да якой даходзіў апостал Павел; тут спачатку жылі славяне. Таму для славянскага народа настаўнікам з'яўляецца Павел, з гэтага ж народа – і мы, русь, таму і для нас, русі, настаўнік – Павел, бо ён вучыў народ славянскі і паставіў епіскапа і намесніка пасля сябе Андраніка для славянскага народа. А славянскі народ і рускі ёсць адно, ад варагаў бо празваліся руссю, а спачатку былі славянамі; хаця і палянамі называліся, аднак славнскаю мова была. Палянамі ж былі названы, бо ў полі жылі, а народ славянскі – адзіны» (Старажытная літаратура ўсходніх славян XI – XIII стагоддзяў: Хрэстаматыя / пад агульн. рэд. У. Г. Кароткага. – Гродна, 2004. – С. 25, 27).

[8] Ісіченко, Ю.А. Киево-Печерськийй Патерик у літературному процесі кінця XVI – початку XVII ст. на Україні. – Київ 1990. – С. 149.

[9] Krevza, L. Obrona iedności cerkiewney. Wilno 1617 // Harvard library of early Ukrainian literature. Texts. Vol. III / Red.: O. Pritsak, B. Struminsky. – Cambridge/ Mass. 1987. – С. 53–55. Далей спасылкі прыводзяцца паводле гэтай публікацыі з пазначэннем старонкі ў тэксце артыкула. Пра раскол часоў патрыярха Фоція гл.: Ostrogorsky, G. Geschichte des byzantinischen Staates. – München, 1952. – С. 186 і наст., 192 і наст.; Obolensky, D. The heritage of Cyril and Methodius in Russia // Dumbarton Oaks papers. Vol. XIX, 1965. – С. 48, 57.

[10] Harvard library of early Ukrainian literature. Texts. Vol. III / Red. O. Pritsak, B. Struminsky. – Cambridge / Mass., 1987. – С. XLIX.

[11] Jakobson, R. Minor native sources of the early history of the Slavic church // Harvard Slavic Studies. Vol. II. – Cambridge / Mass., 1954. – С. 41.

[12] Копистенський, З. Палинодія. Сочіиненіе кіевскаго іеромонаха Захарія Копыстенскаго, 1621-1622 года // Русская историческая библиотека. Том 4. – СПб., 1878. – Слп. 965–979, слп. 986–990.

[13] Rauch, G. v. Frühe christliche Spuren in Rußland // Saeculum. Jahrbuch für Universalgeschichte. – Freiburg / München, 1956. С. 43 і наст..; пар.: Gerhard, D. Über Vorkommen und Wertung der Dampfbäder // Zeitschrift für Slavische Philologie. B. 24. – Heidelberg, 1956. – С. 82 і наст.

[14] Копистенський, З. Палинодія... – Слп. 969. Сінаксар – збор гістарычных звестак пра якое-небудзь свята або якога-небудзь святога.

[15] Rauch, G. v. Frühe christliche Spuren in Rußland... – С. 44.

[16] Пар.: Исиченко, Ю. А. Киево-Печерський Патерик... – С. 148.

[17] Kossow, S. Paterikon abo żywoty ss. oycow pieczarskich. – Kiiow, 1635. – С. 11–16.

[18] Kossow, S. Paterikon... – С. 8; пар.: Леў Крэўза, 2.1.

[19] Kossow, S. Paterikon... – С. 9.

[20] Исиченко, Ю. А. Киево-Печерський Патерик... – С. 147.

[21] Graus, F. Lebendige Vergangenheit. Überlieferung im Mittelalter und in den Vorstellungen vom Mittelalter. – Köln / Wien, 1975. – С. 14 і наст.

[22] Kornblum, Beweis // Handwörterbuch zur deutschen Rechtsgeschichte / A. Erler, E. Kaufmann (Hrsg.). – Berlin, 1971. – B. 1. – Слп. 404; Krause, Privileg, mittelalterlich // Тамсама. – В. 3. – Слп. 1999 і наст.; Heimbach sen. Von der Echtheit der Urkunden insbesondere // Weiskes Rechtslexikon. – B. 11. – С. 677 і наст.

[23] Исиченко, Ю. А. Киево-Печерський Патерик... – С. 148.

[24] Fedotov, G.P. The Russian religious mind. – Vol. I. – Cambridge / Mass., 1966. – С. 23 і наст.

[25] Гл. таксама: Philaret, weiland Metropolit zu Moskau / zu Tschernigow: Geschichte der Kirche Rußlands. Ausführlicher Catechismus der rechtgläubigen, katholischen, morgenländischen Kirche. – Frankfurt / Mainz 1872. – С. 337.

[26] Krumbacher, K. Geschichte der byzantinischen Litteratur. – New York, [б. г.]. – С. 391.

[27] Jakobson, R. Minor native sources… – С. 42.

[28] Шахматов, А.А. Повесть временных лет и ее источники // Труды Отдела древнерусской литературы. – Т. IV. – Москва–Ленинград, 1940. – С. 81.

[29] Magnae Moraviae fontes historici. – Vol. II. – Brno, 1967. – С. 57–115.

[30] Magnae Moraviae fontes historici. – Vol. II. – Brno, 1967. – С. 134–163.

[31] Шахматов, А. А. Повесть временных лет… – С. 81.

[32] Гл.: Jakobson, R. Minor native sources… – С. 64–66.

[33] Obolensky, D. The heritage of Cyril and Methodius in Russia… – С. 51.

[34] Гл.: Wilkes, J.J. Dalmatia (=) History of the provinces of the Roman empire. – Vol. II. – London, 1969. – С. 429.

[35] Караџић, В.Ст. Српски Рјечник. – Vindobonae 1852. – Пра цудатварэнне апостала Паўла са змяёй гл.: Дзеі 28, 3 і далей.

[36] Гл.: Warnecke, H. Die tatsächliche Romfahrt des Apostels Paulus. – Stuttgart, 1987. – С. 144.

[37] Гл.: Tschiżewskij, D. Geschichte der russischen Literatur im 11., 12. und 13. Jahrhundert. – Frankfurt / Main, 1948. – С. 164.

[38] Thornton, C.-J. Der Zeuge des Zeugen. Lukas als Historiker der Paulusreisen. – Tübingen, 1991. – С. 324 і далей.

[39] Warnecke, H. Die tatsächliche Romfahrt... – С. 146–150.

[40] Гл.: Schnackenburg, R. (Rez. zu:) Thornton (гл. далей) // Biblische Zeitschrift. Neue Folge. – B. 36/2. – Paderborn, 1992. – С 276.

[41] Thornton, C.-J. Der Zeuge des Zeugen... – С. 325 і наст., заўв. 288.

[42] Illirico // Enciclopedia Italiana XVIII. – Milano, 1933.

[43] Гл.: Иванов, Й. Български старини из Македония. – София, 1931.– С. 318.

[44] Дринов, М.С. Заселение балканскаго полуострова славанами // Трудове на М.С. Дринова по Българска и Славянска история / Златарский, В.Н. (ред.). – София, 1909. – С. 178.

[45] Напрыклад, у грэчаскім «Жыціі Клімента» Феафілакта, а таксама ў «Жыціі Навума Охрыдскага».

[46] Jakobson, R. Minor native sources… – С. 44–46.

[47] Гл.: Jakobson, R. Minor native sources… – С. 67 і наст.

Андрэй Агапаў

# Хрысціянскія каштоўнасці як адказ на сучасны крызіс Еўропы ў святле навучання Ёзафа Ратцынгера (Бэнэдыкта XVI)

У сучасным свеце часта гаворыцца пра пэўны крызіс у розных сферах жыцця чалавека, найперш пра страту духоўных каштоўнасцяў, страты сэнсу жыцця, заняпад культуры і традыцый і г.д.

Кожны дзень мы стаім перад выбарам, вынік якога залежыць ад таго, якімі каштоўнасцямі кіруецца чалавек, якія яго прыярытэты. Чым жа адметныя хрысціянскія каштоўнасці і чым яны адрозніваюцца ад нехрысціянскіх? Вобраз хрысціянскіх каштоўнасцяў быў прадстаўлены яшчэ ў «Казанні на гары» Хрыста, апісаным Евангелістам Мацвеем (гл. Мц 5, 1–7, 29). Праяўленнем духоўных і інтэлектуальных каштоўнасцяў ёсць пошук праўды, сэнсу экзістэнцыі чалавека, а таксама пошук малітоўнай лучнасці з Богам. Акрэсленне «хрысціянскія каштоўнасці» перш за ўсё датычацца тых каштоўнасцяў, якія Езус Хрыстус аб'явіў у сваёй навуцы, збаўчых чынах і ўласным прыкладзе жыцця, бо менавіта яны з'яўляюцца істотным крытэрыем для Яго паслядоўнікаў. Ад самага пачатку Еўропа мела свой хрысціянскі фундамент, была наступніцаю грэцкай і лацінскай культуры. Прыняцце Польшчай хрысціянства лацінскага абраду ў 966 г. і Руссю ў 988 г. усходняга абраду, названага пазней «праваслаўным», спрычынілася да пашырэння хрысціянскіх каштоўнасцяў на тэрыторыі ўсёй Еўропы. Аднак, як паказвае жыццё, там, дзе ёсць людзі, заўсёды ёсць праблемы, непаразуменні, канфлікты і войны. Еўропа, якая ў XX стагоддзі адчула на сабе столькі канфліктаў, рэвалюцый і паўстанняў, дзве сусветныя вайны можа здавацца ўнутрана спустошанай. Святы Ян Павел II лічыў, што крызіс Еўропы палягае на адыходзе культуры ад сваіх фундаментаў, якімі з'яўляецца хрысціянства і Касцёл, і падпарадкоўванні тэндэнцыям, такім як секулярызацыя і дэхрысціянізацыя, а таксама рэлятывізм[1]. Часта можна чуць пра такія паняцці, як «культура жыцця» і «культура смерці». Змучаны чалавек жыве так, нібы Бога не было і няма, адчувае пустэчу і безнадзейнасць. Касцёл прапануе сваю праграму вырашэння гэтай праблемы. У навучанні Ёзафа Ратцынгера (Бэнэдыкта XVI) мы знаходзім ідэі, якія могуць спрычыніцца да выхаду з крызісу. У адрозненне ад сваіх папярэднікаў, Бэнэдыкт XVI не толькі працягвае навучанне аб хрысціянскіх каштоўнасцях, правах чалавека, глабалізацыі і іншых пытаннях, але паказвае, чым хрысціянства можа абагаціць сацыяльнае жыццё і чаму хрысціянскія каштоўнасці з'яўляюцца такімі важнымі для сучаснай Еўропы.

**Агапацэнтрызм («Любоў»).** Бэнэдыкт XVI невыпадкова распачаў свой Пантыфікат з энцыклікі[2] *Deus caritas est* («Бог ёсць любоў»), у якой ён гаворыць аб праўдзівым разуменні любові. Гэтая энцыкліка з'яўляецца «падручнікам» хрысціянскага разумення любові. Бэнэдыкт XVI лічыць, што любоў не абмяжоўваецца зместам і выкананнем Божых запаведзяў, але палягае на чымсьці большым, з чым мы сутыкаемся кожны дзень. Папа падкрэслівае, што ў хрысціянскім разуменні любоў ёсць адказам чалавека на Божую любоў, якая апярэджвае любоў чалавечую. Тая любоў дазваляе людзям убачыць і адчуць Божую любоў, дзякуючы якой яна нараджаецца ў чалавеку. У сваім навучанні аб любові Пантыфік акцэнтуе ўвагу на крыніцы любові, якой з'яўляецца сам Бог.

**Хрыстацэнтрызм («Хрыстус»).** Бэнэдыкт XVI гаворыць пра хрысталагічны характар хрысціянскай любові. Прыклад Хрыста не зводзіцца да адарваных ад рэчаіснасці тэорый, заахвочвае Яго паслядоўнікаў да дзейснай любові, любові не ў словах, а ва ўчынках. Узор такой дзейснай любові Бога да чалавека даецца Збаўцам у прыпавесцях: гэта прыклад пастыра, які шукае згубленую авечку (гл. Мц 18, 12-14; Лк 15, 3–7); жанчыны, якая шукае згубленую драхму (гл. Лк 15, 8–10); бацькі з яго таямніцаю любові да марнатраўнага сына (гл. Лк 15, 11—32). Сапраўднаю вяршыняю Божай любові ёсць крыжовая смерць Езуса Хрыста, пад-

**Андрэй АГАПАЎ** — магістр тэалогіі, дактарант Каталіцкага ўніверсітэта ў Любліне. Выкладчык экуменізму ў Катэхетычным каледжы імя Зыгмунта Лазінскага ў Баранавічах.

час якой Ён прыніжае (гл. Флп 2, 5–11) і ахвярує сябе дзеля збаўлення і паяднання чалавека з Нябесным Айцом. Позірк на прабіты дзідаю жаўнера бок Хрыста, які апісвае евангеліст Ян (гл. Ян 19, 34–37), паслужыў пунктам аднясення энцыклікі да роздумаў аб любові: «Бог ёсць любоў» (1 Ян 4, 8).

**Эклезіяцэнтрызм («Касцёл»).** Кардынал Ёзаф Ратцынгер, займаючы пасаду прэфекта Кангрэгацыі веравучэння, у 1984 г. у Рапарце аб стане веры адзначыў наступныя схільнасці тагачасных людзей: «Маю ўражанне, што шмат людзей не адкідае Касцёл яўным чынам, разумова, але адыходзіць ад яго паціху, марнуючы па дарозе сапраўдны каталіцкі сэнс ягонай рэчаіснасці»[3]. У казанні падчас святой Імшы ў ватыканскай базыліцы з нагоды ўрачыстасці святых Пятра і Паўла (29.06.2012 г.) Бэнэдыкт XVI адзначыў: «Касцёл не з'яўляецца супольнасцю дасканалых людзей, але грэшнікаў, якія павінны прызнаць, што ім патрэбны хрост крыжам Езуса Хрыста». Такім чынам, кожнаму з нас патрэбна любоў.

**Антрапацэнтрызм («Чалавек»).** Святы Айцец Бэнэдыкт XVI звярнуў таксама ўвагу на небяспечны чалавечы фактар, які пануе ў сучасным грамадстве, калі пісаў энцыкліку *Caritas in veritate* («Любоў у праўдзе»). Паводле яго меркавання, Касцёл выконвае важную сацыяльную місію[4]. Істотным элементам хрысціянскай канцэпцыі чалавека ёсць яго адкрыццё на трансцэндэнцыю. Апроч гэтага, Бэнэдыкт XVI узгадаў, што сучасны крызіс чалавека, які перажывае ўвесь свет, звязаны з закрыццём людзей на таямніцу Бога[5]. У сваёй энцыкліцы Пантыфік сцвярджае: «ідэалагічная замкнёнасць на Бога і атэізм абыякавасці, якія ігнаруюць Творцу і рызыкуюць забыць таксама пра чалавечыя каштоўнасці, знаходзяцца сёння сярод найбольшых перашкодаў у развіцці чалавецтва. Гуманізм, які выключае Бога, — гэта нечалавечы гуманізм. Толькі гуманізм, адкрыты на Абсалют, можа кіраваць намі ў распаўсюджванні і рэалізацыі формаў грамадскага і грамадзянскага жыцця — у межах структур, інстытуцый, культуры і этасу — ратуючы нас ад небяспекі стаць нявольнікамі часовай моды»[6]. Хрысціянства са сваёй тэалагічнай перспектывы адкрывае чалавеку вечныя каштоўнасці і дае яму сапраўдны сэнс жыцця.

Асаблівае месца ў навучанні Бэнэдыкта XVI прысвечана клопату пра чалавечае жыццё як найвышэйшы дар Бога. На жаль, сёння вартасць жыцця часта супрацьпастаўляецца свабодзе і гэтая тэндэнцыя набірае папулярнасць у грамадстве. Права на жыццё іншай асобы можа быць разгледжана як пагроза, на слова «жыццё» ў свядомасці вялікай часткі сённяшняга грамадства запальваецца «чырвоная лямпачка». Аднак немагчыма мець свабоду без жыцця. Не можа быць свабоды для эгаізму, для пагарды да іншых, калі іншых пазбаўляюць права на свабоду і жыццё. Абарона жыцця мае першасны маральны наказ, у кантэксце якога веруючы чалавек павінен адчуваць уласную адказнасць. У прамове, сказанай 12 мая 2008 г. у абарону жыцця, Бэнэдыкт XVI так звярнуўся да вернікаў: «Трэба падтрымліваць сем'і, выкарыстоўваючы ўсе магчымыя і законныя сродкі, абараняць зачатае новае жыццё, а таксама спрыяць годнаму выхаванню асобы ў нялёгкім сучасным грамадстве. Асноўная сфера грамадскага жыцця, якой з'яўляецца абарона жыцця <...> на ўсіх яе этапах, застаецца для хрысціянаў заўсёды актуальным, тэрміновым і неабходным полем апостальскай дзейнасці і евангельскага сведчання. Таму, умілаваныя браты і сёстры, я прашу Пана, каб ён благаслявіў тых, хто дзейнічае ў рамках «Праграмы дапамогі жыццю і руху абароны жыцця» з мэтаю папярэджання абортаў нават у цяжкіх сітуацыях, адначасова падтрымліваючы канкрэтныя намаганні ў галіне выхавання і культуры, а разам з тым у актыўнай палітычнай сферы. Трэба сведчыць, што пашана да жыцця ёсць найпершай умоваю справядлівасці, якая павінна быць рэалізаваная на практыцы. Для тых, хто атрымаў дар веры, гэта служыць канкрэтным наказам, бо вучань Хрыста мусіць яшчэ ў большай ступені быць «прарокам» праўды, якой ніколі не можна будзе знішчыць: толькі Бог з'яўляецца Панам жыцця. Ён ведае і любіць, прагне кожнага чалавека. Толькі ў тым праяўляецца глыбокая і моцная еднасць роду людскога, калі кожная істота рэалізуе адзіны Божы план, кожны мае свой пачатак з адзінай творчай Божай думкі. Таму нам становяцца зразумелымі словы Бога, які кажа, што таму, хто зняважыць цела чалавека, будзе спагнана, як за знявагі Божай уласнасці (пар. Быц 9, 5)»[7].

Ёзаф Ратцынгер добра разумеў, што годнасць чалавека паходзіць ад Бога, які стварыў чалавека на свой вобраз і падабенства. Менавіта таму Божы элемент у чалавеку з'яўляецца тою моцаю, якая павінна яго скіроўваць да пашаны чалавечага жыцця, а таксама ягонай годнасці[8]. Пашана да чалавека ёсць пашанаю да прысутнага ў ім *sacrum* (святога), уласцівага чалавечай істоце. Вера ў Бога Творцу — гарант захавання чалавечай годнасці[9]. Зразуметая такім чынам годнасць не з'яўляецца грамадскаю ўмоваю, і таму набывае аб'ектыўную годнасць. Шляхам рацыянальнага пазнання гэтая ісціна можа быць прынятая кожным чалавекам, нават няверуючым.

***Pro familia* («За сям'ю»).** Адпаведнае разуменне хрысціянскага сужэнства і сям'і. «Праўда аб сужэнстве і сям'і трывае ў прыродзе самога

чалавека і праяўляецца ў збаўчых чынах Бога, асноўная ідэя якіх выяўлена словамі: Бог любіць свой народ»[10]. Божае Аб'яўленне з'яўляецца найважнейшаю справаю, бо ў ім гаворка ідзе пра гісторыю любові Бога да чалавека і адказ на яе чалавекам. Менавіта таму «гісторыю любові і еднасці мужчыны і жанчыны ў сужэнскім саюзе Бог мог назваць сімвалам гісторыі збаўлення»[11]. У энцыкліцы *Caritas in veritate* («Любоў у праўдзе») Бэнэдыкт XVI падкрэсліў, што сямейны ўзор любові і самаахвярнасці неабходна прыняць за ўсеагульны прыклад. У сваёй прамове на малітоўным чуванні 8 мая 2006 года на V Сусветнай сустрэчы сем'яў у Іспаніі Святы Айцец Бэнэдыкт XVI адзначыў: «Сям'я з'яўляецца прывілеяваным асяроддзем, у якім асоба вучыцца ахвяроўваць сябе і прымаць любоў ад іншых. Сям'я — гэта пасрэдніцкая інстытуцыя паміж адзінкай і грамадствам, і нішто не зможа яе цалкам замяніць. Яе асновай ёсць глыбокая міжасабовая повязь паміж мужам і жонкай, якая абапіраецца на пачуцці і ўзаемнае паразуменне»[12].

**Рэлігія.** Будучы адным з выдатных тэолагаў свайго часу, Бэнэдыкт XVI неаднойчы тлумачыў вернікам сапраўдны характар хрысціянства. Для гэтага тэолага і руплівага пастыра хрысціянства не зводзіцца да інтэлектуальных абстрактных сістэмаў і не з'яўляецца зборам напісаных догматаў і маралізатарствам. Святы Айцец трактуе хрысціянскую рэлігію як сустрэчу чалавека з Богам, як пэўную «гісторыю любові» і беспрэцэдэнтнае здарэнне[13]. Хрысціянства — гэта рэлігія Божага Логаса (Слова), вызнаўцы якога ствараюць сабою супольнасць веруючых у тое, што сусвет паўстаў дзякуючы найвышэйшаму Розуму і быў сфармаваны паводле Яго крытэрыяў і мэтаў[14].

***Veritas* («Праўда»).** Асобнае месца ў сваім навучанні Бэнэдыкт XVI прысвяціў тлумачэнню асноўнага задання і паклікання чалавека, якім ёсць пошук адвечнай праўды. Папа Бэнэдыкт нагадвае, што хрысціянін пакліканы да таго, каб палюбіць гэтую адвечную Божую праўду, якая стане для яго «крыніцай вады, якая цячэ ў жыццё вечнае» (пар. Ян 4, 14)[15]. «Усе людзі адчуваюць унутраны імпульс да праўдзівай любові: любоў і праўда ніколі цалкам не пакідаюць іх, бо з'яўляюцца пакліканнем, якое Бог запісаў у сэрца і розум кожнага чалавека. Езус Хрыстус ачышчае і вызваляе пошукі любові і праўды ад нашай людской абмежаванасці і адкрывае нам ва ўсёй паўнаце ініцыятыву любові і праект сапраўднага жыцця, падрыхтаваны для нас Богам. У Хрысце любоў у праўдзе становіцца Абліччам Яго Асобы, а для нас — пакліканнем любіць нашых братоў у праўдзе Ягонага плану, бо Ён сам ёсць Праўдай» (пар. Ян 14, 6)[16].

У кантэксце гэтых аргументаў у абарону хрысціянскіх каштоўнасцяў можна таксама адзначыць, што адной з галоўных мэтаў сучаснага чалавека мусіць стаць першынство Бога ў жыцці кожнага чалавека. Застаецца важнаю тая думка, што Бог нябачна, але дзейсным чынам прысутнічае ў жыцці людзей, дапамагае ім знаходзіць адказы на шматлікія пытанні, якія іх турбуюць. Вяртаючыся да сваіх хрысціянскіх каранёў, Еўропа не толькі не страціць сваёй аўтэнтычнасці і годнасці, але, наадварот, можа здабыць той вечны скарб, які дапаможа ёй выйсці з агульнага крызісу і адкрыць лепшыя перспектывы для жыцця. Нарэшце, калі практыка хрысціянскіх каштоўнасцяў, да якіх заклікае Касцёл, будзе гарманічна дастасаваная да жыцця, грамадства зможа разлічваць на перамогу над войнамі, тэрарызмам і рознымі крызісамі. Лепшы прыклад, які можа характарызаваць гэтую самую хрысціянскую любоў, дзякуючы якой веруючыя людзі могуць спадзявацца на перамогу над злом, мы знаходзім у Пасланні апостала Паўла да Карынцянаў: «Любоў доўгацярплівая, любоў ласкавая, не зайздросціць, любоў не пыхлівая, не ганарыцца, не бессаромная, не шукае свайго, не гневаецца, не памятае зла, не радуецца несправядлівасці, але радуецца разам з праўдай. Усё зносіць, усяму верыць, на ўсё спадзяецца, усё церпіць» (1 Кар 13, 4–8). «Любоў магчымая, і мы можам яе рэалізаваць, таму што мы створаныя паводле вобразу Бога. Жыць любоўю і такім чынам дазваляць святлу Бога ўваходзіць у свет»[17], — такая праграма Любові, да якой заклікае нас папа Бэнэдыкт XVI.

---

[1] K. Kaucha, Wiarygodność Kościoła w kontekście wyzwań współczesności europejskiej w świetle nauczania Jana Pawła II. — Lublin, 2008. — S. 165.

[2] Энцыкліка (ад лац. *encyclica* — **«акругowы ліст»**) — асноўны папскі дакумент па тых ці іншых найважнейшых сацыяльна-палітычных, рэлігійных і маральных пытаннях, адрасаваны вернікам або біскупам ці арцыбіскупам асобнай краіны (другі па важнасці пасля Апостальскай Канстытуцыі).

[3] J. Ratzinger, Raport o stanie wiary. (Перакл. уласны.) — Мазамбік, 2002. — S. 41.

[4] W. Łużyński, Państwo pomocnicze. — Lublin, 2001. — S. 23.

[5] W. Łużyński, Chrześcijańska inspiracja w życiu społecznym. Refleksje na podstawie encykliki *Caritas in veritate* // Studia Gnesnensia. Tom XXVI (2012), 187–199.

[6] Caritas in veritate, 78. Перакл. секцыі па перакладзе літургічных тэкстаў і афіцыйных дакументаў Касцёла Камісіі Божага Культу і Дысцыпліны Сакрамэнтаў пры Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі.

[7] http://www.opoka.org.pl/biblioteka/W/WP/benedykt_xvi/przemowienia/obrzycia_12052008.html.

[8] Człowiek z perspektywy religii, rodziny i szkoły (red. H. Czakowska, M. Kuciński) — Bydgoszcz, 2013. — S. 103.

[9] J. Ratzinger, Europa. Jej podwaliny dzisiaj i jutro, dz. cyt. — S. 41.

[10] Benedykt XVI / J. Ratzinger, Miłości można się nauczyć. — Warszawa, 2013. — S. 39.

[11] Тамсама.

[12] R. Kryszkowska, Benedykt XVI w Hiszpanii, http://www.przewodnik-katolicki.pl/nr/kosciol_w_swiecie/benedykt_xvi_w_hiszpanii.html.

[13] G. Górny, Wojna Benedykta, «Fronda», 2009, nr 50. — S. 21.

[14] J. Ratzinger, Europa Benedykta w kryzysie kultur, przeł. W. Dzieża, Edycja Świętego Pawła, — Częstochowa, 2005. — S. 67.

[15] D. Goso, Dr House i jego ewangelia. — Pelplin, 2011. — S. 23.

[16] Caritas in veritate, 1.

[17] Deus caritas est, 39.

Алесь Жлутка

# ПАЭТЫКА БОСКАГА

## ПАПА БЭНЭДЫКТ XV ПРА ДАНТЭ АЛІГ’ЕРЫ



Дантэ Аліг’еры. Помнік паэту ў Фларэнцыі.

Два светы, дзве эпохі… Што можа звязваць двух аддзеленых амаль шасцісотгадовай прорваю часу людзей: Паэта і Пантыфіка? Ці могуць Веда і Дух, утоеныя ў чалавечым творы, быць адкрытыя і спасцігнутыя на другім краі гэтай прорвы?

Паэт!.. Дантэ нарадзіўся ў раздзіранай усобіцамі Фларэнцыі ў сям’і дробнай шляхты ў траўні ці чэрвені 1265 года. Сям’я належала да палітычнай групоўкі гвэльфаў, якія падтрымлівалі Папу і былі ў апазіцыі да гібэлінаў, якія стаялі на баку імператара. Дзіцячая любоў Дантэ да заўчасна памерлай Бэатрычэ Портынары перарасла з часам у надзвычай узнёслае і моцнае пачуццё, якое стала рухавіком яго паэтычнага натхнення. Гэтае пачуццё спарадзіла зборнік паэзіі «Новае жыццё» («*Vita nuova*»), створаны ў 1294 г., праз чатыры гады пасля смерці Бэатрычэ. Каханая яўна ці пакрыёма прысутнічае ва ўсіх творах паэта ў «Бяседзе» («*Convivio*»), «Слове Кахання» («*Detto d’Amore*»), у «Кветцы» («*Fiore*»), «Рыфмах» («*Rime*») і найбольш у «Камедыі» («*Commedia*»), названай пазней Джавані Бакача «Боскаю» (*Divina*). Менавіта яна стала вяршыняю творчага генія Дантэ. У гэтай паэме ў трох кантыках «Пекла», «Чысцец», «Рай», з якіх яна складаецца, увасобіліся і сінтэзаваліся пачуцці і веды, здабытыя Дантэ падчас навучання і ў дыскусіях з выбітнымі філосафамі і тэолагамі. У «Камедыі» Бэатрычэ становіцца ягонаю правадыркаю па Раі. Моцна ўразіла Дантэ і выгнанне ў 1302 г. з роднай Фларэнцыі, куды ён так і не змог вярнуцца да канца свайго жыцця, якое абарвалася ў 1321 годзе. Вір гневу і абурэння сваімі непрыяцелямі, любоў і вострая туга па страчанай Бацькаўшчыне напаўняюць ягоныя творы, напісаныя ў выгнанні.

Дантэ Аліг’еры поруч з Франчэскам Петраркам лічыцца бацькам італьянскай літаратурнай мовы, бо менавіта яны адразу ж узнялі яе на вялікую вышыню і стварылі на ёй тыя шэдэўры літаратуры, што стануць недасяжнымі ўзорамі для будучых пакаленняў. Дантэ не толькі быў названы «Вялікім Паэтам», але дасягнуў вышыняў ва ўсіх навуках, асабліва ў філасофіі і тэалогіі, што адбілася ў ягонай творчасці, у той жа «Камедыі», дзе містычнае бачанне зліваецца з метафізічнымі разважаннямі.

Пантыфік!.. Суайчыннік Паэта, Джакома дэля К’еза, нарадзіўся ў Генуі ў 1854 годзе. Пасля хатняга навучання вучыўся ў семінарыі, пасля — у Каралеўскім і Грыгарыянскім універсітэце ў Рыме. Вывучаў філасофію, абараніў доктарскія дысертацыі па цывільным, а потым і кананічным праве, тэалогіі. З 1879 да 1885 г. вучыўся ў Папскай касцёльнай Акадэміі, дзе вывучаў дыпламатычную справу. Яшчэ падчас навучання і пазней, з 1882-га да 1907 г., быў заняты на папскай дыпламатычнай службе, дзе выявіў сябе здольным дыпламатам. Святарскае пасвячэнне атрымаў у 1878 годзе. У 1907 г. быў прызначаны арцыбіскупам Балоньі. Кардынальскі капялюш атрымаў вясною 1914 г., а ўжо ўвосень таго ж года быў абраны Папам, узяўшы сабе імя Бэнэдыкт XV.

Пантыфікат Бэнэдыкта XV распачаўся ў час Першай сусветнай вайны, што вымагала ад Папы неадкладных

---

**Алесь ЖЛУТКА** — кандыдат філалагічных навук (абараніў дысертацыю па лацінскай паэзіі Беларусі эпохі Асветніцтва). Нарадзіўся ў 1954 годзе ў вёсцы Заполле на Магілёўшчыне. Падрыхтаваў да выдання кнігу дакументаў і сведчанняў «Міндаў — кароль Літовіі» (Мінск, 2005). У яго перакладзе на беларускую мову друкаваліся паэзія Гарацыя, байкі Эзопа і творы анакрэотыкаў. Займаецца даследаваннем ранняй гісторыі Касцёла на Беларусі, беларускай анамастыкай.

захадаў для яе спынення і дапамогі ахвярам. У сваёй першай энцыкліцы ад 1 лістапада 1914 г. (*Ad beatissimi Apostolorum Principis cathedram*) ён звярнуўся да кіраўнікоў дзяржаваў, уцягнутых у вайну, з заклікам пакласці канец праліццю крыві і захоўваць мір. У тым жа годзе ён адкрыў бюро апекі палоннымі, а таксама інфармацыйны цэнтр пра палонных і загінулых. Была арганізаваная таксама медыцынская дапамога і харчовае забеспячэнне для палонных і насельніцтва, якое цярпела ад ваенных дзеянняў. У 1915 г. Папа выдаў распараджэнне адпраўляць у касцёлах адмысловае набажэнства да Сэрца Езуса ў інтэнцыі міру. У 1917 г. Ён даслаў ноту да ваюючых краінаў, заклікаючы да спынення вайны і міру без пераможцаў і пераможаных. Пасля заканчэння вайны ў 1920 г. выйшла энцыкліка *Pacem Dei munus*, у якой Пантыфік зноў заклікаў народы да міру і ўзаемапрабачэння. Парадаксальна, але за тое, што падчас вайны ён захоўваў нейтралітэт у адносінах да ваюючых бакоў, яны падазравалі яго ў прыхільнасці да сваіх праціўнікаў. Былі выпадкі, калі нават каталіцкія вернікі і іерархі ў некаторых еўрапейскіх краінах выступалі за працяг вайны. Папа заўсёды бараніў і падтрымліваў хрысціянаў, якія цярпелі ад уціску і пераследу па ўсім свеце. Калі ў Асманскай імперыі пачаўся крывавы пераслед хрысціянскіх вернікаў, Пантыфік усімі магчымымі захадамі намагаўся спыніць яго і дапамагчы церпячым словам і справаю праз дыпламатычныя каналы, праз харытатыўныя акцыі. Ён рашуча выступіў і супраць генацыду армянаў у Турцыі ў 1915 годзе. Але нават непрыхільныя да яго ўрады, у той жа Турцыі, не маглі не ацаніць велізарнай ролі Папы для захавання міру паміж народамі. У 1919 г. у Стамбуле (Канстанцінопалі) яшчэ пры ягоным жыцці быў пастаўлены помнік з надпісам: «Вялікаму Папу часоў сусветнай трагедыі Бэнэдыкту XV, дабрачынцу народаў без адрознення нацыянальнасцяў ці рэлігіяў, у знак павагі. Усход».

У час займання Бэнэдыктам XV Апостальскага Пасаду адбылося і шмат іншых важных падзеяў у жыцці Касцёла. Пры яго кіраванні быў апублікаваны Кодэкс Кананічнага Права. Шмат зрабіў Бэнэдыкт XV і для аднаўлення місійнай працы. У 1915 г. была створаная Кангрэгацыя семінарыяў і каталіцкіх універсітэтаў, а ў 1917 г. — Кангрэгацыя усходніх цэркваў, а таксама Арыенталістычны інстытут у Рыме. У 1921 г. быў заснаваны Каталіцкі ўніверсітэт Найсвяцейшага Сэрца Езуса ў Мілане. Вялікую ўвагу надаваў Папа абвяшчэнню Божага слова. У энцыкліцы *Humani generis redemptionem* ад 15 чэрвеня 1915 г. былі выкладзеныя тэалагічныя прынцыпы прапаведавання Божага слова. да 1 500-й гадавіны смерці св. Гераніма ў энцыкліцы *Spiritus Paraclitus* Папа заявіў пра боганатхнёнасць Святога Пісання і заклікаў вернікаў да яго чытання і вывучэння. У 1920 г. адбылася кананізацыя Жанны д'Арк. І ў тым жа годзе быў абвешчаны доктарам Касцёла Эфрэм Сірыйскі. Такія галоўныя моманты дзейнасці гэтага вялікага Папы, жыццё якога спынілася 22 студзеня 1922 года...


Помнік Бэнэдыкту XV у Стамбуле.

Ён непасрэдна і жыва адгукаўся на ўсе важныя падзеі свайго часу. Безумоўна, яму была добра вядомая і творчасць Дантэ, які сягнуў да глыбіняў Боскага ў паэзіі, і асабліва ў сваёй несмяротнай «Камедыі». У энцыкліцы *In praeclara summorum*, звяртаючыся да выкладчыкаў і студэнтаў літаратуразнаўства і гуманітарных дысцыплінаў з нагоды шасцісотай гадавіны з дня смерці Дантэ, Папа разважае над сутнасцю творчасці Паэта, над асноваю і рухаючай сілаю яго галоўнага твора, яго ролі ў пазнанні праўдаў веры. Ён указвае на велізарнае значэнне не толькі для Італіі, але і для ўсяго свету творчасці Дантэ, які сваім талентам паслужыў грамадству і Касцёлу, з якім быў непарыўна знітаваны. У энцыкліцы паказваецца, што паэзія Дантэ мае свой выток у хрысціянскай мудрасці і прасякнутая глыбокаю вераю. Гэта найбольш выявілася ў «Камедыі», якая з'яўляецца ядром і вяршыняю творчага даробку Дантэ. Падмуркам і каркасам усёй структуры паэмы стала хрысціянскае вучэнне, якое матывавала таксама ідэю, мэту і сюжэт твора. Паэт разам з чытачом праходзіць тры станы бытавання, што адпавядае догматам каталіцкай веры пра тры сферы, куды перасяляюцца душы пасля цялеснай смерці: Пекла, Чысцец, Рай. У паэме ўвасоблены ўвесь жыццёвы досвед Дантэ, здабытыя з розных галінаў навукі веды, ідэі схаластычнай філасофіі і тэалогіі, палітычныя перакананні; зямное жыццё трансфармуецца ў адпаведнасці з задумай творцы і атрымлівае працяг у вымярэнні вечнасці, дзе яно здабывае сваю ўзнагароду ці пакаранне. Паэтыка ўсёй творчасці Дантэ і яго «Камедыі» з яе шматстайнай і разгалінаванай структурай грунтуецца на спазнанні Боскага, дакладней, на тым узроўні спасціжэння Боскага, якога можа дасягнуць чалавек праз інтэлект і веру.

Папа спыняецца таксама на павучаннях у творах Дантэ, у якіх паэт заклікае шанаваць Святое Пісанне і верыць у праўды, у ім змешчаныя, паважаць рашэнні Сабораў, дактароў і айцоў Касцёла. Творчасць паэта нясе не толькі эстэтычную асалоду, але і карысць для духоўнага ўзрастання. Таму творы Дантэ, асабліва яго «Боская камедыя», павінны вывучацца ва ўсіх навучальных установах, але з усведамленнем іх рэлігійнай, хрысціянскай сутнасці. На жаль, афіцыйная сістэма адукацыі, з якой праганяецца ўсялякая ідэя Боскага, надпрыроднага, не дае належнай падрыхтоўкі для такога ўспрыняцця творчасці Дантэ.

У сваёй энцыкліцы Бэнэдыкт XV пранікае ў самую сутнасць «Боскай камедыі» Дантэ і ўсёй ягонай творчасці, падкрэсливае яе вытокі з хрысціянскай, Божай мудрасці, а падмурак — з веры. Дзякуючы гэтаму спасціжэнню ў Духу схаваныя за алегорыямі і містычнымі вобразамі паэмы сэнсы становяцца больш зразумелымі, аднаўляюць сваё жыццё, прытлумленае бегам стагоддзяў, і пачынаюць адкрывацца, гаварыць з намі сваёю сапраўднаю моваю, моваю Вялікага Паэта, якога праз прорву часу пачуў і зразумеў Вялікі Папа — Бэнэдыкт XV .



ЭНЦЫКЛІКА
ПАПЫ БЭНЭДЫКТА XV

# IN PRAECLARA SUMMORUM

## ДА ЎМІЛАВАНЫХ СЫНОЎ ВЫКЛАДЧЫКАЎ І СТУДЭНТАЎ ЛІТАРАТУРЫ І ГУМАНІТАРНЫХ ДЫСЦЫПЛІНАЎ КАТАЛІЦКАГА СВЕТУ Ў ШАСЦІСОТУЮ ГАДАВІНУ СМЕРЦІ ДАНТЭ АЛІГ'ЕРЫ.

*Умілаваным сынам збаўленне і апостальскае благаслаўленне.*

У шэрагу выдатных асобаў, якія сваім бляскам і славаю асвятлілі і ўзвысілі каталіцкую веру ў розных галінах, але асабліва ў літаратуры і гуманістыцы, прынёсшы несмяротныя плады свайго таленту ды паслужыўшы на дабро грамадству і Касцёлу, безумоўна, асаблівае месца займае Дантэ Аліг'еры, ад смерці якога неўзабаве споўніцца шэсць стагоддзяў. Магчыма, ніколі яшчэ, як сёння, не ўшаноўвалася гэтак шырока незвычайная веліч гэтага чалавека, бо не толькі Італія, якая справядліва ганарыцца такім сынам, але таксама ўсе цывілізаваныя народы, стварыўшы адмысловыя камітэты з дасведчаных людзей, з радасцю рыхтуюцца адзначыць гадавіну ягонай памяці, каб гэты велічны геній, хвала і слава чалавецтва, быў уганараваны ва ўсім свеце.

І Мы не можам не ўліць свой голас у гэты цудоўны хор людзей добрай волі, але, больш за тое, Мы павінны весці ў ім галоўную партыю, бо найперш і найбольш Касцёлу, які быў яму маці, належыць называць Аліг'еры сваім. Вось жа, як на пачатку Нашага Пантыфікату, скіраваўшы ліст да арцыбіскупа Равэны, Мы сталі ініцыятарамі рэстаўрацыі храма, пры якім пахаваныя парэшткі Аліг'еры, гэтак і сёння, нібы распачынаючы юбілейныя шасцісотгадовыя ўрачыстасці, Нам падаецца неабходным, умілаваныя сыны, звярнуцца са сваім словам да ўсіх вас, якія займаецеся літаратураю і гуманітарнымі дысцыплінамі пад мацярынскай апекаю Касцёла, каб яшчэ больш поўна выявіць сутнасную еднасць Дантэ з Катэдраю Пятра і паказаць, што хвала, якой аточанае гэтае вялікае імя, не ў малой меры павінна быць аддадзеная каталіцкай рэлігіі. І перш за ўсё таму, што наш Паэт усё сваё жыццё быў узорным вызнаўцам нашай веры, здаецца, будзе супадаць з ягонымі жаданнямі, каб гэтае ўрачыстае памінанне, якое неўзабаве адбудзецца, святкавалася пад эгідай рэлігіі, і калі яно будзе завяршацца ў Сан-Франчэска ў Равэне, то няхай распачнецца ў Сан-Джавані ў Фларэнцыі, у тым найпрыгажэйшым храме, які ён у апошнія гады свайго жыцця узгадваў з востраю тугою, жадаючы і мроячы быць увенчаным паэтычным лаўрам каля той збавеннай купелі, у якой немаўлём прыняў хрост.

Народжаны ў эпоху, калі дасягнулі росквіту тэалагічныя і філасофскія навукі дзякуючы вучоным схаластыкам, якія збіралі найлепшыя творы старажытных аўтараў і, адаптаваўшы згодна са сваім метадам, перадавалі іх нашчадкам, Дантэ, сярод вялікай разнастайнасці вучэнняў, абраў сваім настаўнікам бацьку схаластыкі Тамаша Аквінскага і з ягонай анёльскай думкі зачарпнуў амаль усе свае філасофскія і тэалагічныя веды, хоць не пагарджаў ніводнаю галіною чалавечага пазнання ды рупліва вывучаў Святое Пісанне і творы Айцоў. Дасведчаны амаль ва ўсіх навуках, ён найбольш жывіўся з крыніцы хрысціянскай мудрасці, і калі пачаў пісаць, менавіта са свету рэлігіі ўзяў тэмы неабсяжнай шырыні і глыбіні, каб укласці іх у вершы.

У кожным выпадку можна дзівіцца неверагоднай велічы і моцы яго генію, але таксама трэба прызнаць, што вельмі моцны штуршок ягонаму натхнен-

ню дала вера ў Бога, і таму яго несмяротная паэма напоўненая шматстайным святлом праўдаў, атрыманых ад Бога, не менш чым бляскам паэтычнага мастацтва. І сапраўды, уся ягоная «Камедыя» справядліва названая «Боскаю», бо ў розных сімвалічных вобразах і ў згадках жыцця смяротных на зямлі скіраваная насамрэч на тое, каб уславіць справядлівасць і Провід Бога, які кіруе светам у часе і ў вечнасці, узнагароджвае і карае людзей, і паасобна і ў супольнасцях, паводле іх заслугаў ці правінаў. У гэтай паэме, згодна з Божым адкрыццём, выяўляецца веліч Адзінага ў Тройцы Бога, Адкупленне чалавецтва Божым словам, якое сталася целам, найвялікшая дабрыня і спагада Дзевы і Маці Марыі, Каралевы Неба, звышняя слава святых, анёлаў і людзей. Гэтаму месцу супрацьпастаўлена пекла, дзе адбываюць пакаранні грэшнікі. А паміж абодвума месцамі змешчана сяліба душаў, якім у свой час, пасля ачышчэння ад грахоў, будзе адчыненая брама неба. Гэтыя і іншыя каталіцкія догматы выкладзеныя ў паэме надзвычай мудра і суладна. І калі поступ астранамічных даследаванняў паказаў, што старая канцэпцыя свету не мае падставаў, што тыя сферы, якія ўяўлялі старажытныя, не існуюць, і што прырода ды бег зорак і планетаў цалкам адрозныя ад меркаваных тады, то гэта не касуе той фундаментальны прынцып, што гэты сусвет, у якім бы парадку ні ўладкоўваліся яго часткі, кіруецца воляю ўсемагутнага Бога, якім яны створаныя, які ўсё рухае і чыя слава больш ці менш праяўляецца ва ўсім. Гэтая ж зямля, якую мы насяляем, хоць і не з’яўляецца цэнтрам сусвету, як некалі лічылі, была месцам шчаслівага жыцця нашых прабацькоў, а затым сведкам іх ганебнага падзення, якое азначала страту гэтага стану шчасця, што быў адноўлены крывёю Езуса Хрыста, які здабыў для людзей вечнае збаўленне.

Вось чаму Дантэ, які адтварыў у сваім уласным уяўленні тры станы душаў, паказаўшы, што чакае іх перад Апошнім Судом — асуджэнне грэшных, адкупленне пабожных і шчасце благаслаўлёных — мусіў атрымаць натхненне ад святла веры. Сапраўды, Мы думаем, што настаўленні, пакінутыя Дантэ ва ўсіх ягоных творах, але асабліва ў трохчасткавай паэме, могуць быць добрым праваднікам для людзей нашага часу. Перш за ўсё хрысціяне павінны мець найвышэйшую павагу да Святога Пісання і з поўнаю паслухмянасцю прымаць усё, што ў ім змяшчаецца. «*Хоць пісцоў Божага слова было шмат, але дыктаваў ім адзін — Бог, які пажадаў выявіць сваю волю праз пасрэдніцтва многіх пісцоў*»[1]. Сказана прыгожа і цалкам слушна! Гэтаксама, як і наступнае: «*Стары і Новы Запавет дадзеныя навечна, як кажа Прарок*», і змяшчаюць «*павучэнні, якія пераўзыходзяць чалавечы розум*», і якія ўдзеленыя «*Святым Духам, які праз прарокаў і Святапісцаў, праз сувечнага сабе Сына Божага Езуса Хрыста і Ягоных вучняў адкрыў нам надпрыродную, неабходную для нас, праўду*»[2]. Таму цалкам слушна Дантэ кажа, што ад гэтай вечнасці, якая надыйдзе пасля смяротнага жыцця, «*мы маем пэўнасць, што вынікае з беспамылковага вучэння Хрыста, якое ёсць Дарогаю, Праўдаю і Святлом: Дарогаю, бо ёю мы бесперашкодна прыходзім да вечнага шчасця; Праўдаю, бо яно беспамылковае; Святлом, бо яно свеціць нам у цемры няведання гэтага свету*»[3]. Не з меншаю павагаю ён ставіцца і да тых шаноўных Сабораў, у якіх браў удзел, як, не сумняваючыся, вераць усе вернікі, сам Хрыстус. Апрача гэтага, у вялікай пашане ў Дантэ былі «*творы дактароў: Аўгустына і іншых*». Пра іх ён кажа: «*Хто сумняваецца, што ім дапамагаў Дух Святы, ці ўвогуле не бачыў іх пладоў, альбо, калі бачыў, не скаштаваў*»[4].

І сапраўды, Аліг’еры меў выключную павагу да аўтарытэту Каталіцкага Касцёла і да ўлады Рымскага Пантыфіка, так што, на яго думку, мелі сілу ўсе законы і інстытуцыі Касцёла, якія былі ім устаноўленыя. Таму ён пераконвае хрысціянаў у тым, што калі ў іх ёсць і абодва Запаветы, і таксама Пастыр Касцёла, які іх вядзе, то яны павінны быць задаволенымі, маючы такія сродкі для збаўлення. І таму, перажываючы ўсе беды Касцёла як свае, аплакваючы і ганячы ўсялякую непакору хрысціянаў Найвышэйшаму Пантыфіку пасля перанясення Апостальскага Пасаду з Рыма [у Авіньён], ён піша італьянскім кардыналам: «*Мы, якія вызнаем таго ж самага Айца і Сына: таго ж самага Бога і чалавека, тую ж самую Маці і Дзеву; мы, для якіх і для збаўлення якіх было сказана таму, хто быў тройчы запытаны пра любоў: „Пётр, пасі святы статак”; мы, якія з Рыма (у якім пасля стольκіх перамогаў і трыумфаў Хрыстус словам і справаю сцвердзіў сваю ўладу над светам, і ў якім Пётр і Павел, Апостал паганцаў, асвяцілі сваёю крывёю Апостальскі Пасад), змушаныя разам з Ераміем, галосячы не па будучых, а па цяперашніх пакаленнях, горка аплакваць Вечны горад, удаўца і пакінутага; мы сумуем, калі бачым яго такім гаротным, не менш, чым тады, калі бачым ганебную язву ерасі*»[5]. Ён называе Рымскі Касцёл «*міласцівай Маці*» альбо «*Заручаніцай Укрыжаванага*», а Пятра — непагрэшным арбітрам адкрытай Богам праўды, якому належыць безумоўна падпарадкоўвацца ў пытаннях веры і жыцця дзеля вечнага збаўлення. Вось чаму, хоць ён і лічыць, што годнасць Імператара паходзіць ад Бога, аднак «*гэтая праўда*, кажа ён, *не павінна разумецца ў такім сэнсе, што Рымскі Імператар не падпарадкоўваецца ў нечым Рымскаму Пантыфіку, бо зямное шчасце пэўным чынам падпарадкаванае шчасцю вечнаму*»[6]. Гэта сапраўды найлепшы і мудры прынцып,

які пры яго верным захаванні і сёння прынёс бы багаты плён для росквіту краінаў.

Але трэба таксама сказаць, што ён са зневажальнаю бязлітаснасцю абрушваўся на Найвышэйшых Пантыфікаў свайго часу. Менавіта на тых, з якімі не пагаджаўся ў палітычных пытаннях, і на тых, хто, як ён лічыў, належаў да групоўкі, якая выгнала яго з дому і з радзімы. Аднак няхай будзе даравана чалавеку, якога так біла хвалямі лёсу, калі з ягонай зраненай душы вырвалася штосьці такое, што, здаецца, перайшло меру, тым больш што для распальвання яго гневу прычыніліся, без сумневу, як гэта звычайна бывае, хлуслівыя пагаласкі пра гэтых людзей, пашыраныя іх палітычнымі праціўнікамі, якія заўсёды схільныя бачыць усё ў горшым святле. Зрэшты, паколькі смяротным людзям уласцівая слабасць, «*то нават і пабожныя сэрцы забруджваюцца пылам свету*»[7], і хто будзе адмаўляць, што ў той час людзі духоўнага стану мелі вады, якія наўрад ці можна ўхваляць і якія яго душу, нагэтулькі адданую Касцёлу, напоўнілі такою горыччу і абурэннем, што нават на людзей, вядомых, як мы ведаем, святасцю жыцця, ён абрушыў цяжкія папрокі? І ўсё ж, нават калі слушна ці няслушна ён абураўся і асуджаў касцёльных служыцеляў, аднак ніколі не было ў яго жадання неяк прыменшыць належную павагу да Касцёла і пашану да Найвышэйшых Ключоў. У палітычных творах ён імкнуўся абараняць сваё ўласнае меркаванне «*з той пашанаю, якую добры сын павінен мець да бацькі, добры да маці, добры да Хрыста, добры да Касцёла, добры да Пастыра, добры да ўсіх вызнаўцаў хрысціянскай веры дзеля захавання праўды*»[8].

Таму, калі ўвесь гмах яго паэмы заснаваны на рэлігійным падмурку, не дзіўна, што ў ёй схаваны сапраўдны скарб каталіцкага вучэння, а менавіта найлепшы плён хрысціянскай філасофіі і тэалогіі, а таксама сума Божых законаў, якіх належыць трымацца пры ўладкаванні і кіраванні дзяржавамі. Аліг'еры не быў тым чалавекам, які дзеля ўзвелічэння бацькаўшчыны альбо дагаджаючы зверхнікам, мог бы сцвярджаць, што дзяржава можа пагарджаць справядлівасцю і Божым правам, бо ён добра ведаў, што іх захаванне з'яўляецца надзейнаю асноваю і цвярдыняю дзяржаваў. Твор Паэта прыносіць невымоўную асалоду, але зацікаўлены знойдзе ў ім і не меншую карысць для дасканалення свайго мастацкага густу і для ўзрастання ў цнотах, пры ўмове, што будзе вольны ў душы ад перадузятых меркаванняў і імкнуцца да праўды. Мы маем нямала добрых каталіцкіх паэтаў, якія здабылі агульнае прызнанне, спалучаючы карыснае з прыемным, гэта ёсць і ў Дантэ, які, зачароўваючы чытача разнастайнасцю вобразаў, прыгажосцю колераў, грандыёзнасцю думкі і слова, абуджае ў ім любоў да хрысціянскай мудрасці, і ўсе ведаюць, як ён адкрыта абвяшчае, што стварыў сваю паэму, каб прыгатаваць для ўсіх жыццядайны пасілак. Сапраўды, мы ведаем, што некаторыя людзі, таксама і ў наш час, аддаленыя, але не адвернутыя ад Хрыста, чытаючы і з любоўю вывучаючы «Боскую камедыю», з Божай ласкі пачыналі прымаць праўды каталіцкай веры, а пасля ахвотна ўвайшлі ва ўлонне Касцёла.

Усё, што дагэтуль было ўзгаданае, будзе дастатковым, каб паказаць, наколькі важна з нагоды гэтых вячыстых угодкаў кожнаму ва ўсім каталіцкім свеце стаць яшчэ больш руплівым у захаванні і памнажэнні веры, гэтай апякункі культуры і мастацтваў, што як нідзе больш выявілася ў Аліг'еры. Сапраўды, у ім выклікаюць подзіў не толькі найвялікшыя здольнасці і талент, але таксама незвычайная шырыня і глыбіня зместу, які ўнесла ў яго паэму вера ў Бога. І хоць ён ад прыроды меў вялікі талент, які шліфаваў, вывучаючы доўгі час шэдэўры антычных аўтараў, але яшчэ больш паглыбіў яго, спасцігаючы, як мы ўжо казалі, творы дактароў і айцоў Касцёла, што дазволіла яму сягаць сваёй душою і думкаю нашмат шырэй і вышэй за абмежаваныя далягляды, вызначаныя прыродай. Таму ён, хоць і аддзелены ад нас такім вялікім прамежкам стагоддзяў, нібы належыць да нашага часу, і сапраўды шмат сучаснейшы за некаторых цяперашніх вешчуноў, што апяваюць старую грахоўнасць, якую Хрыстус зруйнаваў на крыжы, выбавіўшы ад яе чалавецтва. Як і ў нас, у Аліг'еры жыве тая ж самая пабожнасць, яго вера выяўляецца ў тых жа пачуццях, у тыя ж шаты апранаецца «*спасланая нам з неба праўда, якою мы так высока ўзнесеныя*». У гэтым яго найбольшая слава: быць хрысціянскім паэтам і апяваць з дзівоснай чуласцю і Боскім натхненнем хрысціянскія ідэалы, прыгажосць і веліч якіх ён успрымаў усёю сваёю душою і жыў імі. Таму тыя, хто адмаўляе Дантэ ў гэтай славе і зводзіць усю рэлігійную сутнасць «Боскай камедыі» да нейкай туманнай ідэалогіі, тым самым адмаўляюць тое, што з'яўляецца падмуркам і сутнасцю славы Паэта. Вось жа, Дантэ абавязаны каталіцкай веры такой вялікай часткаю славы і велічы, ужо не кажучы пра іншае, каб сцвердзіць усю беспадстаўнасць меркавання, што падпарадкаванне розуму і душы Богу замінае развіццю таленту, бо насамрэч яно ажыўляе і ўзвышае яго. І наколькі кепска ўплываюць на поступ культуры і цывілізацыі тыя, хто хочуць пазбавіць асвету ўсялякай ідэі рэлігіі. Шкада, бо жалю вартая тая афіцыйная сістэма адукацыі, у якой моладзь выхоўваецца так, нібы Бога няма, і нават без усялякай думкі пра надпрыродныя рэчы. Бо хоць дзе-нідзе ў публічных школах «святая паэма» не з'яўляецца

чужою і нават змяшчаецца ў пераліку кнігаў, якія павінны вывучацца больш глыбока, але звычайна гэта не дае маладым людзям таго жыццядайнага пасілку, які яна павінна прыносіць. Пры агульнай заганнай скіраванасці навучання, яны аказваюцца непадрыхтаванымі, як было б патрэбна, да ўспрыняцця праўдаў веры. Вельмі хацелася б, каб гэтыя ўрачыстыя вячыстыя ўгодкі паспрыялі таму, каб Дантэ быў у належнай пашане і з'яўляўся для навучэнцаў настаўнікам хрысціянскага вучэння, паколькі, складаючы сваю паэму, ён не меў іншай мэты, як «*вызваліць людзей з гаротнага стану*», гэта значыць з грахоў, і «*прывесці да стану шчасця*», гэта значыць Божай ласкі[9]. Вы ж, умілаваныя сыны, якім выпаў лёс займацца літаратураю і прыгожымі мастацтвамі пад эгідаю Касцёла, любіце і шануйце, як і робіце, гэтага Паэта, якога мы, безумоўна, можам назваць прапаведнікам і найкрасамоўнейшым вешчуном хрысціянскай мудрасці.

Бо чым больш вы з любоўю паглыбіцеся ў яго, тым ярчэй заззяе святло праўды ў вашых душах і вы больш трывала ўмацуецеся ў паслухмянасці і адданасці святой веры.

Як прадвесце Божых ласкаў і сведчанне Нашай бацькоўскай прыхільнасці, з вялікай любоўю удзяляем усім вам, дарагія сыны, апостальскае благаслаўленне.

Дадзена ў Рыме, у святога Пятра, 30 красавіка 1921 г., у сёмы год Нашага Пантыфікату.

Бэнэдыкт XV, Папа.

1 Dante Alighieri. De monarchia. III, 4.
2 Ibidem. III, 3, 16.
3 Dante Alighieri. Convivio. II, 9.
4 De monarchia. III, 3.
5 Dante Alighieri. Epistolae. VIII.
6 De monarchia. III, 16.
7 Sermo IV de Quadragesima // Sancti Leonis Magni Romani pontificis Opera omnia. Venetiis, 1741. P. 37-39.
8 De monarchia. III, 3.
9 Epistolae. X, 15.



# Джавані Папіні і Дантэ

Здаецца, няма патрэбы тлумачыць шырокай публіцы значэнне творчасці Дантэ Аліг'еры, аднак новыя пакаленні зноў і зноў адкрываюць яго для сябе, імкнуцца спасцігаць таямніцы дантаўскага свету і вытокі яго філасофіі, часам адмаўляючы ці, прынамсі, моцна крытыкуючы набыткі як папярэднікаў, так і сучаснікаў.

Так адбылося і з вядомым італьянскім мысляром і пісьменнікам Джавані Папіні, супярэчлівым у сваіх літаратурных, палітычных і рэлігійных пошуках, за якімі, тым не менш, стаіць імкненне спасцігаць ісціну.

Яго жыццёвы шлях пачаўся ў родным горадзе Дантэ — Фларэнцыі — у 1881 г. у сям'і гандляра мэбляй, былога гарыбальдзійца, які ў дадатак быў яшчэ і атэістам, так што маці хрысціла сына ўпотай. Ужо ў юным узросце ён пачаў займацца літаратурнай і культурнай дзейнасцю, разам з сябрамі-літаратарамі ў 1903 г. заснаваў часопіс «Леанарда» (існаваў да 1907 г.), які арыентаваўся на Ніцшэ і Штэйнера, і меў на мэце руйнаванне італьянскай акадэмічнай культуры, адначасова супрацоўнічаў з іншымі выданнямі, у тым ліку нацыяналістычнай скіраванасці. Папіні выступіў і як аўтар літаратурных твораў — метафізічных апавяданняў «Трагічная штодзённасць» (1903) і «Сляпы пілот» (1907).

Заўзяты праціўнік шлюбу ў ранняй маладосці, у 1907 г. ён жэніцца з Джачынтай Джаваньёлі і неўзабаве становіцца бацькам дзвюх дачок. У тым жа годзе Дж. Папіні апублікаваў сваю першую філасофскую кнігу «Змярканне філосафаў», у якой ён выступае супраць поглядаў такіх знакавых асобаў сучаснай культуры як Кант, Гегель, Шапенгаўэр, Спенсер, Ніцшэ і абвяшчае мёртвай усю філасофію ў імя віталістычнага ірацыяналізму.

Пазней Дж. Папіні засноўвае часопісы «Аніма» і «Лачэрба». Апошні, дзякуючы супрацоўніцтву з Альда Палацэскі[1], робіцца выказнікам італьянскага футурызму — свае разважанні пра гэтую плынь мастацтва Дж. Папіні выклаў у кнізе «Вопыт футурыста» (1919). У гэты ж перыяд ён піша кнігу «Знішчэнні» (1916), у якой адмаўляецца ад класічных твораў («Фаўста» Гётэ, «Гамлета» Шэкспіра, «Дэкамерона» Бакача і іншых) дзеля авангардыстаў. Адначасова піша і творы іншага кшталту: паэтычную прозу «Сто старонак паэзіі» (1915) і кнігу вершаў «Першы твор» (1917), скіраваныя да ўзнёслага, лірычнага, містычнага. Такога ж плану і самы вядомы твор Джавані Папіні — аўтабіяграфічная кніга «Кончаны чалавек» (1913), экзістэнцыйны дзённік, у якім аўтар ставіць пытанні пошуку ісціны, у тым ліку і рэлігійнай.

Раннія творы Дж. Папіні былі прасякнутыя атэістычным і антыклерыкальным духам, аднак у пачатку 20-х гг. ён прыходзіць да каталіцызму: у 1921 г. абвяшчае пра сваё навяртанне і публікуе «Гісторыю Хрыста» (1922) і «Святога Аўгустына» (1928).

Сярод гісторыка-біяграфічных прац Папіні найбольш вядомыя «Жывы Дантэ» (1933) і «Жыццё Мікеланджэла на фоне жыцця яго часу» (1949).

У гады фашызму Джавані Папіні

становіцца ў пэўным сэнсе афіцыйным пісьменнікам, абіраецца на розныя акадэмічныя пасады. Тым не менш, ён заўсёды выступаў супраць расавых законаў. У 1942 г. на з'ездзе Еўрапейскага саюза пісьменнікаў у Веймары ён выступіў з прамовай аб цывілізацыйнай ролі каталіцызму, што выклікала незадавальненне нацыстаў. У 1943–1944 гг. пад імем брата Бонавэнтуры Дж. Папіні жыў у кляштары францішканаў на гары Верна як тэрцыярый.

Апошнія гады жыцця Джавані Папіні былі асабліва цяжкімі. Вызваленая ад фашызму Італія не магла дараваць яму кампрамісы з рэжымам, а маладыя пісьменнікі абвінавачвалі ў здрадзе ідэалам юнацтва. Між тым, да апошняга дня Дж. Папіні працаваў над тэкстам «Страшны суд», пачатым яшчэ ў 1903 г., які так і застаўся няскончаным; спаралізаваны і сляпы, ён дыктаваў «Д'ябла» (1953) і «Аскепкі» свайму сакратару. Памёр 8 ліпеня 1956 года ў Фларэнцыі.

Цікавасць Дж. Папіні да Дантэ ўзнікла яшчэ ў маладосці. У артыкуле «За Дантэ супраць „дантыстаў“», апублікаваным у 1905 г., ён крытыкуе навукоўцаў (не заўсёды і не ўсіх аб'ектыўна), бо, на яго думку, яны імкнуліся абмежавацца павярхоўным вывучэннем славутага твора, не прыкладаючы намаганняў узняцца да «велічнай душы» вялікага паэта. Тэкст, звернуты да інтэлектуальнага грамадства, мае цікавасць і для шырокага чытача. Гэтую ж тэму Дж. Папіні закранае і ў артыкуле «Наперад, „дантысты“!», надрукаваным у 1921 г. да гадавіны смерці паэта. У кнізе «Жывы Дантэ», якая складаецца з пяці частак, Дж. Папіні стварае вобраз не толькі пісьменніка, але найперш чалавека. Многія меркаванні Дж. Папіні пра аўтара «Боскай камедыі» і яго твор застаюцца спрэчнымі, аднак яго заклік не бачыць за дакладнасцю навуковага даследавання жывую душу твора і яго хрысціянскі змест актуальны для сучасных чытачоў «Боскай камедыі» і прыхільнікаў творчасці Дантэ. Прапануем чытачам «Нашай веры» нашумелы ў свой час артыкул Дж. Папіні.

## Джавані Папіні

# ЗА ДАНТЭ СУПРАЦЬ «ДАНТЫСТАЎ»

Некаторыя хваласпеўцы сябе саміх і сучаснай Італіі вынайшлі наступны «закон»: калі Італія была вялікай, Дантэ вывучаўся шмат. Непазбежная выснова: у наш час шмат займаюцца Дантэ, значыць наш час — вялікі, а мы, тыя, хто займаецца Дантэ, удзельнічаем у гэтай велічы. Такое разважанне нашых дантыстаў вельмі суцяшальнае для іх і для Італіі, аднак адразу бачна, што яно пабудавана на двухсэнсоўным слове: вывучэнне. Паспрабуем раз і назаўсёды пазбавіцца ад гэтай двухсэнсоўнасці, не зважаючы на тое, наколькі прыемнай і прадуктыўнай яна можа быць.

Калі б пад вывучэннем Дантэ мелася на ўвазе зразумець, адчуць, пражыць «Боскую камедыю»; калі б гэта азначала далучыцца да велічнай душы Аліг'еры і, я б сказаў, прыпадабняцца яму, як хрысціяне прыпадабняюцца Хрысту; калі б гэта насамрэч азначала адчуваць тое, што ёсць тытанічным і звышчалавечым у канцэпцыі гэтага чалавека пяра, гэтага фларэнційскага прыёра, які раптоўна зрабіўся суддзёй усіх часоў і стваральнікам іншага свету, тады б я зразумеў, чаму лічыцца велічным народ, здольны нарадзіць падобных знаўцаў, якія б паказалі, што валодаюць па меншай меры водбліскам агромністага дантаўскага генія. Але калі мы паглядзім вакол і ўбачым тое, што маецца на ўвазе пад вывучэннем Дантэ, калі мы заглыбімся на нейкі час у лес бібліяграфій, тлумачэнняў, параўнанняў, спасылак, адкрыццяў, каментараў, загадак, якія «дантысты» ўзгадвалі вакол надзвычайнай паэмы; калі пранікнем хоць крыху ў матывы, генезіс, мэты і вынікі гэтай філалагічнай і гістарычнай палкасці, калі заўважым ва ўсіх зусім не дантаўскі[2], а ўсяго толькі дантысцкі або дантаманіякальны менталітэт, тады мы будзем вымушаны ўсміхнуцца ліслівцам і тым, каму ліслівяць.

Аднак трэба мець смеласць, каб раней ці пазней абвясціць, што сённяшняя Італія не можа зразумець «Боскую камедыю». І не таму, што не хапае розумаў, а таму што не хапае розумаў дантаўскага тыпу, і таму, што духоўная атмасфера нашага часу занадта адрозніваецца ад трынаццатага стагоддзя. Дантэ ўжо ў свой час меў нетыповую італьянскую душу. Яго сумны гонар, яго велічная вера, грандыёзнасць яго светапогляду і асабліва яго сур'ёзнасць нагадваюць хутчэй нешта этрускае ці германскае, чым лацінскае. Дантэ не быў практычным чалавекам: ён быў чалавекам поглядаў, і поглядаў у першую чаргу этычных і містычных, а значыць рэлігійных. Дастаткова параўнаць яго з той лініяй італьянскай літаратуры, што наследавала язычнікаў, — Петраркам, Бакачыа, Арыёста, — каб адразу заўважыць кантраст паміж яго змрочнай, суворай, веруючай душой і душою зусім іншай — радаснай, лёгкай і крыху скептычнай, што задала тон Італіі аж да нашых часоў. Дынастыя дантаўскага духу аказалася карацейшай: толькі Мікеланджэла змог стаць упоравень з Дантэ,

намаляваўшы ў Сікстынскай капэле адзіную ілюстрацыю, вартую «Боскай камедыі».

У не вельмі даўнія часы нешта падобнае да дантаўскай традыцыі прамільгнула ў змрочнасці Фоскала і ў якабінскай ярасці Кардучы, аднак не з'явіўся чалавек, якога можна было б назваць прадаўжальнікам, калі не роўняй, гэтых двух найвышэйшых фармавальшчыкаў мастацтва і нашых розумаў. Душа сучаснай Італіі — хутчэй практычная і нерэлігійная, асцярожная і легкаважная, прыхільніца вытанчаных мелодый, прыстойных глупстваў, элегантных жартаў, хуткіх заробкаў і пэўнай кланавасці. Хрысціянства не з'яўляецца больш вялікай жывой сілай, аднак няма і нейкай антыхрысціянскай веры, каб стварыць хоць у якасці артэфакта штонебудзь лепшае за «Гімн Сатане»[3]. Італьянская душа жыве кампрамісамі і палавіннымі пачуццямі. Да тых, хто застаецца сам па сабе і мае смеласць асудзіць горкімі словамі, як зрабіў Дантэ, сваіх папярэднікаў і сучаснікаў, ставяцца з падазрэннем і падазраюць у подласці. Свяшчэнная кніга сучаснай Італіі — не Біблія, не «Боская камедыя», а «Галатэо»[4], мастацтва рабіць мярзотнасці так, каб ніхто іх не заўважыў. Як жа можна хацець, каб падобны народ мог узняцца да ўзроўню Дантэ? Можна рабіць поўныя сафізмаў і цытатаў каментары, праводзіць канферэнцыі, здольныя прыцягнуць увагу высакародных дамаў, выдаваць часопісы глупстваў і рэбусаў, карысныя слоўнікі, крытычныя выданні, бібліяграфічныя падручнікі; можна нават смакаваць стрыманую прыгажосць пэўных вядомых тэрцынаў, але застацца гэтаксама далёка ад таго свету вернікаў і святых, што атрымаў свой голас у суровай паэзіі фларэнційскага візіянера.



Бюст Дантэ Аліг'еры на фасадзе дома-музея Дантэ ў Фларэнцыі.

Для таго, каб трапіць туды, неабходна мець смелую і сур'ёзную душу, варагіню паўмераў і рэверансаў, а галоўнае — душу хрысціянскую. Неабходна набыць духоўную моц, ненавідзець многія рэчы, якія сёння любяць, не губляць час на вытанчаныя спрэчкі і кабалістычныя тлумачэнні. Нашыя «дантысты», ад першага да апошняга, няздольныя да такіх узыходжанняў. Іх любоў да Дантэ не выходзіць за межы ўласных схемаў. Сярод найноўшых толькі Карлейль, Дэ Санкціс і Кардучы змаглі напісаць колькі вартых згадкі старонак пра Дантэ. Усе нашы вядомыя «дантысты»: Дэль Лунга[5], Скартацыні, Тарака, Казіні, Пародзі, Дзынгарэлі, Д'Авідыё практыкуюцца ў гісторыі, эрудыцыі, бібліяграфіі, герменеўтыцы, філалогіі, казуістыцы, мастацтве складання загадак і рэбусаў, ва ўсім чым заўгодна, але, безумоўна, не ў пранікненні ў сэнс дантаўскага тэксту. Яны рыхтуюць свае бедныя вязанкі сухога галля вакол храма, але не маюць агню, неабходнага для таго, каб запаліць іх і асвятліць полымем тры таемныя навы да самага алтара іх Бога. Якім жа чынам патлумачыць безумоўную прадуктыўнасць «дантыстаў» нашай краіны?

Яе лёгка патлумачыць, калі зразумець, што такое насамрэч «дантызм», інакш кажучы, не рэальная любоў народа да паэта, які даў яму адно з першых месцаў у царстве духу, а звычайная трансфармацыя дзейнасці, што мела раней іншыя мэты. Гэтая дзейнасць выяўлялася ў мінулым у наступных формах: казуістыка, акадэмічнасць і класічная філалогія. У краіне з такой старажытнай культурай як Італія заўсёды знойдзецца пэўная колькасць людзей, прыдатных да літаральнага, да раскрыцця таямніцаў, да чароўных гульняў у каментары, да выкрыцця двайных і трайных сэнсаў. Гэтыя асобы прыктыкавалі некалі вакол права, вакол тэалогіі, вакол этыкі, вакол класічных тэкстаў, але ва ўсіх гэтых практыкаваннях яны захоўвалі густ да таго роду дыялектычнай і падступнай казуістыкі, што знаходзіць задавальненне ў цяжкіх пытаннях, цьмяных урыўках і невырашальных праблемах.

Сёння, калі тэалогія і этыка меней папулярныя і прыносяць менш прыбыткаў, частка гэтых асобаў знайшла сабе «выпас» у «Боскай камедыі», і менавіта ім мы абавязаны бясконцымі размовамі наконт «piè fermo», «Pape Satan aleppe», наконт знявагі Гвіда, наконт таго, хто зрабіў «вялікую адмову» і падобных рэчаў. Такога роду аматары паспрачацца нясуць адказнасць за фальшывае эстэтычнае бачанне, пад якое трапляюць многія чытачы паэмы. Увага засяроджваецца на самых цьмяных і заблытаных урыўках, і такім чынам фарміруецца ідэя —назіраючы за ўсёй валтузнёй, якая адбываецца вакол іх, — маўляў,

менавіта яны з’яўляюцца самымі важнымі, у той час як іншыя, менш зацяганыя і часта больш прыгожыя, прагортваюцца без неабходнага роздуму. А да гэтай групы магільшчыкаў «Боскай камедыі» належаць нават тыя, хто, прагны да алегорый і сімвалаў, шукае таемныя дзверы ў вялікай паэме, сакрэтны шыфр цёмнай Мінервы, як рабіў нават Джавані Паскалі.

Аратарскія і тэатральныя формы «дантызму» тлумачацца яшчэ і іншым густам, што заўсёды быў вельмі жывым у Італіі пасля XIV стагоддзя: акадэмічным. Што датычыцца павагі, то ў наш час літаратурныя акадэміі былі пераўзыдзеныя навуковымі. Аднак літаратары не маглі страціць у адно імгненне старыя звычкі, і «дантызм» са сваімі канферэнцыямі, публічнымі чытаннямі, таварыствамі спецыялістаў даў цудоўны і разнастайны матэрыял для акадэмічных адхаркванняў. Дантаўскія чытанні (*Lectura Dantis*), якія хутка распаўсюдзіліся па ўсёй Італіі і ў якіх удзельнічалі ўсе дантолагі, якімі ганарыцца ці якіх саромеецца Італія, сталі новым увасабленнем вечнага прафесійнага акадэміка. Дантэ стаў нагодай для таго, каб асвяжыць арсеналы і рэпертуар нашых перапрадаўцоў рыторыкі. Іншая дзейнасць, што пераарыентавалася ў бок «дантызму», — дзейнасць філалагічная.

Яшчэ з часоў першых гуманістаў мастацтва каментавання квітнела ў Італіі. У мінулым стагоддзі Германія пераўзышла нас у дакладных і скрупулёзных даследаваннях тэкстаў, у крытычных выданнях, у кампаратывістыцы, у тлумачэнні твораў далёкага мінулага. Да нядаўняга часу лічылася, што толькі антычныя аўтары заслугоўваюць такіх намаганняў, аднак з ростам прапановы перастала хапаць інтэлектуальнай працы антычных аўтараў, і тады вакол класічнай філалогіі ўзнікла сучасная філалогія, у якой «дантызм» — адна з найбольш папулярных галінаў. Тыя, хто ў пазамінулыя часы прысвяціў бы сябе ўзнаўленню тэксту Піндара або рэканструкцыі біяграфіі Плаўта, сёння з прычыны павышанай канкурэнцыі збіраюць варыянты «De Vulgari Eloquio»[6] і ідуць па слядах Аліг’еры ў Казэнціна. І гэты люд паклікаў да вывучэння Дантэ не магутны і глыбокі ўнутраны інстынкт, а ўсяго толькі неабходнасць набыць званні для конкурсаў і кафедраў, іх не моцна турбавала, ці варта вывучаць Дантэ, а не александрыйскага граматыка. Некаторыя з гэтых эрудытаў у пошуках занятку ўтвараюць таварыства, што рыхтуе канчатковае крытычнае выданне твораў Аліг’еры, якое, баюся, не здолее парадаваць яшчэ больш, не зважаючы на цьмяныя намаганні якога-небудзь Райны ці Вандэлі[7]; і да яго належаць тыя выкладчыкі сярэдніх школаў, а таксама выпускнікі і тыя, хто заканчвае ўніверсітэты, хто запаўняе сваімі нататкамі, успамінамі і ўнёскамі «Giornale dantesco»[8] і іншыя падобныя выданні «дакладнай данталогіі».

«Дантызм», такім чынам, вывучаны ў сваіх праявах, гэта не праява шчырага вяртання да дантаўскага свету і да вышыні дантаўскай душы, а не што іншае, як новы росквіт або працяг літаратурных педанцкіх звычак, што ўжо шмат стагоддзяў квітнеюць у Італіі. Усё гэта, натуральна, датычыцца шчырага «дантызму». Калі б давялося выкрыць (заявіць) усё тое, што належыць да дробязнага славалюбства, асабістых інтарэсаў, імкнення да моды, кар’ернага суперніцтва і стаіць за многімі кнігамі і многімі працамі «дантыстаў», то варта б было стаць больш жорсткімі. Але такія рэчы здараюцца не толькі ў «дантызме», і не толькі ў Італіі.

Тое, што ёсць асаблівага ў «дантызме», і ў першую чаргу ў італьянскім «дантызме», гэта яго смяхотная ганарлівасць, быццам ён з’яўляецца прыкметай нацыянальнай велічы і вялікай майстэрняй высокай духоўнай культуры. Ганарлівасць смешная не таму, што яна ганарлівасць, а сваёй неадпаведнасцю дробным душам даследчыкаў, якія займаюцца дантаўскай тэматыкай. Я не прэтэндую на тое, каб гэтыя адукаваныя сіньёры перасталі каментаваць Дантэ згодна са сваімі слабымі сродкамі. Але няхай яны не гавораць нам, дзеля ўсяго святога, што, абдумваючы свае заўвагі, яны разумеюць вялікага празарліўца і дапамагаюць італьянцам зразумець яго. Паміж паэтам і падобнымі схаластамі стаіць вогненная агароджа кшталту той, якую іх Дантэ здолеў перайсці каля ўваходу ў чысцец.

*Прадмова і пераклад з італьянскай мовы Аксаны Данільчык.*

---

1 Alda Palazzeschi — псеўданім Aldo Pietro Vincenzo Giurlani (1885–1974), італьянскага паэта, заснавальніка авангардных плыняў у італьянскай літаратуры.

2 Гульня словаў: *dantesco* — тоё, што мае дачыненне да Дантэ, *dantista* — спецыяліст па Дантэ.

3 Хутчэй за ўсё, маецца на ўвазе знакаміты гімн Джазуэ Кардучы «Сатане», надрукаваны ў 1863 г. і ўспрыняты вельмі неадназначна.

4 «Галатэо, ці Аб норавах» — вядомая кніга Джавані Дэла Каза (1503–1556), надрукаваная ў 1558 г.

5 Isidoro Del Lungo (1841–1927), Giovanni Andrea Scartazzini (1837–1901), Francesxo Torraca (1853–1938), Tommaso Casini (1859–1917), Ernesto Giacomo Parodi (1862–1923), Nicola Zingarelli (1860–1935), Francesco D’Ovidio (1849–1925) — даследчыкі творчасці Дантэ і «Боскай камедыі».

6 Трактат Дантэ «Пра народнае красамоўства» (гл. «Наша вера», 2004, № 1–4, пераклад А. Данільчык).

7 Pio Rajna (1847-1930) і Giuseppe Vandelli (1865–1937) — даследчыкі творчасці Дантэ.

8 «Giornale dantesco» — часопіс, які выдаваўся з 1893 па 1940 г. (з 1928 г. — «Annuario dantesco»).



16 лістапада, у Дзень Маці Божай Вастрабрамскай, спаўняецца 110 гадоў выдатнаму нашаму пісьменніку, майстру роднага слова і светламу чалавеку Яну Скрыгану.

Ён пакінуў нам не толькі свае цудоўныя апавяданні, эсэ, мініяцюры, сабраныя ў чатыры «Кругі» таленавітай прозы, але й свой непазбыўны чалавечы і пісьменніцкі клопат пра беларускую мову. Варта толькі прыгадаць яго артыкулы, інтэрв'ю, запісы — «Найпершая тайна ў слове», «Пярэгалас», «Блізкія сэрцу думкі», «Беглыя запісы», «Яшчэ трохі аб мове», «Эцюды», «Культура творчасці і мы», — каб пераканацца, як моцна хваляваў яго лёс роднага слова. «У бацькаўшчыны заўсёды ёсць галоўны знак яе — мова», — пісаў ён.

Усім нам трэба хоць час ад часу «адчыняць» ягоную «Шуфляду» і зазіраць у яго літаратурную «Камору», каб падсілкавацца там «смакатою» і «мілатою» жывога і натуральнага, спаконвечнага беларускага слова, каб не аглухнуць зусім ад сучаснага моўнага «мудрагельства» і «хадульнага, настабурчанага наватарства», з якімі ён — тонкі майстра і далікатны, але бескампрамісны настаўнік — не стамляўся ў свой час змагацца.

Гэтак жа, як хараством роднай мовы, Ян Аляксеевіч захапляўся хараством прыроды і хараством жанчыны, сцвярджаючы, што ён «таксама яго палоннік...»

Пра незвычайныя адносіны Яна Скрыгана да жанчыны напісала ў сваім артыкуле ягоная дачка Галіна Янаўна Скрыган, якая нястомна руплівіцца пра выданне і перавыданне творчай спадчыны свайго бацькі, дбае пра тое, каб непаўторны талент Яна Скрыгана і сёння служыў нашай Бацькаўшчыне, якую ён так моцна і аддана любіў.

*Рэд.*

# Выратавальны круг любові

## *Да 110-годдзя Яна Скрыгана*

Так ужо сталася, што да якіх гістарычных часоў ні належалі б старонкі ўнікальных споведаў — дзённікавых запісаў, яны апрыёры прасякнуты непадробнымі шчырасцю, сардэчнасцю, душэўным болем, роздумам, сумневамі, перажываннямі, якія звычайна схаваныя далёка ў тайніку душы і абавязкова пранізаны флёрам таемнасці.

Менавіта вось у такую атмасферу чалавечых пачуццяў мне пашчасціла паглыбіцца, калі я працавала над перадрукам бацькавых дзённікаў. Ад старонкі да старонкі перажываючы разам з бацькам самыя розныя жыццёвыя перыпетыі, грамадскія і асабістыя сітуацыі і падзеі, я выразна прасачыла нябачнае дзяленне тэкставага матэрыялу на тэматычныя лініі. Прычым кожная з гэтых ліній цалкам самастойная, насычаная філасофскімі развагі і ацэнкамі.

У межах гэтых радкоў мне хацелася б спыніцца, сканцэнтраваць увагу на адной з вельмі далікатных тэматычных ліній, дзе размова ідзе аб патаемных пачуццях, аб зацішных куточках у сэрцы, аб тонкіх душэўных парывах, дзе стаўленне да жанчыны паднесена як узор высокага, таемнага, вечна неспатоленага святога пачуцця: *«На жаночую прыгажосць я гатоў дзівіцца гадзінамі, прычым у названых якасцях (аблічча, фігура, зграбнасць, грацыя, пластыка, лініі, лініі — тое, што называецца гармоніяй, харастовом, эстэтычным зместам) абавязкова павінна прысутнічаць духоўная катэгорыя.*

*Як толькі пачуем — нават па голасе, па манеры трымаць сябе — духоўную пустату, адразу знікае вобраз гармоніі і хараства. Але цікава: перш за ўсё ўспрымаецца фізічны вобраз, бачнае хараство»* (дзённікі, 10.07.1974).

Далей я паспрабую, па магчымасці, выбраць з тэксту менавіта тыя моманты, тыя сюжэты біяграфіі бацькі, у якіх грунтоўную лёсавызначальную ролю адыграла бязмежнае, усёабдымнае і ўсёмагутнае пачуццё любові. Вось на такой ноце мне хацелася б прадоўжыць гэты эмацыянальны настрой.

Нашае жыццё — ланцуг запраграмаваных выпадковасцяў, чарада эпізодаў, якія ў сваю чаргу вызначаюць лінію нашага быцця.

На долю бацькі выпала такая колькасць форс-мажорных паваротаў, якіх хапіла б не на адно чалавечае жыццё: *«Цяпер я гляджу на сваю дарогу, як на далёкі сон. Мая біяграфія здаецца мне вельмі доўгаю, і я дзіўлюся, як многа ў ёй месяцца. Я зазнаў і трагізм, і роспач, зведаў цану радасці і надзеі: быў на грані таго горкага адчування, калі чалавек астаецца без радзімы...»*, — піша бацька ў сваіх «Кругах». Не дзіўна, што тэма трывогі праходзіць скрозь усе яго дзённікі, не дае спакою сэрцу і душы: *«Трывожуся і трывожуся. Мабыць, ужо ніколі не дайду да спакойнасці — такую зняверанасць выпрацавала ў мяне жыццё»* (дзённікі, 02.01.1984).

Здавалася б, можна было бацьку проста зламацца на кожным стромкім жыццёвым віражы. Зламацца можна было да поўнай духоўнай і фізічнай дэградацыі. Можна было ніколі не вярнуцца з незваротнай кропкі ні на родную зямлю, ні ў літаратуру, ні ў нармальнае чалавечае існаванне. Аднак гэтага не адбылося. Напэўна таму, што храм у душы майго бацькі быў змайстраваны са звышмоцнага матэрыялу. І ў гэтым храме ніколі не згасаў агеньчык надзеі, веры, любові.

Мне думаецца, што вытрымаць першую (у помным 1936 годзе) і таму самую моцную катастрофу ў жыцці майму бацьку дапамаглі менавіта вера, надзея і светлая, бясконцая пяшчотная любоў да сваёй маладой, прыгожай, разумнай жанчыны — сваёй першай жонкі, якая звалася Галінаю. Праз гады бацька запіша: *«Восень 1972 года. Масква. Плошча Паўстання. Галантарэйны магазін. У дзвярах насустрач жанчына ў стракатым лёгкім паліто свабоднага крою. Мяне сцепанула: якраз гэткае паліто некалі я купляў Ліне* (Галіне. — Г. С.).



Ян Скрыган з жонкаю Галінаю. 1936 г.

*Якое гэта дзіва — выпадак. Нечаканасць — імгненне. Паўтара гады шлюбнасці, а памяць на ўсё жыццё*».

Не суджана было бацьку ніколі не ўбачыць ні Галіны, ні свайго сына Усевалада.

*«Учора ў двары паштальёнка дала распісацца за ліст ад Севы. Канверт з чорнай рамкай: адразу зразумеў, у чым рэч. Памерла Ліна, 26 лістапада ў 6.45 раніцы* (1977. — Г. С.).

*Божа, як сціснулася сэрца! Якая пакутніца! З Севінага ліста бачу, яшчэ спадзявалася ўбачыцца, калі б я прыехаў на Сеўкава запрашэнне. Значыцца таксама было што сказаць.*

*У кожным цяжкім жыцці, мабыць, вельмі многа велічы. Што яна зазнала? І за што? Па сутнасці ўсю бяду прынёс ёй я. І з учарашняга дня нашу гэты яе вобраз і яе гора. Нават перад смерцю не суджана было абмяняцца позіркам, словам. Вечны спакой ёй, харошай маёй*».

Гэта было напісана ўжо ў перыяд так званай стабільнасці ў бацькавым жыцці, калі так можна сказаць у дадзеным кантэксце.

Але вернемся да клятага 1936-га, калі ў адно імгненне абарвалася сувязь часоў і крушэнне ўсіх надзеяў практычна сталася незваротнаю кропкаю.

Што тады выратавала душу бацькі? Думаю, бясконцая любоў да сваёй непараўнальнай і незабыўнай жонкі і да сына, якога ён так і не паспеў убачыць. І тым больш скрышальным ударам была злавесная вестка, што ягоная жонка Галіна і сын Сева загінулі ў самым пачатку вайны.

І што тады ўтрымала бацьку на паверхні жыцця? Думаю, зноў жа бясконцая любоў і памяць. Памяць, што не давала спакою сэрцу да канца зямнога жыцця.

Тут я зраблю адступленне, каб сказаць аб тым, што і Галіна, і Сева аказаліся жывыя. Пра гэта стала вядома ў 1963 тодзе, калі тата атрымаў ліст ад Севы з Заходняй Германіі. З тае пары паміж нашымі сем'ямі завязалася кранальная перапіска, якая то абрывалася на нейкі час, то аднаўлялася. Можна было толькі здагадвацца, якія землятрусы бушавалі ў бацькавай душы, якому так і не наканавана было сустрэцца з сынам...

У 2007 годзе, ужо праз 15 гадоў пасля смерці бацькі, настаў, відаць, мой час зразумець, што праз мяне працягваецца некратычная нітачка ад бацькі да сына. Мне пашчасціла правесці з Севам незабыўныя дні ў 2007 і 2012 гадах. Нашы сустрэчы былі вельмі цёплыя і душэўныя. Сева вельмі чакаў выдання дзённікаў бацькі, але яны былі выдадзеныя ў жніўні 2013 года, а 1 ліпеня 2013 года мне давялося ўбачыць Севу ўжо на ягоным пахаванні. Такі суровы лёс...

У 1978 годзе бацька ў сваіх дзённіках запіша: «*Дарэчы, я зрабіў вельмі нядобра, што да гэтага часу не выкарыстаў тэмы Ліны. От гэтыя дні натыкнуўся на яе пісьмы, і так стала цяжка на душы — за яе пакуты. Забалела сэрца і ад Севінага ліста, дзе ён кажа, што яе надзея пабачыцца не збылася. Значыцца, пра многае ёй хацелася мне сказаць. Усё панесла з сабою ў магілу*».

* * *

Аднак час няўмольна і незалежна ад нас безупынна працягвае сваю мерную хаду, якая аддаляе адзін жыццёвы эпізод і набліжае другі. Так у жыцці бацькі ўзнікае шанц — новая надзея на асабістае шчасце. Гэтай жанчыне, якая, па ягоных словах, вярнула яму жыццё, суджана было стаць і вернай памочніцай, і музай, і адданай жонкай да канца яго зямных дзён. Ёй бацька прысвяціў шмат пранікнёных радкоў, дзе называў яе толькі Ганначкаю.

Наогул, гаворачы пра тату і яго неверагоднае жыццё, я з глыбокаю цеплынёю ўспамінаю сваю маму, якая падзяліла з ім пакутніцкія гады выгнання. Я пісала ў кніжцы ўспамінаў пра тое, што яны з бацькам былі супрацьлегласці — «лёд і по-

лымя», але менавіта гэтая акалічнасць і была фундаментам той гармоніі, якая панавала ў сям'і. Думаю, не будзе перабольшваннем, калі скажу, што мая маці была для таты тою музаю, якая ўплывала на ўсё далейшае ягонае жыццё, стаўшы яго цудоўным апірышчам, шырокімі моцнымі крыламі і ў побыце, уладкаваннях, і ў творчых шуканнях і здзяйсненнях.

*«Хадзіў па парку Англійскім* (у Нясвіжы. — Г. С.) *на той бок возера. Як добра думаецца. Па парках трэба хадзіць толькі аднаму.*

*Божа, як добра думаў пра Ганначку. За ўсе мае нягоды мяне Бог узнагародзіў жонкаю. Такая адданасць! Чэснасць у дачыненні да звання „жонка" — найвялікшая. Падумаў: усюды яна хадзіла за мною. Калі б гэта было так-тоўна, зрабіў бы такое завяшчанне: Ганначка была разам са мною ўсюды. Вельмі прашу, каб і пахавана яна была поруч. Бо, калі раздумаўся, што хвароба можа паўтарыцца або ўсё роўна наблізіць канец, вельмі стала страшна, што буду ляжаць там адзін, без яе. Яна вельмі заслужыла тое, каб і там не разлучацца нам»* (дзённікі, 20.08.1979).

*«Вярнуўся я з камандзіроўкі, калі Ганначка паехала ўжо ў Гагру. Які дом яна пакінула! Усё прыбрана, пачышчана, раскладзена для карыстання. Калі толькі яна паспела? От і другая жонка, Ганначка, — таксама як бы ўзнагарода мне. Праўда! Тая (Ліна) паклялася, сказаўшы, што „Ян не вінаваты, і пакуль ён будзе адзін — і я буду адна", гэтая — пусцілася за мною ў Сібір»* (дзённікі, 19.10.1978).

Да апошняй хвіліны жыцця



Галіна Скрыган з маці. 1959 г.

бацька захоўваў у памяці той глыбока кранальны момант, калі лёс паднёс яму чарговую суровую неспадзяванку: *«Вось так скончылася маё гасцяванне ў Эстоніі* (1949 г. — Г. С.). *Яшчэ добра, чэкіст згадзіўся зайсці са мною дадому, каб я мог пераадзецца адпаведна таму, дзе цяпер мне давядзецца быць. Дома быў Алежка, я папрасіў яго збегаць на работу да мамы і сказаць, каб яна скоранька ішла дадому. Вядома, яна тут жа прыбегла... Калі я выходзіў з дому, скрозь слёзы яна сказала: „Памятай, дзе б ты ні быў, я да цябе прыеду"»* (Ян Скрыган, «Эстонія», 1992 г.).

І прыехала. Разам з намі — дзецьмі — мною і маім братам Алікам. Тата падчас сустрэчы на вакзале ў Краснаярску ціхенька ёй сказаў: «Ты вярнула мне жыццё».

Так, вярнула. Вярнула і жыццё, а разам з ім і чалавека, і мужа, і грамадзяніна, і пісьменніка — майстра слова, і любячага бацьку, і пяшчотнага дзядулю.

Але не ўсё адбывалася так гладка, як можа падацца на першы погляд. Цуды, канечне, часам здараюцца, а дакладней кажучы, мы хочам верыць у гэтыя здзяйсненні, у прывабны расклад падзей. Але суровую рэчаіснасць яшчэ ніхто не адмяняў: *«Даволі доўгі час я не займаўся літаратураю. Я пабываў у Сібіры, Узбекістане, Эстоніі, бачыў розныя землі і гарады.*

*Усюды на сваім шляху сустракаў і добрых і благіх людзей. Найбольш добрых, і найбольш гэта помніш, бо на добрым вучышся сам. Я маю на ўвазе не якуюсьці дабрачыннасць, а чуласць, сумленнасць і праўду, няхай сабе жорсткую, чалавечыя ўчынкі.*

*А благія — гэта як памылкі друку»* (Ян Скрыган, «Кругі»).

Вось такі светапогляд — з любоўю, з імкненнем адкрыць самае лепшае ў чалавеку.

Даследчыца беларускай літаратуры Роза Станкевіч у сваім артыкуле да 100-годдзя з дня нараджэння Яна Скрыгана напісала: «Само жыццё працягвае, дапісвае і „дасказвае" яго кнігу» («Кругі». 4 кругі — «Парог», «Світанак», «Трывогі», «Спасціжэнне». — Г. С.), і так з'яўляецца яе пяты «Круг» — Круг Вечнасці».

І ў гэтым Крузе Вечнасці навекі пануюць радасць, хараство, згода, спакой, пяшчота, любоў...

Прысвячаю мой сціплы аповед светлай памяці майго бацькі Яна Скрыгана.

*Галіна Скрыган*

# Беларускі след Сталема

Першым перакладчыкам Алэксандра Олэся (1878–1944) на беларускую мову быў Максім Багдановіч, які змясціў два вершы ўкраінскага паэта на старонках свайго цудоўнага «Вянка». А новыя пераклады з Олэся, падрыхтаваныя Алесем Траяноўскім, з’явіліся праз дзевяноста гадоў у кнізе «Імем няўмольным свабоды» (2002), прысвечанай творчасці паэтаў, імёны і творы якіх замоўчваліся ва ўкраінскай савецкай літаратуры.

«Пачатак яго літаратурнай дзейнасці, — сказана ў прадмове да гэтай публікацыі, — прыйшоўся на той час, калі яшчэ жылі і плённа працавалі Іван Франко, Леся Украінка, Міхайла Кацюбінскі, калі ў тагачаснай турме народаў — Расійскай імперыі, ужо наспявалі рэвалюцыйныя падзеі. Праваднiком ідэяў свабоды і незалежнасці Украіны была нацыянальна свядомая інтэлігенцыя, у яе шэрагах знаходзіўся і Алэксандр Олэсь...”

Паэзія Олэся, прасякнутая нязломным народным духам, актульна гучыць і сёння, па-ранейшаму хвалюючы людскія сэрцы. Яскравым сведчаннем таму – гэтая нізка вершаў, перастворраных па-беларуску А. Траяноўскім.


Алесь Траяноўскі


Алэксандр Олэсь

Алесь Траяноўскі (1925–2005) – адметная постаць у нашай культуры. Нарадзіўся ён на Случчыне, у ваеннае ліхалецце змагаўся з фашыстамі ў складзе партызанскага атраду, быў цяжка паранены на фронце. У пасляваенныя гады, скончыўшы Маскоўскі гісторыка-архіўны інстытут, працаваў у рэдакцыі газеты «Звязда» і часопіса «Мастацтва Беларусі». Адначасова ён плённа займаўся пера-




кладчыцкай дзейнасцю і выдаў дзве паэтычныя анталогіі, што ўвайшлі ў залаты фонд беларускай літаратуры.

У зборніку «Там, дзе Шпрэвя шуміць» (1969) прадстаўлена паэзія лужыцкіх сербаў — самага нешматлікага славянскага народа, які спрадвеку жыве на роднай зямлі ў межах сучаснай Нямеччыны. Алесь Траяноўскі шмат разоў гасцяваў у лужыцкіх сяброў, наладзіў з імі цесныя творчыя стасункі. У яго перакладзе ўбачылі свет дзіцячыя аповесці сербалужыцкіх пісьменнікаў Юрыя Брэзана «Чорны млын» (1984) і Кшэсцяна Краўца «Малька і сабака Люі» (1991). У сваю чаргу творы беларускіх паэтаў і празаікаў выходзілі ў Будзішыне — культурнай сталіцы лужычанаў. Максім Танк запісаў у сваім дзённіку 23.09. 1985 г.: «У „Голасе Радзімы“ цікавы артыкул А. Траяноўскага пра лужычан, пра іх культуру. Піша, што ў выдавецкіх планах іхняй „Домовіны“ мой зборнік казак. Ніколі не спадзяваўся, што мой „Бай“ завандруе аж на берагі Шпрэвы, да нашых лужыцкіх пабрацімаў...»

Яшчэ большы розгалас у свеце атрымала анталогія кашубскай паэзіі «За даляглядам край Сталемаў» (1980). Кашубы спрадвеку жывуць у Польшчы, на ўзбярэжжы Балтыйскага мора. Удзячная кашубская грамадскасць узнагародзіла перакладчыка найвышэйшай сваёй узнагародай – медалём Сталемаў. Сталемы, паводле легендаў — лагодныя працавітыя волаты, якія калісьці жылі на кашубскай зямлі. Напэўна, пан Алесь (так звярталася да яго Ларыса Геніюш, з якой ён шчыра сябраваў) быў іх нашчадкам, бо калісьці ягоны прадзед перасяліўся ў Беларусь з Польшчы.

У апошнія гады жыцця Алесь Траяноўскі часта прыходзіў у касцёл святых Алены і Сымона. У парафіі высока цанілі яго багаты літаратурны вопыт. І сімвалічна, што ён памёр не ў шпіталі, а на плябаніі Чырвонага касцёла, пакінуўшы пасля сябе беларускі след Сталема.

*Уладзімір Ягоўдзік*

# Алэксандр Олэсь

## АСТРЫ

Вясёлкава астры ўначы расцвіталі...
Прыбраліся ў барвы, вяночкі звілі,
Памыліся чыста ў срабрыстай расе,
Каб ранак сустрэць у цудоўнай красе.

І ў крозах-уявах была ім відна
Краіна дзівосаў, дзе ззяе вясна, —
Там рай на зямлі, там слата не гняце,
Там квецень не вяне, а вечна цвіце.

Так мроілі астры ў маркоце начной,
Так мроілі астры адвечнай вясной...
А ранак страчаў іх асеннім дажджом,
І вецер у садзе шугаў за кустом.

І ўбачылі астры – жыцця ім няма,
Што ўсюды навокал – вязніца-турма...
І звялі, памерлі... Ды тут, як назло,
Над імі ўжо мёртвымі сонца ўзышло.

*1905*

* * *

Пранёсся дождж... Дыхнулі травы,
Галоўкі кветкі прыўзнялі,
Праменны позірк свой ласкавы
Спыніла сонца на зямлі.

Расталі ў далечы туманы,
Цяплынь, ліецца ўніз святло...
Не крываточаць, змоўклі раны,
І сэрца зноўку ажыло.

Лунае радасць, шчасце свеціць,
Птушыны грай усчаўся зноў,
Смяецца ў садзе росным квецень...
Хоць слёзы падаюць з лістоў.

*1905*

* * *

Праклёны, роспач і журба!
Усю прайшоў я Украіну
І не ўяўляю, дзе спачыну
І дзе не стрэну я раба.

У ганьбе жудаснай трываць,
Забыць імя, не цяміць, хто ты,
Не ведаць сораму, згрызоты, —
То ява? Сон? — не адгадаць...

О край мой рабскі, колькі слёз
Было ў мяне... дабра і ласкі,
Якія лекі — зёлкі, краскі
Для ран тваіх я ў сэрцы нёс...

Ты п'яны спаў... А я гарэў,
Душа злілася ў сплаў сталёвы,
Яна не грэе спеўным словам,
А выкрасае іскры, гнеў.

Іх, як зярняты на сяўбе,
Я сею ў стэпе, лузе, полі,
І, можа, ты з пякельным болем
Спытаеш: «Хто ж я?» — у сябе.

*1906*

* * *

Хто збярог любоў да краю
І не зрокся роду,
Не загіне той ніколі
Ў памяці народа.

Хто жывіў сабою край свой
Так, як рэчка мора,
Ой, таго не раз успомняць
Нашы долы, горы.

Хто ў бяздольны час убачыў
Сонца за туманам,
Той народу бацькам родным
І пракрокам стане.

Хто збярог любоў да краю
І не зрокся роду,
Той аддаў душу і сэрца,
Ўсё, што меў, народу.

*1910*

* * *

О слова наша! Ты ў кайданах!
Ты церпіш здзек прыблуд чужых,
Ты спеўны гром бацькоў маіх,
У небыццё дзяцьмі загнаны.

О слова наша! Лесу шум!
Зіхценне зор блакітнавокіх,
Бязмежных стэпаў спеў шырокі,
Разліў дняпровых грозных дум...

О слова! Стань мячом маім!
Не, сонцам стань, там супыніся,
Заззяй над краем і сыпніся
Дажджамі суднымі над ім.

*1907*

* * *

З найдаўнейшых і прышлых вякоў
Навылёт працінаюць нас вочы:
Не прадайце цярновых вянкоў
Пры сканчэнні праклятае ночы!

Не мяняйце цярновых вянкоў
На квяцістасць вянкоў папяровых,
Зберажыце для прышлых вякоў
Іх з слядамі крыві пурпуровай.

*1921*

*Пераклад з украінскай мовы*
*Алеся Траяноўскага.*



# Людміла Сільнова

**Людміла СІЛЬНОВА** — паэтка. Нарадзілася ў Маладзечне. Скончыла філалагічны факультэт БДУ (1979). З 1986 г. працуе бібліятэкарам у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Аўтар кніг паэзіі «Ластаўка ляціць...» (1993), «Агністыя дзьмухаўцы» (1997) і інш. Выдала зборнік крытычных нарысаў «Крышталёвы сад» (2007). Вершы перакладаліся на польскую, украінскую, славацкую мовы.

## Пад вечар слепнуць вочы

Пад вечар слепнуць вочы.
Дым. Перашчоўк сарочы.

Час быццам запаволены:
І радасна, і вольна мне...

Вар бульбачку ўгаворвае.
Кроп агуркі рассоўвае.

Блакітнай ружай ночы
Газоўка зачароўвае.

## Анёлку ўночы буду рада

Бінты на сэрцы ссуну трохі —
Убок. Так боль пячэ глыбокі!

Калі губляеш, разумееш:
Ты — меншаеш... І вар'яцееш.

«Выпрабаванне, а не здрада...» —
«Не, здрада! Не выпрабаванне...»

Анёлку ўночы — буду рада.
Малітвай прывітаю ранне.

## Глядзі вышэй!

Учора —
Чорным-чорна...

А сёння —
Жоўць вясёлая!
Блакіт дажджу!
Зялёнка
Травы і дрэў!

Падкоўкай
Каня Сусвету добрага
(«Глядзі вышэй!») — вясёлка!

## Бэзавы шалік

Каб не вайну, а вясну ўспамінаці,
Бэзавы шалік купіла я маці.

Будзе насіць у касцёл і да ўнукаў.
Дзякуй, куст бэзу, табе за навуку!

Ты, што ні май, каля дому квітнееш:
«Тое, што маеш, аддай, не збяднееш!»

Бэзавы колер — базавы прынцып:
«Болю даволі! З намі быў Хрыстус!»

## На беразе

На беразе Наступнага
Стаю вярбой насупленай.
І рыбак хуткіх разглядаю.
Яны — што мела я, што маю,
Што буду мець... Знаходзяць пальцы
Шлях да вады — лістамі слацца
І акунацца на імгненне
Ў халодную ваду цячэння.

Літанні... Веры неадступнасць.
Пяшчота, Божая прысутнасць.

## Матуля хварэе

Драўляны крыж над ложкам,
З паломніцтва буклет
З выявай Маці Божай,
Крышталь, сухі букет.

І лекі пад падушкай
(«Таблеткі — кроплі слёз»),
Кардонныя іх пушкі
Цяжэй за цэглы стос.

У перадзімняй стоме
Матуля прылягла...
Часцей бываю ў доме,
Дзе некалі расла.

Гараць, запаліш толькі,
Дзве свечкі з даўніх, «тых», —
Як залатыя кроплі
Ці німбы, што ў святых.

## Святло з нябёсаў

Учора — толькі гора.
А сёння — шчасця поўня.

Хачу — штодзень, бясконца! —
Каб у вакенца — сонца...

Ды пасталець пара мне:
Ўсё — з рытму, чаргавання.

Бяду змяняе радасць,
А слодыч дзён — гаркавасць
Апошняга кавалку
Хлябка. Які ж ён даўкі!

Старыя — як малыя.
Душа ў чаканні ные.
Сустрэчу прадчувае,
А з кім, сама не знае.

Ўсё з рытму, чаргавання...
Пара і мне, пара мне —
У шлях блакітна-белы.
Хто хрышчаны, той смелы.

Ева Лявонава

# «ВЕРШАМ МАЦУЮЧЫ ВЕРУ...»

## БІБЛЕЙСКІЯ АЛЮЗІІ Ў КНІЗЕ ЛЕАНІДА ГАЛУБОВІЧА «З ГЭТАГА СВЕТУ»




*Уся наша логіка павінна пачынацца з Бога, толькі тады наша мысленне ўступае ў дыялог з Сусветам.*

Леанід Галубовіч

*Як у сцюдзёную раку,*
*Памалу ў Біблію заходжу,*
*Бо веру, што душу злагоджу,*
*І, думаю, бяду ўраку.*

Рыгор Барадулін.
Ксты (1, 82).

Традыцыя звароту сусветнай мастацкай літаратуры да Кнігі кніг з'яўляецца працяглай і надзвычай устойлівай і ахоплівае агульначалавечую культурную прастору ад старажытных апокрыфаў да твораў сучасных пісьменнікаў. Аб выключнай прыцягальнасці біблейскіх перыпетый, нястомным жаданні майстроў слова зноў і зноў перадумваць і ажыўляць іх дакладна сказаў у свой час расійскі філосаф В. Розанаў: «Біблія — бясконцасць» (14, 23).

Здаўна Біблія — насуперак сумненням, расчараванням, адчаю — была і застаецца зыходным пунктам у дыялогах розных культур, светабачанняў, розных генерацый, нарэшце. Прычына гэтай прыцягальнасці найперш — у невычарпальным маральным патэнцыяле Бібліі, закладзеных у ёй адвечных этычных каштоўнасцях, патрэба ў якіх ніколі не згасала; мастакі розных эпох і народаў імкнуліся дапамагчы сваім сучаснікам нанава пераасэнсаваць змест Кнігі кніг, супаставіць асабісты духоўны вопыт з агульначалавечым, з правопытам.

Безумоўна, нельга не ўлічваць і бязмежных эстэтычных магчымасцяў, якія адкрываюцца перад мастаком у працэсе асэнсавання ім не толькі біблейскіх вобразаў і матываў, але і закладзеных у Першакнізе шматлікіх жанравых форм і стыляў, навуковых і мастацкіх скарбаў. Нездарма Францыск Скарына ў прадмове да Бібліі заўважыў: «Тут научение седми наук вызволеных достаточнае...» (15, 10). Не апошнюю ролю адыгрывае і імкненне творцаў праз біблейскую сімволіку надаць сваім аповедам абагульнена-філасофскі або папераджальна-прагнастычны сэнс. «Кніга, у якой няма месца выпадковаму, формула незлічоных магчымасцяў, бездакорных пераходаў сэнсу, ашаламляльных адкрыццяў, напластаванняў святла. Ці ж можна ўтрымацца ад спакусы зноў і зноў на ўсе лады ператлумачваць яе?..» (4, 35) — пісаў славуты аргенцінец Х.Л. Борхес.

Цягам стагоддзяў звярталася да біблейскіх сюжэтаў і беларуская літаратура. Велізарнае значэнне мае скарынаўская адаптацыя Святога Пісання. Паводле У. Калесніка, гэта «духоўная ахвяра» вялікага гуманіста роднаму краю, праца, што здзяйснялася з тэалагічна-асветніцкімі мэтамі. На думку Ф. Скарыны, у Бібліі «всее прироженое мудрости зачало и конець», і служыць яна павінна «Богу ко чти и людем посполитым к доброму научению» (15, 36). Найперш як крыніцу мудрасці, што «ест мати всех добрых речей и учитель всякому доброму умению», разглядаў Ф. Скарына, у прыватнасці, Кнігу прытчаў Саламонавых: «Ест бо в сих притчах сокрита мудрость, якобы моць в драгом камени, и яко злато в земли, и ядро ув ореху»; «Пожиточьни же суть сие книги чести всякому человеку, мудрому и безумному, богатому и вбогому, младому и старому, наболей тым, они же хотять имети добрые обычае и познати мудрость и науку...» (15, 36).

У рэчышчы асветніцкай традыцыі, з выразным акцэнтам на ўваскрасальна-адраджэнскіх евангельскіх матывах, інтэрпрэтавалі біблейскія сюжэты беларускія мастакі слова пачатку ХХ ст. («Апокрыф», «Санет (Паміж пяскоў Егіпецкай зямлі...)» Максіма Багдановіча, «Прарок», «Ужо світае», «Яна і я» Янкі Купалы і інш.). Праўда, як падкрэсліваў У. Калеснік з нагоды біблейскіх рэмінісцэнцый у гэтых аўтараў, яны «рэдка бралі іх з першакрыніц і ніколі з багаслоўскіх трактатаў. Часцей за ўсё яны запазычвалі іх з народнай паэтычнай свядомасці: апокрыфаў, казак-легендаў, паданняў, прытчаў, прыказак» (11, 5), спалучаючы з фальклорна-язычніцкімі элементамі.

Пазней да Бібліі апелююць пісьменнікі беларускай эміграцыі (Н. Арсеннева, А. Салавей, М. Сяднёў, Я. Юхнавец і інш.), у творах якіх

**Ева Лявонава** — кандыдат філалагічных навук, прафесар кафедры замежнай літаратуры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Крытык і навуковец. Працуе ў такіх галінах літаратуразнаўства, як германістыка, беларусістыка, кампаратывістыка, вывучае беларуска-замежныя літаратурна-культурныя сувязі. Апублікавала ў айчынным і замежным друку больш за 400 артыкулаў, навуковых і навукова-метадычных працаў, у тым ліку кнігі «Плыні і постаці: З гісторыі сусветнай літаратуры другой паловы XIX–XX стагоддзяў» (1998), «Беларуская літаратура XX ст. і еўрапейскі літаратурны вопыт» (2002), «Агульнае і адметнае: Творы беларускіх пісьменнікаў XX стагоддзя ў кантэксце сусветнай літаратуры» (2003), «Немецкая литература XX века: Германия. Австрия» (Москва: Флинта; Наука, 2010) і інш. Аўтар і сааўтар многіх вучэбных праграм, вучэбных дапаможнікаў і падручнікаў для выкладчыкаў-славеснікаў, студэнтаў і школьнікаў.

біблейскія рэмінісцэнцыі нярэдка суправаджаюцца матывамі ўваскрэсення, абнаўлення, ажывання.

Значна радзей, па вядомых прычынах, да Бібліі звярталіся мастакі слова ў самой Беларусі, тым не менш прысутнасць Кнігі кніг заўважная і ў іх этыка-эстэтычных сістэмах (асабліва выразна — у паэзіі і прозе У. Караткевіча, у творах В. Быкава). Што да айчыннай літаратуры апошніх трох дзесяцігоддзяў, то лягчэй, напэўна, назваць тых пісьменнікаў, якія не звярталіся да адвечных праблемаў Бога і чалавека, веры і бязвер'я, да сімволікі Хрыста, апосталаў, спакушэння, уваскрэсення, Крыжовага шляху, Галгофы і г. д. Уражанне такое, што беларускія творцы на працягу доўгага часу пакутавалі без выратавальнай духоўнай вільгаці і цяпер спяшаліся наталіць ёю сваю смагу. Назавём толькі некаторых творцаў: Э. Акулін, І. Багдановіч, Р. Барадулін, Д. Бічэль, Т. Бондар, Г. Булыка, А. Вольскі, І. Жарнасек, А. Мінкін, А. Разанаў, Л. Рублеўская, М. Скобла, А. Сыс, Г. Тварановіч, В. Шніп... Нельга не прывесці ў гэтым пераліку і імя вядомага беларускага паэта Леаніда Галубовіча.

Пра тое, што Леанід Галубовіч цудоўна абазнаны ў Бібліі, што яна адыгрывае важную ролю ў фарміраванні яго эстэтычнай сістэмы, выразна сведчылі і ранейшыя кнігі паэта — як зборнікі вершаў, так і яго добра вядомыя чытачу «зацемкі». «Біблія — адзіная кніга, пра якую ведаюць нават тыя, хто нічога не хоча ведаць» (5, с. 71), — піша ў сваіх «Зацемках з левай кішэні» Л. Галубовіч. І далей у гэтай кнізе неаднойчы прагучыць роздум пра Бога і яго ўзаемадачыненні з чалавекам і светам: «Кожны сапраўдны мастак стварае свой вобразны свет, але сам СВЕТ, у сваім абсалюце, больш цэльны, гарманічны і непагрэшны, як і быў у задуме геніяльнага яго творцы Госпада, які ствараў яго не ад вялікай сілы, а адзінствам і паразуменнем магчымых сіл...»; «Уся логіка павінна пачынацца з Бога, толькі тады наша мысленне ўступае ў дыялог з Сусветам»; «*Усе* — людзі, а *ўсё* — Бог...» (5, 11, 71, 205).

Апошняя па часе апублікавання кніга Л. Галубовіча «З гэтага свету: Вершы пасля вершаў» (2012), якая стала, на мой погляд, адной з самых значных з'яваў у сучаснай беларускай паэзіі, літаральна спружыніць алюзіямі на Стары і Новы Запаветы. Увогуле эстэтычная прастора гэтай кнігі, пачынаючы з яе назвы, інтэгравала ў сабе самыя розныя імёны і біяграфічныя локусы, самыя розныя рэмінісцэнцыі і цытаты з тэкстаў нацыянальных (перадусім паўстае ў памяці назва зборніка вершаў Васіля Зуёнка «Лісты з гэтага свету», выдадзенага ў 1995 г.) і замежных творцаў, нават з розных мастацтваў (не толькі літаратуры, але і жывапісу, музыкі). Аднак менавіта біблейскія алюзіі з'яўляюцца сарцавінай кнігі, дамінантным складнікам яе асацыятыўнага патэнцыялу.

У святле Бібліі бачыцца сама архітэктоніка кнігі. Яе структурная арганізацыя заслугоўвае асобнай увагі, найперш — сваім выключным канцэптуальным і семантычным адзінствам. Гэткая фенаменальная ўнутраная цэласнасць не так часта бывае ўласцівая нават тым кнігам вершаў, якія свядома ладкуюцца аўтарамі па цалкам канкрэтным і адмыслова прадуманым прынцыпе. Я б сказала, кніга «З гэтага свету» — у пэўным сэнсе адзін, адзіны тэкст, які балансуе на мяжы цыкла і лірыка-філасофскай паэмы; па сваёй пабудове, па значна больш адчувальнай знітаванасці частак кніга вельмі адрозная ад традыцыйнага паэтычнага зборніка. Сутнасць яе арганізацыі можна выкласці радком аднаго з вершаў, што склалі кнігу: «звіваючы адзінства пупавіну». Менавіта так «звіў», саткаў яе «радно» Л. Галубовіч.

Кніга месціць у сабе, апроч верша-пралога, сем частак: «Нада мною», «Пра мяне», «Са мною», «У маіх», «Маё», «Мае», «Мая». Ужо праз самі гэтыя назвы частак увасоблена іх глыбокая сувязь-счэпленасць, іх функцыяванне ў строгай і стройнай мастацкай сістэме, у якой сэнсы і думкі нібы перацякаюць з верша ў верш, з аднаго паэтычнага цыкла ў наступны. Яно і зразумела: якім бы лагічным ні было размеркаванне твораў суадносна з вядучай тэмай той або іншай часткі кнігі, цалкам размежаванымі гэтыя часткі не будуць па вызначэнні, бо пра каго і пра што б ні ішла гаворка — пра Бога і веру, маці і слова, каханне і смерць, дом і радзіму, — усё прапушчана праз сэрца і свядомасць аўтара і яго лірычнага героя. У выніку перад чытачом паўстае драма душэўна-духоўнага жыцця чалавека ў самых розных яе быційных аспектах.

Падзел на сем частак невыпадковы: лік «сем» — сакральны, ён нясе ў сабе значэнне паўнаты быцця, дасканаласці, завершанасці. У першую ж чаргу гэта алюзія на старазапаветнае паданне: сем дзён, паводле Бібліі, спатрэбілася Усявышняму, каб стварыць свет, надаць яму часава-прасторавыя каардынаты, уладкаваць згодна з уяўленнямі Бога аб гармоніі. Прычым сёмы дзень займеў асаблівы сэнс, бо, здзейсніўшы задуманае, Бог мусіў пераканацца ў дасканаласці ўчыненай ім справы: «І закончыў Бог да сёмага дня ўсе дзеі Свае, якія Ён учыняў, і дабраславіў Бог сёмы дзень і асвяціў яго; бо ў той дзень спачыў ад усіх дзеяў Сваіх, якія Бог тварыў і ствараў» (пар. Быц 2, 2–3). Адсюль вынікае і сімвалічна-алегарычны змест ліку «сем»: кожны чалавек, спасцігаючы старыя, як Богам створаны свет, ісціны, будуе свой свет — для сябе і ў сабе, са сваімі набыткамі, дасягненнямі, радасцю існавання, але і стратамі, паразамі, расчараваннямі.

Канцэптуальна важную функцыю выконвае ў кнізе агульны да ўсіх яе частак верш-пралог «Усе мае лепшыя вершы...»:

*Усе мае лепшыя вершы*
*са мною павінны памерці,*
*калі ж я сканаю першы,*
*то вы ім паверце*
*і без маёй прысутнасці,*
*проста на слова,*
*бо, калі браць па сутнасці,*
*я — іх палова.*
*Не тая, што водзіць пяром*
*і строфы складае,*
*а тая, што ў неба пралом*
*пагляды кідае*
*і ловіць маланкі клінок*
*натомленым духам,*
*зямны завяршыўшы віток*
*немачнай скрухай.*
*Калі ж пакарае Гасподзь —*
*і жыць буду доўга,*
*чытач, не саромся, прыходзь*
*за паэтычным доўгам.*
*Ці хоць бы зірнуць на таго,*
*хто зоркі вымольваў з неба*
*не толькі для аднаго*
*духоўнага хлеба,*
*хто ў цень ступаў Сатаны,*
*душы сваёй не прадаўшы,*
*таго, што Бог затаіў,*
*так і не разгадаўшы...* (6, 5).

Твор гэты не толькі задае пэўны маральны імператыў і атмасферу шчырай спавядальнасці, але і нясе ў сваёй лірычнай сістэме скразныя, лейтматыўныя тэмы і праблемы кнігі, праз якія — нароўні з сакрамэнтальнай колькасцю яе частак, лексічна акцэнтаванай агульнасцю іх назваў і іншымі кампазіцыйнымі і

зместавымі складнікамі — дасягаецца цэласнасць выдання. Структура кнігі, такім чынам, як бы падпарадкоўваецца двум розным імпульсам адначасова: яна і ўстойлівая, і ў той жа час рухомая, дынамічная, бо ўсе часткі-цыклы адкрытыя для працягу, кожная наступная нібы вырастае з папярэдняй. І, што важна ў святле нашай тэмы, усе сем частак кнігі так ці іначай карэлююць з біблейскім матэрыялам, а ўсе экзістэнцыяльныя рэфлексіі лірычнага героя адзначаны гіперпрысутнасцю Бога.

Інтэграванне біблейскіх (як і іншых) алюзій у мастацкую сістэму кнігі адбываецца рознымі шляхамі і ў розных формах: праз вершы-малітвы, звернутыя непасрэдна да Бога, праз назвы асобных твораў, праз імёны, што адсылаюць да тых ці іншых біблейскіх персанажаў, праз калізійнасць шэрагу вершаў, заснаваную на біблейскай сюжэтыцы, праз эпіграфы, скрытыя цытаты, парафразы, асобныя дэталі, праз пэўныя тэмы, нарэшце, што ўзыходзяць да Бібліі. Пры гэтым біблейскія алюзіі ў кнізе Л. Галубовіча маюць вытокамі сваімі як Стары, так і Новы Запаветы, нібы пацвярджаючы ў каторы раз іх непарыўную сувязь, іх глыбінную пераемнасць, якую падкрэсліваў у сваім Нагорным казанні сам Хрыстос: *«Не думайце, што Я прыйшоў парушыць закон альбо прарокаў: не парушыць прыйшоў Я, а здзейсніць»* (пар. Мац 5, 17).

*«Новы Запавет хаваецца ў Старым, Стары — адкрываецца ў Новым»*, — гаварыў святы Аўгустын. Адзінства старазапаветнага і новазапаветнага светаў здаўна дэкларавалася чалавечай думкай, успрымалася як знак цеснай і неабвержнай повязі народаў, веравызнанняў, культураў. Сусветная літаратурная традыцыя ўвасабляла і ўвасабляе гэтае адзінства праз супакладанне ў мастацкіх творах старазапаветных і новазапаветных алюзій і рэмінісцэнцый, і кніга «З гэтага свету» — не выключэнне. Больш за тое, у адным з вершаў Л. Галубовіч свядома акцэнтуе непадзельнасць Святога Пісання, дапаўняючы яе семантыку — згодна з назвай, зместам і духам сваёй кнігі — новым сімвалічным сэнсам:

*А **той** і **гэты** свет*
*не адгародзіш строга,*
*як Новы Запавет —*
*старонкай — ад Старога* (6, 20).

Самыя розныя тэксты Старога Запавету адгукнуліся ў новых вершах Л. Галубовіча: Кніга Быцця з яе аповедамі аб стварэнні свету, грэхападзенні чалавека, аб першым у гісторыі чалавецтва братазабойстве, а таксама прысвечаная пытанням тэадыцэі Кніга Ёва, Кніга Зыходу, Псалтыр, Кніга выслоўяў Саламонавых, Найвышэйшая песня Саламонава, Кнігі прарокаў. Найважнейшую сэнсаспараджальную функцыю выконваюць у кнізе «З гэтага свету» настроі і матывы Эклезіяста з яго ўсведамленнем хуткаплыннасці часу і абсурднасці свету, скепсісам да чалавечых магчымасцяў і высілкаў, скрушным веданнем непазбежнага канца зямнога існавання.

*«Наймарнейшая марнасць, сказаў Эклезіяст, пустая марнасць, — усё марнасць!»* (пар. Экл 1, 2) — гэткай роспачнай канстатацыяй пачынаецца адпаведны біблейскі тэкст. Роспачныя думкі старажытнага мудраца пазнаюцца і ў вершах Л. Галубовіча — у радках аб спрадвечнай, адпачаткавай віне перад Усявышнім, аб непазбыўнай адзіноце і бездапаможнасці чалавека «ў бездані Сусвету», аб крохкасці і кволасці жыцця і немінучасці завяршэння «зямнога вітка». Ад усведамлення смяротнасці чалавека блякнуць усе яго незлічоныя магчымасці:

*Вось выгул наш кароткі па жыцці,*
*тэр'ер,*
*тым больш, на повадзе кароткім, —*
*і гэты шлях мы змушаны прайсці*
*да вызначанай лёсам павароткі...*
(6, 50).

Да Эклезіяста ўзыходзіць і матыў абмежаванасці чалавека ў яго імкненні да пазнання, якое абарочваецца прымнажэннем тугі і смутку, разуменнем уласнай слабасці і маласці, каб супрацьстаяць свайму выраку. *«Во многом знании — немалая печаль», — // Так говорил творец Экклезиаста. // Я вовсе не мудрец, но почему так часто // Мне жаль весь мир и человека жаль?»* (9, 263) — так увасобіў свае роспачныя перажыванні Мікалай Забалоцкі. Гучыць гэты матыў і ў кнізе Л. Галубовіча, спалучаючыся, як гэта найчасцей бывае ў яго вершах, з іншымі матывамі і тэмамі:

*...Хацеў не ісціну знайсці,*
*а завязь сутнасці жывога,*
*з якой магчыма ў свет прыйсці*
*і дасягнуць вянца зямнога.*

*Ды зразумеў, што чалавек*
*вышэй сябе паўстаць не можа,*
*бы глянуць з-пад чужых павек*
*на ўсё, што нішчыў тут і множыў...*

*Не здольны выявіць пакуль*
*мяжу, дзе дух стае над плоццю, —*
*таму й сыходзіць ён адсюль*
*як і належыць ягамосцю...*

*І гэты самы чалавек,*
*што сам спазнаць сябе не можа,*
*спазнаць жадае цэлы свет,*
*які яму стварыў Ты, Божа?!*
(6, 6–7).

Апошні раздзел Эклезіяста месціць у сабе словы пра наканаваны чалавеку зыход — неадменны і неаспрэчны: *«І вернецца тло ў зямлю, чым і было яно; і вернецца дух да Бога, Які даў яго»* (пар. Экл 12, 7). Словы гэтыя вяртаюць нас да Кнігі Быцця — таго ж месца, калі Усявышні пасля грэхападзення Адама абвяшчае яму сваю волю: *«У поце твару твайго будзеш есці хлеб, пакуль не вернешся ў зямлю, з якое ты ўзяты; бо пыл ты і ў пыл вернешся»* (пар. Быц 3, 19). Як і ў мностве твораў сусветнай літаратуры, алюзія на прысуд Бога чалавеку знаходзіць увасабленне і ў кнізе «З гэтага свету»:

*Сок падкорны — драўляная кроў.*
*Пілаванне — драўляны прах.*
*Колькі ж спалена намі дроў,*
*каб зямны агонь не ачах?!*
*Але дрэва мкне ў вышыню,*
*людзі ўвыш глядзяць з-пад павек...*
*Прагне ўсё жывое агню —*
*і прырода, і чалавек.*
*Што ж, пад сонцам усе згарым.*
*Попел наш забярэ зямля*
*і душу ў нябёсы, як дым,*
*лёгка выдыхне апасля...* (6, 30).

Гэткім жа прамым наследаваннем Эклезіясту з'яўляецца і яшчэ адзін верш з кнігі беларускага паэта:

*Усё канчаецца зямлёю,*
*хоць пачынаецца з нябёс,*
*дзе не табою і не мною*
*людскі рахуецца наш лёс...*

*І аніякае надзеі,*
*апроч таго,*
*што нехта Звыш*
*нас,*
*быццам будні да нядзелі,*
*збярэ*
*і вынесе свой крыж* (6, 94).

Аднак важна ўлічваць, што палітра настрояў у кнізе «З гэтага свету» не вычэрпваецца адно самотай і роспаччу — зноў жа, у згодзе з Эклезіястам, бо і біблейскі тэкст заклікае «сыноў чалавечых», пры ўсім трагізме іх долі «пад сонцам», жыць «у радасці сэрца», карыстацца зямнымі дабротамі, кахаць, рабіць «па сіле», памятаючы толькі, «што за ўсё гэта Бог пакліча на суд» (пар.

Экл 11, 9). Адзін і той жа лёс гвалтуе, «змолвае» жыццё, «бы ў жорнах», і яго ж, «здзіраючы струпы», узнаўляе — праз пакуты, усё новыя пошукі раўнавагі, праз самападнімание. Гэтаксама і лірычны герой Л. Галубовіча намагаецца адшукаць духоўнае апірышча, прагне бясконцасці, марыць пра Горні Свет і працяг у Вечнасці, спадзяецца быць пачутым і зразуметым Богам:

*... Бывае, й вера пакідае*
*і ў Божы свет, і ў свет людскі, —*
*ды ў падсвядомасці ўзнікае*
*свяшчэнны жэст Яго рукі...*

*Бо хто ж яшчэ з нябёс вячыстых*
*забраць гатовы ў нас без слоў*
*той дух, што даў калісьці чыстым,*
*каб нас зямлёй пакінуць зноў?..*

*І чым я больш прад Богам млею*
*і ледзь жыву, бы ява ў сне,*
*тым больш і больш я разумею,*
*што — разумее Бог мяне...* (6, 21).

Шэраг вершаў, пераважна змешчаных у цыкле «Са мною», суадносіцца з Найвышэйшай песняй Саламонавай — вядома, праз тэму кахання, галоўную ў гэтым славутым біблейскім тэксце, пра які Ё.В. Гётэ ў свой час і сказаў як пра «Песню Кахання, самую старажытную і найцудоўную песню Усходу» (8, 484). У Бібліі чалавек увасоблены ва ўсёй сваёй складанасці і душэўна-духоўнай паўнаце, ва ўсіх сваіх пачуццях, з якіх каханне — адно з самых глыбокіх і моцных перажыванняў, Богам дадзенае і з любоўю да Бога супакладзенае. Невыпадкова геніяльны нямецкі пісьменнік і мысляр Ё.Г. Гердэр сцвярджаў: «Існуе толькі адна Любоў як адно Дабро, адна Ісціна. Любоў да бацькоў, да сястры, да сябра, да нявесты — адна, і той, хто любіць не можа, — не можа любіць нічога» (7, 266–267). Гэтая супакладзенасць заўважная і ў кнізе Л. Галубовіча; паказальна, што аднаму са сваіх вершаў паэт і назву дае адпаведную — «Каханне і любоў». Гэты верш з празрыстым прысвячэннем «В.» — своеасаблівы гімн адданасці і вернасці, узаемапрыналежнасці — да скону і нават пасля яго:

*Калі кахаў, то прагнуў я любві,*
*калі любіў, то мроіў пра каханне.*
*Што ж, жарсць заўжды*
*заложніца крыві,*
*адданасць жа — душы выпрабаванне.*

*Народжаная ты, найперш, — кахаць,*
*а я — любіць...*
*Наўслед маланцы й грому,*
*мы здольныя былі перадаваць*
*каханне і любоў адзін другому,*

*якія ўраз спляталіся ў адно,*
*звіваючы адзінства пупавіну,*
*і ткалі лёсу нашага радно,*
*што ляжа палатном на дамавіну*
(6, 43).

Адзін з самых шчымліва-кранальных твораў у кнізе «З гэтага свету» — верш, якім увянчаны цыкл «Са мною»:

*«Люблю» ні разу не сказала,*
*не ўспыхнула ад пачуцця...*
*Халодным каменем ляжала*
*ў падмурку нашага жыцця.*

*І стыласць губ тваіх цнатлівых,*
*нібы світальную расу,*
*я піў, як вязень сіратлівы*
*з-за крат саснёную красу...*

*А ты трывала і трымала*
*і дому крэн і лёсу схіл,*
*па-над усім мяне ўздымала,*
*пакуль тваіх хапала сіл...*

*Відаць, адно — калі наверсе*
*пачую кліч анёльскіх труб,*
*сама ў адчаі ты кранешся*
*маіх амаль халодных губ...*

*І з той пары мы будзем зліты*
*да неразлучнасці, да тла...*
*І нашы каменныя пліты*
*зазелянеюць ад цяпла...* (6, 44).

Мы не знойдзем у гэтым вершы ні фармальнага падабенства з Найвышэйшай песняй Саламонавай, ні незвычайна смелай яе метафорыкі, ні маладой пачуццёвай палкасці, ні падкрэсленага эратызму. Але ёсць нешта іншае, што родніць верш з біблейскім тэкстам, — пранікнёнасць, глыбіннае перапляценне лірычнага і драматычнага пачаткаў, а таксама наяўнасць аднаго з топасаў Песні, няхай і трансфармаванага па волі беларускага паэта: гарачы пацалунак, які мроіцца закаханай у самым пачатку Найвышэйшай песні Саламонавай («Няхай вусны яго мяне пацалуюць! Бо лепшыя за віно твае ласкі»; пар. 1, 2), абарочваецца пацалункам «амаль халодных губ» дзеля вечнай «неразлучнасці» ў пасмяротным іншабыцці.

Нарэшце, у гэтым вершы Л. Галубовіча (як і ў многіх іншых вершах з кнігі) наўпрост увасоблена антыномія «каханне — смерць», адна з ключавых у Найвышэйшай песні Саламонавай. Ці не самы вядомы выраз з яе: *«Пячаткай мяне пакладзі на сэрца сваё, пакладзі на рукі, як пярсцёнак: бо каханне, як смерць — моцнае... Вялікія воды не могуць любоў патушыць, і рэкі яе не затопяць»* (пар. 8, 6–7) — творча інтэрпрэтаваны Л. Галубовічам. Перадусім думка аб неперамажнасці, несмяротнасці кахання, з якім па моцы і таемнасці можа параўнацца хіба што смерць, але якой нават яна не ў стане абарваць, і гучыць у апошняй страфе верша беларускага паэта: *«І нашы каменныя пліты // зазелянеюць ад цяпла»* (6, 44).

Не менш разнастайныя і шматсэнсавыя пераклічкі ў кнізе Л. Галубовіча з Новым Запаветам, найперш з Евангеллямі з іх асаблівай місіяй — Хрыстовым вучэннем і весткай аб Выратаванні, але таксама з Дзеямі Апосталаў, Адкрыццём Яна Багаслова і іншымі новазапаветнымі тэкстамі. Да прыкладу, новымі канатацыямі ўскладняецца тэма кахання ў адным з самых моцных вершаў кнігі — «Прадчуваю: з нябесных высяў...», скрозь пранізаным алюзіямі на Біблію, гэтым разам — на Новы Запавет; тут тэма кахання і любові пераводзіцца ў метафізічны план:

*Прадчуваю: з сусветных высяў,*
*працінаючы неба сінь,*
*Сам Гасподзь мне насустрач выйшаў,*
*каб паўстаць адзін на адзін.*

*Я з сустрэчы той не вярнуся*
*ані мёртвым, ані жывым,*
*а ўсёй сутнасцю застануся*
*ў вышняй Вечнасці разам з Ім.*

*Не шукай майго духу месца,*
*бо не знойдзеш яго нідзе,*
*толькі ў спратах таемных сэрца,*
*пад тугім пагоркам грудзей...*

*Вось адтуль ты мяне і клікай,*
*і не зводзь бяссонных вачэй*
*над святой евангельскай Кнігай*
*сорак дзён і сорак начэй...*

*Як адчуеш усёй істотай,*
*што пачну я ў табе расці —*
*значыць, з пятніцы на суботу*
*я ўваскрэсну ў тваім жыцці...*
(6, 39).

Адна з галоўных тэм, што лучыць кнігу Л. Галубовіча з Бібліяй, — гэта тэма слова, Слова. *«На пачатку было Слова, і Слова было ў Бога, і Слова было Богам. Яно было на пачатку ў Бога: усё праз Яго пачалося...»* (пар. Ян 1, 1–3). Менавіта ў святле гэтых славутых біблейскіх радкоў прачытваюцца многія вершы з кнігі Л. Галубовіча.

Лірычны герой разважае пра слова, якое рэальней за рэальнасць,

бо яе зберагае; слова накіроўвае чалавека ў яго жыццёвым пошуку, пошуку Духу, які толькі і ёсць адзіным гарантам несмяротнасці, працягу ў Вечнасці, існавання «па той бок» смерці (зноў узгадаем біблейскае: «...і вернецца дух да Бога, Які даў яго»; пар. Экл 12, 7). Слова, прызванае ўзвышаць, маральна ўдасканальваць чалавека, падтрымліваць яго і рыхтаваць да іншабыцця, ёсць своеасаблівым пасрэднікам паміж зямлёю і нябёсамі. Такім яно замыслена было ад часу стварэння чалавека — як духоўнае дзеянне, праз якое жывое аддзяляецца ад нежывога; такім яно прызначана быць і сёння, бо на кожным кроку свайго жыцця чалавек мусіць адрозніваць-адасабляць дабро ад зла, святло ад цемры. Слова ж, якое перастае быць духаносьбітам, якое страчвае сваю жыццядайную сілу, сваю функцыю чалавекатворчасці, — такое слова асуджана на бездапаможнасць і смерць:

*...Вядома, можна змысліць*
*адмыслова*
*будову свету і ягоны лад,*
*але каменным стане тое слова,*
*што спараджае злобу і разлад...*
(6, 12).

Праз многія вершы кнігі «З гэтага свету» праходзіць матыў паэтычнага слова як неацэннага Боскага дарунку, як магчымасці паразумецца з наступнікамі і ўжо ім дапамагчы ўзняцца і адкрыцца:

*...Магчыма, хто, растраціўшы майно,*
*аточаны бяспраўем і бязвер'ем,*
*наткнецца на прагал жыцця майго*
*і ўсё на тым здзічэўі пераверне,*

*параніўшы і сэрца і душу,*
*ён сэрцам прачытае пераемна*
*усё, што я цяпер яму пішу,*
*пра тое, што і ён бы неадменна*

*пісаў бы мне, трывожачы мой прах...*
(6, 10).

Дбаючы пра лёс Слова, пра лёс «боскай паднебнае мовы», якой не можа сцерці, зруйнаваць нават смерць, ахвяравалі сабою, гінулі «ў поцемках свету» паэты, пакідаючы жывым

*веліч высокага духу,*
*мройнага шчасця хімеру,*
*смерцю касуючы скруху,*
*вершам мацуючы веру* (6, 8–9).

Гэтая ж па сутнасці тэма — несмяротнасці Боскага слова, прызначэння слова паэтычнага — знаходзіць увасабленне і ў вершах, якія месцяць у сабе алюзіі на творчасць тых або іншых пісьменнікаў. У гэтым сэнсе кніга Л. Галубовіча бачыцца своеасаблівай інтэгратыўнай прасторай, месцам сустрэчы самых розных творцаў — айчынных і замежных, тых, хто падае свае галасы «з гэтага свету», і тых, хто ўжо пакінуў, часта зарана і трагічна, «свет ясны». Антычнасць, У. Шэкспір і А. Хаям, Ф. Цютчаў і С. Цвейг, М. Багдановіч і Я. Купала, А. Разанаў і многія іншыя ўступаюць у палілог з аўтарам кнігі і адначасна, адзін з адным, не кажучы пра асацыяцыі і паралелі з паэтамі-папярэднікамі і іх творамі, выкліканыя пэўнымі вобразамі і матывамі з вершаў Л. Галубовіча (у прыватнасці, з «П'яным караблём» А. Рэмбо, з «Кнігай гадзін» Р. М. Рыльке).

Абвостранае стаўленне паэта і яго лірычнага героя да мастацкага слова як да прыстанку духу вельмі выразна выяўляецца ў перадапошняй частцы кнігі — «Мае». Кожны з вершаў, што склалі гэтую частку, прысвечаны творчым асобам (пераважна пісьменнікам), якія пакінулі заўважны след і ў душы аўтара, і ў беларускай літаратуры. «З мінулага...у гэты час» (6, 79) вяртаюцца і паўстаюць са старонак кнігі Міхась Стральцоў і Анатоль Сыс, Уладзімір Марук і Аркадзь Куляшоў, Барыс Бур'ян і Мікола Купрэеў, Іван Лагвіновіч і Уладзімір Караткевіч — праз іх імёны, праз вызначальныя біяграфічныя локусы, учынкі і нават жэсты, прамоўленыя некалі і запомненыя словы, назвы прэцэдэнтных кніг або асобных твораў, цытаты з іх, у адных выпадках пададзеныя ў якасці эпіграфаў, у іншых — выкарыстаныя ў саміх тэкстах вершаў, але вылучаныя курсівам дзеля іх сэнсавага акцэнтавання. Так, вершу, прысвечанаму А. Сысу, папярэднічаюць яго радкі: *«Мама, такога народзіць не кожная, // мама, // не перажывай!»* (6, 82), У. Караткевічу — «На Беларусі Бог жыве!» (6, 92).

Што ж да ўласна біблейскай сімволікі, то і яе багата ў вершах, прызначаных стварыць мемуарныя аблічча знаных беларусаў, лёс кожнага з якіх пазначаны трагізмам. Пры гэтым у мастацкай сістэме Л. Галубовіча сінтэзаваныя старазапаветныя і новазапаветныя матывы. У вершы-прысвячэнні Анатолю Сысу невыпадкова згадваецца Хрыстоў узрост (*«І зор над грудам — «трыццаць тры»*...; 6, 83), упамінаюцца вобразы-матывы церняў і пекла, у чарговы раз мае месца алюзія на ўжо цытаваныя вышэй радкі з Кнігі Эклезіяста (*«І вернецца тло ў зямлю, чым і было яно; і вернецца дух да Бога, Які даў яго»*; пар. 12, 7):

*...і кроў пайшла з яго ракой,*
*і ў дол Айчыны з сэрца бегла...*

*Цяпер яна цячэ ў Дняпры,*
*а дух ягоны — над вадою...* (6, 83).

Гэтую ж алюзію знаходзім у вершы «Развітальнае», прысвечаным Уладзіміру Маруку, эпіграфам да якога ўзяты радкі Міколы Купрэева: *«Там, у тым далёкім сельсавеце, // ляжыць зямля сырая на паэце»: тло, пыл — зямлі («Апушчаны ў прамерзлую зямлю...»), дух — небу («...я дух яго ўлаўлю на ўсякім свеце...»*; тут згаданая алюзія ўскладняецца іншай біблейскай сімволікай (апраметнай і брамы раю, Райскага саду, Эдэму):

*На мове нашай павітайся Там*
*з Апосталам на браме запаветнай.*
*Скажы, што ўсім ты сёстрам*
*і братам*
*прынёс паклон ад грэшных*
*з **апраметнай**.*

*Калі не спатрабуюць пераклад*
*і ў свой Эдэм прапусцяць*
*памылкова,*
*ты палюбі, як бацькаў, Райскі сад,*
*каб там квітнела матчыная мова*
(6, 84).

Відавочна і тое, што ў палітру тэм у працытаваным вершы ўплецена тэма слова, роднай мовы, як улучана яна ў сукупнасць цэлага шэрагу біблейскіх алюзій у вершы, прысвечаным У. Караткевічу з яго славутым радком у якасці эпіграфа: «На Беларусі Бог жыве!»:

*Бог не жыве на Беларусі,*
*але Ён любіць Беларусь.*
*Наш дух Яму ў нябёсах гусі,*
*як дар зямны, перадаюць...*

*Яго паўсюднасць страшыць нас,*
*таму, здымаючы пакровы*
*з грахоў сваіх у Судны час,*
*мы просім мацярынскай мовы...*

*О, як знайсці Яму тут кут,*
*каб Ён сышоў з нябёс абруса*
*і увасобіўся ў радку*
*таго празорцы-беларуса,*

*які пісаў, што **«Бог жыве!»**,*
*і ўдакладняў: **«На Беларусі»**...*
*Там, дзе **«за Гомлем людзі е»***
*і **«пчолы большыя, чым гусі»**...*
(6, 92–93).

Прыклады выкарыстання біблейскіх алюзій у цыкле «Мае» можна доўжыць; звернем, аднак, асаблівую ўвагу на падкрэсленае суаднясенне (традыцыйнае, трэба сказаць, для паэзіі) тэмы слова з тэмамі Пракрокаў і Апосталаў; невыпадкова гэтыя вобразы (Апостала, Хрыстова вучня, прарока, празорцы) убудаваныя ў вобразныя сістэмы многіх вершаў.

Не можа не звярнуць на сябе ўвагі паэтава бачанне Бога — Ён у вершах Л. Галубовіча розны, і гэта, як ні парадаксальна, суадносіцца ў пэўным сэнсе з Бібліяй: нездарма Бог-Абсалют Старога Запавету паўстае Богачалавекам у Новым Запавеце. У кнізе «З гэтага свету» Ён, з аднаго боку, ірацыянальная сіла, існіна і таямніца, неспасцігальная для недасканалага, незавершанага чалавека. Візіі такога Бога суправаджаюцца адпаведнай топікай. Прырода і чалавек, усе з'явы і лёсы ў свеце *«з-пад Яго // апекі вымкнулі і ўлады»* (6, 11); Ён недасягальны ў сваёй «першароднай чысціні»; Яго «дзеі» і «дарогі» непадуладныя разуменню грэшнага чалавека, як бы апошні ні імкнуўся ўведаць Яго — «у твар, да ногця, да драбніцы (амаль што як сябе самога)»; «свяшчэнны жэст Яго рукі» здольны вярнуць чалавека да веры ў выратавальную існасць Бога, Яго найвышэйшага Провіду, усталяваных Ім маральных законаў:

*...І чым я больш прад Богам млею*
*і ледзь жыву, бы ява ў сне,*
*тым больш і больш я разумею,*
*што — разумее Бог мяне...* (6, 21).

Да Бога лірычны герой у празе спачыну для сваёй натомленай душы прыносіць сумненні і скаргі, звяртаецца з бязлітаснымі ў сваёй невырашальнасці экзістэнцыяльнымі пытаннямі. Чым ёсць жыццё — міласцю Боскай або пакараннем? Дзе праходзіць мяжа паміж сілай і слабасцю, і хто дужы, а хто нямоглы ў Божых вачах? Дзе заканчваецца воля Усявышняга і пачынаецца грэх чалавека? Як трымацца Бога ў абязбожаным свеце? Чаму кожны смяротны лічыць менавіта свае пакуты адно вартымі ўвагі Збаўцы?

З іншага боку, Бог і яго атачэнне празаізуюцца, прызямляюцца; яны не пазбягаюць зносінаў з апошнімі «шаленцамі без прытула» (і, зноў жа, гэта не супярэчыць Бібліі, бо не грэшнікі, а грахі ненавісныя Богу). І з'яўляецца Ён у самых нечаканых месцах: вось Ён ходзіць вясковым выганам; вось «золак зраселаму Богу» сціраe бачныя рысы (згадваецца С. Полацкі: «Хрыстос — раса нябесная...»; 13, 375); вось з Яго ўзыходжаннем *«на пасад» «душу сваю знаходзяць // і нішкам моляцца Яму»* няшчасныя насельнікі хутара Рай «бліз Мінска» — гаротніца Ларыска і яе «муж і сын — згрызот аскепкі», і браму гэтага Раю Бог даверыў сцерагчы сабаку Рэму, які будзе аддаены сваёй службе аж да тае пары, *«пакуль іх душы з таго краю // не адляцяць за небакрай...»* (6, 55–56); вось *«распнуты Хрыстос... // упарта чапляецца // за павучыну // жыцця»* (6, 57) на покуці сіраты-хаты ў спусцелай вёсцы; а вось херувім, у абліччы «бабыля вясковага, светлага і ўбогага» (6, 40), наглядае за дваром адзінотніцы Хрысціны...

Л. Галубовічу ўвогуле ўласціва заўважаць найважнейшае — у звыкла-будзённым, значнае — у нязначным, вялікае — у малым. Усё ва ўсім — вось яго канцэпцыя свету, бо дрэва і рыба, колас і птушка, «аслеплы крот», які капае зямлю, і чалавек, які яе засее, — складнікі аднаго, адзінага, Богам створанага ўніверсуму.

Гэтаксама, па прынцыпе «вялікае — у малым», ставіцца аўтар да Радзімы, любоў да якой лакалізуецца перадусім на роднай вёсцы Вароніна, на бацькоўскай хаце, на ўсім, што «кроўна зніатаванае» з ім; «прихотливо узок» — так сказаў у свой час У. Набокаў пра вядомага англійскага паэта Руперта Брука, які кіраваўся такім прынцыпам. Ва ўяўленні лірычнага героя Л. Галубовіча родная хата нясе на сабе водсвет біблейскага святла, дае адчуванне паяднанасці з зямлёй, сваёй у ёй укарэненасці, «чалавечага ўваскрашэння» (5, 76). Нездарма, як пісаў светлай памяці незабыўны У. Конан, «у народных уяўленнях гняздо, «родны кут», свая зямля — гэта жывыя сімвалы зямнога Раю» (12, 19). Дзеля наталення душы чакае ён сваёй сустрэчы з роднай вёскай, роднай хатай і — з мамай, згадкі пра якую прасякаюць усю кнігу.

Вобраз мамы ў кнізе Л. Галубовіча — адзін з вызначальных, адначасна індывідуалізаваны і абагульнены; пры жыцці на ёй трымалася хата, масніцы ў якой і пасля смерці гаспадыні «мамінай хадою» гавораць; мама гуртавала сям'ю, ахоўвала паразуменне сваіх дзяцей, сваёй радзіны — «адзіную — родную для ўсіх — мову»; яе ахвярнасць, пакорлівая годнасць і мудрасць, бязмежная пяшчотнасць былі і засталіся духоўнаю падтрымкаю сыну («Калі няма больш аніякага паратунку — успамінаеш маці...» 5, 8). Паказальна, што ў вершы «Несмяротнасць» паэт вуснамі свайго лірычнага героя звяртаецца — праз адпаведную графіку і інтанацыю — да Мамы як да Бога:

*...І вось грэюся ля прысаку*
*сэрца Твайго*
*і лаўлю апошняе дыханне Тваё...*
(6, 25).

Неяк самі сабою ўспамінаюцца радкі В. Блажэннага: *«Пусть сначала простит меня мама, // А потом уже — люди и Бог»* (3, 49). Увогуле ж, паводле кнігі «З гэтага свету», паводле ўсёй творчасці Л. Галубовіча, паняцці Бог, Радзіма, Мама для яго — роўнавялікія.

Цалкам відавочна, што няма ў кнізе ніводнага канцэптуальнага вобраза, ніводнай значнай праблемы, якія так ці іначай не транспануюцца ў парадыгму стасункаў чалавека з Богам. Біблейскія алюзіі надаюць творам Леаніда Галубовіча сэнсавую глыбіню і шматмернасць, прыўносяць у іх шкалу духоўных каштоўнасцяў, якія сёння, у наш «выстылы» час, асабліва неабходныя.

Літаратура

1. Барадулін Р. Ксты. — Мінск, 2009.
2. Біблія: Кнігі Сьвятога Пісаньня Старога і Новага Запавету кананічныя ў беларускім перакладзе / пер. В. Сёмухі. — Duncanville, USA, 2002.
3. Блаженный (Айзенштадт) В. Скитальцы духа: Стихи. — Минск, 2000.
4. Борхес Х.Л. Коллекция: Рассказы, эссе, стихотворения. — СПб., 1992.
5. Галубовіч Л. Зацемкі зь левай кішэні. — Менск, 1998.
6. Галубовіч Л. З гэтага свету: Вершы пасля вершаў. — Мінск, 2012.
7. Гердер И.Г. Песни любви: Библейская книга / пер. А. Эфроса // Песнь Песней. — Москва, 2001.
8. Гёте И.В. Статьи и примечания к лучшему уразумению «Западно-восточного дивана» / Пер. А.В. Михайлова // И.В. Гёте. Западно-восточный диван. — Москва, 1988.
9. Заболоцкий Н. Избранные сочинения. — Москва, 1991.
10. Зуёнак В. Пісьмы з гэтага свету: Вершы. — Мінск, 1995.
11. Калеснік У. Тварэнне легенды: Літаратурныя партрэты і нарысы. —Мінск, 1987.
12. Конан У. Біблейскія і хрысціянскія матывы ў беларускай літаратурнай традыцыі // Наша вера. 1999. № 4.
13. Полоцкий С. Вирши. — Минск, 1990.
14. Розанов В. Апокалипсис нашего времени. — Москва, 1990.
15. Францыск Скарына і яго час: Энцыкл. даведнік. — Мінск, 1988.



# ЗНАЙСЦІ СВОЙ ШЛЯХ...

## Размова з доктарам мастацтвазнаўства Тамараю Габрусь

*— Тамара Віктараўна, Вы падышлі да свайго жыццёвага юбілею знаным гісторыкам айчыннага дойлідства, стваральнікам выразнай мастацтвазнаўчай канцэпцыі беларускага барока. Але што было на пачатку Вашага навуковага шляху, што стала штуршком да яго?*

— У адным з сваіх вершаў, якія я называю «габкамі», я напісала: «Свой шлях ў жыцці знайсці няпроста, рассеяць будучыні цень...». І гэта сапраўды так, і для кожнага. Але я заўсёды адчувала, што нехта накіроўвае мяне, дапамагае вызначыцца ў выбары, знайсці адзінае рашэнне, якое ў далейшым сапраўды было найлепшым. У школе я была выдатніцаю і аднолькава радавала настаўнікаў матэматыкі, хіміі, рускай мовы, гісторыі, малюнка і чарчэння, перамагала ў розных алімпіядах і конкурсах. Гэткая аднолькавая схільнасць да прыродазнаўчых і гуманітарных навук моцна абцяжарыла мой выбар прафесіі. У 1960-я гады, калі азначыўся відавочны падзел інтэлігентнай моладзі на «фізікаў і лірыкаў», я апынулася паміж імі. У IX класе я прачытала аповесць Аляксея Талстога «Голубые города» — сімвал светлай будучыні — і ў нейкай праграме па беларускім радыё заявіла, што мару быць архітэктарам. Далей хістацца і адступаць было ўжо няёмка. У гэты «хрушчоўскі» час мне давялося, нягледзячы на залаты медаль, адолець вялікі конкурс на архітэктурнае аддзяленне Беларускага політэхнічнага інстытута: я здавала ажно 6 экзаменаў — па малюнку, чарчэнні, матэматыцы, фізіцы, рускай і англійскай мовах. Шэсць гадоў я вучылася толькі на «выдатна» і атрымала даволі рэдкі сярод архітэктараў дыплом з адзнакаю. У студэнцкія гады я рабіла даволі смелыя, авангардныя па тым часе праекты, за якія не раз атрымоўвала найвышэйшую адзнаку «5 фонд», а гэта значыць, што яны павінны былі захоўвацца ў архіве факультэта. Я марыла, як кожны творчы архітэктар, пакінуць свой след у абліччы роднага горада і нават усёй краіны.

Прафесійную дзейнасць я пачала ў «Белпрампраекце», які размяшчаўся па вуліцы Леніна каля Мастацкага музея, а потым пераехаў на другі канец вуліцы, да Нямігі. І тое, і другое, на мой погляд, было для мяне знакавым, невыпадковым. З вуглавых вокнаў 8-га паверха адкрываўся прыгожы від на архітэктурныя ансамблі Верхняга горада — былыя кляштары бэрнардынаў і бэрнардынак. Зверху былі бачныя рэшткі вежаў касцёла езуітаў, перабудаванага пад клуб таварыства «Спартак», куды ў дзяцінстве я хадзіла ў бібліятэку. Але цяпер я глядзела на ўсё гэта іншымі вачыма.

Справа ў тым, што летам 1968 года, праз некалькі дзён пасля заканчэння БПІ, мяне запрасілі далучыцца да групы «фізікаў і лірыкаў», якія ўпершыню збіраліся ў вандроўку па тых цудоўных мясцінах Беларусі, што цяпер складаюць асноўныя турыстычныя маршруты. Гэтую групу пад эгідаю ЦК ВЛКСМ сфарміравала і ўзначаліла мастацтвазнаўца Элеанора Вецер, якая тады працавала экскурсаводам у Мастацкім музеі і адначасова выкладала на мастацкім факультэце БТМІ (цяпер Акадэмія мастацтваў). У нашу групу ўваходзілі мастакі Генадзь Сакалоў, Віктар Стасчанюк, Любоў Міньковіч, фізікі Уладзімір Карэлін, Людміла Катомцава і іншыя. Я была адзіным сярод іх архітэктарам.

Змена арыенціраў з апантанага творчага прагрэсу на заглыбленне ў айчынную гісторыю мастацтва адбылася для мяне на самым пачатку экспедыцыі, у Нясвіжы, каля касцёла Божага

Цела, дзе я застыла ашаломленая і ўражаная. Справа ў тым, што падчас вучобы ў нас былі цікавыя азнаямляльныя практыкі ў Маскве, Ленінградзе, Кіеве, але айчынную архітэктуру нам не выкладалі зусім. Пра тое, што ў Беларусі ёсць творы архітэктуры еўрапейскага ўзроўню, мы не ведалі! Мне, «хранічнай» выдатніцы, было асабліва сорамна за тую духоўную пустэчу. Гэтае вострае пачуццё і стала стымулам для вывучэння гісторыі і культуры Беларусі, якому я прысвяціла ўсё далейшае жыццё. Увосень таго ж года я апублікавала ў «ЛіМе» свой першы артыкул пад назваю «Мы ехалі не па адкрыцці».

*— Хто далей уплываў на фармаванне Вашых прафесійных арыенціраў? Ці быў для Вас свой «духоўны камертон», шчаслівы прыклад?*

— Быў. Найперш — Элеанора Вецер, якая выступала актыўным папулярызатарам нашай культурнай спадчыны. Мне пашчасціла ў той час пазнаёміцца з Уладзімірам Караткевічам, Зянонам Пазняком, Лявонам Баразною, Міхасём Раманюком, Яўгенам Кулікам і іншымі знакавымі асобамі беларускага адраджэння. Усе яны ставіліся да мяне з увагаю і павагаю з-за маіх рэдкіх на той час навуковых інтарэсаў у галіне гісторыі айчыннай архітэктуры. У 1969 годзе я падпісала складзенае Зянонам Пазняком пісьмо ў абарону гістарычнай забудовы Верхняга горада і раёна Нямігі ў Мінску, якое было надрукавана ў «Праўдзе» і выклікала шырокі рэзананс у грамадстве. Дарэчы, у тым жа годзе мы разам з Зянонам паступілі ў аспірантуру Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР: ён – на гісторыю тэатральнага мастацтва, а я — на гісторыю архітэктуры, у сектар «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі», які толькі што быў створаны. Я была тут першаю аспіранткаю. Помню, як рызыкоўна я сфармулявала тэму сваёй кандыдацкай дысертацыі, якія тады пісалі толькі па-руску: «Становление стиля барокко в монументальной архитектуре Беларуси». Слова «барока» пасля арышту знакамітага Шчакаціхіна і рэпрэсій 1930-х гадоў проста не існавала ў беларускім мастацтвазнаўстве, але прапанаваную мною тэму Вучоны савет інстытута зацвердзіў на наступны дзень. Гэта быў для мяне яскравы знак Боскай волі. А паколькі барока — архітэктурна-мастацкі стыль XVII–XVIII стагоддзяў, які найбольш яскрава выявіўся ў каталіцкім храмабудаўніцтве, мне давялося вывучаць у асноўным мастацкія характарыстыкі касцёлаў Беларусі, на той час паўсюдна зачыненых, разбураных і разрабаваных.

*— 70 гадоў — немалы адрэзак і для жыцця чалавека, і для гісторыі краіны. І гэта быў нялёгкі перыяд. Як Вы асэнсоўваеце яго сёння, калі стала амаль нормаю наракаць на савецкі час?*

— Па маіх адчуваннях, канец 60-х — пачатак 90-х гадоў былі шчаслівымі і для нас, і для краіны — нібы сам вецер гісторыі спадарожнічаў нам, хаця нельга сказаць, што не было подласці, беспрынцыповасці, зайздрасці, наўмысных і злосных перашкодаў, што моцна атручвалі жыццё. Але былі незабыўныя экспедыцыі па Беларусі, праца ў архівах, адкрыццё нязведанага, кантакты з унікальнымі людзьмі, нават пэўнае адчуванне свайго адметнага месца ў прасторы і часе.

Дарэчы, у пінскім францішканскім касцёле мы сустрэліся з ксяндзом Казімірам Свёнткам, які вадзіў нас на гарышча касцёла, каб паказаць палескія далягляды і крокvенную сістэму даху храма. У той час у Элеаноры Вецер і майго брата, фізіка Юрыя Хадыкі, якія кіравалі навуковымі экспедыцыямі, нарадзілася ідэя збіраць артэфакты для стварэння Музея старажытнабеларускай культуры, што і было паспяхова рэалізавана.

*— Што рабілі канкрэтна Вы?*

Маёй часткаю гэтай праграмы былі абмеры помнікаў архітэктуры шэрагу раёнаў, іх апісанне, выяўленне гістарычнай беларускай будаўнічай тэрміналогіі, а пазней рэдагаванне тома па помніках Брэсцкай вобласці ў Беларускай Савецкай Энцыклапедыі». Давялося яшчэ бачыць на чале выдавецтва Петруся Броўку. У памяці засталіся і словы іншага галоўнага рэдактара



З сястрою Ларысай, братам Юрыем Хадыкам і ўнукамі ў Музеі старажытнабеларускага мастацтва.

«Энцыклапедыі...» Алеся Петрашкевіча, які сказаў, што дзякуючы мне беларускае дойлідства заняло пачэснае месца ў выданнях «БелСЭ». Вялікую цікавасць да дзейнасці сектара «Збору помнікаў...» праяўляў Уладзімір Караткевіч.

*— Ваша жыццё заўсёды было вельмі насычаным, цікавым на падзеі, знаёмствы, у тым ліку з сынам Якуба Коласа Данілам Канстанцінавічам Міцкевічам, пад кіраўніцтвам якога вы ўдзельнічалі ў рэстаўрацыі мясцінаў Якуба Коласа на Стаўбцоўшчыне — у Акінчыцах, Альбуці, Ластку і Смольні ў 1973–1974 гадах.*

— Так, у той час мне давялося сустракацца з дзядзькам Юзікам і цёткаю Міхалінаю — братам і сястрою Якуба Коласа. У маёй сям'і, дарэчы, пануе агульнае захапленне творчасцю Якуба Коласа: мой старэйшы сын Міхась яшчэ ў першым класе ведаў на памяць некалькі раздзелаў з «Новай зямлі», і я лічу адным з самых любімых сваіх твораў «Сымона-музыку». У канцы 80-х я была ініцыятарам стварэння ў Старым парку Нясвіжа галерэі скульптурных партрэтаў звязаных з ім гістарычных асобаў: князя Радзівіла Сіроткі, картографа Тамаша Макоўскага, архітэктара Бернардоні, паэта і краязнаўцы Уладзіслава Сыракомлі, а таксама Якуба Коласа.

*— Я ведаю, што Нясвіж — адзін з Вашых любімых гарадоў, у якім Вы любіце бываць у кожную пару года...*

— Нясвіж для мяне лёсавызначальны. Акрамя таго, што касцёл Божага Цела значна змяніў мой прафесійны кірунак, мне давялося разам з гісторыкам Галенчанкам увесці ў навуковы ўжытак праектныя чарцяжы гэтага касцёла — першыя ў архітэктурнай практыцы



Тамара Габрусь з мужам Іванам і сяброўкамі каля царквы ў вёсцы Мураванка.

Цэнтральна-Усходняй Еўропы. Гэтая найкаштоўнейшая калекцыя чарцяжоў канца XVI стагоддзя прыдворнага архітэктара Радзівілаў манаха езуіта Бернардоні цалкам апублікаваная ў Рыме. Кожны год я прымаю ўдзел ў фестывалі «Музы Нясвіжа». Але яшчэ задоўга да фестываляў, да абвяшчэння Нясвіжа адным з еўрапейскіх культурных цэнтраў гэты горад прыцягваў мяне да сябе. У 1976 годзе мяне запрасілі правесці экскурсію ў Міры і Нясвіжы для дэлегацыі Пушкінскага Дома (Інстытута рускай літаратуры РАН у Санкт-Пецярбургу). Тады мне давялося пазнаёміцца з яго кіраўніком — акадэмікам Ліхачовым, які праз тры дні даслаў мне сваю кнігу з удзячнасцю за экскурсію. Я атрымала ад яго прапанову напісаць артыкул пра разбурэнне драўлянай царквы ў вёсцы Дастоева, з якой звязаны род Фёдара Дастаеўскага. Пазней Дзмітрый Ліхачоў успамінаў пра наша знаёмства ў сваіх «Письмах о прекрасном» і нават даслаў у Маскву свой водгук на абарону маёй кандыдацкай дысертацыі.

*— Сёння шмат гаворыцца пра тое, што кожная навука павінна мець практычнае прымяненне. Якія практычныя вынікі мае Ваша навуковая і грамадская дзейнасць?*

— Каля чвэрці стагоддзя я ўзначальвала архітэктурныя секцыі Мінскага гарадскога і Мінскага абласнога саветаў Беларускага добраахвотнага Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, актыўнымі ўдзельнікамі якога былі таксама Уладзімір Дзянісаў, Вячаслаў Чарнатаў, Алег Трусаў. Мы зрабілі шмат карыснага. У свой асабісты «залік» я адношу вяртанне да жыцця цудоўных барочных касцёлаў святога Андрэя ў Слоніме, а таксама дамініканаў у Навагрудку і Клецку. Зразумела, гэта не толькі мая заслуга, але калі ў сярэдзіне 70-х яны былі на мяжы знішчэння, мною, у адказ на запыты Вярхоўнага Савета БССР, былі складзены заключэнні аб іх гісторыка-культурнай каштоўнасці.

На працягу 45-ці гадоў навуковых распрацовак асаблівасцяў барока ў беларускім дойлідстве прыблізна палова з іх была прысвечана папулярызацыі помнікаў архітэктуры барока, іх ахове і выратаванню. Я прачытала безліч лекцый у Таварыстве «Веды», на курсах для экскурсаводаў, напісала мноства артыкулаў для «Збору помнікаў», «БелСЭ», розных навуковых зборнікаў і часопісаў, для шматтомных калектыўных выданняў, такіх як «Гісторыя беларускага мастацтва», «Памяць», «Скарына і яго час» і іншых.

*— Такім чынам Вы паступова набліжаліся да ўкладання кнігі «Страчаная спадчына», якая*

*мела ў грамадстве вялікі рэзананс.*

— У 1992 годзе выдавецтва «Полымя» выступіла з ініцыятываю стварэння кнігі энцыклапедычнага характару, прысвечанай зруйнаваным помнікам архітэктуры Беларусі, і звярнулася з гэтай ідэяй да патрыятычна скіраваных аўтараў. З-за неабсяжнасці і нявызначанасці крытэрыяў у падачы матэрыялу я нават спачатку адмовілася ад удзелу ў праекце, але затым распрацавала канцэпцыю выдання па архітэктурна-тыпалагічным прынцыпе і сацыяльных прычынах знішчэння айчынных гісторыка-культурных каштоўнасцяў. Я адмовілася ад нейтральнасці энцыклапедычных крытэрыяў, аддаўшы перавагу публіцыстычнасці, і ў выніку стала аўтарам-укладальнікам кнігі, названай мною «Страчаная спадчына». Сярод іншых я была аўтарам раздзела «Зруйнаваныя святыні». Мною былі ўключаны і апрацаваны раздзелы ўжо адышоўшых аўтараў — вядомага гісторыка Міхася Ткачова і маскоўскай даследчыцы Алены Квітніцкай. Пры накладзе ў 3000 асобнікаў «Страчанай спадчыны» ў кнігарнях не было ўжо праз месяц, і ў 2003 годзе з'явілася яе другое выданне.

*— Зразумела, што запатрабаванасць «Страчанай спадчыны» стала для Вас стымулам для напісання ўласных кніг. Мы ведаем, што Ваша шматгадовая даследчыцкая праца была абагульненая ў кнізе «Мураваныя харалы: Сакральная архітэктура беларускага барока», якая стала асноваю для Вашай доктарскай дысертацыі.*

— Так. У гэтай працы мною абгрунтавана мастацтвазнаўчая канцэпцыя спецыфікі архітэктуры беларускага барока ў сусветным кантэксце гэтага стылю, вылучаны этапы яго станаўлення — нясвіжскае, сармацкае і віленскае барока — акрэслены прыярытэты і самабытныя рысы айчыннага храмабудаўніцтва. Мае навуковыя распрацоўкі былі ўважліва ўспрынятыя вядомымі гісторыкамі мастацтва суседніх краінаў. За апошнія 10 гадоў выйшлі ў свет яшчэ тры мае кнігі і тры вялікія раздзелы ў шматтомным выданні «Архітэктура Беларусі: Нарысы эвалюцыі ва ўсходнеславянскім і еўрапейскім кантэсце», дзе распрацавана навуковая канцэпцыя самабытнасці беларускага дойлідства. Апошняя кніга рэпрэзентуе лепшыя ўзоры архітэктурнай спадчыны Беларусі, яе мураваны летапіс і драўляныя шэдэўры. У гэтай справе мне вельмі дапамаглі нашы таленавітыя фотамастакі — Уладзімір Багданаў, Андрэй Дыбоўскі, Мікола Мельнікаў.



Тамара Габрусь з сяброўкамі
Ліяй Салавей і Лідзіяй Камінскай.

*— Вы з'яўляецеся сябрам трох творчых саюзаў — архітэктараў, мастакоў і беларускіх пісьменнікаў, што сапраўды ўнікальна. Як гэта адбылося?*

— Цікавасць да разнастайных архітэктурных формаў і стыляў натуральна прывяла мяне да мастацтвазнаўства, а затым — да манументальнага мастацтва. Я ідэйна спрыяла ўстаноўцы шэрагу скульптурных помнікаў славутым дзеячам Беларусі ў Нясвіжы, Мінску, Полацку, Оршы, Іванаве, у тым ліку Язэпу Драздовічу і Напалеону Орду. Ужо ў статусе доктара мастацтвазнаўства я стала членам Рэспубліканскага экспертнага савета па манументальным мастацтве Беларусі (2003–2008 гады), удзельнічала ў вырашэнні мастацкага афармлення Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. У гэтым мой унёсак у мастацкае жыццё рэспублікі, а вось далучэнне да кагорты пісьменнікаў — справа асобная...

*— Многія ведаюць Вашы паэтычныя мініяцюры, віншаванні і сяброўскія прысвячэнні, якія Вы, паводле свайго прозвішча, называеце «габкамі»...*

— Складаць вершы я пачала недзе ў пятым класе і з імі трапіла на кансультацыю да Сяргея Грахоўскага ў часопіс «Бярозка». Там жа ўпершыню сустрэлася з маладымі Рыгорам Барадуліным і Генадзем Бураўкіным, якія расплюшчылі мне вочы на пашыранасць у Беларусі майго прозвішча Хадыка і на тое, што мае вершы... нельга лічыць паэзіяй. Дарэчы, першы верш на беларускай мове я склала ў 15 гадоў рэальна на беразе Нёмана, каля Стоўбцаў:

*Вечар спусціўся на Нёман,*
*Цені паклаў на траву*
*І, як мастак, упрыгожыў*
*У колер ружовы ваду.*
*Хваль несціхаючы гоман*
*Быццам прыціх. Цішыня.*
*Вось запяяў салавейка*
*У гонар мінуўшага дня.*
*Бачна празрыстае донца,*
*Рыбкі паснулі ў вадзе.*
*Вецер з чаротам бясконца*
*Ціха гамонку вядзе.*

Але да складання вершаў я вярнулася ўжо ў сталым узросце — і з гумарам. Я лічу сябе не паэткаю, а «канструктарам вершаў», пішу іх толькі з пільнай патрэбы: каб павіншаваць сяброў і блізкіх, да розных датаў. Аднак Рыгор Іванавіч Барадулін (дарэчы, мой



На фестывалі "Музы Нясвіжа"
з прафесарам, дырыжорам Міхаілам Фінбергам.

былы сусед па доме) ставіўся да маіх «габак» вельмі прыхільна і даў мне рэкамендацыю ў пісьменніцкі саюз, але, калі сур'ёзна, я трапіла туды з-за маіх нарысаў пра беларускую архітэктуру.

*— А хто даў іншыя дзве рэкамендацыі?*

— Вельмі паважаныя асобы — Арсень Ліс і Вячаслаў Чамярыцкі.

*— Сёння некаторыя беларусы, вяртаючыся з замежных вандровак, гавораць, што Мінск «пасля Парыжа» падаецца ім шэрым. А Вам?*

— Я карэнная мінчанка і ніколі так не думала, асабліва калі гаварыць пра фарбы. Самым прыгожым месцам на свеце мне сёння здаюцца ваколіцы Неапаля. Дарэчы, знакамітая фраза «Убачыць Парыж — і памерці» нарадзілася з фразы «Убачыць Неапаль — і памерці». Але маё самае любімае месца — Наваградак. А Віцебск — гэта ўвогуле маленькі Парыж... Чамусьці ўспомнілася, як плакаў ад замілавання роднымі краявідамі Ігнацій Дамейка, калі на старасці гадоў прыехаў на Беларусь...

*— Ваш юбілей супадае з юбілеем Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. Ведаю, што Вы любіце гэтае свята — дзень Перамогі, і любіце «ваенныя» песні.*

— Гэтае супадзенне вельмі істотнае ў маім лёсе. Я сама вызначаю сябе як «пераможнае дзіця». Нарадзілася ў спустошаным, зруйнаваным Мінску, калі ў ім было ўсяго каля 200 тысяч жыхароў. Без Перамогі я б увогуле, відаць, не нарадзілася. У гадавалым узросце я захварэла на пакінутую вайною эпідэмію поліяміэліту, ад якога ў той час не было выратавання. Адзіным сродкам было пераліванне крыві, але і яе не было. У галодным 1946 годзе мая маці атрымоўвала па картачцы 200 грамаў хлеба ў дзень. Доўгі час я не магла хадзіць, «кантавалася» ў бальніцах, аперыравалася, хадзіла ў спецыяльным абутку. У падлеткавым узросце ўсвядоміла: ці я ўсё жыццё буду выклікаць спачуванне да сябе, ці не буду зважаць на свае абмежаваныя магчымасці — і выбрала апошняе.

*— Гэта выбар аптыміста, і менавіта сваім аптымізмам Вы па-добраму ўражваеце тых, хто Вас ведае.*

— Так, аптымізм для мяне — гэта філасофія жыцця, заснаваная на асэнсаванні свайго ўласнага крыжа, свайго абавязку перад Богам, Айчынаю, народам, а таксама... на пачуцці гумару, які я лічу найвялікшым Божым дарам чалавеку. І яшчэ — прыгажосць. Яна штодня сапраўды выратоўвае свет — толькі трэба бачыць яе. Яшчэ я ўдзячная Богу за кола даўніх і надзейных сяброў і аднадумцаў.

*— Раскажыце крыху пра Вашу сям'ю.*

— Мой бацька, Віктар Лукіч, родам з Сенненскага раёна, адзін з першых інжынераў-будаўнікоў беларускай школы. Мама таксама мела тэхнічную адукацыю. Брат, Юры Хадыка — доктар фізіка-матэматычных навук, ініцыятар стварэння Музея старажытнабеларускай культуры. Сястра Ларыса — матэматык. Муж — Іван Габрусь, кандыдат філасофскіх навук, з «вогненнай вёскі» на Бабруйшчыне — Казулічы, дзе ў маладосці настаўнічаў Пімен Панчанка. Сыны, Міхась і Юрась, таксама добра адукаваныя хлопцы. Яшчэ ёсць унук Цімох і рыжы з белым кот Свелінк.

*— Аднойчы, вярнуўшыся з чарговага падарожжа па Беларусі, у размове са мной па тэлефоне, Вы сказалі: «Як я люблю глытаць прастор!», і зноў уразілі сваім уменнем любіць жыццё і ўсе яго праявы. Жадаю Вам бясконцасці прастораў і лёгкага дыхання ў іх паветры. Дзякуй за цікавую размову.*

*Размаўляла Лідзія Камінская.*

**Лідзія Камінская** — філолаг, супрацоўніца выдавецтва «Про Хрысто». Нарадзілася ў пас. Камсамольскі-на-Волзе Куйбышаўскай вобласці. Вучылася ў Бешанковіцкай СШ № 2 на Віцебшчыне. Закончыла філалагічны факультэт (рускае аддзяленне) Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1978). Працавала ў Чырвонадарскай васьмігадовай школе (Чэрвеньскі р-н), у Літаратурным музеі Янкі Купалы, Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры, у часопісе «Роднае слова». Жыве ў Мінску.

Аляксандр Ярашэвіч

# ПАРТРЭТЫ ФУНДАТАРАЎ

Біёграф Льва Сапегі як пра найбольш важны вынік яго дзейнасці пісаў, што пасля караля Уладзіслава Ягайлы канцлер ВКЛ учыніў найбольшую колькасць фундацый касцёлаў і кляштараў, и меў рацыю. Дастаткова згадаць выдатны архітэктурны ансамбль віленскага кляштара бэрнардынак з касцёлам св. Міхала, заснаваны Львом Сапегам у 1594 г., Троіцкую царкву ў Чарэі, касцёлы кармэлітаў у Бялынічах і Ружанах, многія парафіяльныя касцёлы. Знакаміты Супрасльскі манастыр пад Беластокам абавязаны сваім узнікненнем у пачатку XVI ст. ваяводу наваградскаму Аляксандру Хадкевічу і мітрапаліту Іосіфу Солтану. Вясковыя касцёлы і цэрквы таксама заснаваныя, як правіла, уласнікамі — каралямі і магнатамі, багатай і не вельмі багатай шляхтаю. У буйнейшых гарадах фундатарамі храмаў часам станавіліся рамесніцкія цэхі і рэлігійныя суполкі (брацтвы), у якіх былі і прадстаўнікі вышэйшага саслоўя.




Партрэт караля Рэчы Паспалітай Жыгімонта III Вазы.

Існавала старажытная традыцыя для памяці нашчадкам у храмах на ўваходнай сцяне ці ў сакрыстыі змяшчаць партрэты заснавальнікаў (фундатараў), якія не толькі фінансавалі пабудову святыні, але і забяспечвалі далейшае існаванне парафіі ці кляштара зямельнай маёмасцю, часам досыць аддаленай, вёскамі з сялянамі. Згадаем, напрыклад, Ігумень (цяпер Чэрвень) і Стрэшын, якія вялікім князем Вітаўтам у пачатку XV ст. былі прыпісаныя да віленскай катэдры. Партрэты фундатараў з'яўляліся не толькі знакамі ўдзячнасці і гонару, але своеасаблівымі гістарычнымі «дакументамі ў фарбах».

З далучэннем беларускіх земляў да Расійскай імперыі завяршылася і гісторыя фундатарскага партрэта, а пасля паўстання 1831 г. многія нашчадкі знакамітых родаў эмігравалі. Адной з праяваў рэпрэсій стала скасаванне ў 1832 г. пераважнай большасці кляштараў бэрнардынаў, францішканаў, кармэлітаў і іншых менш вядомых ордэнаў і кангрэгацый (у лепшым выпадку іх касцёлы станавіліся парафіяльнымі).

Пры імператары Аляксандры II у Вільні ўтварылася кола археолагаў і краязнаўцаў, даследчыкаў мясцовай гісторыі і мастацкай спадчыны. Намаганнямі Яўстахія Тышкевіча пры падтрымцы аднадумцаў у 1856 г. быў адчынены Віленскі музей старажытнасцяў, у які трапілі некалькі фундатарскіх партрэтаў. Помстаю генерала-губернатара Мураўёва за паўстанне 1863 года стала скасаванне Віленскага музея, і шмат якія яго экспанаты, у тым ліку 105 партрэтаў, былі адпраўлены ў Гістарычны музей у Маскве. Такім чынам там апынуўся і вядомы партрэт **Еўфрасінні Тышкевіч**, заснавальніцы кляштара дамініканаў у Ражаным Стоку на Падляшшы[1]. Існуе меркаванне, што яе партрэт быў намаляваны віленскім мастаком Ёганам Штэтарам у 1650-1660 гг. Выява Еўфрасінні ўпісаная ў авал, абведзены польскім надпісам буйнымі літарамі: «EVRROZYNA TYSZKIEWICZOWA STOLNIKOWA DERB. FVNDAT. ROZANSTOCKA». Еўфрасіння паказана пакаленна, на ёй паверх белай

**Аляксандр ЯРАШЭВІЧ** — кандыдат мастацтвазнаўства, навуковы супрацоўнік Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі. Нарадзіўся 28 жніўня 1940 года на Стаўбцоўшчыне ў сям'і ўніятаў. Закончыў фізічны факультэт БДУ (1962). Працаваў у Інстытуце энергетычных і ядзерных даследаванняў у Соснах. Даследуе мастацтва эпохі Барока і гісторыю рэлігіі на Беларусі. Адзін з аўтараў двухтомнага даведніка «Рымска-каталіцкія Кальварыйскія могілкі ў Мінску на Беларусі» (Варшава, 1996, 2000), аўтар кніг «Маці Божая Снежная» ў Беларусі» («Про Хрысто, 2003»), «Абраз Маці Божай Будслаўскай» («Про Хрысто, 2004»), укладальнік і адзін з аўтараў альбома «Музей старажытнабеларускай культуры» (Мінск, 2004).



Партрэт Міхала Дамброўскага. 1791 г.

сукенкі — чорнае адзенне з белаю пелярынаю; на галаве — чорны капот. Такія «манаскія» колеры адзення наводзяць на думку, што фундатарка прадстаўлена ў стане ўдавы (дэрпцкага стольніка Фелікса Тышкевіча). На фоне справа — герб Тышкевічаў «Леліва», злева — выява Ражанастоцкага абраза Маці Божай (па іканаграфіі — Чанстахоўскага), які праславіўся цудамі ў доме Тышкевічаў і стаў прычынаю заснавання ў Ражаным Стоку кляштара дамініканаў.

Пасля Другой сусветнай вайны каля 30-ці партрэтаў з колішніх збораў Віленскага музея старажытнасцяў былі вернуты ў Літоўскі гістарычны музей у Вільнюсе, у тым ліку партрэты фундатараў кляштараў канонікаў латэранскіх на беларускіх землях: віцебскага кашталяна Мікалая Вольскага з Крамяніцы, Яна Караля Хадкевіча з Быхава, падканцлера ВКЛ Казіміра Льва Сапегі са Слоніма.

Нягледзячы на ўсе войны і дзяржаўныя перамены, віленскія музеі захавалі свае фонды значна лепш, чым мінскія, магілёўскія і віцебскія, у прыватнасці, партрэты фундатараў з беларускіх храмаў. Найперш згадаем партрэт вялікага **князя Вітаўта** з брэсцкага кляштара аўгустынаў[2]. Гэты адзін з самых старажытных кляштараў на Беларусі, заснаваны ў 1412 г. ( з канца XVII ст. размяшчаўся пры Рынкавым пляцы), зачынены расійскімі ўладамі ў 1830-я гады. Тады ж партрэт быў перанесены ў віленскі кляштар аўгустынаў (цяпер знаходзіцца ў Літоўскім мастацкім музеі).

Парадны партрэт значнага фармату намаляваны ў стылі барока 1-й паловы XVIII ст. Вялікі князь Вітаўт паказаны ў рост, амаль франтальна; на ім паверх доўгага жупана надзеты панцыр, плечы ахінае мантыя. За спінаю бачны намёт; унізе надпіс на лаціне абазначае Аляксандра Вітаўта як вялікага князя Літвы, фундатара брэсцкага кляштара ў 1412 годзе па Нараджэнні Хрыстовым, на 6-ы дзень пасля ўрачыстасці Унебаўзяцця Панны Марыі.

У тым жа мастацкім музеі ў Вільні захоўваецца партрэт **Міхала Дамброўскага**, дабрадзея кляштара дамініканак у Навагрудку. Яго паясная выява ў парыку саксонскіх часоў, са знакам ордэна Белага Арла, змешчана ў авале, абведзеным стужкаю з надпісам: MICHAL DABROWSKI Kawaler Maltanski wielki dobrodziej W: W: PP Dominikanek Nowogruckich A. D. 1791. Rodzony Ignacego Dobrowskiego chor: Wilkomer[3]. Міхал Дамброўскі вядомы ў 1-й палове XVIII ст. як камандор Мальтыйскага ордэну ў Сталовічах; пры ім тут вымураваны велічны храм св. Яна Хрысціцеля па праектах Іосіфа Фантаны і Яна Глаўбіца (цяпер царква імя Аляксандра Неўскага). З надпіса на партрэце можна зразумець, што ён намаляваны ў 1791 г. па замове родзіча Міхала —харунжага Вілкамірскага павета Ігнацыя Дамброўскага (ён вядомы сваім подпісам за выбранне караля Станіслава Аўгуста ў 1764 г.).

Яшчэ ў пачатку XX ст. праваслаўныя манастырскія храмы захоўвалі візуальную памяць пра сваіх заснавальнікаў. Да прыкладу, аршанскі Куцеінскі манастыр — партрэт навагрудскага кашталяна Багдана-Фёдара Статкевіча-Заверскага. Зрэдку партрэты фундатараў і ў нашы дні можна ўбачыць у інтэр'ерах храмаў Літвы, напрыклад, велічная выява ў рост караля польскага і вялікага князя літоўскага Аляксандра Ягелона адразу звяртае на сябе ўвагу ў віленскім (былым дамініканскім) касцёле Святога Духа.

У Навагрудку, сапраўды воляю нябёсаў і адданасцю вернікаў, захаваны старажытныя рэліквіі: з касцёла дамініканак — абраз Маці Божай Снежнай, а з касцёла дамініканаў — партрэт фундатара **Крыштафа Хадкевіча** (+1652). Гэта сын Гераніма (дарэчы, апекуна Сафіі Слуцкай), кашталян троцкі (1633–1636), затым віленскі (1636–1642), ваявода віленскі з 1642 года. Ён паказаны пакаленна, злёгку павернутым управа; на ім чырвоны кунтуш з доўгімі рукавамі, перапаясаны шырокім

белым пасам; на плечы накінута дэлія з футрам, змацаваная залатым ланцужком. Паголеную галаву прыкрывае чорная шапачка. Леваю рукою пры поясе ваявода трымае эфес шаблі, разам з тым указваючы на хартыю з тэкстам пра заснаванне ў Навагрудку кляштара дамініканаў у 1637 годзе.

У гродзенскім па-францішканскім касцёле Панны Марыі Анёльскай захаваліся партрэты **Яўстахія і Сузанны Курчаў**, якія ў 1635 г. заснавалі кляштар.

З касцёла Узвышэння Святога Крыжа ў Макараўцах (Уснары) на Гродзеншчыне паходзіць партрэт **Віленскага біскупа Караля Панцэжынскага** (1724–1729), які цяпер знаходзіцца ў Музеі старажытнабеларускай культуры ў Мінску. «Гэта быў вельмі старанны пастыр, характару надзвычай абаяльнага і разам з тым сталага. Ён стараўся адпавядаць патрэбам Касцёла і Айчыны. Задумаў шмат, але выканаць не змог, бо па нядоўгім пастырстве нечакана памёр», — пісаў гісторык віленскай катэдры кс. Ян Курчэўскі[4]. Біскуп паказаны па пояс за столікам, на якім ляжыць кіпа дакументаў і стаіць чарніліца з гусіным пяром. Дэталі не выпадковыя, бо Караль Панцэжынскі меў яшчэ і ганаровую пасаду пісара Вялікага Княства Літоўскага. Згадаем, што касцёл ва Уснары быў пабудаваны ў 1795 г. Людвікам Панцэжынскім, напэўна, родзічам біскупа.

Аднак тыпалогія патрэта і адзенне на біскупе характэрныя хутчэй для 2-й паловы XVIII ст., а ордэн святога Станіслава дае падставу аднесці партрэт да часу апошняга караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста. Ці не прадстаўлены тут Ігнацы Якуб Масальскі, Віленскі біскуп (1762–1784 гг.) княжацкага роду, на што паказвае і комжа з футрам гарнастая. «Муж выключных здольнасцяў, абшырных ведаў, пан заможны і пастыр, які турбаваўся аб дабры і асвеце народа. Калі б гістарычныя падзеі ішлі звычайным шляхам, ён мог быць зоркай у віленскай сталіцы, але перавароты і паражэнні, і прытым неабачлівасць у траты фундушаў і замах на высокі узровень пахіснулі і зацьмілі яго веліч і сталі прычынай яго трагічнай смерці»[5]. Біскуп жыў пераважна ў Варшаве, ён не падтрымаў паўстання Касцюшкі і... быў павешаны паўстанцамі. І што атрымалі ў выніку варшаўскія «якабінцы»? Разгром і трэці падзел Рэчы Паспалітай, страту дзяржаўнасці больш чым на стагоддзе.

Экспедыцыяй Музея старажытнабеларускай культуры АН Беларусі на чале з В. В. Церашчатавай у 1985 г. у сакрыстыі касцёла Св. Тройцы ў Крывічах (на Мядзельшчыне) быў выяўлены ў вельмі пашкоджаным стане шляхецкі партрэт з надпісам выразнай графікай (на полі пад гербам) у стылі ракако: W.I.Msc: P. Andrzey UKOLSKI Qiwun I Podkomodzy W: Trockiego Fundator X.X. Trynitarzow w Krzywiczach[6]. Выява **Укольскага** — выдатны ўзор «сармацкага партрэта»: характэрны мясцовы тыпаж з гарбатым носам, паголеным высокім ілбом і скронямі дасканала спалучаецца з фарсістым урачыстым уборам. Мастак любоўна выпісаў лініі кунтуша, шырокі пас слуцкага тыпу, мініяцюрныя аксесуары аздаблення, эфес шаблі-палашыка, жэзл ваяводскага ўрадоўца ў руцэ троцкага падкаморнага.

Самая сенсацыйная знаходка была ў вёсцы Задарожжа Глыбоцкага раёна. Тут у сакрыстыі велічнага неагатычнага касцёла пачатку XX ст. цудам захаваўся партрэт **караля Рэчы Паспалітай Жыгімонта III Вазы**. Аказалася, што па яго загадзе ў 1601 г. і быў заснаваны касцёл у Задарожжы. У канцы XIX ст. драўляны храм згарэў з усімі алтарамі і абразамі. Відавочна, партрэт на той час захоўваўся ў плябаніі. На палатне кароль прадстаўлены ў рост, закрыты даспехамі. Малюнак свабодны, нават экспрэсіўны, у стылі барока сярэдняга ўзроўню. Мастак мясцовай школы (з Вільні ці Полацка?), напэўна, бачыў выявы Жыгімонта III, маляваныя ці графічныя, і напісаў караля ў даспехах (Жыгімонт III у 1611 г. паспяхова хадзіў з войскам пад Смаленск, вярнуўшы яго Вялікаму Княству Літоўскаму). Спадзяемся, што партрэт у касцёле захоўваецца і сёння.

Эфектны ўзор фундатарскага партрэта **Ігнацыя Завішы** паходзіць з кляштара базыліянаў у Лядах, каля Мінска (Нацыянальны мастацкі музей Беларусі). Партрэт пабедраны, твар фундатара павернуты ўлева, правая рука трымае высокі жэзл маршалка, левая далонь фарсіста сціскае эфес шаблі. Пунсовы кунтуш перацягнуты на таліі шырокім залататканым пасам. Праз плячо перакінута стужка з ордэнам Белага Арла; унізе — выгнутая стужка-бандэроль з надпісам па-польску: «Ігнацы граф на Бакштах, Бердычаве і Завішыне, Кіжгайла Завіша, маршалак надворны ВКЛ мінскі, бабруйскі, суміліскі староста, генерал-маёр Войскаў Польскіх. Фундатар кляштара ляданскага. Року 1732».

На жаль , да нашага часу дайшлі толькі адзінкавыя фундатарскія партрэты, і то пераважна з кляштарных касцёлаў. Толькі ў архіўных вопісах часам ёсць указанне на партрэт фундатара парафіі (напрыклад, у вопісе XVIII ст. вішнеўскага касцёла (на Валожыншчыне) згадваецца пра партрэт яго заснавальніка Сенкі Гедыголдавіча).

1 Жывапіс Беларусі XII-XVIII стагоддзяў. — Мінск, «Беларусь». 1980.
2 Lietuvos valstybes kurejai. I t. XVI-XIX a. portretai. Lietuvos dailes muzejus. — Vilnius, 2008. Cat. 480.
3 Lietuvos valstybes kurejai. I t. Kat.76.
4 Kościół zamkowy czyli katedra wileńska. — Wilno, 1908. — S. 316.
5 Тамсама. — S. 317.
6 Музей старажытнабеларускай культуры. — Мінск, 2003. С. 107.

*Рэдакцыя часопіса віншуе Аляксандра Ярашэвіча з прыгожым жыццёвым юбілеем. Шчыра зычым усіх патрэбных Божых ласкаў і чакаем новых артыкулаў і кніг.*



Ігар Сурмачэўскі

# Вечнае жыццё

Дзед Юзік адышоў у іншы свет на зыходзе халоднай зімы 1965 года. Бурлівыя падзеі пачатку ХХ стагоддзя, на якія прыйшлася маладосць майго дзеда, нагадалі пра сябе праз паўстагоддзя. І самае страшнае з іх — нямецкая газавая атака пад Баранавічамі ў Першую сусветную, ад якой дзед пакутаваў амаль усё жыццё, кашляючы крывёю. Мінскія лекары з Чыгуначнай бальніцы, куды трапіў на лячэнне дзед Юзік, спачувальна сказалі: «Калі б на пару гадкоў раней — выразалі б мы адно пашкоджанае лёгкае, і Ваш дзед працягнуў бы яшчэ пару гадоў з Божай дапамогай. А так!.. Позна». Такі быў канчатковы прысуд. Апошнія жыццёвыя сілы згарэлі за некалькі дзён, і дзед памёр у пятніцу, 5 лютага 1965 года.

Мне было толькі чатыры гады, але я добра памятаю той чорна-белы лютаўскі дзень. Ён занатаваны ў маёй памяці на ўсё «жыццё», нібы на старой, трохі падрапанай фотастужцы. У дзень пахавання дзеда была шэрань і замець. Дзьмуў халодны, прабіраючы да касцей пранізлівы вецер. Маленькія, як проса, ільдзінкі калолі мне твар і белымі вужакамі круціліся па прамерзлай шэрай шашы, якая ішла ад Фаніпаля да старога Вязынскага цвінтара. Здавалася, быццам увесь свет, здранцвелы ў бела-дымчатых зімовых пялюшках, перавярнуўся і праваліўся ў непраглядную ледзяную бездань небыцця. Вось і старыя Вязынскія могілкі. Цяжкую сасновую труну, абабітую чырвона-крывавым паркалем, везлі на машыне, абсталяванай на кузаве невялікай бляшанай будай. На гэтай машыне абходчыкі дыстанцыі чыгункі кожны дзень і ў дождж, і ў снег аглядалі рэйкі, пракладзеныя каля Фаніпаля з Брэста на Маскву яшчэ ў ХІХ стагоддзі. Нягледзячы на золкае надвор'е, у апошні шлях майго дзеда прыйшлі праводзіць не толькі родныя, але і шматлікія суседзі, сябры-чыгуначнікі. Дзед за ўсё сваё жыццё прайшоў можа не адну тысячу кіламетраў ад станцыі Фаніпаль уздоўж чыгункі ў бок Мінска і Койданава, штодня аглядаючы кожны сантыметр чыгуначнага палатна. Гэты шлях у сем кіламетраў меў строга афіцыйную назву: «Шостая акруга першай мінскай дыстанцыі шляху». І дзед як свае пяць пальцаў ведаў кожную шпалу і кожны кастыль, што трымаў рэйку на гэтых сямі кіламетрах чыгункі. Ведаў ён і старыя могілкі пад шатамі старых клёнаў каля пагорка-фундамента старажытнай капліцы, якая мясцілася на скрыжаванні шляхоў паміж чыгункай і шашой. Тут, каля старых могілак пры чыгунцы, пачалося жыццё Юзіка ў хаце Сурмачэўскіх, якіх рускія чыноўнікі ў пачатку ХІХ стагоддзя запісвалі ў імперскія рэвізскія кнігі не інакш як «Соромочинских», мінскіх мяшчанаў, якія «бавились рольнитством», г.зн. займаліся сельскай гаспадаркай. Дзяцінства яго прайшло ў двары, які меў дзівосную мясцовую назву — Акалёна. Ніхто і не памятае тае назвы цяпер, а яна тлумачыцца лёгка — тут праходзіла дарога з Койданава на Мінск, і двор стаяў якраз ля верставога слупа — «У калоны». А побач на могілках, за некалькі метраў ад хаты, спачывалі многія нашы родныя. Іх вечны супакой калыхалі дождж, вецер і малітвы родзічаў пад скляпеннямі шатаў стогадовых дрэваў. У першыя гады ХХ стагоддзя мой дзед уцякаў з нядзельнай школы на стайню да пана Багдашэўскага, бо любоў да коней гарэла ў душы падлетка мацней, чым любоў да навукі. Потым была вайна, і яшчэ вайна і зноў вайна. Дзесьці паміж войнамі заквітнела яго каханне, нарадзілася сям'я. Дзіцячую мару пра сваіх коней сталінскія сокалы выклевалі цалкам з душы ў 1930-я, і штодзённае быццё запоўніла любімая праца на чыгунцы. І вось у лютым 1965 года, напэўна ж, па Божым Провідзе, у гэтым сакральным месцы між двух шляхоў дзівосным чынам злучыліся нараджэнне, жыццё і смерць майго дзеда...

Смерць самага блізкага чалавека моцна ўзрушыла майго тату Вацлава. Ён усё не верыў у тое, што здарылася. Потым, калі я ўжо пасталеў, тата распавёў мне свае перажыванні ў той страшны чорна-белы дзень. Яму здавалася, што ўсё вакол адбывалася не з ім, а з іншым чалавекам. Чырвоная, як кроў, труна... ледзяныя, белыя, нібы саван, могілкі з чорным павуціннем старых дрэваў... вялікае застолле... шызы дым махоркі і гул размоваў, як

**Ігар Сурмачэўскі** — мастак, рэстаўратар, калекцыянер. Нарадзіўся 3 кастрычніка 1961 года ў вёсцы Вязань Дзяржынскага раёна Мінскай вобласці (былы маёнтак Багдашэўскіх). У 1979–1984 гг. вучыўся ў Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце на кафедры «Інтэр'ер і абсталяванне». З 1988 года ўвайшоў у склад маладзевай секцыі Саюза мастакоў БССР. З 1980 года збірае калекцыю рэчаў і дакументаў па гісторыі беларускай культуры, якой цікавіўся яшчэ з дзяцінства. З 1988 года займаецца рэстаўрацыяй абразоў і жывапісу. У 2010 годзе ўзнагароджаны ордэнам святой Еўфрасінні Полацкай за заслугі перад Беларускай Праваслаўнай Царквою.

праз вату ... Пад вечар тата праваліўся ў глыбокі сон. Ноччу, у трызненні ад невыноснага душэўнага болю, ён ускочыў, разбіў вялікае люстэрка шафы ў калідоры — яго забылі завесіць, як належыць па старым звычаі. Глыбока паласнуў шклом руку і ў крыві выбег неапрануты ў начную сцюжу. У снезе пад раніцу яго, знясіленага, знайшоў сусед...

Штогод, калі я бачу белыя змейкі лютаўскай замеці на дарозе, мае думкі разам з ёю зноў і зноў лятуць да майго дзеда Юзіка ...



Здавалася — на гэтым усё. Канец. Жыццё скончылася. І далей толькі цемра нябыту?.. Адказ на гэтае пытанне прыйшоў сам сабою далёка ад старых Вязынскіх могілак. Амаль праз пяцьдзясят гадоў. Здавалася, такі просты адказ, а па яго давялося ехаць за тысячы кіламетраў, аж у Францыю.

На шчасце, я шпацырую па самым прыгожым горадзе свету часцей за ўсё адзін і менавіта зімой, у лютым. Так спакойна. Людзей у Парыжы зусім мала — толькі жвавыя кітайскія турысты з азіяцкай апантанасцю фатаграфуюць зімовы дробны дождж з другога паверха чырвонага экскурсійнага аўтобуса. Можна запаволіць крокі і, спыніўшыся каля каменных парэнчаў, паглядзець на халодныя срабрыстыя хвалі Сены, па якіх павольна плыве доўгі пляскаты прагулачны кацер, сумны ў адзіноце некалькіх турыстаў, здранцвелых на палубе ад халадэчы. На беразе Сены букіністы зачынілі свае невялічкія крамы, і яны выглядаюць жалезнымі куфрамі, бліскучымі ад кропляў дажджу, поўнымі антыкварных скарбаў. Або вось старая знаёмая цыганка. Яна штогод, сагнуўшыся ў тры пагібелі, дрыготкай ссухнелаю далонню просіць міласціну каля Луўра. І я ніяк не магу яе сфатаграфаваць. Пабачыўшы фотаапарат, старая тут жа адварочваецца і вокамгненна слізгае за кут мура, нібы лісічка ў сваю нару. На гэты раз я не палюю за цікавымі кадрамі — я іду ў кляштар Клюні. Сведка парыжскага Сярэднявечча знаходзіцца на правым беразе Сены, у так званым Лацінскім квартале. Па дарозе я заходжу на востраў Сітэ, каб паслухаць густы прыглушана-велічны голас званоў Нотр-Дама, якія склікаюць нешматлікіх вернікаў на вячэрнюю Імшу. А вернікі у большасці сваёй — выхадцы з Афрыкі. Маленькая далікатная бабулька каля сабора крышыць белы ранішні «багет» — корміць зграю галубоў. Стракатых прадвеснікаў супакою так шмат, што старую парыжанку можна было і не заўважыць скрозь трымценне тысячы крылаў.

Я рушыў праз мост у вузкую шчыліну вуліц са шматлікімі маленькімі крамамі, дзе ў большасці сваёй гаспадарамі сябе адчуваюць арабы і італьянцы. Сярэднявечны кляштар таксама можна было не заўважыць, такі ён цацачны і маленькі, быццам знарок схаваны сярод імперскіх шэрых будынкаў XIX стагоддзя, як кацяня ў вялікім горадзе. Наведвальнікаў у кляштарным музеі не было, што парадавала мяне. Вядома, усе турысты сышлі ў Луўр з надзеяй разгадаць таямніцу ўсмешкі Джаконды. Мала хто будзе паглыбляцца сярод «свята, якое заўсёды з табой», у самотныя хвалі Сярэднявечча з амаль нерухомай аскетычнасцю і з жудаснымі вогнішчамі інквізіцыі. Але чым далей я ішоў па залах-келлях былога кляштара, тым больш у маёй свядомасці руйнаваліся міфы аб самотным жыцці суровых галаў, якія знішчылі ўсцешаны свет Рымскай імперыі. Такія тонкія карункі казачнага арнаменту капітэляў маглі выткаць у камені толькі Майстры, якія вельмі любілі жыццё, марылі аб вечным, чэрпалі натхненне ў старажытных паданнях. Вось там, сярод драўляных скульптураў шматлікіх Мадоннаў з прымружанымі «кранахаўскімі» міндалавымі вачыма на вытанчаных тварах, я ўбачыў... таямніцу вечнага жыцця...

Гэта была скульптурная кампазіцыя «Святая Сям'я». У праваслаўнай традыцыі гэтая іканаграфія вядомая як «Багародзіца Трох Радасцяў». На праваслаўных абразах, што «прыходзілі» да мяне на рэстаўрацыю, лёгка ўгадвалася вядомая кампазіцыя карціны вялікага італьянскага майстра Рафаэля *Madonna della seggiola* («Мадонна ў фатэлі»). Арыгінал гэтай карціны знаходзіцца ў Фларэнцыі, а сама кампазіцыя ўпісана ў круг — тонда. Апроч мастацкіх альбомаў, упершыню я ўбачыў гэты сюжэт на нашай палескай іконе XIX стагоддзя, мілай і сардэчнай у сваёй цеплыні і наіўнасці. Кампазіцыя абраза была таксама ўпісаная ў тонда, а куты мясцовы майстар упрыгожыў фантастычнымі велізарнымі букетамі ружаў. Такія вялікія кветкі маглі быць, на думку іканапісца, толькі райскімі.

Трохі пазней да мяне трапіў абраз сярэдзіны XIX стагоддзя ў срэбранай шаце. Гэта ўжо быў прафесійны акадэмічны жывапіс Санкт-Пецярбурга, і кампазіцыя была дапоўненая святым Юзафам, які паважна стаяў за Багародзіцаю, трымаючай на руках Дзіцятка Езуса. А вось тут, у Парыжы, за шклом музейнай вітрыны разгортвалася чарадзейства ў аб'ёмным выкананні — у скульптурнай кампазіцыі. Багародзіца, адарваўшыся ад кнігі, з замілаваннем назірала, як святы Юзаф гуляе з Дзіцяткам... Нечакана для сябе я па-новаму зірнуў на гэты сакральны сюжэт — перада мною паўстаў мой дзядуля, які з радасцю забаўляецца са сваім маленькім унукам. Немаўля з задавальненнем і з усмешкаю на вуснах гуляе кудзеркамі калматай барады старога. Здаецца, такі просты жэст, такія простыя пачуцці! Як жа ўдала мастак аскетычнага ў пачуццях Сярэднявечча злавіў гэты кранальны жэст, поўны сакральнай таямніцы жыцця! Тут да мяне і прыйшоў адказ: калі ўнук гуляе кудзеркаміі барады свайго дзядулі — жыццё працягваецца.

Яно вечнае...



# Аршанскія каталіцкія могілкі:
## гісторыя надмагілля Людвіку Унгерману

Разам з помнікамі архітэктуры, якія вельмі вобразна і красамоўна выяўляюць аблічча Оршы, як і іншых літоўскіх (беларускіх) гарадоў, мястэчак і вёсак, існуе сакральная культура горада, якая на могілках рэзка падзяляецца адпаведна носьбітам markup рознай культуры. І веравызнанне тут мае толькі знешнюю абалонку з'явы. Гэта культура могілак. Каталіцкія могілкі ў Оршы размешчаны на вялікім узвышшы, якое цягнецца ўздоўж ракі Аршыцы па яе правым беразе. Зразумела, што гэтая культура складалася ў апошнія дзесяцігоддзі (магчыма, апошняе стагоддзе) Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў. Тут хавалі парафіянаў аршанскіх каталіцкіх храмаў, якіх у горадзе была абсалютная большасць. Напэўна, на гэтым могільніку хавалі і парафіянаў двух гарадскіх уніяцкіх храмаў і базыліянскіх кляштараў. Згадаем, што пасля 1839 г., калі царызм, груба парушыўшы літоўскія законы, духоўныя ўстоі і традыцыі нашага народа, скасаваў Уніяцкую Царкву Вялікага Княства Літоўскага, жыццё асноўнай і самай масавай рэлігійнай супольнасці ВКЛ паступова пачало згасаць і да XX ст. зусім перастала існаваць. Таму ўжо ў мінулым стагоддзі на каталіцкіх могілках хавалі толькі католікаў — прадстаўнікоў розных станаў шляхты, а пазней — пераважна збяднелай шляхты, мяшчанаў і гарадской інтэлігенцыі. У 1950–1960 гг. тут былі рэдкія пахаванні нашчадкаў колішняй збяднелай шляхты, якія традыцыйна звязвалі свой радавод з гісторыяй Рэчы Паспалітай.

У народным побыце могілкі называліся «польскімі», бо абсалютная большасць надпісаў на надмагільных помніках была зроблена на польскай мове. Гэта былі надмагіллі з шыкоўнага чорнага, чырвонага, шэрага граніту і белага мармуру з металёвымі дэталямі. Былі і літыя металёвыя помнікі. І гэтыя надмагіллі ўражвалі нашае дзіцячае, а потым юначае ўяўленне сваёй дасканаласцю і прыгажосцю. Мы часта хадзілі сюды паглядзець і падзівіцца на іх, як у музей на выставу.

Пазней, у маладосці, калі я ўжо трохі ведаў асновы беларускай гісторыі і мог вольна прачытаць польскі тэкст, я бачыў на помніках беларускія прозвішчы, некаторыя з якіх былі такія, як у людзей, што жылі сярод нас: Бахановіч, Барткевіч, Карповіч, Баравік, Падбярозавік, Козел ды іншыя. У жыцці гэтыя людзі не выяўлялі сваіх адносінаў да мовы суседняга народа, і мы не чулі, каб яны ці іх дзеці размаўлялі па-польску. І наогул, у Оршы ў 1950-я гады польскай мовы не было чуваць, а вось па-беларуску гаварыла абсалютная большасць карэннага насельніцтва. Зразумела, што на каталіцкіх могілках пахаваныя не палякі, а мясцовыя католікі. Гэта тая частка нашага грамадства, праз якое пракацілася і так моцна паўплывала на свядомасць паланізацыя, што людзі з лёгкасцю ўспрынялі мову сваіх суседзяў і духоўную культуру, якая для іх была толькі моваю і культураю Касцёла, духоўнай памяццю пра мінулае, а ў выніку змяніла ўсё культурнае аблічча Вялікага Княства Літоўскага.

З 1970 г. на могілках дазволілі хаваць каго заўгодна, але на свабоднай новай тэрыторыі. Аднак кіраўніцтву горада гэтага падалося мала, і яно выдала загад руйнаваць старыя польскамоўныя помнікі, знішчаць магілы, а на іх месцы рабіць пахаванні новаўтворанай, ужо русіфікаванай, часткі новага савецкага грамадства.

Карціна вельмі хутка змянілася: на месцы паланізаваных бе-



ларускіх жыхароў пачалі хаваць прадстаўнікоў русіфікаванага савецкага грамадства. І ўжо даўно на могілках не ўбачыш старых польскамоўных помнікаў, але няма і беларускамоўных. На жаль, грамадства не змагло самаарганізавацца і прыняць сваю родную мову як асноўны элемент культуры, як самы неабходны яе чыннік.

І ўсё ж пашанцавала аднаму надмагільнаму помніку, які не здолелі знішчыць. Гэта металёвая пліта з тэкстам... на чэшскай мове — абсалютнае дзіва з усіх пазіцый. Пліту абхапіла дрэва, і больш чым за сто гадоў яна натуральным чынам урастала ў гэта тоўстае дрэва, якое расце ва ўсе бакі, а памятная пліта яшчэ больш урастае ў ствол і разам з дрэвам адрываецца ад зямлі, падымаецца ўгору... Ніхто не гарантуе, што па загадзе начальства з гарвыканкама не прыйдуць дзядзькі з піламі і не спілуюць гэта дрэва, а пліту здадуць ва ўтыль.

У 60–70-я гады мінулага стагоддзя здавалася, што Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры ў горадзе зусім не было, бо менавіта ў тыя гады вандалы знішчылі мноства помнікаў архітэктуры! А сёння, каб уратаваць гэты помнік, узяць яго на ўлік, трэба падключаць да гэтай праблемы не толькі Беларускае добраахвотнае таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, але і Беларускае таварыства аховы прыроды. У тыя ж 1970-я гады Беларуская грамадзянская супольнасць у Оршы толькі нараджалася, таму рэагаваць на дзеянні гарадскога начальства яшчэ не было каму.

Хто такі Людвік Унгерман? Што ён рабіў у Оршы, як ён туды трапіў? Кім была тая аршанка, у якую так закахаўся Людвік, але, не знайшоўшы ўзаемнасці, пайшоў тапіцца ў Аршыцу? Чаму ён так жорстка абышоўся з сабою?

У Оршы дагэтуль пераказваецца легенда пра палымянае каханне і гвалтоўную смерць Людвіка...

Надмагільная пліта ў памяць Людвіка досыць простая, але зроблена з густам, якасна. На ёй такі тэкст:

LUDVUK UNGERMAN
ZESNUL V PANU
4 KVETNA 1908 R
V 32 ROKU SVEHO ZITI.
ODPOCIVEJ V POKOJI.
Людвік Унгерман
заснуў у Пану
4 красавіка 1908 г.,
у 32 гады свайго жыцця.
Спачывай у супакоі.

Верх пліты ўрос у дрэва, таму не ўвесь тэкст чытаецца.

Усталяванне гэтай надмагільнай пліты гаворыць пра тое, што ў Оршы было каму паклапаціцца, каб спраектаваць і зрабіць пліту з пісьменным надпісам на чэшскай мове. З іншага боку, калі наш герой саматапелец, касцёл мог не дазволіць хаваць яго на могілках. Аднак ён пахаваны...

Магчыма, гэта публікацыя дапаможа ў далейшым даследаванні абставінаў смерці Людвіка. Можа, знойдуцца людзі, якія чулі яго гісторыю і нешта змаглі расказаць. Заўважым, што пры амаль поўнай адсутнасці беларуска-чэшскіх адносінаў у пачатку ХХ ст. на тэрыторыі Беларусі гэта адзін са значных і кранальных прыкладаў двухбаковых дачыненняў, якія трэба даследаваць.

*Мікола Купава*

---

**Мікола КУПАВА** — мастак. Нарадзіўся ў 1946 годзе ў Оршы. У 1976 г. скончыў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут. Удзельнік шматлікіх мастацкіх выставаў. Сябра Саюза мастакоў з 1978 года. Працаваў выкладчыкам у Мінскім мастацкім вучылішчы (1976—1978), мастацкім рэдактарам часопіса «Маладосць» (1982—1984), намеснікам дырэктара Мінскага мастацкага вучылішча імя Глебава (1990—1996), выкладчыкам малюнка і акварэлі на архітэктурным факультэце БНТУ (2002—2006). Працуе ў галіне кніжнай і станковай графікі, акварэлі, гістарычнай кампазіцыі, партрэта, краявіду. Даследуе беларускую архітэктуру, у прыватнасці аршанскае абарончае і сакральнае дойлідства. Лаўрэат прэміі Беларускага фонду Тадэвуша Касцюшкі ў галіне грамадскай працы на ніве культуры і адраджэння гісторыка-культурнай спадчыны. Уладальнік вышэйшай узнагароды ў галіне кніжнага мастацтва ў Беларусі — дыплома і медаля імя Францыска Скарыны. Жыве і працуе ў Мінску.

## CONTENTS

In the new issue of the quarterly magazine "Our Faith" under the column "Year of Consecrated Life" we publish several materials dedicated to the Congregation of the Sisters of Our Lady of Mercy and to St. Faustina Kowalska. You will find here article by sr. M. K. Juralajc ZMBM "I Send You to All Mankind...", an excerpt from the biography of the Saint by biographer of sr. Faustina, a Polish researcher E. K. Czaczkowska "Are You My God or a Ghost?", memoirs of sr. Faustina's confessor fr. M. Sopocko, an excerpt from the "Diary" of sr. Faustina and the preface to it, as well as reflection of V. Galubovich about her perception of the "Diary" and the story by E. K. Czaczkowska "Five Fingers of Saint Faustina". In the end you will find the notes "Places that remember..." by K. Lalko, a translator of "Diary" into Belarusian (p. 2-27).

Doctor of philology Zh. Nekrashevich-Karotkaya offers the readers a translation of the studies of German professor T. Menzel "'Five Baptisms of Russia' in the monuments of the ancient East Slavic written language" (p. 28-33).

A. Agapau in his article "Christian Values as a Response to the Current Crisis in Europe in the Light of the Teachings of Joseph Ratzinger" talks about important aspects of the teachings of the outstanding theologian (p. 34-36).

We also prepared a selection of materials dedicated to the 750th anniversary of birth of the great Dante: article by A. Zhlutka "Poetics of the Divine...", an excerpt from the encyclical of Benedict XV *In Praeclara Summorum*, article by G. Papini "For Dante Against the "Dantists" (translation from Italian by A. Danilchyk) (p. 37-45).

"Lifebuoy of Love" is dedicated to the memory of the martyr of Stalin's repressions writer Yan Skrygan, written by his daughter Galina (p. 46-49).

In the column "Poetry" we put verses by Ukranian poet A. Oles (translated by A. Trayanouski) and by Belarusian poetess L. Silnova (p. 50-53).

An interesting selection of materials is dedicated to the famous persons whose jubilees we celebrate: E. Liavonava writes about outstanding Belarusian poet L. Galubovich, an interview "To Find Your Way..." is dedicated to the anniversary of Doctor of Arts T. Gabrus, and A. Yarashevich, a member of the editorial board of our magazine, offers the readers his article "Portraits of Investors", where he tells the story of the ancient tradition of donations to shrines and those who actively supported it (p. 54-67).

Well-known collector and restorer I. Surmacheuski in his essay "Eternal Life" writes about a real Christian, his grandfather Yuzik, and immortal works of art that reminds us of the mystery of human existence (p. 68-69).

Painter M. Kupava writes about the history of the old cemetery in Orsha, as well as the grave of Ludwig Ungerman (p. 70-71).

## RESÜMEE

In der neuen Nummer der Vierteljahreszeitschrift „Unser Glaube" wird in der Rubrik „Das Jahr des konsekrierten Lebens" eine Reihe von Materialien veröffentlicht, die der Kongregation der Schwestern der Muttergottes von der Barmherzigkeit und der heiligen Schwester Faustyna Kowalska gewidmet sind: der Artikel der Schwester M.K. Juralajc ZMBM „Ich sende dich zu der ganzen Menschheit…", ein Auszug aus der Biographie der Heiligen „Du – mein Gott oder ein Gespenst?", geschrieben von der Biographin der Schwester Faustyna, der polnischen Forscherin E.K. Czaczkowska, die Erinnerungen des Beichtvaters der Schwester Faustyna und die Überlegungen von W. Galubowitsch über deren Wahrnehmung des „Tagebuches" sowie die Erzählung von E.K. Czaczkowska „Fünf Finger der heiligen Faustyna". Die Aufzeichnungen „Orte, die sich erinnern…" von K. Lialko, der Übersetzerin des „Tagebuches" ins Belarussische, schließen diese Reihe ab (S. 2-27).

Dr. phil. S. Nekraschewitsch-Karotkaja bietet den Leserinnen und Lesern ihre Übersetzung der Studie des deutschen Professors T. Menzel „*Fünf Taufen Russlands* in den Denkmälern des alten ostslawischen Christentums" (S. 28-33).

A. Agapau reflektiert in dem Artikel „Christliche Werte als Antwort auf die gegenwärtige Krise in Europa im Licht der Lehre von Joseph Ratzinger" über wichtige Aspekte in der Lehre des hervorragenden Theologen (S. 34-36).

Anlässlich des 750. Geburtstages des großen Dante wurde auch eine Reihe von Materialien vorbereitet: der Artikel von A. Shlutka „Die Poetik des Göttlichen…", ein Auszug aus der Enzyklika von Benedikt XVI. *In praeclara summorum*, der Artikel von G. Papini „Für Dante gegen ‚Dantisten' " (aus dem Italienischen von A. Daniltschyk) (S. 37-45).

Dem Andenken an den Märtyrer der stalinistischen Repressalien J. Skrygan sind die Erinnerungen seiner Tochter Galina „Der Rettungsring der Liebe" gewidmet (S. 46-49).

In der Rubrik „Poesie" finden sich Gedichte des ukrainischen Poeten A. Olesja (in der Übersetzung von A. Trajanouski) und der belarussischen Poetin L. Silnowa (S. 50-53).

Eine interessante Reihe von Materialien ist den berühmten Jubilaren gewidmet: E. Ljawonawa schreibt über den hervorragenden belarussischen Poeten L. Galubowitsch in dem Artikel „Mit dem Gedicht den Willen festigend…", anlässlich des Jubiläums der Doktorin der Kunstwissenschaft T. Gabrusj erscheint das Interview „Den eigenen Weg finden…" und der Jubilar A. Jaraschewitsch, ein Freund des Redigierteams unserer Redaktion, bietet den Leserinnen und Lesern „Die Porträts der Wohltäter", wo er über die alte Tradition der Spenden für Heiligtümer und über Menschen, die sie aktiv gepflegt haben, erzählt (S. 54-67).

Der bekannte Sammler und Restaurator I. Surmatscheuski schreibt im Essay „Das ewige Leben" über einen echten Christen, seinen Großvater Jusik, und die unsterblichen Kunstwerke, die uns an die Geheimnisse des menschlichen Daseins erinnern (S. 68-69).

Über die Geschichte des alten Friedhofs von Orscha sowie über das Grab von Ludwig Ungerman schreibt der Maler M. Kupawa (S. 70-71).

## PODSUMOWANIE

W nowym numerze kwartalnika *Nasza wiara* w rubryce „Rok życia konsekrowanego" publikujemy zbiór materiałów poświęconych Zgromadzeniu Sióstr Matki Bożej Miłosierdzia i osobie świętej s. Faustyny Kowalskiej: artykuł s. M. K. Jurałajć ZMBM „Posyłam Cię do całej ludzkości…", fragment z biografii świętej s. Faustyny, polskiej badaczki E. K. Czaczkowskiej „Czy Ty jesteś Bóg mój, czy widmo jakie?", wspomnienia spowiednika s. Faustyny, ks. M. Sopoćki, fragment z „Dzienniczka" s. Faustyny wraz z przedmową i rozważaniem W. Hałubowicz o jej ujęciu „Dzienniczka" oraz opowiadanie E. K. Czaczkowskiej „Pięć palców świętej Faustyny". Dopełnieniem wybranych materiałów jest publikacja notatek tłumacza „Dzienniczka" na język białoruski K. Lalko „Miejsca, które pamiętają…" (s. 2-27).

Doktor nauk filologicznych Ž. Niekraszewicz-Karotkaja proponuje czytelnikom swój przekład badań niemieckiego profesora T. Menzela „*Pięć chrztów Rusi* w zabytkach dawnego wschodniosłowiańskiego piśmiennictwa" (s. 28-33).

A. Agapow w artykule „Wartości chrześcijańskie jako odpowiedź na obecny kryzys w Europie w świetle nauki Josepha Ratzingera" rozważa o najważniejszych aspektach nauczania wybitnego teologa (s. 34-36).

Przygotowane zostały również materiały z okazji 750-lecia wielkiego Dante: artykuł A. Żłutki „Poetyka boskości…", fragment z encykliki Benedykta XVI *In praeclara summorum*, artykuł G. Papini "Za Dante przeciw *dentystów*" (w przekładzie z języka włoskiego A. Danilczyk) (s. 37-45).

Pamięci męczennika stalinowskich represji pisarza J. Skryhana, poświęcone zostały wspomnienia jego córki Haliny – „Koło ratunkowe miłości" (s. 46-49).

W rubryce „Poezja" zamieszczone zostały wiersze ukraińskiego poety A. Ołesia (w przekładzie A. Trajanowskiego) i białoruskiej poetki Ł. Silnowaj (s. 50-53).

Czytelników również zainteresuje zbiór materiałów poświęconych znakomitym jubilatom: o wybitnym białoruskim poecie Ł. Hałubowiczu pisze E. Liawonawa w artykule „Wierszem umacniając wiarę…", do jubileuszu doktora historii sztuki T. Habruś przygotowano wywiad „Znaleźć swój szlak…", a jubilat A. Jaraszewicz, członek kolegium redakcyjnego kwartalnika *Nasza wiara*, proponuje czytelnikom swój artykuł „Portrety fundatorów", w którym opowiada o starożytnej tradycji darowizn na świątynie i o osobach, które aktywnie je kultywowali (s. 54-67).

Znany kolekcjoner i restaurator I. Surmaczewski w eseju „Życie wieczne" pisze o prawdziwym chrześcijaninie, swoim dziadku Józiku i nieśmiertelnych dziełach sztuki, które przypominają nam o tajemnicy ludzkiej egzystencji (s. 68-69).

O historii starych orszańskich mogił, jak również o grobie Ludwika Ungermana pisze M. Kupawa (s. 70-71).

## SOMMARIO

Nella rubrica *Un anno della vita consacrata* del nuovo numero della rivista trimestrale "Naša vera" si pubblica una serie di testi dedicati alla Congregazione delle Suore della Beata Vergine Maria della Misericordia e alla persona di Santa Suor Faustina Kowalska: l'articolo di suora M.K. Juralajz ZMBM "Ti mando a tutta l'umanità…", un brano dalla biografia della Santa Suor Faustina scritta dalla sua biografa, ricercatrice polacca E. K. Czaczkowska "Tu sei mio Dio oppure sei un fantasma?", le memorie del confessore di Suor Faustina il prete M. Sapotka, un brano del "Diario" di Suor Faustina con una prefazione, nonché la riflessione di V. Galubovich sulla propria percezione del "Diario" e il racconto di E. K. Czaczkowska "Le cinque dita di santa Faustina". Le pubblicazioni si concludono con un saggio della traduttrice del "Diario" in lingua bielorussa K. Lalko "I luoghi che ricordano…" (p. 2-27).

La Dottoressa di ricerca in lettere Ž. Nekraševič-Karotkaya sottopone all'attenzione dei lettori la sua traduzione della ricerca del professore tedesco T. Menzel "Cinque battesimi della Rus' nei monumenti dell'antica scrittura degli slavi orientali" (p. 28-33).

A. Agapau nell'articolo "I valori cristiani come risposta alla crisi attuale d'Europa alla luce del insegnamento di Josef Ratzingher" riflette sugli aspetti importanti della dottrina proposta dall'eccellente teologo (p. 34-36).

Anche per il 750° anniversario della nascita di grande Dante è stata preparata una serie di pubblicazioni quali l'articolo di A. Žlutka "La poetica del divino…", il brano dell'enciclica di Benedetto XV *In praeclara summorum*, l'articolo di G. Papini "Per Dante contro il dantismo" (tradotto dall'italiano da A. Danilchyk) (p. 37-45).

Alla memoria del martire di repressioni staliniste, scrittore Jan Skrygan sono dedicati i ricordi di sua figlia Halina intitolati "Il salvagente dell'amore" (p. 46-49).

Nella rubrica *Poesia* sono collocate le opere di A. Oles (tradotte da A. Trajanouski) e della poetessa bielorussa L. Silnova (p. 50-53).

Una raccolta interessante dei testi è dedicata alle persone che festeggiano propri anniversari: E. Liavonava scrive dell'ottimo poeta bielorusso L. Galubovich nell'articolo "Rafforzando la fede con un verso…", per l'anniversario della Dottoressa di ricerca in storia dell'arte T. Gabrus è stata preparata l'intervista "Trovare la propria strada", invece un altro festeggiato, membro della Direzione della nostra rivista A. Jaraševič, propone all'attenzione dei lettori il suo articolo "I ritratti dei fondatori", dove racconta dell'antica tradizione delle donazioni per i luoghi sacri e delle persone che l'hanno vivamente appoggiata (p. 54-67).

Il famoso collezionista e restauratore I. Surmačeuski nel saggio "Una vita eterna" scrive di un vero cristiano, suo nonno Jusik, e delle opere artistiche immortali che ci ricordano dei misteri dell'esistenza umana (p. 68-69).

Il pittore M. Kupava racconta la storia del vecchio cimitero di Orša e della tomba di Ludvik Ungerman (p. 70-71).

---

На 1-й ст. вокладкі — фрагмент рэпрадукцыі кананізацыйнага абраза сястры Фаўстыны. Мастак Гэлена Тхужэўска.

*Часопіс **«НАША ВЕРА»**, № 3 (73)/2015.*
*Адрас для карэспандэнцыі: а/с 101, 220002, г. Мінск-2; тэл./факс: 293-17-50. **E-mail:** media@catholic.by. **Web:** media.catholic.by/nv/*

*Рэдакцыя рукапісаў не рэцэнзуе і не вяртае.*
*Заснавальнік – Мінска-Магілёўская архідыяцэзія РКК у РБ. Вуліца Рэвалюцыйная, 1а, 220030, г. Мінск.*
*Галоўны рэдактар — Крыстына Аляксееўна Лялько. Часопіс выдаецца на ахвяраванні вернікаў.*
*Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржаўным рэестры сродкаў масавай інфармацыі за № 903.*
*Падпісаны да друку 26.09.2015 г. Фармат 60x84 1/8. Ум. друк. арк. 8,37. Ул. выд. арк. 6,93. Наклад – 1 300 экз. Зак № 582.*
*Надрукавана ў друкарні ООО «Юстмаж» Ліцэнзія № 02330/250 ад 27.03.2014.*
*Вул. Каліноўскага, д. 6, Г4/К, пакой 201. 220103 г. Мінск.*

# ПАРТРЭТЫ ФУНДАТАРАЎ




*Партрэт вялікага князя Вітаўта Аляксандра.*




*Партрэт Еўфрасінні Тышкевіч.*
*1650-1660 гг.*




*Партрэт Ігнацыя Завішы.*



*Партрэт Крыштафа Хадкевіча.*



*Вільня. Капліца Маці Божай у Вострай Браме,*
*дзе ў 1935 годзе абраз Езуса Міласэрнага*
*быў выстаўлены для публічнага ўшанавання.*



*Вільня.*
*Санктуарый Божай Міласэрнасці.*